


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**5** (979)

*МАЙ*

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2011**

## *ЗМЕСТ*

3 **Мікола МАЛЯЎКА. У гэты дзень.** Верш.

4 **Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ. Сем гадоў у ЦК.** Раман-дзённік. Пачатак.

60 **Казімір КАМЕЙША. Родны бераг. ***Мой бор пашуміць, і суцішыцца. ***Сем вёрст марудных тупаў ад шашы… ***І прысніў, і паверыў… ***Басанож па расе… ***Смуткам восеньскіх дзён… Старыя ходзікі. Раніца. Начны эцюд. Звеставанне. ***За ракою Перакуль…** Вершы.

69 **Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ. Сястрычка.** Апавяданне.

79 **Соф'я ШАХ. Уверх.** Вянок санетаў.

86 **Янка ГАЛУБОВІЧ. Споведзь.** Апавяданне.

93 **Станіслаў ВАЛОДЗЬКА. Партызанскія кастры. Райнісаўскі сад. Камінар. Ой вырасла ружачка… ***Помніш, Янька-жартаўніца… Завея. Бацькоўскі дом.** Вершы.

97 **Васіль ШАБАЛТАС. Каціны барон.** Апавяданне.

102 **Надзея САЛОДКАЯ. Словы, словы… Жалобная пані. ***Ідуць дажджы… Кола. ***Хочаш праўды?..** Вершы.

105 **Ліляна ХАБ'ЯНАВІЧ-ДЖУРАВІЧ. Параскева: крыж у пустыні.** Раман. Працяг. Пераклад з сербскай Івана Чароты.

117 **Іосіф РОГАЛЬ. Памяць. Голас сэрца. Абдымі мяне. Матуліна просьба. Малітва.** Вершы. Пераклад з рускай Міколы Мятліцкага.

122 **Таццяна ВЫСКВАРКА. Кадыфікаваныя і некадыфікаваныя прыметнікі-кампазіты Зарэцкага-апавядальніка.**

129 **Алесь БАРАНОЎСКІ. Гнасеалагічныя матывы ў лірыцы Ніны Шкляравай.**

135 **Урок мужнасці Алеся Савіцкага.** Школьныя далягляды.

149 **Наталля МІЦКЕВІЧ. Доўгая дарога (ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа).** Працяг.

157 **Іван САВЕРЧАНКА. Вялікі князь Аляксандр Казіміравіч у старадаўніх хроніках.**

163 **Маргарыта ЯФІМАВА. Сонцам сеяў свой палетак.**

168 **Вячаслаў РАГОЙША. Колькі галінак з дрэва яго жыцця.**

175 **Васіль ГУРСКІ. Рубцы на сэрцы.**

180 **Алесь МАРЦІНОВІЧ. Жартуе той, хто …талент мае.**

183 **Надзея БРАГІНА. Палац над Сожам.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

# *9 мая — Дзень Перамогі*

**Мікола МАЛЯЎКА**

### У ГЭТЫ ДЗЕНЬ

У гэты дзень яснее неба,
І, хоць баляць старыя раны,
Зямля вясновая квітнее,
І маладзеюць ветэраны.

У гэты дзень без сантыментаў
Вяртае памяць дзеі, даты,
Салют пачуўшы, з пастаментаў
Сыходзяць вечныя салдаты.

У гэты дзень пад знакам шчасця
Мацнее сувязь пакаленняў
І нараджаюцца нашчадкі
Для светлых мар і іх здзяйсненняў.

У гэты дзень усё святое
Мы затуляем ад трывогі —
І зноў раўняемся душою
На сцяг Вялікай Перамогі.





**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# СЕМ ГАДОЎ У ЦК

*(раман-дзённік)*

## 1969

**11 лютага.** Выклікалі ў ЦК. Гутарыў са мной, больш як гадзіну, загадчык аддзела культуры. На шыльдзе яго кабінета прозвішча: Марцэлеў. Пытаўся пра інстытут: «Як там Барысенка?» Што магу сказаць пра Барысенку я, малодшы навуковы супрацоўнік, «мэнээс», як кажуць у акадэміі?

— Калектыў яго паважае.

— Што цікавае чыталі ў апошні час?

— Чытаю «Ранішнія росы» Янкі Скрыгана. Гэта пра пісьменнікаў. Цікава. Багатая мова.

Гаворым з маім суразмоўцам па-беларуску.

— Гэта добра, што вы прайшлі вывучку ў акадэмічным інстытуце. Інстытут нешта дае…

— Не скарджуся.

— Якое ваша сямейнае становішча?

Гэтага пытання я не люблю, але даводзіцца адказваць.

— Халасцяк, адзін, бацькі жывуць у Брэсце.

— А ў вайну?

— Жылі ў вёсцы, працавалі на гаспадарцы.

— А дзе ўступалі ў партыю?

— Калі служыў у войску.

— Ну, там прымаюць усіх, — пасміхнуўся мой субяседнік і зашамацеў паперамі, што ляжалі перад ім на стале.

---

***Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч*** *нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Служыў у арміі, настаўнічаў на Брэстчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР і быў залічаны супрацоўнікам гэтага ж інстытута.*

*Працаваў у апараце ЦК КПБ, быў дырэктарам Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Акадэмік.*

*У друку выступае як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар манаграфій «Традыцыі і наватарства» (1972), «Упоравень з часам» (1976), «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Як само жыццё» (1984), «Ля аднаго вогнішча» (1984) і інш., а таксама кніг прозы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008).*

*Выдаў зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў «Упоравень з часам», «Як само жыццё», «Ля аднаго вогнішча» і інш.*

Што праўда, дык праўда. Мяне прымалі — угаварыў зампаліт старшы лейтэнант Балтабаеў, каб не хадзіў у самаволку. Сорамна камуністу бегаць у самаволку. Але партыйную пазіцыю я падзяляю.

На «гражданцы» ўступіць у партыю — тым, хто гэтага хоча, — складаней. Тут разнарадка, ліміт. Інтэлігенцыю прымаюць у апошнюю чаргу. Між тым, ёсць людзі, якія могуць быць сапраўднымі камуністамі. Колькі гадоў назад у інстытуце прымалі ў партыю Адама Іосіфавіча, я быў старшынёй сходу. Добры, прынцыповы камуніст з яго атрымаўся.

— Ну, добра, — падагульніў субяседнік нашу размову, — можаце ісці, але з інстытута не адлучайцеся, бо можаце спатрэбіцца.

Я ўстаў, прысунуў стул, на якім сядзеў, да стала, сказаў «да пабачэння», так і не зразумеўшы, чаго гэты чалавек, таварыш па партыі, мяне выклікаў. «Каму я магу спатрэбіцца?» Спытацца не рашыўся. Зачыніў за сабой дзверы (яны былі падвойныя), развітаўся з сакратаркай, немаладой ужо бландзінкай са спушчанымі на скроні бледнымі кудзеркамі, па калідоры прайшоў да лесвіцы. З аднаго боку вокны, з другога — кабінеты. На дзвярах — шыльдачкі з прозвішчамі партработнікаў. Усё — па-беларуску. Страшэнна цікава, як гэта яны тут усім кіруюць.

Успомніліся нашы прафесары Перкін і Пшыркоў, якія расказвалі, як яны ў пачатку 50-х гадоў пісалі для сакратара ЦК КПБ нейкага Іаўчука па яго патрабаванні даведку аб стане тагачаснай беларускай літаратуры. У даведцы былі адзначаны без указання на канкрэтных пісьменнікаў некаторыя недахопы, уласцівыя бягучаму літаратурнаму працэсу. Неўзабаве даведка з'явілася ў «Советской Белоруссии», але ўжо як устаноўчы артыкул за подпісам самога Іаўчука. У канцы была прыпіска: «Досадных ошибок в осмыслении литературного процесса не удалось избежать и научным сотрудникам Института литературы Перкину и Пширкову».

Словам, крытыкам таксама дастаецца, як і пісьменнікам. На мінулым, V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі А. Бялевіч у прысутнасці П. М. Машэрава скардзіўся, што «б'е ў званы Гніламёдаў», спецыяльна шукае ў яго вершах якіхсьці недахопаў, а іх там, маўляў, няма. Ёсць. Гаўрусёў напісаў быў рэцэнзію на чарговы зборнік А. Бялевіча (выдае амаль штогод) пад назвай «І ад салаўёў бывае сумна». Дзіўны чалавек гэты Бялевіч. Таленавіты, але неяк па-фальклорнаму, без інтэлекту. Досыць абмежаваны, наіўны ў сваёй паэтычнай логіцы.

**18 лютага.** Заходзіў у «Маладосць». Бываю тут, бо добра, прыхільна да мяне ставяцца. Удумлівы, жвавы калектыў на чале з Піменам Панчанкам: Алесь Асіпенка (яго намеснік), Вера Палтаран, Мікола Аўрамчык, Сцяпан Кухараў… Кожны — цікавы. У кожнага за плячыма ёмісты жыццёвы і ваенны вопыт. Мікола Аўрамчык, напрыклад, прайшоў і фронт, і нямецкі палон, і шахты. Шмат з перажытага адбілася ў яго вершах. Неяк ён расказаў мне пра неверагодны эпізод спробы ўцёкаў вязняў з нямецкага канцлагера…

Вельмі цікава расказваў Панчанка, як ён працаваў у «дывізіёнцы».

**25 лютага.** Рэдактар з выдавецтва «Художественная литература» В. Элькін заказаў мне прадмову да зборніка аповесцей трох нашых пісьменнікаў — І. Пташнікава («Тартак»), А. Савіцкага («Кедры глядзяць у мора») і У. Караткевіча («Чазенія»). Зборнік павінен выйсці ў гэтым выдавецтве. Тры пісьменнікі, і вельмі непадобныя адзін на аднаго. Караткевіч — рамантык. Савіцкі і Пташнікаў — рэалісты. Па-рознаму, але рэалісты. Рэалізм вымагае ад іх болей клапаціцца пра ўмацаванне маральных асноў свайго рэалізму, пра верагоднасць таго, што адбываецца ў творы.

**9 сакавіка.** Надвор'е — гром і снежная завея. Нешта рана пачало грымець.

**16 сакавіка.** Пачалі выходзіць цікавыя кнігі, аднак іх не дастаць. Шмат жадаючых. Не так даўно ў Маскве выйшаў ладны томік твораў Франца Кафкі. Мне яго даваў чытаць Барыс Сачанка, які сказаў, што дазвол на яго выданне быў атрыманы «на самым версе» — у ЦК КПСС. Адзін з цікавейшых твораў Кафкі — апавяданне «Голодарь», у якім ён у іншасказальнай форме паспрабаваў адказаць на пытанне, хто такі пісьменнік. У дзённіках Кафкі таксама ёсць запіс на гэты конт: «Когда мне стало ясно, что сочинительство — самое плодотворное направление моего существа, все устремилось к нему, опустошив иные способности, направленные к радостям пола, еды, питья, философских размышлений о музыке. Я перестал вкушать все это».

Пісьменніцтва было для Ф. Кафкі чымсьці нашмат большым, чым прафесія. Ён быў у гэтым сэнсе апантаным.

Пісьменніцтва — рэч сур'ёзная.

**18 сакавіка.** Крытыку Рыгору Шкрабу — 50 гадоў. «Гэта цэлы ўніверсітэт», — кажуць пра Шкрабу. Цікава, ці чытаў ён Кафку. Мусіць, не, і не ён у гэтым вінаваты. Рыгор Васільевіч пасля маіх няўдалых спробаў вучыў мяне (у рэдакцыі «Полымя», дзе ён працуе), як пісаць літаратурныя артыкулы. «Ніколі не бярыце адразу быка за рогі. Пачынайце здалёк, — тлумачыў ён. — Напрыклад, з такога: «Учора ішоў дождж…» Да галоўнага набліжайцеся паступова». На мой погляд, гэта быў цікавы ўрок.

**22 сакавіка.** Схадзіў у лазню (на Змітрака Бядулі). Дзьмуў моцны вецер. Прабіраў наскрозь. Мінск — такі горад, што вецер дзьме з-за кожнага вугла і ўвесь час мяняе напрамак. Вельмі проста прастудзіцца. Асабліва пасля лазні. Дзякуй богу, на гэты раз не прастудзіўся.

**25 сакавіка.** Насядаюць кітайцы. На востраве Даманскім (усяго 1 кв. км плошчы) сапраўдная вайна. Кажуць, што Кітай супраць дамініравання СССР у сацыялістычным лагеры, што Мао — здраднік, што ніякі ён не камуніст, а толькі гэтым прыкрываецца. Хоча адхапіць у нас Сібір.

Амерыканцы таксама варожа глядзяць праз плот.

Геніяльны Настрадамус пра XX ст. сказаў у зашыфраваным катрэне (г. зн. паэтычнаю моваю):

*Век двадцатый, жестокий и страшный.*
*Две войны, самовластье рабов,*
*И наука в кровавом пожаре*
*Из безверья воздвигнет богов.*

«Две войны»? Страшна ад таго, што напагатове і трэцяя…

**26 сакавіка.** Тур Хейердал звязаў з чароту плот і збіраецца плысці праз Атлантыку.

У нас усур'ёз захапіліся пошукамі снежнага чалавека.

У Англіі ў нейкім возеры завялася нечуваных памераў пачвара, якую аматары хочуць высачыць і злавіць.

Адчуванне такое, што свет нібы «саскочыў з перадка», як сказана ў адной з паэм М. Лужаніна, і паімчаўся, паімчаўся…

**2 красавіка.** Раніцай відаць быў у паўднёвай частцы неба маладзік. Калі пабольшала святла, знік. Красавік — месяц абнаўлення.

**3 красавіка.** У «Литературной газете» артыкулам Я. Смелякова «Чтоб бился пульс времени…» завяршылася дыскусія пра грамадзянскасць паэзіі. У гэтай дыскусіі другі рускі паэт — В. Бокаў (добра іграе на балалайцы) выказаў разуменне сутнасці паэзіі як чуласці. Я. Смелякова такое вызначэнне паэзіі не задавальняе. «Чуткость, — падкрэслівае ён, — это качество не только не лишнее, а даже обязательное, но одного его для поэта мало». Паэт аба-

вязаны, — сцвярджае Смелякоў, — «воплощать свои впечатления в сильные стихи, способные глаголом жечь сердца людей».

— Размова пра грамадзянскасць — трэба думаць — не выпадковая. Гэта — агульны накірунак палітыкі партыі ў літаратуры, і не толькі ў літаратуры.

Я. Смелякоў недзе хваліўся, што ён беларус, і нават паказваў пашпарт. Беларус па пашпарце.

Падабаецца яго верш «Если я заболею».

**6 красавіка.** Нядзеля. Апрануў белы свой плашч. Перад гэтым памыў яго (у цокальным паверсе інтэрната — душ) і адпрасаваў. Выйшаў на вуліцу і трапіў у завею. Пасыпаўся падобны на град снег. У плашчы было зябка.

**7 красавіка.** У Кругелі, помню, на гэты дзень чакаюць прылёту жураўлёў. Тут, у параўнанні з Берасцейшчынай, на градус-два халадней. Сёння ўвесь дзень снег і дождж.

**10 красавіка.** У інстытут завітаў Міхась Лазарук, па сваіх, вядома, справах. Сустрэўшы мяне, сказаў, што мяне бяруць у ЦК на працу, інструктарам. Адкуль гэта яму вядома? Мне не кажуць.

**14 красавіка.** Ачысцілася неба. Прыгравае сонейка, але раніцы яшчэ халаднаватыя. У Інстытут літаратуры прыехаў з Брэста па нейкай патрэбе Калеснік. Літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, выкладчык Брэсцкага педінстытута, які я скончыў у 1959 годзе (дзесяць гадоў таму назад). Між іншым, я і родам адтуль, нарадзіўся на Берасцейшчыне, у вёсцы Кругель, у 1937 годзе, яшчэ пры Польшчы, як у нас кажуць. Калі я быў аспірантам, дырэктар Брэсцкага педінстытута Івашчанка запрашаў на сталую працу — выкладаць на філфаку замежную літаратуру. Калеснік раіў прыняць прапанову. Я падумаў і адмовіўся. Папярэдняга выкладчыка звольнілі з-за таго, што меў каханку — жонку калегі. Гэта раскрылася, і ад чалавека пазбавіліся.

— Ну, што ў цябе новага? — спытаў Уладзімір Андрэевіч.

— Выклікалі ў ЦК. Быццам бы на працу бяруць. Але пакуль што нічога канкрэтнага не сказалі. Не ведаю, што і рабіць.

— Ідзі, будзеш абараняць інтарэсы пісьменнікаў.

Я нічога яму не адказаў, папытаў пра сяброў-выкладчыкаў Алёшу Майсейчыка і Веру Ляшук, якія працуюць у Брэсце, на кафедры, што ўзначальвае Калеснік.

— Працуюць, — быў адказ.

**19 красавіка.** Паклікалі ў ЦК на гутарку з сакратаром па ідэалогіі Пілатовічам.

— Вы не гаварыце, больш слухайце, — папярэдзіў Марцэлеў. — Тут не прынята разглагольстваваць.

Падняліся на пяты паверх. За сталом, пакрытым тоўстым зялёным сукном, сядзеў яшчэ не стары, чарнавалосы чалавек з суперсуровым, дапытлівым позіркам. На мяне паглядзеў недаверліва, нібы выпрабоўваў, на што я здатны. Гэта і быў Пілатовіч, сакратар ЦК. Удакладнілі некаторыя мае анкетныя дадзеныя.

— Падняў галаву рэвізіянізм, — сказаў сакратар ЦК і глыбока ўздыхнуў. — У нашай беларускай літаратуры таксама ёсць асобныя хібы. Возьмем хоць бы зборнік апавяданняў Б. Сачанкі «Барвы ранняй восені». Ён малюе людзей пераважна як дзяцей прыроды, бачыць складанасць характару чалавека ў нізкіх пабуджэннях яго натуры, у палавой анархіі і душэўнай неарганізаванасці, у наўмыснай ізаляцыі ад гарадскога асяроддзя і занядбанні і прыніжэнні яго грамадскага прызначэння.

Хацелася спытаць, што разумеецца пад «душэўнай неарганізаванасцю», але не спытаў, пасаромеўся. Сакратар працягваў:

— Чамусьці апошнім часам я даволі часта сустракаю ў літаратурных выданнях, нават у «Звяздзе», выразы тыпу: «пісьменнік даследуе», «літаратура даследуе». Што гэта значыць? Пра вучонага, панятнае дзела, так можна сказаць, але пра пісьменніка… Пісьменнік апісвае, паказвае, малюе, калі хочаце, але ж ён не навуковец.

— Гэта так, — дыпламатычна пагадзіўся я, — але творчы метад пісьменніка спалучае ў сабе ўсё: і рэальнае бачанне, і ўяўленне, і інтуіцыю. Усё залежыць ад таленту.

Каб не паказацца нясціплым, я змоўк. Успомніў, што Леў Талстой назваў працу мастака «опытом в лаборатории» і пры гэтым патлумачыў, што сутнасць мастацтва і задача мастака заключаюцца ў тым, каб паказаць «самых разнообразных по характерам и положениям людей и выдвинуть перед ними, поставить их всех в необходимость решения жизненного и не решенного еще людьми вопроса и заставить их действовать, посмотреть, чтобы узнать, как решить вопрос…»

— Прыніжаць, — зазначыў гаспадар кабінета, тым болей ахайваць нашу рэчаіснасць нікому не дазволім. Нашто яе прыніжаць? У мастацтва, як вы кажаце, шмат магчымасцей. Мастацтва, урэшце, можа спрацаваць і на кантрасце. Як, напрыклад, у «Кубанскіх казаках». Помніце?

— Помню, бачыў і не раз.

— Якія мовы вы ведаеце?

Я назваў.

— Кандыдат навук?

— Кандыдат.

— Цяпер гэта не рэдкасць.

— Не рэдкасць, — згадзіўся я.

— Будзеце курыраваць Саюз пісьменнікаў, у іх там ёсць партарганізацыя, будзеце дапамагаць. Карацей кажучы, будзеце працаваць з пісьменнікамі.

Гутарка доўжылася недзе з паўгадзіны. Сакратар падняўся, пацiснуў руку, і мы з Марцэлевым пакінулі кабінет.

Міжвольна ўспомніў старую байку. Супрацоўнік ЦК ВКП(б), прызначаны парторгам у Саюз пісьменнікаў, стаў скардзіцца на сваіх падапечных: гэты п'е, гэты здраджвае жонцы, гэты піша дрэнна… Як з такімі працаваць?

— Іншых пісьменнікаў у мяне для вас няма, — адказаў Сталін. — Давядзецца працаваць з тымі, што ёсць.

Кажуць, што лёс людзям ствараюць іх уласныя характары. Мой выпадак, відаць, пацвярджае гэтае правіла. Падатлівы я. Але ж нездарма кажуць, што з лёсам сварыцца не трэба.

— Заўтра Бюро ЦК, прыходзьце да дзесяці. Не пазніцеся, у нас гэта не прынята, — сказаў на развітанне Марцэлеў. — Пропуск вам закажам.

**20 красавіка.** Пасяджэнне Бюро адбывалася ў кабінеце Машэрава. У прыёмнай, акром мяне, таптаўся яшчэ адзін чалавек — акадэмік Белы, які зацвярджаўся на пасаду дырэктара навукова-даследчага інстытута. Выклікалі першага яго і доўга не адпускалі, выйшаў з пачырванелай лысінай. Паклікалі нарэшце і мяне. Адчыніліся цяжкія дзверы, і я ўвайшоў у кабінет Першага. За доўгім сталом сядзелі члены. Ён, як Бог, на другім канцы. Худы, прадаўгаваты твар з пячаткай заклапочанасці. Тут жа, збоку стала, сядзеў мне знаёмы ўжо Пілатовіч, меў выгляд чалавека, якому вядомы адказы на ўсе магчлівыя пытанні. Так, прынамсі, мне здалося. Злавіў сябе на думцы, што адчуваю да яго прыхільнасць.

Дакладваў Марцэлеў.

— Ёсць мненіе зацвердзіць! — данеслася з супрацьлеглага канца стала. Пытанняў ніхто не задаваў, і мяне адпусцілі.

**21 красавіка.** Першы дзень на працы. На працы ці на службе? Хутчэй, відаць, апошняе. Такі мой выбар, і я гатовы за яго расплаціцца.

На дзвярах шыльда з маім прозвішчам і ініцыяламі, як і ва ўсіх маіх новых калег — без указання пасады. Ёсць у гэтым нешта падкрэслена асабістае. За ўсё, маўляў, адказваеш сам. І ўсе мы тут роўныя, усе — таварышы.

Прыкуты да стала, да тэлефона. Тут ужо ў бібліятэку, у чытальную залу працаваць не пойдзеш. На стале — танны пісьменны прыбор, аўтаручка з чорным чарнілам. Што давядзецца пісаць гэтым казённым пяром?

Насупраць сядзіць такі ж інструктар, як і я, Валерый Сяргеевіч Лабадо. Курыруе тэатры, кінастудыю. Будынак Купалаўскага тэатра відаць з акна. Па другі бок — Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Мой візаві, калі пазнаёміліся, спытаў:

— А вы часам не родзіч прафесару Гніларыбаву?

Прафесар Гніларыбаў — вядомы на ўвесь Савецкі Саюз мінскі хірург, які ўмее жадаючым падточваць пэніс.

— Не.

Я ўжо прывык, што маё прозвішча часта азадачвае тых, хто першы раз яго чуе. У адным слове два супрацьлеглыя сэнсы.

Думаў над сваім становішчам. Я не кіраўнік, а звычайны апаратчык, чыноўнік, функцыянер. Мой абавязак, згодна партыйнага статута, падбор кадраў і праверка выканання, г. зн. выканання партыйных рашэнняў.

Забягалі калегі з іншых кабінетаў. Адчувалася ажыўленасць: заўтра — суботнік. У гонар 99-й гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна. Збор у 7.00 каля будынка ЦК. Вопратка — як звычайна. Спецадзенне выдадуць па месцы правядзення суботніка. Суботнік для мяне — справа вядомая. У інстытуце кожную вясну ўпарадкуем Батанічны сад, падмятаем, чысцім.

**22 красавіка.** Гадзіннік нанач пакінуў на руцэ, не скідаў. Баяўся спазніцца. Устаў рана. Збіраўся і ўвесь час адчуваў хваляванне. Аўтобусы ўжо чакалі — вялікія ікарусы. Стаялі каля Дома афіцэраў. Збіраліся людзі — мае калегі-апаратчыкі. Пра нешта жвава гаманілі, курылі, смяяліся. Сказалі: едзем на аўтазавод, на бетонныя работы. Нарэшце, каманда: «Па машынах!» Едзем па Партызанскім праспекце, у самы канец, на паўднёва-ўсходнюю частку горада. Вуліцы яшчэ пустыя, ранавата, нікога не відно, але на аўтазаводзе нас ужо чакаюць гаспадары. Тут жа гара рабочых камбінезонаў і гумовых ботаў. Лапаты, шуфлі. Не хапае толькі тачак, але яны і не патрэбныя.

Пайшлі самазвалы, адзін за адным звальваюць свежы бетон. Абстаноўка нервозная, бо бетон хутка застывае і трэба спяшацца. Прыехаў з ахоўнікамі Машэраў. Высокі, камбінезона для яго не дашукаліся, але боты абуў, узяў у рукі шуфель. Гоман аціх, але абстаноўка стала яшчэ болей напружаная, нервозная. Кожны хацеў не адстаць, справіцца на сваім участку.

З бетонам працаваць цяжка. Пачулася сцішанае, як глухі стогн: «Э-э-э!» Потым нехта папрасіў: «Па-мажыце-е!» Я азірнуўся. Раствор ужо прыстыў і не выпускаў калегу Ж. са сваіх няўмольных абдымкаў. Давялося дапамагаць, выцягвалі пад рукі. Боты так і засталіся ў бетоне.

Потым быў абед: расольнік, катлета і кампот. Смачна! Дзіва што, бо напрацаваліся. Пасля абеду распарыліся, размяклі, хацелася б і адпачнуць, але — Машэраў і ўсё начальства побач — паступіла каманда, і зноў узяліся за працу. Праўда, самазвалаў стала ўжо менш, шафёры, відаць, таксама абедалі.

Працавалі яшчэ гадзіны тры, і нарэшце сказалі здаваць інструмент і камбінезоны з ботамі. Ж. паспеў абуць чаравікі.

**24 красавіка.** Панядзелак. Удзельнікі суботніка — на сталай працы, за рабочымі сталамі. Абменьваемся ўражаннямі. Некаторыя скардзяцца на

радыкуліт, ходзяць сагнутыя. Сам бачыў, як ішоў на абед, трымаючыся за бок і крэкчучы, інструктар з трэцяга паверха — там, у кутку, размешчаны аддзел цяжкай прамысловасці.

Чытаю часопісы, красавіцкія нумары — «Полымя», «Маладосць», «Нёман», а таксама апошні нумар «ЛіМа». Марцэлеў сказаў, што гэта мой абавязак. Гэтым, зрэшты, я займаўся і ў Інстытуце літаратуры. «Сматрыце, як яны пішуць, ці не дапускаюць якой двухсмысленнасці», — удакладніў загадчык аддзела. Сказаў — загадаў.

Такіх, хто б дапускаў «двухсмыленнасць», стаяў, інакш кажучы, на нейкіх антысавецкіх пазіцыях, сярод пісьменнікаў, якіх я ведаю, няма. Іншая справа, што ў кожнай літаратуры ёсць моцныя пісьменнікі, і слабейшыя, і зусім слабыя. Патрэбныя, відаць, адны і другія, адны без другіх не існуюць. Пра антысавецкую літаратуру, між іншым, я маю ўяўленне яшчэ з дзяцінства. Помню, недзе пасля вайны, прачытаў апавяданне пад назвай «Маленькі валацуга», выдадзенае асобнай кніжачкай на дзвюх мовах — беларускай і польскай. З аднаго боку да палавіны па-беларуску, з другога, калі перавярнуць наадварот, — па-польску. Кніжачка з’явілася на свет да вайны, у пачатку 30-х ці нават у 20-я гады, яшчэ да майго нараджэння і доўга чакала, пакуль я пайду ў школу і навучуся чытаць. У школу пайшоў у 1944-м (пасля вызвалення краю ад нямецкай акупацыі) і неўзабаве ўжо мог адолець тую кніжачку. Аўтара не помню (здаецца, гэта быў Сяргей Пясецкі), а сюжэт у памяці захаваўся. Там савецкі міліцыянер, былы будзёнавец, у выніку недарэчнасці, па трагічным збегу абставін, забівае маленькага валацужку — падлетка-беспрытульніка і па радзімцы, якая адкрылася паміж лахманоў, пазнае ў ім уласнага сына. З роспачы, зняверaны ў праўдзівасці савецкай улады, былы будзёнавец здымае з грудзей ордэн Чырвонага Сцяга і шпурляе яго прэч.

Паняцце «двухсмысленнасці» даволі няпростае. Слушна падмеціў Л. Талстой: «Кожнае мастацкае слова тым і адрозніваецца ад немастацкага, што выклікае незлічонае мноства думак, уяўленняў і тлумачэнняў». Так яно і ёсць. Раман Шолахава «Ціхі Дон» — твор аб’ектыўны, але наўрад ці можна яго прызнаць поўнасцю савецкім. «Двухсмысленнасці» ў ім колькі хочаш, толькі пра гэта не прынята казаць.

**25 красавіка.** Хадзіў у інстытут да А. П. Парэпкі па працоўную кніжку. Выйшаў з кабінета дырэктар В. Барысенка і запрасіў зайсці. Павіншаваў мяне з новай работай. Сказаў між іншым, што яму званіў Марцэлеў і перапытваў пра мяне.

— Я цябе хваліў, грахоў, кажу, за ім няма. Аднойчы толькі было, што паехаў, адпрасіўся на пару дзён у Ленінград, а затрымаўся там на цэлы тыдзень. Але гэта нічога, вярнуўся…

Сапраўды, такі выпадак меў месца. Паехаў я ў Ленінград да брата на вяселле. Віталік жаніўся. Былі там разам з нашай мамай Кацярынай Мікалаеўнай. Пасля вяселля аглядалі горад, Эрмітаж, давялося затрымацца. Я думаў, што Васіль Васільевіч пра гэта ўжо не памятае, але, аказваецца, не забыў.

— Кавалак хлеба не спадзе з неба, — успомніў я вядомую прымаўку, — працаваці трэба.

Васіль Васільевіч згодна хітнуў галавой.

Здаў у абанемент Акадэмічнай бібліятэкі імя Я. Коласа кнігі, якія браў апошнім разам. Я ўдзячны гэтай бібліятэцы і яе супрацоўнікам. Тут прачытаў незнаёмых мне Фрэйда (хаця, прызнаюся, і не ўсё зразумеў), Дзюрынга (пра якога Энгельс напісаў цэлае даследаванне «Анты-Дзюрынг», з Энгельсам, дарэчы, я згодзен), Ніцшэ, Гумілёва, Мандэльштама («Шум времени»), прафесара Здзяхоўскага «Аб беларускай душы», часопіс «Узвышша» і інш. Усё гэта выдавалася па звычайным патрабаванні.

**26 красавіка.** На стале ў майго візаві стос папер.

— Пісьмы працоўных, — тлумачыць ён. — Столькі, што не паспяваем чытаць.

— Трэба ж і адказаць..

— Адказваем па тэлефоне.

— А калі ў аўтара, як, напрыклад, у мяне, няма тэлефона?

— Тады пасылаю яму паштоўку і даю свой службовы тэлефон, каб пазваніў мне.

Гэтак тут прынята.

Хадзіў у Саюз пісьменнікаў (гэта побач), прадставіўся сакратару партарганізацыі А. М. Кулакоўскаму, вядомаму празаіку.

— Кулакоўскі, — назваў ён сябе і дадаў: — Не звяртайце ўвагі на прозвішча, нічога агульнага з кулакамі не меў.

Не зразумеў, жартуе ён ці гаворыць усур'ёз, і не знайшоўся, што сказаць.

Вечарам, пасля работы, наведаў цырульню на праспекце каля «Падпісных выданняў». Падстрыгся.

**27 красавіка.** Сёння мой візаві спытаў у мяне, дзе я стрыгся. Я адказаў. «А чаму не ў сябе?» Аказваецца, тут ёсць свая цырульня для апаратных работнікаў і міністраў. Часта стрыгуцца рэдактары газет. Пажадана стрыгчыся тут. Кошт — 80 капеек.

**30 красавіка.** Устаў, як заўсёды цяпер, у 7 гадзін раніцы. Схадзіў у душ. Папіў чаю. Пабег на тралейбусны прыпынак. З акадэмічным інтэрнатам давядзецца, відаць, развітацца. Камендант Аляксандра Пятроўна ўжо, здаецца, прачула пра змены ў маім жыцці.

9.30. Нарада ў загадчыка аддзела Марцэлева. Гаварылі пра першамайскую дэманстрацыю.

— Павінны выйсці разам з народам і пісьменнікі, дзеячы мастацтва, — сказаў загадчык і прыстукнуў незавостраным канцом алоўка па стале.

Гэта — нечаканасць. Такога, каб на першамайскую дэманстрацыю выходзілі пісьменнікі, яшчэ не было. Раней абыходзіліся без іх і, відаць, правільна рабілі. Пісьменнік — асоба, якая менш за ўсё падыходзіць для марша пад адну музыку. Але ўказанне, мяркуючы па ўсім, ішло зверху.

— У нас адны лозунгі і сімвалы, — дадаў да прапановы загадчыка яго намеснік Парватаў. Дадаў і зірнуў на мяне. Мне здалося, што з недаверам. Я не зразумеў, што азначаў яго «дадатак».

Пасля нарады я пазваніў сакратару партарганізацыі Саюза пісьменнікаў А. Кулакоўскаму, выклаў яму ўказанне. Ён доўга маўчаў у трубку, не раз глыбока ўздыхаў і ўрэшце адказаў:

— Ну, што ж, будзем падымаць камуністаў.

Аляксей Мікалаевіч, нягледзячы на некаторую рахманасць, даволі мэтаімкнёны і настойлівы. Дамогся, напрыклад, таго, што ў клубе СП быў забаронены більярд. Шумныя більярдысты, што з трэскам штурхалі шары, перашкаджалі працаваць.

**1 мая.** Святочная дэманстрацыя працоўных. На чале калоны творчай інтэлігенцыі — Максім Танк, артысты мінскіх тэатраў, артысты філармоніі. Твар у Яўгена Іванавіча добры, усмешлівы. Перад урадавай трыбунай усе прывітальна махалі рукамі. Грымяць, ажно расколваецца паветра, рэпрадуктары. Прывітанні і лозунгі! І як можна грамчэй! Быццам бы недзе паблізу, у скверыку, схаваўся нейкі асілак з надзвычай гучным голасам і аглушальна крычыць: «Салідарнасць! Салідарнасць!..»

Мне міжвольна прыгадаўся заключны эпізод у рамане П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах». Героі — падпольшчыкі, «інжынеры барыка-

даў», як назваў іх У. Калеснік, вызваленыя з турмаў у верасні 1939-га, выйшлі нарэшце на свабоду. Радасныя і шчаслівыя, яны нясуць сцягі, гучна гамоняць, абдымаюцца з таварышамі.

Пестрака побач з Танкам чамусьці не было.

**3 мая.** Першамайскія святы прайшлі, прыступіў да выканання службовых абавязкаў. Пісьменнікі… Ці ведаю я іх? Хіба толькі некаторых з майго пакалення — М. Стральцова, У. Караткевіча, І. Чыгрынава, Б. Сачанку, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, П. Макаля, яшчэ таго-сяго. А народ вельмі цікавы.

Першым пісьменнікам, якога я бачыў у жыцці, быў Мікола Засім, які аднойчы прыехаў быў у нашу Кругельскую школу, апрануты ў скуранку, у капелюшы («Марыканец», — казалі пра яго пажылыя жанчыны, — у капелюшы!») і гучным голасам — дрыжэлі шыбы ў вокнах — чытаў свае вершы. Адзін, помню, заканчваўся заклікам: «Бі не зайцоў, а паноў!» Ужо няма Міколы…

Пісьменнікаў ведаю больш па творах, чым непасрэдна.

У «ЛіМе», помню, быў надрукаваны сяброўскі шарж М. Лісоўскага «Зямное прыцягненне». За сталом сядзяць К. Крапіва, Я. Брыль, М. Лужанін, а П. Пестрак падае ім чыгунок з гарачай бульбай. Пісьменнікі — захавальнікі традыцый нацыянальнай самабытнасці.

Пісьменніцкія дачы: у Ждановічах — Крапівы, Броўкі і Глебкі. Побач — Шамякін, Пестрак, Макаёнак, а таксама Лужанін.

На Нарачы: Танка, Лынькова і Куляшова.

— Гэта ўсё, вядома, невыпадкова. Наследак старога сяброўства...

**5 мая.** Тут, аказваецца, свая сталоўка. Знаходзіцца ў цокальным паверсе. Зручней і танней, чым у горадзе, і гатуюць няблага. Зрэшты, гатуюць не тут, а аднекуль носяць. Са сталоўкі, што на рагу. Там даражэй, а ў нас танней. Магчыма, даплачвае прафсаюз.

**6 мая.** Стаў на ўлік у лечкамісіі. Пасылалі ад урача да ўрача. Я паскардзіўся на боль у пахвіне, аднак нічога благога не знайшлі.

Перасяліўся да Лёні ў яго кааператыўную аднапакаёвую кватэру. Перанёс чамадан з кнігамі. Буду спаць на раскладушцы.

**7 мая.** Хадзіў у Саюз пісьменнікаў, які побач з ЦК, бліжэй знаёміўся з адміністрацыяй. Сустрэў Р. Бярозкіна. Ён у звыклай сваёй светла-шэрай кепцы. Выгляд — пакутніцкі, трымаецца за шчаку. Аказваецца, лечыць зубы ў паліклініцы СП.

Бярозкін — тэмпераментны крытык. Калісьці пасля агляднага даклада Івана Ралько пра паэзію, які дакладчык (што праўда, то праўда) крыху зацягнуў, выступілі А. Вялюгін і Р. Бярозкін і так урэзалі, што Іван не вытрымаў, захістаўся і ўпаў з крэсла, грымнуўшыся аб падлогу. Страціў прытомнасць. Выклікалі «хуткую дапамогу». Урач пісьменніцкай паліклінікі шаноўны Уладзімір Барысавіч Нэйфах распытваў пра пацярпелага: «А ён член Саюза пісьменнікаў?» Думалі, ужо без духу.

Угледзеўшы мяне, Рыгор Саламонавіч не стрымаў свайго здзіўлення:

— Дык вы ўжо тут працуеце? — Кіўнуў на будынак ЦК.

— І тут, і тут, — адказаў я, маючы на ўвазе ЦК і Саюз пісьменнікаў.

— Робіце поспехі!

Можна і так. Бярозкіна паважаю, нават з яго «прыколамі».

**9 мая.** Гэты дзень у нас доўга не святкавалі. Каб, як казалі, не адрывацца ад працоўных будняў, не расслабляцца. А цяпер на вуліцах россып народу. Некаторыя людзі на добрым падпітку. Ветэраны звіняць нагруднымі «іканастасамі».

Вялікая Айчынная вайна і Перамога ў ёй з'яўляюцца цэнтральнай і вызначаючай сусветную гісторыю падзеяй XX стагоддзя. І сусветную гісторыю

і «гісторыю» асобнага, звычайнага чалавека. У часе вайны я, на Брэстчыне, знаходзіўся пад акупацыяй. Гэта быў вельмі пакутлівы час. Акупацыя замінала і пасля вайны. Савецкая ўлада не любіла тых, хто знаходзіўся і пакутаваў пад нямецка-фашысцкай акупацыяй, хаця сама нічога не зрабіла, каб не пакідаць іх там — пад акупацыяй. Больш таго, гэта ставілася, нават майму пакаленню, у віну. Цяжка ўспамінаць…

У душы лічу сябе ветэранам вайны, бо шмат перажыў, але каму гэта дакажаш! Ніхто пад увагу не бярэ.

**10 мая.** Зацвілі каштаны. Ёсць у гэтым нешта кіеўскае. У Кіеве я бываў шмат разоў, калі ездзіў да свайго кіраўніка Л. М. Навічэнкі. У Мінску, праўда, каштанаў крыху менш, чым у Кіеве.

**12 мая.** Пачынаюцца Дні беларускай культуры ва Ульянаўскай вобласці. Наш аддзел фарміраваў дэлегацыю, калектывы выканаўцаў. Ад пісьменнікаў — Максім Танк і інш.

Герой Брэсцкай крэпасці пагранічнік Наганаў родам з Ульянаўскай вобласці. І я хацеў паглядзець, адкуль Ленін, але не пусцілі, бо, сказаў М., патрэбен тут.

**15 мая.** Даслаў ліст Радаслаў Александровіч, сын паэта Андрэя Александровіча, ужо нябожчыка. Скардзіцца на тое, што не шануецца памяць пра бацьку, што выдавецтва тармозіць зборнік успамінаў. Шкрабу патыліцу — як выйсці са становішча. Постаць Андрэя Александровіча даволі супярэчлівая, дабром яго мала хто ўспамінае.

Вершам Александровіча «Сасна» захапляецца С. Грахоўскі. Верш, сапраўды, выдатны. Дык што рабіць з сынавай скаргай?

**16 мая.** Свежая, сакаўная зелень. Цвітуць сады, пахнуць гронкі бэзу, але пачаліся, як звычайна, чаромхавыя халады. Гэта сама прырода дапамагае расліннасці адолець розную «тлю», мошку, яшчэ ў яе завязі.

**19 мая.** Будынак ЦК у самым цэнтры горада і, здаецца, на самым высокім месцы. Тут свая іерархія, бо старшы, кажуць, і ў пекле ёсць. Самы вялікі начальнік тут — сакратар ЦК. Іх некалькі, і кожны піша рэзалюцыі чарнілам свайго колеру. Машэраў — часцей за ўсё чырвоным, другі сакратар — зялёным, астатнія — чорным, сінім… Сядзяць сакратары на самым высокім пятым паверсе. Іх рэдка і ўбачыш. Абед ім падымаюць туды, наверх. Трэба знаходзіцца пры тэлефоне. Мала што!

**20 мая.** Цёпла, дажджы з навальніцамі. Пах бэзу. Салаўіная пара.

З раніцы забег Пятрусь Броўка, яго я ўжо бачыў пару разоў у гэтым будынку. Пятрусь Броўка для мяне класік, якога ведаю яшчэ са школы. Яго балады «Надзея-надзейка», «Брат і сястра» і інш. завучвалі на памяць. Вырашыў параіцца з ім адносна скаргі Р. Александровіча. Броўка адразу прыгадаў невядомы мне акраверш А. Александровіча 30-х гадоў, прысвечаны быццам бы ўслаўленню савецкай улады, які аўтар надрукаваў аднак не ў сталічным Мінску, а недзе на перыферыі, у акружной газеце. Па вертыкалі чыталася: «Дохлая вош».

— А нашто ён гэтак зрабіў? — спытаў я.

— На ўсялякі выпадак. А раптам улада зменіцца, ды прыйдуць палякі? Пра пагрозу з боку буржуазнай Польшчы тады гаварылася шмат. За гэты верш яго і пасадзілі.

Пасля размовы з Броўкам я пазваніў Радаславу, параіў пытанне са зборнікам успамінаў вырашаць непасрэдна з выдавецтвам. Дырэктару выдавецтва не званіў.

**24 мая.** Наведаў Н. Б. Адчуў, што яна памяняла да мяне адносіны. Нібы памякчэла, стала больш ветлівая. Але характар не пераробіш — эгаістка.

Асыпаюцца кветкі бэзу.

**26 мая.** Панядзелак. Кожны панядзелак — «пяцімінутка». Абмяркоўваем планы на тыдзень, розныя справы. Сярод іншага — як адзначыць 50-годдзе паэта Авяр'яна Дзеружынскага, чым узнагародзіць. На ордэн не цягне.

**31 мая.** Хадзіў у «сваю» цырульню. Цырульнік — Яша. Пасадзіў у крэсла. Я сказаў: «Стригите на весь рубль!» Ён спытаў: «Пад якога сакратара вас падстрыгчы?» Пытанне было для мяне нечаканае. «Некаторыя просяць пад Машэрава», — дадаў Яша. — «А ён што — таксама сюды прыходзіць?» — «Што вы! Як можна? Гэта я паднімаюся туды!»

Адчуў жар, які ідзе ад тых, хто пры ўладзе.

— Яша, давай «канадскую польку»!

— Харашо. Будет вам «канадка».

Выйшаў ад Яшы памаладзелым. У размеркавальніку стаім з ім разам.

**3 чэрвеня.** «ЛіМ» паведамляе, што ў Варшаве адбыўся 14-ты традыцыйны кніжны кірмаш, у якім удзельнічалі 25 краін свету. Беларусь паказала 100 назваў кніг. Прымалі ўдзел выдавецтвы «Беларусь», «Навука і тэхніка», «Вышэйшая школа», «Ураджай». Прыемна, што наша кніга цярэбіць сабе шлях у свет. Знай нашых!

Мой візаві Валерый Сяргеевіч расказвае, што наш аддзел культуры ўтварыўся нядаўна, па ўзоры такога ж аддзела ў ЦК КПСС. Цяпер аддзелам культуры ЦК КПСС загадвае наш кадр — былы сакратар ЦК КП Беларусі, па ідэалогіі В. Ф. Шаура. У Маскве яго празвалі «великий немой». Відаць, болей маўчыць, чым гаворыць. Вопытны царадворац, асцярожны.

**6 чэрвеня.** Размаўляюць тут па-руску, толькі па-руску. На мяне глядзяць, як на іншапланецяніна. Калі я аднойчы зайшоў да галоўнага бухгалтара кіраўніцтва справамі ЦК таварыша Трапача і загаварыў да яго па-беларуску, ён паглядзеў на мяне як на лазутчыка. «Як ты, маўляў, пралез сюды?»

— А пачаму гэта вы на беларуском языку разгаварваеце?

— Прывычка.

А ў самога вымаўленне, інтанацыя і прозвішча — Трапач — беларускія. Звычайны русафонны беларус. Ён, як і ўсе тут, надта баіцца нацыяналізму і запалохвае ім іншых. Я нават крыху паспачуваў сабе, што давядзецца жыць сярод такіх «партыйцаў». Некаторыя пазіраюць на мяне з падазрэннем: «Адкуль ты такі? Ты яшчэ не даказаў, што ты партыйны чалавек. Якога ты стану?» Партыя і дзяржава ў нас адно цэлае. Адна і часта, на жаль, не надта прыхільная да чалавека сіла.

А я — партыйны чалавек ці не? Думаю, што партыйны, але, мне здаецца, не масавы. Не раз пераконваўся, што я не чалавек гурту, а хутчэй сам па сабе. Тут я патрэбен як функцыя, а не як чалавек са сваёй адметнасцю.

**13 чэрвеня.** 50 гадоў Авяр'яну Дзеружынскаму. Вясёлы чалавек. Кажуць, шматдзетны. Пастаянна нешта сабе пад нос спявае.

Падрыхтавалі Пастанову ЦК аб узнагароджанні яго Граматай Вярхоўнага Савета БССР. Пастанова будзе даслана ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета і апублікавана як Указ гэтага Прэзідыума. Спасцігаю «кухню» сваёй работы.

Адчуваю, што апарат СП (нешматлікі) схільны бачыць у маёй асобе начальніка. Некаторыя, у тым ліку і пісьменнікі, асцярожнічаюць, прыгінаюцца. Гэтага «прыгінання» я не хацеў бы, яно не па мне. Яно абражае і таго, хто прыгінаецца, і таго, перад кім прыгінаюцца.

**16 чэрвеня.** Быў у А. Кулакоўскага, у яго кабінеце ў СП. Кабінет маленькі: стол і пара крэслаў. Аляксей Мікалаевіч цырымонны, прапанаваў «гарбаты». Пагаманілі. Чарговая размова пра маё прозвішча:

— А ведаеце, што пра ваша прозвішча Піліп Пестрак кажа? Гэта, кажа, у яго ў родзе быў нехта вельмі скупы. Нават мёд у яго гніў. Мог жа пазычыць

каму ці проста з бедняком падзяліцца — дык не! Хай лепей згіне, а нікому не дасць. Вось людзі і празвалі — Гніламёдаў… — Я паважаю Пестрака і на яго не ў крыўдзе. Фантазёр.

**18 чэрвеня.** Паабедаўшы, а палове другой, пакідаем будынак і выходзім на вуліцу. Часцей за ўсё таўчэмся ў купалаўскім скверыку каля фантана з Купідонам. Вядзём размовы. Мне ўсё цікава. Удзельнік вайны лётчык Кулагін (з аддзела адміністрацыйных органаў) расказвае пра паветраныя баі, як ён збіваў «месераў». Усяго аднаго не хапіла для таго, каб атрымаць «героя».

Некаторыя згадваюць смешныя выпадкі з жыцця. Стараюся запомніць прозвішчы калег, імёны і імёны па бацьку. Лакішык, Лабун, Скобелеў, Дарашэвіч, Лапец, Есьман, Янчэўскі, Антанюк… Арыгінальным мне паказаўся Скобелеў. У акулярах, якія чапляе не толькі за вушы, але яшчэ і абвязвае тасёмачкай вакол галавы.

Людзі, як той посуд, з адной гліны, але розныя.

**20 чэрвеня.** Амерыканцы на Месяцы! Глядзеў па тэлевізары, як касманаўт (ад хвалявання не помню яго прозвішча) ступіў на месячны дол і з-пад яго нагі закурэў пыл. Гэта недзе ў заходняй частцы Мора Спакою. Установлены сцяг ЗША.

**21 чэрвеня.** Вяртаючыся на Зямлю, амерыканцы прыхапілі з сабой 30 кг «месяцавага грунту»!

ЗША — першая лэдзі Космасу! Чым адкажам мы?

**22 чэрвеня.** З газет не знікае кітайская тэма. З кітайцамі, відаць, пасварыліся не на жарт. Не можа Мао Цзэдун даравацъ за Сталіна. Бачыць у гэтым асабістую пагрозу сабе, сваёй уладзе. А як дружна і заўзята спявалі мы калісьці стылізаваную пад кітайскую інтанацыю песню «Масква—Пекін»! Цікава, хто яе аўтар?

Гэта толькі здаецца, што ўсё спынілася, застыла ў нерухомасці. Не, ўсё цячэ і змяняецца. Зрэшты, працягваць гэтую думку не буду, бо гэта цэлая філасофія.

**23 чэрвеня.** З дапамогай Валерыя Сяргеевіча адкрыў для сябе, што ў ЦК КПБ ёсць і такая структура, якая разглядае адхіленні ад статутных патрабаванняў у паводзінах членаў КПСС, ініцыіруе персанальныя справы. Здараецца, моцна прыцікаюць, выключаюць з партыі, адбіраюць партбілет. Персанальныя справы слухаюцца на Бюро ЦК. Адну такую справу, расказваюць, рыхтаваў інструктар парткамісіі па прозвішчы Пушкін. Той, чыя справа рзглядалася, быў вельмі раззлаваны, яму здавалася, што Пушкін да яго несправядлівы. «Калі ты Пушкін, — закрычаў ён, — дык пішы «стіхі», а не персанальную справу!»

Жарсці кіпяць.

**24 чэрвеня.** У «Полымі» надрукаваны пераклад Я. Семяжона паэмы «Песня пра зубра» М. Гусоўскага. Гэта — падзея! Твор XVI стагоддзя на лацінскай мове, напісаны нашым земляком. Гуманістычны, а заадно і патрыятычны пафас робяць яго цікавым і актуальным і сёння.

**25 чэрвеня.** Ноччу дзяжурыў у прыёмнай П. М. Машэрава. Не раз чуў выраз: «На версе вырашылі». Вось цяпер я на гэтым самым версе». Заступіў з 12-ці. Сталіца патанула ў цемені. Прыёмная — прасторная, падлога ўсцелена дывановымі дарожкамі, шмат тэлефонаў. Тэлевізар — мінскай маркі «Гарызонт».

Сеў глядзець тэлевізар. Галава так ацяжэла за дзень, што непрыкметна для сябе заснуў. Але хутка прачнуўся, устаў і доўга хадзіў па мяккай дывановай дарожцы чырвонага колеру. За дзвярыма, каля тэлефона ўсю ноч стаіць міліцыянер. Так працягвалася да самай раніцы, да з'яўлення Крукава. Дзяжурны па грамадзянскай абароне рэспублікі праверыў тэлефонную сувязь.

Дзяжурныя — хто ноччу знаходзіцца ў прыёмнай П. М. Машэрава — носяць з сабой гумовыя падушкі. Надуваюць на месцы. У мяне такой падушкі няма. Можа, па часе, завяду. Але спаць тут «не паложана». Як у арміі. Там я аднойчы неасцярожна заснуў і адразу трапіў на гаўптвахту.

**26 чэрвеня.** Цікавы, іскрысты паэт Рыгор Барадулін — прачытаў яго верш «Гітара», прысвечаны Любе Грынчык:

*Гітара —*
*цыганка мясцовая,*
*Па-тутэйшаму пачала варажыць:*
*— Піце, людзі, гарэліцу,*
*А вы, гусі, ваду,*
*Тай ляцеце, шэры гусі,*
*Аж да майго роду…*

Ці не адчуваецца тут Лорка, якога Барадулін любіць і перакладаў?

Раскруціў Барадуліна як паэта Р. Бярозкін. Маці Барадуліна жыве ў вёсцы. Але было што круціць. Да гэтага часу помню незвычайнае пачуццё навізны, якое я перажыў пры першай сустрэчы з паэзіяй Р. Барадуліна. Потым кніжка — «Маладзік над стэпам». Барадулін — гэта нацыянальная каштоўнасць. Спрачаўся на гэты конт з Калеснікам, якому бліжэй Караткевіч. Караткевіч — выдатны пісьменнік, але і Барадулін не зломак.

**27 чэрвеня.** Калега Піпалаеў з аргаддзела (ён, дарэчы, скончыў Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве, рэцэнзію на яго дыпломную работу пісаў сам Ілья Сяльвінскі) параіў мне, што непажадана сустракацца з ранейшымі знаёмымі, асабліва з пісьменніцкага асяроддзя, землякамі. Яны заўсёды нешта просяць, і можна паставіць сябе ў няёмкае становішча.

— А калі чалавеку патрэбна дапамога?

— Але ж не за дзяржаўны кошт.

Я нічога не адказаў, і ён таксама змоўк. А наогул кажа правільна.

**28 чэрвеня.** Перасяліўся ў гасцініцу ЦК па вуліцы Кірава. Гэта над сталоўкай ЦК. Аплачвае пражыванне кіраўніцтва справамі. Цісну рублём (калісьці другім рублём прыціскаў воз з сенам) — можа, хутчэй атрымаю якую кватэру.

Зрэдчас бачуся з Н. Б., але сустрэчы халаднаватыя, быццам афіцыйныя.

**30 чэрвеня.** Хатынь прыняла зямлю са ста трыццаці шасці вёсак Беларусі, поўнасцю знішчаных фашысцкімі акупантамі і не адроджаных пасля вайны. Мемарыял сабраў шмат народу з усёй рэспублікі. Урачыстасці са слязьмі на вачах людзей.

Паліў Хатынь — мясцовыя ведаюць — Васюра — начальнік штаба паліцэйскага батальёна. Знайшоў яго праз многа гадоў Віктар Прыходзька. Быў суд.

**1 ліпеня.** Стала вядома аб трагічнай смерці паэта Я. Непачаловіча. Шкада. А колькі такіх выпадкаў нават на маёй памяці, калі верх бярэ чалавечая непамыснасць, жарсці, падсвядомае…

**2 ліпеня.** «Литературная газета» змясціла рэцэнзію І. Мацяшова «Так что же произошло у Круглянского моста?» на аповесць В. Быкава «Круглянскі мост». Аповесць надрукавана па-руску ў «Новом мире», № 3 за гэты год. Мацяшоў знаходзіць «супярэчнасці паміж праўдай жыцця і прадузятасцю аўтарскай задумы». Брытвін, паводле логікі крытыка, выходзіць, не вінаваты. А сродкі? Хіба ўсё роўна, якімі сродкамі дасцягаецца мэта? Брытвін дасягае яе злачынным метадам і варты асуджэння. Не ўсе гэта разумеюць, асабліва ў нашым партыйным асяроддзі. Быкава, па праўдзе сказаць, не любяць. Ён за маральны максімалізм, за перагляд перажытага ў вайну.

Працуючы ў Інстытуце літаратуры, я хацеў пісаць даследаванне пра творчасць В. Быкава. Прачытаў усе раннія яго творы (апавяданні), якія друкаваліся ў 50-я гады, у пачатку 60-х у «Гродненской правде», і прыйшоў да думкі, што Быкаў у сваёй паэтыцы наследуе Джэку Лондану, а яшчэ больш — Джозефу Конраду. Двухтомнік гэтага англійскага пісьменніка я калісьці ўзяў у калгаснай бібліятэцы ў Камароўцы, калі працаваў у школе. Быкаў гэтаксама, як Лондан і Конрад, хоча сказаць праўду, а яму не даюць, абвінавачваюць у вузкай «акопнай праўдзе», «рэмаркізме», іншых ідэалагічных грахах і заганах. Ёсць у яго свае моцныя і слабыя бакі. Быкаў у пошуках. Ён, на маю думку, пісьменнік вельмі ідэалагічны і тэндэнцыйны. На самай справе, ці можна зводзіць усё жыццё, вайну да таго, што адбылося каля Круглянскага моста? Вядома, у чымсьці ён суб'ектыўны. Ці трэба за гэта прымяняць уціск? А ў адносінах да Быкава ён прымяняецца. Дастаткова ўспомніць злы артыкул у «Советской Белоруссии» — «Вопреки правде жизни» (8.04.1966). А хто поўнасцю ведае гэтую «правду жизни»?

Успомніў размову з Калеснікам. Не так гэта проста абараняць пісьменніцкія інтарэсы.

**3 ліпеня.** Масавыя ўрачыстасці з нагоды 25-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Упрыгожаны вуліцы і плошчы. Паміж вуліцай Янкі Купалы і плошчай Перамогі — Алея герояў: партрэты, фатаграфіі, сімволіка.

**4 ліпеня.** У Палацы спорту адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 25-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. З прамовай выступіў П. М. Машэраў. Гаварыў з уласцівым яму артыстызмам, павышаў і паніжаў інтанацыю.

**5 ліпеня.** Урачыстае адкрыццё Кургана Славы і Мемарыяльнага комплексу «Хатынь». Глыбокае, незабыўнае ўражанне. Народу яшчэ болей, чым тыдзень назад.

**7 ліпеня.** Убачыў на выстаўцы палатно М. Савіцкага «Рабочыя». Разам з «Пакараннем смерцю» і «Хлябамі» яно вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР 1969 г.

**10 ліпеня.** Наведалі з А. Савіцкім Нічыпара Пашкевіча ў лечкамісіі, прынеслі яму сушанай рыбы, якую купілі ў буфеце ЦК. Нічыпар лічыць, што яго недаацэньваюць. Напрамую пра гэта не гаворыць.

**11 ліпеня.** У гасцініцы горш, чым у інтэрнаце. Набраўся рашучасці і пайшоў да шэфа па кватэрным пытанні. Гаварыў, відаць, даволі агрэсіўна, таму што шэф абурыўся:

— Што гэта вы ка мне прыстаёце? Калі так, так мы можам зрабіць аргвывады. Ідзіце ў прафсаюз!

**13 ліпеня.** У «ЛіМе» надрукавана рэцэнзія Р. Бярозкіна «Першая ластаўка» на кнігу І. Ралько «Беларускі верш». Рэцэнзент, думаецца, хоча прымірэння пасля таго выпадку, калі Ралько ўпаў і выклікалі «хуткую».

Рыгор Саламонавіч часам залішне катэгарычны. Або хваліць, або знішчае, што не па ім. У мінулым годзе ў «ЛіМе» быў надрукаваны яго артыкул, у якім безапеляцыйна крытыкавалася паэзія П. Макаля за быццам бы адрыў ад жыцця, ад грамадскага свету. Артыкул называўся: «Майстэрства, што з табою рабіць?» Дарэмна аднак ён напусціўся на Макаля — Макаль больш сацыяльны, чым хто. «Няўжо мы толькі камяні ў фундамент, каб іншыя дабудавалі гмах?» — пытаецца ён у адным з вершаў. Так, майстэрства ў яго ёсць і шмат.

*— Вы адкуль?*
*— Мы ад куль.*
*Мы — з вайны.*

*Мы — званы.*
*Мы — дамы.*
*Мы — дымы.*
*Каміны.*
*Камяні...*

Макаля баранілі Грахоўскі, Вярцінскі, хтосьці яшчэ, падкрэсліваючы, што яго майстэрства, тэхніка працуюць на думку, паглыбляюць сэнс, робяць яго мастацкім.

**15 ліпеня.** Пятрусь Броўка наведаў мазыран. Расказваў, што чытаў вершы пра камсамол: «Пра камсамол можна пісаць бясконца!» — паўтараў ён, пасміхаючыся. Усмешка ў Броўкі — свая, нутраная, ад душы. І мова адметная: кажа не *горад*, а *мейсца*. Любіць слова *дакляраваць* (замест *абяцаць*). Так гаварылі даўней, да вайны. Раней ён разумеў паэзію як услаўленне, апяванне. Зараз стаў больш удумлівы, лірычны.

**16 ліпеня.** Паўлу Ахрыменку стукнула 50. Чалавек вядомы, мае навуковыя працы. Але ў даведцы ад КДБ паведамлялася, што ў час акупацыі ён супрацоўнічаў у мясцовай газеце «Лубенскі веснік», таму пра юбілейныя ўзнагароды мовы не ішло. Можа, і пакрыўдзіўся.

**21 ліпеня.** ЦК прыняў пастанову «Аб дадатковых мерах па паляпшэнні навуковай распрацоўкі гісторыі ўсенароднай барацьбы ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны». Усё ляжыць у архівах, і ўсё гарачае.

**23 ліпеня.** Вечарам, пасля работы, адбылася сустрэча з вядомай гераіняй, якая падлажыла міну пад Кубэ, — Аленай Мазанік. Яна служыла ў Кубэ пакаёўкай і тое-сёе пра яго расказала. «Службовы кабінет гаўляйтэра, — тлумачыла яна, — месціўся ў гэтым будынку, дзе мы зараз з вамі знаходзімся, там, дзе зараз сядзіць Машкоў». Машкоў — гэта кіраўнік справамі ЦК, ён сядзіць на першым паверсе, у левым крыле.

А жыў Кубэ ў доме побач, дзе зараз знаходзіцца памяшканне Саюза пісьменнікаў. Там яго Мазанік і ўходала, адправіла на той свет. А да гэтага паміж імі маглі скласціся неблагія адносіны.

Што ні кажы — гераіня! Калі ўжыць далёкія, знакавыя асацыяцыі, дык можна Алену Мазанік параўнаць з біблейскай Юдзіф, якая, ратуючы свой народ, прыйшла ў шацёр да асірыйскага палкаводца Алаферна і забіла яго, навёўшы жах на ўсё яго войска.

**24 ліпеня.** Завяршыліся Дні польскай літаратуры. Госці пабывалі ў Мінску, Навагрудку, Баранавічах, Гродне, Хатыні, наведалі мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю А. Міцкевіча, Э. Ажэшкі. Усё, казалі, прайшло гладка, пазнавальна.

**29 ліпеня.** Хінецца да мяне Іосіф Скурко — добры хлопец і паэт. Запомніў яго верш «Полька на лён» і радкі з другога верша — «Спатканне з поўднем»:

*Лакаматыў натруджана сапе,*
*Як конь, прыпусціць рыссю, то галопам,*
*Без стуку сонца увайшло ў купэ*
*І аб'яўляе: хутка Сімферопаль.*

Характарам ён памяркоўны. Характар, напэўна, збліжае людзей больш, чым што іншае. Наведалі з Іосіфам яго бацьку Уладзіміра, які жыве ў Паставах, а заадно і брата Максіма Танка — Федзю — у Пількаўшчыне. Гэта хутар з дзвюх хат — старой і новай. Вакол лес. У садзе спеюць яблыкі. У траве стракочуць конікі. Чутно зязюльчына «ку-ку». Цішыня. Відаць, хутар і нараджае

самавітых людзей. Думаю, што «хутарскае» паходжанне адбілася і на чалавечай індывідуальнасці М.Танка, і на яго мастакоўскім фарміраванні.

Іосіфа тут завуць Зюкам: «Ну, як жывеш, Зюк?» — пытаўся бацька.

**2 жніўня.** У апошнім «ЛіМе» змешчана разгромная рэцэнзія П. Місько «Каб не спех ды яшчэ сёе-тое» на кніжку нарысаў В. Мысліўца «Мае заводчыкі». Трэба будзе зрабіць заўвагу «ЛіМу» — так нельга. Чым ён правініўся — малады аўтар?

**4 жніўня.** Пачуў, што мая паездка ў Пількаўшчыну насцярожыла Яўгена Іванавіча. Падазрае, што я нібы нешта правяраў па чыімсьці заданні. Не, нічога такога не было. Ніхто мяне не пасылаў. Сам.

У мінулым ён, відаць, меў праблемы з тым, колькі ў бацькі на хутары кароў. Значыць, нехта іх лічыў.

**9 жніўня.** Пахаладала. Шэрае неба, рэзкія павевы ветру і стоенае за хмарамі сонца сведчаць, што лета ўжо на схіле. Закрываваліся рабіны. Мінскае мора пакрылася зялёнай раскай.

Адпачыць сёлета, відаць, не давядзецца.

**12 жніўня.** Цікавы артыкул Р. Бярозкіна «Роздум над «Песняй пра зубра», надрукаваны ў сённяшнім нумары «ЛіМа». Бярозкін умее зацікавіць чытача эстэтычнымі якасцямі твора, даць ім сацыяльна-філасофскае абгрунтаванне ці проста здзівіцца нейкай рысачцы, імгненню. Крытык адзначае рэнесансны характар твора, у якім «усё існуе як непадзельнае цэлае» (гэта якраз рыса мастацтва эпохі Адраджэння), а таксама «невычэрпнасць «партрэта» і «характару» зубра».

Пакладзены добры пачатак у вывучэнні паэмы.

**15 жніўня.** Прыехаў з-за мяжы пісьменнік-эмігрант Янка Ліманоўскі. З якой мэтай — не ведаю. Наведаў Саюз пісьменнікаў. Тут яму наладзілі (Белокс) сустрэчу, у кабінеце М. Танка, які быў на Нарачы. На сустрэчы прысутнічалі П. Глебка, А. Бачыла, А. Бажко, А. Кулакоўскі, Л. Прокша, У. Карпаў і інш., у тым ліку і я. Госць хваліўся, што накупляў два чамаданы школьных падручнікаў па беларускай мове і літаратуры. Казаў, што павязе ў ЗША, дзе ён цяпер жыве. Адчувалася, што чалавека мучыць настальгія. Ужываў старое слова «адылі». Адылі — аднак, затым. Задавалі пытанні: «А як там Масей Сяднёў?», «А што робіць Казак?», «Дзе жыве Алесь Салавей?» Пра такіх пісьменнікаў я нават не чуў. Рэпрэсіраваныя?

Я. Ліманоўскі захапляўся Мінскам. Казаў, што прыгажэйшы нават за Вашынгтон. Па паводзінах і рысах вельмі нагадвае савецкага чалавека.

Я запрасіў у Бібліятэцы імя Леніна даведку на Ліманоўскага. Заадно патэлефанаваў сакратару СП па аргпытаннях М. Ткачову, папрасіў даць спісы рэпрэсіраваных і рэабілітаваных нашых пісьменнікаў. Ткачоў шумна дыхнуў у трубку, але сказаў: «Паспрабуем».

**18 жніўня.** Той-сёй не хоча, каб Гілевіч ехаў у Балгарыю. Меўся ён ехаць на з’езд славістаў. Хай бы ехаў! Затрымліваюць беспадстаўна.

**19 жніўня.** У апошнія гады пачалі перакладаць і выдаваць (у «Иностранной литературе» і асобна) амерыканца Фолкнера. Дачытаў яго трылогію пра Сноўпсаў. Проза Фолкнера робіць уражанне, хоць яна нібы па-за канкрэтнымі падзеямі жыцця пісьменніка і наогул па-за часам. Чалавечая рэчаіснасць яго раманаў — міфалагізаваная. Аўтар акцэнтуе ўвагу на ролі лёсу, па-беларуску сказаць — «кону», у чалавечым жыцці. Пісьменнік — асілак. У амерыканскай літаратуры такіх нямала.

**21 жніўня.** Гартаў свежы нумар «Маладосці» — нічога, вартага ўвагі. У «ЛіМе» А. Савіцкі дае ўрывак з новага рамана «Плаўка» — пра рабочы клас. Пра рабочы клас пісаць цяжка — не сфарміравалася традыцыя. Але камусьці трэба пачынаць.

Сіла пісьменніка ў рэалізме, у той меры праўдзівасці, якую ён можа сабе дазволіць. Часам гэтая мера надта невялікая. Таму і не верыш таму, пра што пісьменнік піша.

**25 жніўня.** З «Ленінкі» прыслалі даведку на Янку Ліманоўскага.

«Ліманоўскі Янка.

У 20—30-х гадах быў вядомы як празаік, публіцыст, крытык, перакладчык. Яго аповесці, апавяданні, нарысы напісаны на самую разнастайную тэматыку. Гэта і мінулае (героіка ў гады Вялікага Кастрычніка і грамадзянскай вайны), і сучаснасць (сацыялістычнае будаўніцтва). На яго творах ляжыць адбітак таго часу — сацыяльная зададзенасць і ілюстрацыйнасць. І ўсё ж творы Ліманоўскага мелі папулярнасць, станоўча ацэньваліся крытыкай (аповесць «Вецер з усходу», 1929, зборнік апавяданняў «Над абрывам», 1929).

Друкаваў крытычныя артыкулы і рэцэнзіі ў перыядычным друку. Некаторыя і сёння заслугоўваюць увагі («Маладняк» перад з'ездам», «Аб культурнай арыентацыі» і інш.). Актыўна ўдзельнічаў у літаратурна-грамадскім жыцці: выступаў з прамовай на І з'ездзе БелАПП («Маладняк», 1929, № 1), на X з'ездзе Саветаў («Маладняк», 1931, № 3), уваходзіў у аргбюро літаб'яднання Чырвонай Арміі і Флоту і г. д. Аднак на пачатку 30-х гадоў далучыўся да вульгарна-сацыялагічнай, «бэндаўскай» крытыкі, пісаў разносныя артыкулы і рэцэнзіі: «За два гады класавай барацьбы ў літаратуры» («Маладняк», 1931, № 6—7); «Аб творчасці Кузьмы Чорнага» («ЛіМ», 1933, 13 чэрвеня); «Аб творчасці М. Зарэцкага» («ЛіМ», 1933, 9 ліпеня) і інш. Рэзкія выпады Ліманоўскага бумерангам абрынуліся на яго самога. У 1937 г. ён быў выключаны з Саюза пісьменнікаў Беларусі (артыкул М. Клімковіча «Нацдэмаўскае і трацкісцкае ахвосце», «ЛіМ», 1937, 23 ліпеня).

Пэўных дакументальных звестак аб дзейнасці Ліманоўскага ў гады вайны, аб супрацоўніцтве з акупантамі, аб жыцці ў пасляваенны час у эміграцыі мы не маем».

Я таксама не маю, пра нешта можна толькі здагадвацца. Жывы герой для цікавага сюжэта, але хто дасць напісаць?

**31 жніўня.** Нядзеля. Быў на Камароўцы, пачуў прымаўку: «Чорны, як каўка». А што гэта — каўка? Яшчэ кажуць: «Не каўкай!»

**4 верасня.** З верасня Н. Пашкевіч ужо не рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва». Галоўны рэдактар «ЛіМа» — Леанід Прокша. Гэта, пэўна, нечакана для ўсіх. Раней Прокша рэдагаваў «Голас Радзімы».

**8 верасня.** М. Ткачоў прадставіў нарэшце спіс, але толькі адзін — на рэабілітаваных (членаў СП). Спіс рэпрэсіраваных, сказаў, прасіце ў КДБ.

Спіс рэабілітаваных беларускіх пісьменнікаў:

1. Янка СКРЫГАН
2. Алесь ЗВОНАК (Звонак Пётр Барысавіч)
3. Мікола ХВЕДАРОВІЧ
4. Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ
5. Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ
6. Максім ЛУЖАНІН (Каратай)
7. Сцяпан ЛІХАДЗІЕЎСКІ
8. Ісак ПЛАТНЕР
9. Грыгор БЯРОЗКІН
10. Грыгор КАМЯНЕЦКІ
11. Станіслаў ШУШКЕВІЧ
12. Юрка ГАЎРУК
13. Сяргей ГРАХОЎСКІ
14. Дзмітрый АСТАПЕНКА

15. Сымон БАРАНАВЫХ
16. Уладзімір ХАДЫКА
17. Цішка ГАРТНЫ
18. Якаў БРАНШТЭЙН
19. Ісак ХАРЫК
20. Васіль ШАШАЛЕВІЧ
21. Юліян ТАЎБІН
22. Валерый МАРАКОЎ
23. Васіль СТАШЭЎСКІ
24. Платон ГАЛАВАЧ
25. Барыс МІКУЛІЧ
26. Сымон КУНІЦКІ
27. Міхась ЧАРОТ
28. Арон ЮДЗЕЛЬСОН

Званіць у КДБ па пытанні аб усіх рэпрэсіраваных адраіў Парватаў. «Это может навлечь тень на весь отдел». Ды я і сам не адважыўся.

А каб яны былі, каб жылі, літарататура наша была б іншай, непараўнальна больш багатай. Вось што выходзіць з таго, калі літаратурная барацьба перарастае ў палітычную. Але дзякуй богу, што гэтая навала нейкім чынам спынілася, бо ў энкавэдзістаў было, несумненна, жаданне пасадзіць усіх пісьменнікаў. «Тады, — як сказаў адзін паэт, — давялося б у Доме пісьменніка павесіць замок». Можа, гэта і спыніла?

**9 верасня.** Жыву на зарплату, усведамляючы свой наёмны статус. Зарплата ў два разы вышэйшая, чым у інстытуце. Там атрымліваў 90 руб., тут — 180. Чаму, дарэчы, у нашай літаратуры не існуе тэмы грошай як важнага фактара ў чалавечых адносінах?

**12 верасня.** Адпрасіўся на пару дзён у Брэст, на вяселле Евы. Паеду заўтра з раніцы. Узяў у буфеце ЦК кілаграм сухой каўбасы. Больш за адзін раз не даюць.

**15 верасня.** З вяселля вярнуўся стомлены, бо быў за маршалка. Хата цесная, душна. Па маёй прапанове сталы накрылі ў садзе. Гасцей было не шмат: родзічы, сяброўкі, суседзі. Прыйшлі нейкіх двое пераапранутых і, калі маладыя ўсталі і адышліся, яны нахабна занялі іх месцы, сцвярджаючы, што яны якраз і ёсць маладыя. Дзве жанчыны, у адной падвязаныя пад носам вусы. Давялося добра ўпаіць іх гарэлкай, каб яны нарэшце саступілі месца нашым маладым.

Мясцовы вясельны жарт.

Пазнаёміўся з Валодзем — жаніхом, цяпер маім шваграм. Мужам Евы Ложкінай. Нібы ўжо і не сястра… Была Ева Гніламёдава, а цяпер хто?

**17 верасня.** 30-годдзе з дня ўз’яднання Заходняй Беларусі. У канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбыўся ўрачысты вечар.

Распачата падрыхтоўка да Другога з’езда калгаснікаў Беларусі. Мне — праз памочніка — спушчана даручэнне: даць кавалак у даклад Першага — пра сучасную літаратуру і мастацтва і іх задачы ў сувязі з далейшым развіццём сельскай гаспадаркі і калгаснага ладу.

**18 верасня.** Не спаў ноч. Думаў, як выканаць гэты не сацыяльны нават, а партыйны заказ. «Беларуская літаратура — дзеравенская», — нібыта хацеў падбадзёрыць Парватаў. «А чаму б і не?» — падумалася. Успомніў пра «Палескую хроніку» Івана Мележа, пра грэблю, якую масцілі куранёўцы, каб без перашкод маглі дабрацца да мястэчка, у Юравічы. Гэтак для куранёўцаў-палешукоў пачынаўся шлях у сацыялізм. Сёння вялікіх маштабаў набрала меліярацыя. Правафланговы меліярацыі — Пётр Міронавіч. Эх, думаю, праз Мележа падтрымаю-ка я яго. Выходзіць, што і мы з Мележам прымаем удзел у гэтым працэсе.

Думкі выліліся ў тры старонкі машынапіснага тэксту, набранага пяшчотнымі ручкамі Святланы Ампадзістаўны. Аддаў у рукі памочніка Пятра Міронавіча журналіста Валянціна Панамарова — чалавека вялікага, багатага целам, і вясёлага.

**20 верасня.** Выклікаў Валянцін і пахваліў: «Правільна, чувак, мысліш!» Гэтае «чувак» мяне крыху абурыла, але ж цяпер у Маскве так кажуць, а Валянцін — масквіч. «Страна ў нас індустрыяльна-аграрная. Правільна?»

— Правільна, — згадзіўся я.

Пра Валянціна Панамарова ідзе пагалоска, што ён біёграф Пятра Міронавіча, якога Валянцін называе не інакш, як «папа». Кабінет Панамарова на тым жа пятым паверсе, недалёка ад «папы».

Мяне, здаецца, як бы нават і прыкмецілі, заўважылі. Прызналі. Дык можа ўсё будзе добра?

**23 верасня.** У Саюзе пісьменнікаў абмяркоўваўся праект новага Дома пісьменніка. Прызначылі месца — па вуліцы Фрунзе. «Наверсе вырашылі», — сказаў Шамякін. Гэта і сапраўды так. Будынак ЦК мае дабудоўвацца, пашырацца, і «асабняк Кубэ» перашкаджае. Доўга думалі, нарэшце Пётр Міронавіч вырашыў: «Ладна, зробім для вас падарак!» Ён меў на ўвазе пісьменнікаў. Нераўнадушны ён да пісьменнікаў!

**27 верасня.** Далі нарэшце кватэру — аднапакаёвую ў буйнапанэльным доме, па вуліцы Фабрычнай. Гэта ў раёне велазавода, насупраць кандытарскай фабрыкі «Камунарка», якая дыміць па той бок Партызанскага праспекта — Магілёўскай шашы. Побач — кафэ «Белочка». Прафесар Ларчанка, якога я часта сустракаю, калі ён ідзе на філфак, і з якім цікава бывае перакінуцца словам, сказаў, што да вайны ён там паляваў на зайцоў.

Каля дома растуць бярозы, рабіны, і гэта мне падабаецца. На дзедавым падворку ў Кругелі не было ні бярозы, ні рабіны. Рос каштан, вярба. У садзе стаялі асінавікі, атрыманыя з прывіўкі яблыневых атожылкаў да асінавых падвояў, а бярозы не было. Магутная ніцая бяроза ўзвышалася ў суседа, каля Шведавага плоту, і яна мне вельмі падабалася.

Недалёка ад дома чыгунка. Ідуць, стукаючы па стыках, паязды з Масквы і ў Маскву. Словам, на ўсход. Звініць на паваротным крузе трамвай № 2 — ідзе да вакзала.

Чутно дыханне лікёра-гарэлачнага завода на Кастрычніцкай вуліцы, за чыгункай. З таго боку патыхае брагай.

Усё гэта — беларускія матывы.

**28 верасня.** Убачыў у кутку ледзь прыкметную шчыліну паміж блокамі, амаль ад столі да падлогі, але, як ні дзіўна, цёпла, нават надта. Магчыма таму, што зусім побач ЦЭЦ, што абаграе гэты раён. Да трубаў і да батарэй не дакрануцца! Але пар касцей не ломіць.

**4 кастрычніка.** Займаюся рамонтам кватэры. Мой папярэднік парадкам яе запусціў (таксама, дарэчы, цэкоўскі таварыш), а грошы на рамонт не даў, як гэта паложана. Мясцовая ЖЭС дала брыгаду жанчын.

**7 кастрычніка.** У «Советской Белоруссии» — мая рэцэнзія на кнігу Васіля Віткі «Казкі», прадстаўленую Саюзам пісьменнікаў на Дзяржаўную прэмію БССР.

Адчуў, што цяпер мне не проста пісаць, бо невядома што думаць чытачу — ці гэта мая асабістая ацэнка, ці ацэнка той установы, у якой я працую. Імкнуся гаварыць толькі ад сябе.

**8 кастрычніка.** Адрамантаваў сваю аднапакаёўку. Пачаставаў руплівых жанчын. Упусціў кошку, што жыла ў пад’ездзе. На месца, якое яна выбера, пастаўлю ложак.

Наверсе сусед з прозвішчам Гвардыян. Шафёр. Возіць на «Волзе» нейкага начальніка. Гвардыян — грэчаскае слова, па-нашаму, настаяцель. У «настаяцеля» вочы чырвоныя, як цыбуля. «У свабодны ад работы час гляджу з жонкай тэлевізар», — сказаў ён пры знаёмстве.

Мэблі не дастаць. Стол і крэсла набыў па вялікім блаце — праз аддзел гандлю. Ложка пакуль што няма, рассцілаю коўдру і сплю на падлозе. Славуты Ле Карбюз’е лічыць, што дом, паводле яго слоў, гэта «машына для жыцця», машына са шкла і бетону. Мая аднапакаёўка, мяркую, толькі з нацяжкай падыходзіць пад гэтае вызначэнне. Карбюз’е доўга б з яе смяяўся. Але ў сваёй хаце добра. Ноччу — цішыня, знікаюць вечаровыя цені і гукі, і ёсць у гэтым свая чараўнічасць.

У сваёй хаце, як у нас кажуць, і качарга маці.

Зрэдку заходзіць Лёня.

**12 кастрычніка.** Пачаліся літаратурныя вечары пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі. Прыехалі С. Вікулаў (кіраўнік дэлегацыі), Д. Кавалёў, Д. Яромін, М. Гарбачоў, П. Кабзарэўскі, Л. Рашэтнікаў, У. Прастакоў, В. Закруткін, У. Гардзейчаў, У. Аляксееў і інш. На правядзенне падобных мерапрыемстваў у рэспубліцы дае дазвол ЦК.

Госці ўладкаваліся ў гасцініцы «Мінск» і раз’ехаліся ў суправаджэнні беларускіх пісьменнікаў, як сказаў Д. Яромін, па гарадах і весях. Да «весяў», можа, і не дабяруцца, а ў абласных цэнтрах пагасцююць.

На мой погляд, апошнія гады ў грамадстве назіраецца рост цікавасці да літаратуры і мастацтва, да кнігі. Гэта добра, гэта абнадзейвае.

**18 кастрычніка.** Артыкул С. Пілатовіча ў «Полымі». Прычыніўся да яго і я. Добра высцебалі рэвізіянізм, але беспадстаўна пакрытыкавалі Анатоля Вярцінскага. Няёмка.

Нарэшце я зразумеў, што ўзялі мяне сюды, каб пісаў ім артыкулы і выступленні. Для сябе нічога не пішу. У планах было падрыхтаваць артыкул пра нашу паэзію, пачынаючы з 20-х гадоў, абмяжоўваючыся выключна назвамі кніг. Упэўнены, што назва зборніка, яго загаловак, дае дакладнае, цудоўнае ўяўленне пра стыль, паэтыку, сувязь са сваім часам. За ўсім гэтым відаць і аўтар.

Дарэчы, тут не проста з машыністкамі. Па-беларуску друкуе толькі адна — у машбюро. Наша сакратарка Святлана Ампадзістаўна, што сядзіць у прыёмнай, спецыялізуецца толькі на рускамоўных тэкстах.

**19 кастрычніка.** У вёсцы Слабада-Кучынка Капыльскага раёна адбыўся вечар, прысвечаны 70-годдзю Адама Бабарэкі, які тут нарадзіўся. Спадчына гэтага крытыка і эстэтыка (адзін з псеўданімаў — Адам Чырвоны) яшчэ слаба вывучана.

**20 кастрычніка.** Банкет у гонар пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі, што вярнуліся з паездкі па Беларусі. Наладзілі банкет у Заслаўі, дзе пабудавалі вялікую гасцініцу для прыёма высокіх гасцей. Шыкарная зала, па сценах карціны з беларускімі вобразамі і матывамі. Паселі за агульны стол, але на адлегласці адзін ад аднаго. Стол дазваляў — доўгі. Я сядзеў па суседстве з Віктарам Каваленкам, паважаным нашым крытыкам і літаратуразнаўцам. Абслугоўваў банкет рэстаран «Мінск», па вышэйшым разрадзе. У кожнага за крэслам стаяў афіцыянт-мужчына, падлівалі каньяк і давалі з запальнічкі прыкурыць, калі хто курыў. Віктар Антонавіч, хоць і не курыў, таксама ўзяў цыгарэту, і афіцыянт тут жа шчоўкнуў каля яго носа запальнічкай. Прыемна!

Былі тосты, але нічога асаблівага. В. Закруткін, пісьменнік з Дона, перадаў прывітанне ад Шолахава. Пілатовіч паапладзіраваў, яго падтрымалі Марцэлеў і астатнія, у тым ліку я з Каваленкам. Паступова банкет падышоў да завяршэння. Ужо добра сцямнела.

У «рафікі», іх было некалькі, сядалі на добрым падпітку, рагаталі, сардэчна развітваліся. Меўся ехаць і я, але Пілатовіч нечакана пацікавіўся:

— Недзе тут дача Макаёнка?

— Уладзімір Васільевіч, вы ў курсе? — падладзіўся да сакратара ЦК загадчык аддзела.

— Можна пашукаць, — прыкінуў я, — недзе каля шамякінскай, у Ждановічах. «Шкада, — падумаў я, — што няма Лёшы Гардзіцкага, ён піша пра Шамякіна дысертацыю і часта гасцюе ў яго на дачы. Ён бы паказаў».

— Ну, дык паехалі! — не то прапанаваў, не то загадаў Пілатовіч.

Я не быў п’яны, а цяпер канчаткова працверазеў, але кастрычніцкая ноч, цёмна, знайсці патрэбную дачу няпроста. Паехалі, з Марцэлевым, папераздзе. Блукалі. «Волга» хісталася на калдобінах. Спынялі запозненых пешаходаў, пыталіся. Нарэшце натрапілі, асвяцілі хаціну фарамі. Гаспадар не спаў, адчыніў дзверы, папытаўся, хто. Запрасіў заходзіць.

— Даўно я шукаў сюды дарогі! — шматзначна сказаў Пілатовіч.

Гэта трэба было разумець так, нібы ён шукаў кантакту з вядомым драматургам. Кантакту, які быў па нейкіх прычынах страчаны. Пасля я даведаўся (расказваў сам Макаёнак), што яны пасварыліся ў кабінеце Пілатовіча, які, паводле слоў Андрэя Ягоравіча, пачаў яго вучыць, «як пісаць п’есы», не перабольшваючы «крытычную дозу». Цяпер Макаёнак як бы ў стане творчага крызісу, аддаліўся ад жонкі, жыве на дачы адзін. Гасцям быў рады, крыху здзівіўся, кожнаму падаў руку. Дастаў са скрынкі і паставіў на стол бутэльку віна, запрасіў сесці.

— «Micket», — патлумачыў ён, ткнуўшы ў наклейку. — Вярнуўся нядаўна з Венгрыі (быў у складзе дэлегацыі ад СП СССР), там гэта самае дарагое віно, а ў нас капейкі — рубель шэсцьдзясят пяць. Вось узяў у Ждановічах скрынку.

Побач стаялі скрынкі з яблыкамі, з уласнага, відаць, саду, перакладзенымі сенам.

Пілатовіч, глянуўшы на скрынкі з яблыкамі, сказаў:

— Перад тым, як піць гарэлку, трэба з’есці кілаграм яблыкаў, і не будзеш п’яны.

— Нашто тады піць? — засмяяўся драматург.

Сакратара гэта нават быццам пакрыўдзіла.

— Вы заўсёды схільны чамусьці пярэчыць… — незадаволена хітнуў ён галавою.

— Не-е. Чаму вы так думаеце? Гэта я проста правяраю сябе, ці ўмею лагічна думаць. — Макаёнак адкаркаваў бутэльку, ляпнуўшы даланёю па донцу, разліў па шклянках віно.

— Ну, Андрэй Ягоравіч, а як працуецца? — нясмела ўступіў у размову Марцэлеў.

— Пакуль што без пэўнага выніку.

— Вось давайце за вынік і вып’ем! — прапанаваў Пілатовіч, узяўшы ў руку шклянку.

Усе, у тым ліку і я, чокнуліся і адпілі.

За акном, у начной цемені, упаў з дрэва яблык, пляснуўся аб зямлю. У Чорнага ёсць апавяданне пра восень, пра даспеласць у шырокім сэнсе гэтага слова. «Вераснёвыя ночы». Там у садзе з грушы валяцца даспелыя плады. Добра напісана, як яны, набіраючы хуткасць, грукаюць аб зямлю, наводзяць на роздум.

Макаёнак успомніў і расказаў пра ўражанне ад першай пастаноўкі сваёй п’есы. З таго часу шмат вады сплыло, і ўзлёты зведаў, і няўдачы.

— А ты сабе вунь якую кар’еру падабраў! — раптам сказаў ён, маючы на ўвазе мяне.

Пілатовіч і Марцэлеў засмяяліся.

— Вы ж таксама калісьці ў райкаме працавалі, — адзначыў Пілатовіч.

— Было.

У мяне з Макаёнкам даўняе знаёмства і стасункі. Некалі, з год назад, я спрабаваў уладкавацца ў «Нёман» на працу, але атрымаў адмову. Так што цяпер на яго заўвагу прамаўчаў.

Пагаманілі пра тое-сёе яшчэ. Марцэлеў сказаў: «Пісьменнікі часам — як дзеці, імі трэба кіраваць, апякаць». — «Дзеці, — згадзіўся драматург, — але сукіны дзеці». Гэта зноў рассмяшыла.

Але пара было развітвацца. Сустрэчай былі задаволены і госці, і гаспадар.

Мы паехалі.

**29 кастрычніка.** У «Полымі» рэцэнзія Г. Бураўкіна на Н. Гілевіча — зборнік «Лісце трыпутніку»: «Адна з самых характэрных рыс паэзіі Н. Гілевіча — спакойная засяроджанасць і абсалютны давер да народнага вопыту». Відаць, і сапраўды народнаму вопыту трэба давяраць.

**2 лістапада.** Дзень нараджэння паэта Максіма Лужаніна. Максім Лужанін — патрыярх беларускай літаратуры, стары, мудры паэт, яскравая творчая індывідуальнасць. Першая яго кніга — зборнік вершаў «Крокі» — выйшла ў свет шмат гадоў назад, у 1928 годзе, калі аўтар з’яўляўся студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. «Хрысцілі» яе, як успамінае аўтар, Янка Купала і Цішка Гартны, які ў той час узначальваў выдавецтва. Па загадзе Цішкі Гартнага выплацілі і ганарар.

Ад Лужаніна я ўпершыню пачуў прымаўку: «Кінь за сабою, а знойдзеш перад сабою». Ад яго ж даведаўся, што аўтар «Самсона Самасуя» Андрэй Мрый — родны брат Васіля Шашалевіча. Для гісторыка літаратуры ўсё гэта ўяўляе несумненную цікавасць. «Запіскі Самсона Самасуя» былі надрукаваны ў часопісе «Узвышша» напрыканцы 20-х гадоў. Сёння пра іх ніхто не ведае. Я, аднак, чытаў у «Ленінцы». Не спадабаліся: усё на паверхні. І яшчэ. Аказваецца, са слоў Аляксандра Амвросьевіча, Язэп Пушча меў брата — літаратурнага крытыка Прушынскага, які да вайны быў узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Гэты Прушынскі ўсю вайну праседзеў у Мінску, друкаваўся ў беларускай прэсе.

Як і ў кожнага, на жаль, ёсць крытыкі і ў Лужаніна. Я сам чуў, як Р. Бярозкін хваліў верш майго земляка брэсцкага паэта Міколы Засіма «Заклік», у якім гаворка ішла пра партызанку і партызанскую тактыку:

*А кулак наш, як жалеза,*
*Грудзь шырокая, што печ,*
*Дый пад бокам Белавежа, —*
*Можна ўдарыць, можна ўцеч.*

«Тут, — захапляўся Рыгор Саламонавіч, — уся праўда пра партызанаў. За гэтыя радкі я аддаў бы ўсяго Лужаніна».

Крыўдна, бо несправядліва.

**4 лістапада.** У Чылі ўступіў на пасаду прэзідэнта краіны Сальвадор Альендэ — першы марксіст (сацыял-дэмакрат), які перамог на прэзідэнцкіх выбарах на амерыканскім кантыненце. Што б хто ні казаў, а сусветная рэвалюцыя, як прагназаваў Маркс, а за ім Ленін, працягваецца. Толькі, думаю, сацыялізм у кожнай краіне павінен мець свой твар.

**6 лістапада.** Атрымаў (за грошы) у размеркавальніку прадукты, бутэльку гарэлкі і бутэльку каньяку. У размеркавальніку было гармідарна.

Прыдбаў нарэшце ложак.

**7 лістапада.** Гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Дэманстрацыя і народ. Гэта фактычна асенні паўтор першамайскага свята. Яно такое ж казённа-масавае. Вялікім прыхільнікам масавых свят быў Сталін. Гэта не інакш яго духоўная спадчына.

Па маім запрашэнні заходзіў у госці Леанід Антонавіч Царанкоў. Калісьці, у 1954—55 гадах, на першым курсе, ён чытаў нам антычную літаратуру. Тады ён працаваў у Брэсцкім педінстытуце, цяпер у БДУ.

Леанід Антонавіч (чаму — не ведаю) ганіць уніятаў, быццам у яго з імі нейкія асабістыя рахункі. Бацька яго Антон Царанкоў да нядаўняга часу спяваў у Шырмавай капэле. Бас-прафунда. У вядомай песні «Вячэрні звон» ён, злева стоячы, і выдаваў гэтае «бом». Цяпер на пенсіі, але на канцэрты, дзе мае выконвацца «Вячэрні звон», Рыгор Раманавіч яго запрашае. Замены — няма.

**8 лістапада.** Прачытаў у «ЛіМе» рэцэнзію К. Буслава (акадэміка-сакратара аддзялення грамадскіх навук АН БССР) на зборнік П. Броўкі «Між чырвоных рабін». Разумны, напэўна, чалавек, але пра паэзію пісаць не ўмее.

**11 лістапада.** У Каралішчавічах, у Доме творчасці імя Я. Коласа, адкрыўся чарговы 10-дзённы семінар пачынаючых паэтаў і празаікаў. Запрошана каля 40 маладых аўтараў, у тым ліку А. Разанаў, Г. Карпава, Н. Шклярава, М. Янчанка і інш. Маладыя, нават самыя пачынаючыя, наўрад ці паскардзяцца на недахоп увагі да іх. Кнігі, апавяданні, зборнікі вершаў выходзяць рэгулярна. Так, нядаўна на паліцах мінскіх кнігарняў паявіліся кнігі В. Мысліўца «Дубы не маўчаць», П. Місько «Калодзеж», С. Панізніка «Кастры Купалля», М. Купрэева «Непазбежнасць», М. Дуксы «Спатканне», І. Леткі «Тры крокі ад сонца». Да гэтага выйшлі з друку паэтычныя зборнікі В. Зуёнка, М. Маляўкі, А. Сербантовіча, В. Лукшы, Хв. Чэрні, А. Канапелькі, М. Кусянкова, А. Кавалюк. На падыходзе першыя і — я веру! — добрыя кнігі апавяданняў М. Капыловіча, А. Кудраўца, В. Карамазава, М. Гіля, К. Пішчыкавай, А. Масарэнкі і іншых.

*Затаіліся лес і зямля,*
*Ліст апошні*
*вось-вось*
*сарвецца.*
*Здрыгануўся, уражаны, я,*
*Бы не ліст зрываецца —*
*сэрца.*

Гэтыя нясмелыя радкі Генадзя Пашкова кранаюць трапяткім адчуваннем прыроды і адначасова сардэчнай пяшчотаю.

У Юркі Голуба мне спадабаўся яго лірычны эцюд — успаміны пра родную вёску, — які па асацыяцыі нагадаў мне вясковыя матывы з вершаў Паўлюка Труса («О вёска, вёска пры гасцінцы!..»). Традыцыя, асабліва ў сферы тэматычнай, прасочваецца дастаткова выразна.

Большасць маладых валодае зайздросным талентам любіць і разумець прыроду. Гэта дарагі талент! Я сустрэў яго ва Уладзіміра Дзюбы:

*Бы ў прадчуванні небяспекі,*
*Асокі вострыя нажы*
*Павытыркалі грозна рэкі.*
*І кожны з тых нажоў дрыжыць...*

Асаблівая чуласць і тонкасць адносін да «зялёнага свету» прыроднага, — у адным выпадку гэта галінка вярбы, у другім — лясная неруш, у трэцім — раўчук веснавой вады і песня жаўрука, — прыкметна ў дзяўчат.

Усе яны — і Жэня Янішчыц, і Лена Руцкая, і Людміла Парымончык, і Ала Красінская — выступілі ўдала або амаль удала і пакінулі аб сабе добрае ўражанне.

З юнакоў шмат абяцае як паэт Алесь Разанаў. У яго бачна сваё нейкае асаблівае напружанае і не па гадах сталае ўспрыманне свету, арганічная неўтаймаванасць душы, абвостраная прага «адшукаць адкрыццё». Не ўсе з сямі змешчаных у зборніку вершаў аднолькава роўныя і добрыя. Мне найбольш запомнілася яго «Адкрыццё» — верш з напружана пульсуючай філасофскай думкай пра тое, якімі шляхамі і да каго прыходзіць доўгачаканае «адкрыццё» — «пад гоман рэчак і асін у выпадковасці адчайнай і невыпадковае зусім». Верш вызначаецца роздумам. Уменне думаць — якасць для паэта першародная, і прыемна, што яе знаходзіш у вершах Алеся Разанава.

У сувязі з праблемай маладых не лішнім будзе мець на ўвазе і думку славутага мастака П. Пікасо: «Трэба шмат часу, каб стаць маладым».

**14 лістапада.** Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Разгледжана пытанне: «Беларуская літаратура да 100-годдзя з дня нараджэння Леніна». Былі, як звычайна, прамовы. З грунтоўным дакладам пад назвай «На шырокай плыні жыцця і часу» выступіў сакратар СП І. Мележ. Даклад спадабаўся прысутным.

«Думаецца, — казаў дакладчык, — нельга не падтрымліваць права кожнага пісьменніка пісаць пра тое, што яго хвалюе, што ён ведае, калі гэта толькі мае значэнне для літаратуры, для народа. Трэба падтрымліваць і цяпер усе значныя творы, над якімі працуюць таварышы, і жадаць з поспехам завяршыць іх. Трэба бачыць шырока наша літаратурнае поле. Але ёсць і другі бок справы. Ёсць жыццё, якое ідзе, і якое дыктуе свае правы, і ёсць чытач, які таксама патрабуе кніг пра новае.

А мы гэтых кніг даём вельмі мала. Трэба быць больш чулым да жыцця. Быць у ім, у самым яго віры. Сярод тых, хто робіць яго — калгаснікаў, рабочых, інжынераў, салдат».

Многія адзначалі ўменне беларускіх пісьменнікаў пісаць этнаграфію, побыт. Маскоўскі крытык А. Аўчарэнка, які прысутнічаў як госць, быў на гэты конт іншай думкі:

— Вузкі бытавізм, таварышы! Мяне трывожыць адыход ад сацыяльных праблем! Страчаны высокі рамантызм пошуку!

Меўся выступаць наш В. Барысенка, і на яго вельмі насцярожана, нават непрыязна пазіраў Пестрак. Прычына — усім вядомая. Барысенка калісьці ў сваёй прамове на сходзе, на якім крытыкавалі Барыса Пастарнака, замест «Пастарнак» неасцярожна сказаў (агаварыўшыся, вядома) «Пестрак». Пестрак, які прысутнічаў на сходзе і рыхтаваўся да свайго антыпастарнакаўскага выступлення, падскочыў як ужалены. Відавочна, ён напалохаўся ад нечаканасці, што гаворка раптам перайшла на яго. Потым Барысенка паправіўся, але Піліп Сямёнавіч не змаўчаў: «Каб не несці лухты, трэба выступаць па паперцы, хоць ты і акадэмік!»

Узяў нарэшце слова С. А. Пілатовіч. Над гэтым выступленнем ён працаваў сам, без чыёй-небудзь дапамогі. Тую частку, якая тычылася СП, я занатаваў:

«У творах нашых пісьменнікаў усё яшчэ сустракаюцца асобныя хібы: пасіўнае сузіральніцтва, элементы біялагізму, смакаванне адмоўнага ў чалавеку, невыразнасць ідэйных пазіцый».

Якіх-небудзь канкрэтных прозвішчаў ён не называў.

У ЦК гэты час усе былі надта насцярожаныя, чакаючы, што мае выступіць Аляксей Карпюк. Баяцца, бо за Карпюком слава вострага прамоўцы. Але абышлося.

**15 лістапада.** З раніцы і ўвесь дзень страшэнны галалёд. Спыніўся транспарт, і я да трамвая ішоў пяшком. Адзін раз пакаўзнуўся і ляпнуўся заднім месцам.

**17 лістапада.** Салжаніцын выключаны з Саюза пісьменнікаў. Падтрымлівае яго Твардоўскі.

**18 лістапада.** Паслаў тэлеграму маме, учора быў дзень яе нараджэння, а я ў службовай мітусні забыў. Вяртаючыся з пошты, назіраў, як у Свіслачы, ля моста, плаваюць у незамерзлай вадзе дзікія качкі. На поўдзень ляцець паленаваліся.

**19 лістапада.** Шмат размоў пра муміё — нейкую, як кажуць, горную смалу, якой лечаць розныя, амаль усе, хваробы. Як бы арліны памёт. Здабываюць муміё ў гарах Сярэдняй Азіі.

**20 лістапада.** Выйшаў з друку першы том БелСЭ. Калі за справу возьмецца Броўка, дык абавязкова чагосьці даб'ецца. Гэтага, на жаль, нельга сказаць пра Танка, пра Крапіву, а людзі між тым уплывовыя.

**21 лістапада.** Вечарам у кіназале Дзяржкіно БССР глядзелі кінакамедыю «Брыльянтавая рука». «А ўсё-такі «Волга-Волга» лепшая!» — адзначыў Парватаў і патлумачыў:

— Сталін пасля прагляду «Волгі-Волгі» сказаў: «Как будто в отпуске побывал!»

Кожнаму — сваё.

**23 лістапада.** Праводзілі на пенсію сакратара ЦК Ф. — чалавека даволі сталага веку. На партсходзе апарата ён прачытаў даклад, напісаны памочнікамі. Там была фраза: «Мы являемся передовой державой ХХ столетия». Ён прачытаў: «Мы являемся передовой державой ха-ха столетия». Слухаючы, вышкаленыя апаратчыкі, ледзь стрымлівалі смех. Машэраў зрабіў заўвагу памочнікам за тое, што так атрымалася.

Гэта ж прамоўца з тэкстам у руках так недарэчна памыліўся. А каб адняць у яго тэкст? Што б ён тады сказаў? Выглядаў бы пэўна як герой Аркадзія Райкіна.

Старыя партыйцы часам здзіўляюць палымянасцю сваіх прамоў. Нядаўна слухаў абкамаўскага дзеяча Івана Фраловіча. Ён з такой жарсцю агітаваў за ўгнаенне палёў, што падскоквала перад ім трыбуна, у якую ён грукаў кулаком, і калацілася паветра. Хаця пытанне, здавалася б, яснае і зразумелае кожнаму. Гэта, я думаю, бальшавіцкі стыль.

Такія кіраўнікі, як Машэраў, Пілатовіч, Ціхан Кісялёў — людзі новага пакалення. У часы «адлігі» (пасля смерці Сталіна) часам думалася, што жыццё рухаецца не барацьбой класаў, а барацьбой, зменай пакаленняў. Рэзон у гэтым, напэўна, ёсць, але бедныя заўсёды будуць касіцца на багатых.

**25 лістапада.** Страшэнна доўга — ад маіх студэнцкіх гадоў — гаварылі пра неабходнасць абараніць Байкал ад цэлюлозных стокаў. Цяпер паведамілі, што Байкал ахоўваецца як запаведнік. У гэтым, думаю, вялікая заслуга пісьменніка Сяргея Залыгіна.

**27 лістапада.** Сённяшнім днём пачынаецца перадкалядны пост. Ведаю гэта з дзяцінства: Піліпаўка («У Піліпаўку воўк нема вые» — Я. Купала). Але цяпер, у наш час, гэтых традыцый ніхто не трымаецца. Няма як. Трымалася Піліпаўскага посту бабуля Фёкла, якая мяне гадавала і якую я вельмі любіў. «Вось памру я, — казала яна мне малому, — што без мяне рабіць-меш, як без мяне будзеш?» — «Не памрэш». — «Пакладуць мяне ў труну, заб'юць цвікамі…» — «А я тыя цвікі павыцягваю і цябе выпушчу…» — «Выпусціш? Мяне ж у магілу закапаюць, пяском засыплюць». — Мне вельмі шкада бабулю, ледзь не плачу, але выйсце знаходжу: «А я цябе адкапаю і выпушчу!» Бабуля ўздыхае, з вачэй коцяцца слёзы.

Дзесяць гадоў ужо, як няма яе на свеце.

**2 снежня.** Споўнілася 70 гадоў Міхасю Лынькову. Сярод пісьменнікаў у яго мянушка «Лынь». Ад урачыстага вечара «Лынь» адмаўляўся, бо, па ўсім відаць, адчувае сябе пакрыўджаным. Марцэлеў сустрэўся з ім у скверыку каля тэатра Я. Купалы і доўга ўгаворваў. Нарэшце-такі ўламаў.

Лынькоў працяглы час узначальваў СП Беларусі. Калі яго ў чарговы раз перавыбіралі на пасаду старшыні СП БССР, Янка Журба казаў:

— Міхась Ціханавіч! Кіруйце намі, як і раней кіравалі.

Але не. М. Лынькова выпхнулі з кіраўніцтва СП і ён на працягу многіх гадоў з'яўляўся старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры. Да нас, маладзейшых, звяртаўся са словам «уюнаша»: «Вы, уюнаша…» Але звычайна маўчаў. Кіраваў СП П. Броўка.

Зм. Бядуля вельмі любіў апавяданне М. Лынькова «Гой», лічыў яго адным з лепшых у беларускай літаратуры.

У 30-я гады Лынькоў выкладаў беларускую літаратуру ў сакрэтнай школе, арганізаванай для заходнебеларускіх камуністаў (членаў КПЗБ). Там у яго было іншае прозвішча — псеўданім Бельскі. Па часе Міхась Ціханавіч зрабіўся філосафам — не то стоікам, не то скептыкам.

Да юбілею ўзнагароджаны ордэнам Леніна. Дакументы на ўзнагароджанне пісьменнікаў — у сувязі з юбілеямі, святамі і іншымі нагодамі — рыхтую я. Гэта мой абавязак.

**3 снежня.** Слухаў лекцыю для работнікаў апарата пра міжнароднае становішча. Чытаў лектар ЦК КПСС. Сказаў між іншым, што партыя і ўрад робяць усё для ўмацавання абароны, што «нарошчвае тэмпы лёгкая прамысловасць». Перашкаджаюць «засуха» і «наваднеція».

Сапраўды, у ГДР, напрыклад, у «ограниченном контингенте» — паўмільёна чалавек, дзясяткі палігонаў. Пра гэта прыгадваеш, слухаючы песню «Огромное небо».

**5 снежня.** Група польскіх пісьменнікаў у Мінску. Адбылася сустрэча ў СП. З гарэлкай. Загаварылі, падпіўшы, пра Сянкевіча. П. Пестрак (быў на падпітку — ?) сказаў:

— «Огнем і мечом» — біблія польскага шавінізму.

Польскія пісьменнікі з гэтым не згадзіліся. «Пан жартуе», — азваўся хтосьці з іх.

Падобныя пікіроўкі і сапраўды лепш за ўсё успрымаць з жартам, з гумарам, прынамсі, памяркоўна, знаходзіць дасціпны адказ.

Неяк прыязджаў у Мінск Уладзіслаў Бранеўскі. Беларускія пісьменнікі прымалі яго ў Каралішчавічах, у Доме творчасці, накрылі стол. Пан Уладзіслаў падпіў і ўспомніў польска-савецкую вайну 1919—1920 гадоў, у якой ён удзельнічаў, ды і кажа: «А пад Баранавічамі, панове, мы вам усыпалі, як трэба». Наступіла няёмкая паўза, і першым ачомаўся Броўка, чалавек даволі гарачы, які таксама быў на падпітку.

— Але ж потым! Потым! — загаманіў ён. — Як далі! Як далі!

Усе зарагаталі, у тым ліку і Бранеўскі, і, напэўна, яшчэ болей запаважалі адзін аднаго. Гэта мне расказваў сам Пятро Усцінавіч.

**8 снежня.** Прыехаў з Масквы Н. Пашкевіч, цяпер ён рэдактар нейкага аддзела «Праўды». Пасада мае вагу, але, прызнаецца, «цягне дадому».

**10 снежня.** Меў гонар прысутнічаць на семінары творчай моладзі ў Наваполацку. Удзельнікі — маладыя паэты, празаікі, мастакі, кампазітары, артысты з усёй Беларусі. Праводзіў семінар ЦК ЛКСМБ. Былі, як звычайна, госці з Масквы. Няблага было б запрасіць таго-сяго і з іншых рэспублік, але гэтага чамусьці не практыкуецца. Летам пазамінулага года на такі ж семінар на Свіслачы прыязджаў з Масквы філосаф Васіль Талстых. Помню

яго пытанне: «Калі б тапіліся Ландау і нейкі Іваноў, дык каго б вы ратавалі першага?» Пытанне сталася нечаканым, і не ўсе ведалі, як на яго адказаць. Ёсць пытанні, маральнага характару, адказ на якія падказвае сам час, час, у які ты жывеш…

Словам, запрашэнне гасцей трэба вітаць, яны будзяць думку, узбагачаюць. На гэты раз з Масквы былі вядомыя літаратурныя крытыкі В. Кожынаў і А. Міхайлаў. Даволі цікава выступалі па праблемах сучаснай (рускай) літаратуры, як бы ў дыялогу, змяняючы адзін аднаго і, мне падалося, не надта звяртаючы ўвагу на тое, ці іх хто чуе. Той-сёй усё ж такі пачуў, і не ўсе згадзіліся з неаслявянафільскім ухілам у іх развагах. Той-сёй пачаў пярэчыць. Выступаць перад моладдзю няпроста, бо гэта публіка не толькі патрабавальная, яе так і падмывае на спрэчку. З гаворкі гасцей выходзіла, што аповесць В. Бялова «Звыклая справа» лепшы твор сучаснай літаратуры. У процівагу гэтаму былі названы творы Быкава, Мележа, Шамякіна. Бакі не паразумеліся, і, магчыма, гэта спарадзіла адасобленасць. Пасля вячэры госці ў сваім нумары выпівалі адны. Я жыў па суседстве і чуў, як грымелі чаркі са звонкага шкла завода «Неман». Ішла гучная размова і гучалі вершы. Слоў не разабраць, але водгалас магутны. Тосты і вершы. Звіняць чаркі і чытаюцца вершы. Цютчаў: «Умом Росию не понять…», потым яшчэ і яшчэ. Пераваліла за поўнач, але масквічы не зважалі на час. Я нават пазайздросціў. Я таксама люблю вершы, аднак, відаць, не ў такой ступені і не з такой раскаванасцю духу. Беларус.

Хацеў пастукаць, напрасіцца ў госці, далучыцца да гэтага натхнёнага вершагаварэння, але пасароме́ўся. Беларус.

Маскоўскіх паэтаў (і не толькі паэтаў) добра ведае наш Р. Бярозкін, высока ставіць Твардоўскага, Слуцкага, Ціханава, Глазкова, Святлова. Здзіўляецца вострай і нейкай нязмушанай дасціпнасці двух апошніх. Аднойчы ён чуў і расказваў мне, як Святлоў сказаў пра паэта Уладзіміра Лугаўскога: «Ён помнік, які прапіў свой п’едэстал». Са смакам цытуе Мікалая Глазкова:

Если встретишь Нефертити,
Не хватай ее за тити.

Адкуль толькі ўсё ведае!

**18 снежня.** Памёр Пятро Глебка. Звярнуў увагу, што на пахаванні не было ні Броўкі, ні Крапівы. Дзе яны падзеліся?

Кажуць, што чалавек пасля сябе не можа пакінуць нічога лепшага, як добры ўспамін. Здаецца, гэта менавіта такі выпадак, выпадак з Глебкам. Я запомніў колішняе выступленне П. Глебкі на адным са сходаў у Акадэміі навук, яго словы:

«Калі ў маёй памяці ўстаюць словы Багушэвіча: «Не пакідайце роднай мовы, каб не памерці», у мяне па скуры прабягае мароз. Яны гучаць, як труба архангела, што склікае на страшны суд».

Каля труны сядзела і горка плакала ўдава Ніна Іларыёнаўна. Пасля вайны яна апынулася ажно ў Германіі (сярод перамешчаных), дык Глебка з дазволу Панамарэнкі ездзіў туды за ёю, выбавіў, вярнуў. Пахавалі Глебку на Маскоўскіх могілках.

Крапіва, аказваецца, знаходзіўся ў лечкамісіі, Броўка таксама хварэе — язва страўніка.

Пра нябожчыка Глебку І. Шамякін сказаў: «У яго было вельмі хворае сэрца, а ён яшчэ і піў».

**20 снежня.** Купіў нарэшце (размяркоўваў прафкам) «Воспоминания и размышления» Жукава. Суха, няма побыту, нешта тоіць. На масавага чалавека глядзіць з пункта гледжання статыстыкі.

Па кінатэатрах фільм «Брыльянтавая рука».

**24 снежня.** «Литературная газета» піша, што ў Берліне адбыўся сумесны калёквіум пісьменнікаў ГДР і СССР на тэму «Вобраз рэвалюцыянера ў сучаснай сацыялістычнай літаратуры». Цікавы народ — рэвалюцыянеры. Асабістага для іх нібы і не існуе. Але, з другога боку, не існавала і стрымліваючых рамак. У Леніна пра рэвалюцыянера чытаем: «Плох тот революционер, который в момент острой борьбы останавливается перед незыблемостью закона» (ПСС, т. 36, стар. 504). Недзе чуў, што па колькасці прафесіянальных рэвалюцыянераў Расіі няма роўных сярод іншых краін. Адзін з першых такіх «прафесіяналаў» — Нячаеў. Яго апраўдвае вядомы паэт Б. Слуцкі:

*Нечаев... Прилепили к нему «щину»,*
*В истории лишили всяких прав.*
*А он не верил в сельскую общину,*
*А верил в силу. Оказалось — прав.*

*— Он был жесток.*
*— Да, был жесток. Как все.*
*— Он убивал.*
*— Не так, как все. Единожды.*

Дыскусія працягваецца, пра што сведчыць берлінскі калёквіум.

**25 снежня.** Ёсць у апараце ЦК група рыбакоў-фанатаў: Лабун, Есьман, Шоба, Корбіт і інш., чалавек дванаццаць. Субота і нядзеля — іх «рыбныя» дні, у святы таксама на рыбалцы. Устаюць рана-раненька, гадзіны ў 3-4. Аўтобус з базы ЦК вязе на нейкую рэчку ці азярцо. Ёсць, расказваюць, сярод іх адзін, які раніцай з бадуна пастаянна падае ў ваду. Дык яго прывязваюць за лазовы куст.

Мне б з імі, але дзеля гэтага трэба быць фанатам і на ўсё астатняе забыцца.

**26 снежня.** Дзень нараджэння і падарунак: устаноўка тэлефона: 4-34-37. Некалі інстытуцкі калега В. К. Зайцаў расказваў пачутае ад вядомага пісьменніка Г. Шторма — як у яго кватэры паставілі тэлефон. Аднойчы да яго з'явіўся пасыльны з запіскай: «Пазваніць па такім вось нумары». Тэлефона Г. Шторм не меў, і давялося — справа была зімой — ісці за квартал да тэлефоннай будкі. Набраў патрэбны нумар, назваў сябе, яму адказалі: «Будзеце гаварыць з таварышам Сталіным». Шторм падумаў, што гэта розыгрыш, але праз нейкі час у трубцы пачулася: «Товарищ Шторм?» — «Да-да». — «Гаварит товарищ Сталин». — Шторм справіўся з хваляваннем і дрыжачым голасам адказаў: «Слушаю, товарищ Сталин». — «Я прочитал вашу книгу об Ушакове, и у меня есть серьезные замечания». — «Слушаю, товарищ Сталин». — Шторм намацаў і дастаў з кішэні запісную кніжку і аловак, прыладзіўся запісваць. Сталін пачаў даваць заўвагі, указваць на памылкі аўтара, а Шторм, калоцячыся ад страху, занатоўваць. Сталін педантычна назваў старонку і фармуліраваў недахопы і ўпушчэнні аўтара. Ля будкі назбіралася чарга пазваніць, людзі сталі стукаць у дзверы, прыспешваць. Шторм, як мог, адбіваўся, і суразмоўца адчуў гэта: «В чем дело, товарищ Шторм?» Той растлумачыў, што ён звоніць з тэлефоннай будкі і што ля будкі назбіралася чарга. Пачуліся гудкі — гэта Сталін паклаў трубку. Пісьменнік быў у адчаі, дадому вярнуўся з самымі змрочнымі думкамі. І сапраўды, праз паўгадзіны пастукалі. З'явіліся нейкія людзі ў мангольскіх кажухах, з нейкім абсталяваннем, скруткамі кабелю, незадаволеныя («каму гэта сярод ночы спатрэбіўся тэлефон»), працягнулі па плінтусу кабель, устанавілі тэлефонны апарат, падключылі і праверылі работу. Не паспелі яны выйсці за дзверы, як тэлефон зазваніў. Пісьменніку нічога не заставалася, як падняць трубку і прыкласці да вуха.

— Продолжим, товарищ Шторм, наш разговор, — пачуў ён знаёмы голас.

У мяне, вядома, усё было не так, а інакш, прасцей. Тэлефон паставілі.

**27 снежня.** Абстралялі картэж з касманаўтамі. Кажуць, стралялі не ў касманаўтаў, а ў Брэжнева. Нейкі дзівак (!) страляў з двух пісталетаў. Перадало радыё «Свабода». Папалі быццам бы ў нейкага касманаўта. Шкада, калі так.

**29 снежня.** Пазванілі з лечкамісіі — Броўку збіраюцца аперыраваць на рак страўніка. Алена Міхайлаўна ў роспачы.

**30 снежня.** Новы год буду сустракаць у прыёмнай Машэрава. Упёрлі на дзяжурства як навічка. Авохці мне!

**31 снежня.** Атрымаў у сталоўцы, на цокальным паверсе прадукты — каньяк, ікру. Вядома, за грошы, але ў гарадскіх гастраномах гэтага не дастаць. Падкормліваюць ці прыкормліваюць? Успамінаецца верш У. Салаухіна «Волки», радкі адтуль:

*Вы тоже волками были,*
*Но вас прикормили…*

Упершыню Салаухін публічна прачытаў гэты верш на вечары паэзіі ў Канцэртнай зале імя Чайкоўскага ў Маскве. Прысутнічалі на гэтым вечары (удалося купіць білеты) і мы з Віктарам Каваленкам. Віктар Антонавіч жахаўся смеласці аўтара.

## 1970

**1 студзеня.** У чаканні Новага года ёсць нешта стоенае, містычнае, але вось ён надышоў. Вярнуўся з дзяжурства і залёг спаць. Раблю гэты запіс ужо пад абед, калі прачнуўся. Дзяжурства доўжылася да раніцы, без нечаканасцей, у прыёмнай Машэрава. У суседнім пакоі, праз дзверы ад прыёмнай, у рабочы час, днём, сядзіць Віктар Якаўлевіч Крукаў — загадчык агульнага аддзела ЦК КПБ, першы памочнік Машэрава. Кажуць, нібыта ён патомны казак, з Дона. Машэраў для яго ўжо чацвёрты кіраўнік. Кіраўнікі змяняюцца, а ён не.

Усё ж такі дзіўна і нечакана тчэцца чалавечы лёс. Ніколі не думаў, што давядзецца знаходзіцца ажно тут. Не спаў, успамінаў. Успомніў чамусьці дзіцячы дом у Тамашоўцы, у якім працаваў у 1959 годзе, дыван у кабінеце дырэктара, падобны на барак будынак, выхаванцаў. Дзе яны цяпер — мае выхаванцы? Дзе Анатоль Сідарэвіч, які ўвесь час чысціў на кухні бульбу? Старэйшыя спіхвалі гэтую працу на малодшых, слабейшых.

1969-ты застаўся ззаду. У цэлым, можна сказаць, быў ён для мяне ўдалым. Пашырыўся жыццёвы і літаратурны вопыт. Атрымаў кватэру, хоць і са шчылінай у кутку, у покуце (свіціцца паміж блокаў), але жыць можна. Пазвоньвае час ад часу тэлефон, ёсць сябры, шмат знаёмых…

Пара ўжо было б займець гаспадыню, а то залішне доўжыцца мой халасцяцкі тэрмін. Быў бы навукоўцам, дык можна было б заставацца халасцяком, як Прашковіч. За жонку — навука. А ў цяперашнім становішчы трэба, відаць, жаніцца. З Н. Б. не сустракаюся, надта яна высокай аб сабе думкі. Ганарыстая. Месца для мяне ў яе сэрцы не знайшлося…

Прыдбаў транзістарны радыёпрыёмнік «Spidola». Бярэ «галасы». Шкада, што дом блочны, сцены тонкія, могуць пачуць суседзі. «Пільных» шмат. Ды і надта ўпарта глушаць. Глушылкі — у цэнтры Мінска, на Залатой Горцы.

Змяніў мяне пад раніцу інструктар з аддзела гандлю. Заўтра — зноў на работу.

**2 студзеня.** П. Броўка ў Крамлёўскай бальніцы ў Маскве. Будзем спадзявацца на лепшае. Званіў Алене Міхайлаўне.

**3 студзеня.** Мароз 25 градусаў са снегам і ветрам. Адвячоркам аднак мароз спаў. Замець навалiла вялікія гурбы снегу. Можна патануць.

Чытаю ваенныя мемуары С.Штэменкі «Генеральный штаб в годы войны». Лепш, чым у Жукава, больш аб'ектыўна.

**6 студзеня.** У «ЛіМе» надрукаваны артыкул Л. Абэцэдарскага «Заўвагі гісторыка» — пра «Гісторыю беларускай дакастрычніцкай літаратуры». Бачу ў гэтым рэцыдыў старой вульгарызатарскай крытыкі. Так і сказаў Марцэлеву, калі ён выклікаў мяне да сябе ў кабінет. Не ведаю, якія высновы ён зробіць.

**7 студзеня**. Адзначыў 60-гадовы юбілей Якаў Герцовіч. Пытанне аб узнагароджанні не ставілася. Пісьменнікі адносяцца да яго непрыязна. Быў выпадак, калі Я. Герцовіч напісаў адмоўную рэцэнзію на «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча (а раман выдатны!) і хацеў змясціць у «Советской Белоруссии», але справа не задалася. Цяжка зразумець пазіцыю крытыка — чаму ён гэтак робіць? І ўжо не раз.

**8 студзеня.** Сонечны дзень. Неба такое блакітнае, што, здаецца, і летам такога блакіту не бывае. Дзень пачаў прыкметна прыбываць.

**10 студзеня.** Да Лабадо — майго візаві — амаль штодня прыходзіць N. — артыст тэатра Я. Купалы, расказвае пра абстаноўку ў тэатры, дзеліцца інфармацыяй. Валерый Сяргеевіч слухае, пускае цыгарэтны дым. Курыць досыць шмат, я адчыняю дзверы, бо фортак у нас няма.

З іншых тэатраў чамусьці не ходзяць.

**14 студзеня.** Бачу, што многія шукаюць са мной знаёмства, а магчыма, і дружбы. У тым ліку і тыя, хто раней ніякай цікавасці да мяне не праяўляў, а часам ставіўся непрыхільна, нават варожа. Чалавек павінен умець дараваць, павінен дараваць! Колькі людзей мяне крыўдзілі! Помню эпіграф да «Анны Карениной»: «Мне отмщение, и Аз воздам».

Што тычыцца мяне, дык я стараўся не рабіць нікому злога. Але і дабро часам абарочваецца злом. Не проста аддзяліць адно ад другога, як немагчыма раздзяліць рай і пекла.

**17 студзеня.** Я зразумеў: людзі, якія знаходзяцца ў гэтым доме, да самазабыцця любяць уладу. Бюро — гэта фікцыя. Машэраў усё вырашае аднаасобна. Адзін, хто яму ў мяккай форме можа запярэчыць, гэта Пілатовіч. Машэраў — легендарны партызан, Герой Савецкага Саюза. Пілатовіч таксама партызан. У Беларусі Машэраў на самай круцізне ўлады, але пакорліва і безагаворачна падпарадкоўваецца Маскве.

Машэраў, усе ведаюць, вельмі хутка ездзіць — не менш, як 90 км у гадзіну.

— Ездзіць — па інструкцыі зверху, — патлумачыў мне мой візаві Валерый Сяргеевіч. — Ёсць інструкцыя ЦК КПСС. Браніраваны «ЗіЛ», і меней за 90 — нельга. Мала ці што, а раптам замах?!

Галоўнае, вядома, эканоміка. Чыя яна — гэта пытанне. Рэспубліканская прамысловасць фактычна аддадзена ў саюзнае падпарадкаванне. Беларусь — зборачны цэх.

Горад жыве параўнаўча няблага, трэба падняць вёску. На сельскую гаспадарку — асаблівая ўвага. Усё большых тэмпаў набірае меліярацыя, а між тым некаторыя сцвярджаюць, што балоты патрэбны не меней, чым меліярацыя.

Словам, задачы, якія стаяць перад рэспублікай, далёка не простыя. Зрэшты, простымі яны ніколі і не былі. А палітычнае рашэнне прымаць трэба.

**19 студзеня.** Заходзіў на работу да мяне Якаў Герцовіч — вядомы літаратурны крытык. Скардзіўся на тое, што не ўзнагародзілі ў сувязі з юбілеем, забылі.

Я яго, як мог, супакоіў. Ён слухаў. Расказваў пра некаторыя моманты з гісторыі літаратуры, пра якія я, прызнацца, не ведаў. Пачытаў верш Я. Коласа:

*Нас падзялілі. Хто? Чужаніцы,*
*Цёмных дарог махляры.*
*К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!*
*Нашы тут гоні, лясы!*

Якаў Герцовіч — чалавек, я пераканаўся, не подлы, ён шчыра верыць у ідэалы камунізму, у палітыку партыі. Гэта засталося ў яго з 20-х гадоў. Ён камсамолец той пары. Прызнаўся, аднак, што не паважае А. Фадзеева, хоць ён даўно ўжо на тым свеце.

— Чаму?

— Бабнік. Калі ты змагар за ідэю, дык пра баб забудзь, — патлумачыў Якаў Беніцыянавіч, папраўляючы на носе акуляры.

— ?

— Адну жанчыну, якая прыйшла ў СП скардзіцца, спыталі, адкуль у цябе дзіця? Яна адказала: «Главным образом от Фадеева». Вось так.

— Што тут скажаш?

**21 студзеня.** У «Маладосці» натрапіў на верш А. Сербантовіча з такімі прачулымі радкамі:

*Давай, алень! Давай, што ёсць!*
*Хай снег сцякае па каленях...*
*І абганяе маладосць*
*Старое мудрае ўменне!*

Сённяшнія творчыя дэбюты маладых часта бываюць цікавейшыя і нават больш удалыя, чым у папярэднікаў. У іх сіла і непасрэднасць пачуццяў. Таленавітыя сярод маладых ёсць.

**22 студзеня.** «Литературная газета» прапануе правесці ў Мінску сумесна з СП Беларусі сімпозіум па творах аб рабочым класе. Аддзел даў згоду.

**23 студзеня.** М. Танк нядаўна вярнуўся з Англіі. Расказаў там, што ў нас вельмі папулярны Байран. Англічане дзівіліся: там Байрана даўно забылі.

Гэта вельмі цікава. Ёсць, відаць, пэўныя прычыны. Англічане даўно ўжо не рамантыкі.

**24 студзеня.** Субота. Па суботах хаджу ў лазню. Яна тут блізка — на веласаводзе. У лазні сваё жыццё, свае дзівацтвы. Дзівакоў на свеце шмат. Мінулым разам прыйшоў быў чалавек на падпітку (што ні ў якім разе рабіць нельга!) і з патэфонам. Распрануўся, завёў патэфон, і ўсе, хто быў у прымыльніку, пачулі «Очи черные». Затым чалавек з патэфонам накіраваўся ў парылку. Адтуль данеслася «Купите бублички». «Мае дзве насалоды, — падумаў я, — ад гарачай пары і ад мілай музыкі. І цела пацее, і душа радуецца».

Вяртаючыся з лазні, зайшоў да «Пекера» і з прыемнасцю выпіў куфаль піва. Вырашыў пазнаёміцца з дырэктарам. Ён быў якраз у сваім кабінеце. Вясёлы, зычлівы яўрэй. Узрадаваўся, калі даведаўся, што перад ім яго пастаянны кліент. Можа, калі спатрэбіцца які дэфіцыт, дык звярнуся да яго.

Дзень паступова павялічваецца.

**26 студзеня.** Панядзелак. Сустрэў Пілатовіча з абдзёртым тварам. Павітаўшыся вусна, без поціску рук, размінуліся. Марцэлеў, які перад сакратаром ЦК прыгінаецца, са спачуваннем сказаў, што Станіслаў Антонавіч катаўся з жонкай на лыжах і ўпаў, зачапіўшыся за куст. Нічога не зробіш, закон сусветнага прыцягнення на пасады не зважае.

**27 студзеня.** С. займаецца скаргай міліцыянера на пісьменніка Д. Участковы міліцыянер і Д. не паладзілі паміж сабой, і Д. паабяцаў адпомсціць. Ён вывеў у сваім апавяданні адмоўнага персанажа (міліцыянера, які бярэ хабар), даўшы яму прозвішча гэтага беднага ўчастковага. Апавяданне чыталася па радыё. Пайшлі размовы. Участковы рве на сабе валасы, склаў скаргу ў ЦК, у іншыя адрасы. С. збіраецца ехаць на месца, у раён, каб супакоіць пакрыўджанага.

Жорстка з боку пісьменніка Д.

**30 студзеня.** Чытаў «ЛіМ», часопісы. «ЛіМ» пры новым рэдактары (Л. Прокша) не стаў горшы.

Трошкі павялічыўся, стаў даўжэйшы дзень.

**1 лютага.** Ідучы паркам Горкага (да Лёні), сустрэў М. Лужаніна. У даўгім кажуху, паверх абшытым даматканым сукном і ў поясе перахопленым сырамятным рэменем, з цяжкім лясным кіем у руцэ, у цёплай, глыбока насунутай на галаву, шапцы. Падмарожвала, над вачыма навісалі заінелыя бровы. Аляксандр Амвросьевіч кіўнуў на маё прывітанне. Беражэ, відаць, горла. На холадзе не пагаворыш.

**3 лютага.** Пісьменнік, член партбюро, генерал Аляксееў паскардзіўся сакратару партарганізацыі Кулакоўскаму на прыстарэлага Янку Маўра. Аляксееў накіраваўся да яго ўзяць партузносы, не ведаючы пра Маўравы сюрпрызы, з якімі ён часта сустракае гасцей. На гэты раз дзівак падклаў пад ножкі крэсла, у якое павінен быў апусціцца генерал, петарды. Петарды самаробныя, але бухнулі, як сапраўдныя, з дымам. Баявы генерал не ўцяміў, што адбылося, ускочыў і кінуўся ў дзверы. Гаспадар хацеў спыніць і, магчыма, павініцца, але яму гэта не ўдалося.

На наступны дзень да Маўра паслалі Карпава, былога разведчыка, які, як сказаў Кулакоўскі, лепш можа ацаніць абстаноўку. Кулакоўскі не памыліўся, Маўр партузносы-такі заплаціў.

**4 лютага.** На імя Пілатовіча прыйшоў ліст ад Алеся Адамовіча. Аўтар «Войны под крышами» інфармуе сакратара ЦК адносна нейкага К. Пагоцкага, які пазнаў сябе ў рамане ў персанажы Казіку Жыгоцкім і, мякка кажучы, вельмі незадаволены гэтым (даслаў скаргу ў «Беларусьфільм»).

**6 лютага.** Паслалі ў Маскву, у ЦК КПСС, за подпісам Пілатовіча просьбу, каб дазволілі газету «Літаратура і мастацтва» («ЛіМ»), якая выходзіла два разы на тыдзень, ператварыць у тыднёвік такой жа назвы, меншым фарматам (палавіна паласы «Праўды»). Гэта — даўняя просьба кіраўніцтва СП і рэдакцыі «ЛіМа». Папера тая ж, аб'ём захоўваецца, а магчымасцей для публікацыі літаратурных твораў (асабліва прозы, апавяданняў) болей.

Можа, адгукнуцца?

**11—12 лютага.** Працавала міжрэспубліканская канферэнцыя-сімпозіум «Савецкі рабочы і яго вобраз у нашай шматнацыянальнай літаратуры». З'ехаліся госці. З Варашылаўграда прыехаў пісьменнік Уладзіслаў Цітоў — без абедзвюх рук. Былы шахцёр, пакалечыўся ў выніку выбуху на шахце. Даглядае яго жонка — прыгожая маладзіца. З Вільнюса з'явіўся В. Пяткявічус — аўтар рамана «Група таварышаў». Ад «Литературной газеты» Ф. Таўрын.

Нашы: Пестрак, Спрынчан, Карпюк, Маўзон, Мыслівец. Прысутнічаў дырэктар маторнага завода У. Ражкоў.

Мелі месца абмеркаванне, спрэчкі. І. Шамякін, адкрываючы сімпозіум, сказаў: «У Мінску ў восем разоў павялічылася насельніцтва ў параўнанні з даваенным, разоў у пяць павялічылася колькасць пісьменнікаў, якія жывуць толькі ў Мінску, не кажучы ўжо пра тых, што жывуць у іншых гарадах. Але колькасць твораў, на жаль, не вырасла. А галоўнае, яшчэ болей марудна рас-

туць мастацкія вартасці твораў на тэму пра рабочы клас у параўнанні з творамі на іншыя тэмы — тэмы вясковыя, тэмы нашай гісторыі, на тэмы баявых подзвігаў нашага народа». Мне цікава было паслухаць Пестрака, старога камуніста-капэзэбаўца. Я таксама паспеў запісаць некалькі яго думак:

«Пра мараль і эстэтыку. Адчуваецца, што ў гэтым сэнсе сярод новага пакалення ламанне нейкае адбываецца, няма ўстойлівых норм паводзін. Адчуваецца ігнараванне старых норм. Але ж яно, новае пакаленне, будзе будаваць камунізм ужо ў складанейшых дасягненнях тэхнікі і навукі… Ключ да ўсяго, зразумела, асвета, адукацыя, якія штурхаюць новых людзей у яшчэ нязведаныя нетры агульнанароднага руху…»

Выступаў У. Юрэвіч. Ён прыхільнік таго, каб аднолькавую ўвагу удзяляць — гораду і вёсцы, 50 на 50.

Не ўтрымаўся, выйшаў да трыбуны Аляксей Карпюк, стаў казаць пра непарадак у сваім Гродне, пра, як ён сказаў, «хлеб на асфальце». Гараджане не шануюць хлеб, не даражаць харчамі, выкідаюць на сметнік харчовыя адыходы. Пяць тысяч тон харчовых адыходаў у год — паводле яго падлікаў — ідзе на сметнік!

Нехта гукнуў:

— Не па тэме гаворыш!

Прамоўца сумеўся і тут жа скончыў заклікам як найхутчэй вырашыць гэту праблему.

Такім людзям, як Карпюк, па менталітэце наканавана змагацца. Змаганне — самы, відаць, глыбінны сэнс яго жыцця. Загану ён знойдзе ўсюды і ў кожным.

Пра многае гаварыў В. Пяткявічус, у прыватнасці, ён зазначыў: «Камсамол зжыў сябе як арганізацыя моладзі». Гэта было нечакана для ўсіх.

Выступалі яшчэ. Госць з Варашылаўграда У. А. Цітоў сказаў літаральна так: «Меня интересует такой аспект. Почему мы сидим здесь за этим столом на этом симпозиуме и говорим о токарях, слесарях, шахтерах, т. е. тех, кто стоит у станков, кто добывает этот уголь, а не сами стоим у станков и в шахтах, где добывается уголь?..» Пагадзіліся ўсё ж такі на тым, што адной тэхналогіі для пісьменніка мала, што за тэхналогіяй павінна быць чалавечая душа.

Вынікі гаворкі дыпламатычна падвёў Янка Брыль. «Искусство, — напомніў ён словы Л. М. Талстога, — есть микроскоп, который наводит художник на тайны своей души и показывает эти общие всем тайны людям». Але як адшукаць гэтыя «тайны» ў вытворча-тэхнічным працэсе, у бразгаце жалеза — няясна. Ясна адно: каб праца была не проста вытворчай тэмай, а паказвалася, асэнсоўвалася шырэй — як быццё, дзеянне. Да гэтага калісьці заклікаў Горкі.

Трэба, кажучы інакш, каб у абсягах рабочай тэмы чалавек выступаў не проста як носьбіт пэўных (хай сабе і дадатных) якасцей — вытворчых, маральных, эстэтычных і інш., гэта значыць, спрошчана, схематычна, а як істота цэласная.

**17 лютага.** К. Кірэенка на вечары ў СП расказваў пра сваю паездку ў ЗША ў складзе беларускай дэлегацыі на Генеральную Асамблею ААН. Адчуваецца, што ад класавых пазіцый не адхіляўся.

**25 лютага.** Сонца і мароз. Пяць градусаў. У бібліятэцы (на цокальным паверсе) узяў раман Дастаеўскага «Братья Карамазовы». У студэнцкую пару прачытаў спехам, рыхтуючыся да экзаменаў. Пачытаю больш уважліва.

**27 лютага.** А прыемна вярнуцца пасля работы, вечарам, дадому, дахаты, у цёплую, нягледзячы на шчыліну ў куце, кватэру. Гэта нават арыгінальна, непрывычна: праз шчыліну бачу снег, але цёпла, топяць апантана, як у тым

варшаўскім публічным доме. Помню шарж у «Шпільках». Такіх «дамоў» цяпер у сацыялістычнай Варшаве быццам бы і няма, але на малюнку прастытутка крычыць уніз качагару: «Перастаньце тапіць! Партнёры пацеюць і выкоўзваюцца з рук!»

**1 сакавіка.** П. Броўку прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы за 1969 г. за кнігі «Заўсёды з Леніным» і «Між чырвоных рабін».

У галіне журналістыкі прэмію атрымала Вера Палтаран за зборнік нарысаў «Ключы ад Сезама». За гэтую прэмію стаяў я. Гэта жывая нарысавасць, пазначаная жыццёвасцю сваіх вытокаў і творчым неспакоем. Добрая мова.

**3 сакавіка.** У «ЛіМе» змешчаны «Адказ гісторыку» навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Я. Купалы. Правільна робяць мае калегі, што адбіваюцца, ставяць хулігана на месца.

**6 сакавіка.** Пятніца, але ва ўсю ішла падрыхтоўка да жаночага свята 8 Сакавіка. Куплялі кветкі, цукеркі, гарэлку (па адной бутэльцы). Ва ўсіх установах вечары, шмат афіцыйных дакладаў пра роўнасць савецкай жанчыны з мужчынай. «У нас дэмакратыя, — з гонарам гавораць дакладчыкі, — мужчына і жанчына роўныя, дыскрымінацыі няма». Але, думаю, роўнасць — гэта не толькі палёгка, але і цяжар, асабліва для жанчыны.

**8 сакавіка.** Заходзіў Юзік Скурко, чытаў новыя вершы. Відаць, цяжка яны яму даюцца. Лепш выходзяць вершы сюжэтныя. Вось на іх і трэба звярнуць увагу.

Выйшлі пагуляць. На тратуары шмат вераб’ёў. Надта не ладзяць паміж сабой, б’юцца, ажно пух ляціць. Верабей — птушка патрэбная. Кітайцы — разумныя, здавалася б, людзі — знішчылі сваіх вераб’ёў, а цяпер купляюць за мяжой.

**9 сакавіка.** Нядзеля. Чытаў «Братьев Карамазовых». Тыпы арыгінальныя да неверагоднасці. Савецкая літаратура і крытыка пакінулі мастацкі вопыт Дастаеўскага ўбаку, хаця час ад часу згадваюць. У 30-я гады толькі ў адмоўным плане. Вядомы крытык В. Шклоўскі абвясціў: «Дастаеўскага нельга зразумець па-за рэвалюцыяй і нельга зразумець інакш, як здрадніка». Гэта было ў 1934 г., на Першым Усесаюзным з’ездзе савецкіх пісьменнікаў. Сёння ўсталяваўся іншы погляд на Дастаеўскага — як на тонкага псіхолага і гуманіста, які праўдзіва адлюстраваў сацыяльныя кантрасты свайго часу, сутыкненні яскравых і самабытных рускіх характараў і страсныя пошукі чалавечай і грамадскай гармоніі.

Дастаеўскі ўплываў на творчасць многіх пісьменнікаў, у тым ліку, думаю, і на беларускіх. Прыхільнік гэтай думкі — Алесь Адамовіч.

**12 сакавіка.** Старшыня СП М. Танк, сакратары І. Шамякін, І. Мележ, Я. Брыль, П. Панчанка, М. Ткачоў у С. Пілатовіча. Гаворка пра новы Дом пісьменніка, пра аб’яднаны пленум творчых саюзаў рэспублікі, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Леніна.

Пастаўлена задача, каб вобраз правадыра, «самага чалавечнага чалавека», удасканальваць і ўзвышаць. Старыя шаблоны сёння не пераконваюць, трэба новыя падыходы.

Пілатовіч незадаволены, што ролю Леніна ў нейкім тэатры даручылі акцёру па прозвішчы Трус. Дык што рабіць беднаму акцёру? Мяняць прозвішча?

Гаворка пра Аляксея Карпюка. Маюць, відаць, здымаць яго з пасады сакратара Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў. Танк спрабаваў бараніць Карпюка, успамінаў маладосць, сваё выступленне ў Віленскім універсітэце (пры Польшчы), калі камсамольцы, у тым ліку і Аляксей Карпюк, ахоўвалі яго ад хуліганаў, знаходжанне ў партызанах, нешта яшчэ. Пілатовіч на гэта нічога не адказаў, прамаўчаў. У рэзюмэ ён зазначыў:

«Я думаю, такая арганізацыя, як Саюз пісьменнікаў, павінна лічыць для сябе не толькі магчымым, але і абавязковым выйсці за рамкі сваіх унутра-

ных пытанняў і займацца пытаннямі рэспублікі ў цэлым і пытаннямі больш шырокімі, чым яны сёння разглядаюцца. Бо гэта самая кваліфікаваная з усіх творчых партыйных арганізацый краіны, гэта бясспрэчна, і ні ў кога не можа быць якіх-небудзь крыўд, ні ў мастакоў, ні ў кампазітараў, ні ў кога іншага. Вось мы хацелі гэта пачуць.

Нам бы хацелася, таварышы, мы б жадалі, каб нашы просьбы і задачы, якія ставіць Цэнтральны Камітэт перад пісьменнікамі, і крытыка наша, якая была і на пленуме, — яна дайшла да вас, — я хачу падкрэсліць, што яна была добрасумленнай, добразычлівай, таварыскай, — былі б вам зразумелы. Мы будзем гаварыць аб станоўчых баках літаратуры і аб недахопах яе. І вы не павінны крыўдзіцца…»

Пакрыўдзіўся А. Кулакоўскі за тое, што яго, сакратара партарганізацыі, не запрасілі на гэтую сустрэчу.

Забыў яшчэ адну дэталь: Пілатовіч настаяў, каб у Саюз пісьменнікаў быў прыняты Гаўрыла Шутэнка. Гэта — паэт, піша вершы (даволі слабыя), былы танкіст, інвалід.

**14 сакавіка.** Сонца ўсё вышэй і вышэй, але часам яшчэваліць буйны снег. На дрэвах — шэрань.

**18 сакавіка.** Памёр Анатоль Сербантовіч. На пахаванні, калі труну паставілі ў Саюзе пісьменнікаў, вельмі галасілі сёстры. Заўчасна памёр. Малады і таленавіты. Кулакоўскі спрабаваў суняць жанчын, але Алесь Асіпенка спыніў яго: «Гора, братка, трэба выплакаць». Шкада, вельмі шкада Толю, сэрца праткнуў вострыболь…

**22 сакавіка.** Добрая нядзельная раніца. Сонца. Цішыня. Усё навокал як бы чагосьці чакае. На прыпынку раніцой шмат народу. Усе — на працу.

Распусціліся дрэвы, але гэта не радуе майго суседа па паверсе Якава Лукіча. «Сакавік зялёны — ураджай благі», — кажа ён. Якаў Лукіч — чалавек прыязны, камунікабельны. Неяк расказаў пра сябе, пра тое, як цяжка складвалася жыццё — яго і жонкі. Жонка яго Станіслава Францаўна да вайны, дзяўчынай, займалася ў клубе імя Чкалава, захаплялася парашутным спортам, а за адно вучылася і на радыстку. Аднак не думала, што лёс складзецца менавіта так: у 41-м годзе, вясною, яе выкінулі з парашутам і рацыяй на тэрыторыю Польшчы, на поўдзень ад Варшавы, а неўзабаве Германія напала на СССР, пачалася вайна, а ў Станіславы Францаўны сапсавалася рацыя. Усю вайну маўчала. Аб'явілася толькі пасля вызвалення Польшчы. Ну, вядома, пасадзілі. З лагера дапамог выбавіцца Якаў Лукіч, які, відаць, не пераставаў кахаць сваю «парашутыстку».

Бачу часам Станіславу Францаўну. Яшчэ не старая, бадзёрая і вясёлая.

**23 сакавіка.** З ЦК КПСС прыйшоў дазвол на выданне тыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Л. Прокша дужа рады.

Вечарам, калі ішоў дадому, лёталі гракі — гэта ў іх любоўныя гульні. Сядаюць на бярозу і спарваюцца. Нейкая пара на самай вершаліне майструе гняздо, ён і яна нястомна носяць і складаюць сухія галінкі. Гняздо прыкметна чарнее на фоне неба.

**26 сакавіка.** Адбыўся пленум творчых саюзаў Беларусі. Ад ЦК КПБ выступаў С. Пілатовіч. Падкрэсліў ленінскія прынцыпы нашай літаратуры і мастацтва: ідэйнасць, партыйнасць, народнасць, ад якіх адступаць нельга. Было шмат выступоўцаў, усе хвалілі Леніна.

Дзіўлюся і не разумею, чаму пра Леніна гэтак дрэнна пісалі такія пісьменнікі, як Андрэеў, Купрын, Горкі, Бунін і многія іншыя, у тым ліку і наш Бядуля. Потым, відаць, калаціўся ад страху.

**28 сакавіка.** Прыехаў Ян Гушча. Сустракалі яго Я. Брыль і П. Макаль. Гушча — вядомы польскі паэт і перакладчык, жыве ў Лодзі.

**29 сакавіка.** Заходзілі ў госці Сцяпан Міско і Рыгор Барадулін. Рыгор здаў у выдавецтва новы зборнік — «Вяртанне ў першы снег». Назва якая — барадулінская! Ужо пра адну назву можна напісаць цэлае даследаванне. Пагаварылі, выпілі па чарцы кан'яку, закусілі цукеркамі. У каробцы іх было не шмат, і яна хутка апусцела. На дне каробкі Барадулін напісаў, дастаўшы з кішэні аўтаручку:

*Я не аматар*
*хітрых кодаў,*
*Адкрыты тэкст*
*даю ў эфір:*
*«Не знайся з сумам,*
*Гніламёдаў,*
*Харошы друг Уладзімір!»*

Рыгор. 29.III.70 г.

Я, прызнаюся, крыху вінаваты перад ім. Калісьці, яшчэ маладым, напісаў даволі крытычную рэцэнзію пад назвай «Вобразы і мікравобразы» на яго кнігу «Нагбом» (1963). Бярозкін потым мяне дакараў, а паэт пакрыўдзіўся. Але цяпер, здаецца, адносіны аднавіліся. З людзьмі трэба ладзіць.

**30 сакавіка.** Дазнаўся, што ўчора, у нядзелю, адбылася аўтамабільная катастрофа. На скрыжаванні Ленінскага праспекта і вуліцы Энгельса. Пілатовіч, Р. Кісялёў і члены камітэта па Ленінскіх прэміях, што прыязджалі на агляд Хатыні і цяпер вярталіся на вакзал да поезда, відаць, спяшаліся. У «Чайку» ўрэзаўся ваенны «ЗіЛ». «Чайка» разбілася ў ляпёшку, пасажыраў выкінула на брук. М., які ехаў на «Волзе» за «Чайкай», бачыў, як у яе з усёй моцы ўдарыў «ЗіЛ»: «Як у амерыканскім баевіку, — жахаючыся, расказваў ён дрыжачым голасам, — «Чайка» паднялася ў паветра і павольна паплыла, то ўверх калёсамі, то ўніз, пакуль не асела на тратуары». М. кінуўся ратаваць Пілатовіча. Р. Кісялёва і астатніх падабралі і адвезлі ў другую чаргу. Цяпер усе ў лечкамісіі. Як жа будзем без начальніка? Надта шкада Станіслава Антонавіча.

**31 сакавіка.** Усе ў аддзеле без настрою. Шкада Станіслава Антонавіча. Хай бы хутчэй паправіўся.

**1 красавіка.** Дзень падманаў, ці, як яшчэ кажуць, дзень дурняў. Ведаеш, але ўсё роўна трапляеш у непамыснае становішча.

**7 красавіка.** Ноччу зноў грымела і па небе сягала маланка. Аднак хораша ўзыходзіла сонца, нагадаўшы мне раман Кулакоўскага з аднайменнай назвай. Удзень было 13 градусаў цяпла. Многія паздымалі верхняе адзенне, абыходзяцца пінжакамі. Вясна — ранняя.

Замест газеты «Літаратура і мастацтва» выходзіць тыднёвік і выглядае больш па-сучаснаму.

**10 красавіка.** Камусьці з сакратароў ці іх сямейнікаў не падышоў дыяганалевы плашч, узяты на гандлёвай базе. Машэраўскі целаахоўнік Вася (па забеспячэнні) прычапіўся да мяне (мусіць, яму здалося, што я па фігуры якраз пад гэты плашч падыходжу):

— Бяры!

Выйшлі з кабінета ў самы канец калідора, каля ліфта. Я прымераў. У плячах плашч быў вузкі.

— Вузкі, — канстатаваў я.

— Чаму вузкі?

— Бо не на мяне шыты.

— А чаму дзярзіш? Як фамілія? — Яго твар зрабіўся злосным і грозным.

— Пры чым тут фамілія?

— Так чаму не бярэш? Ну, ладна! — сказаў ён і адстаў.

Хай нясе назад, дзе браў.

**12 красавіка.** Дзень касманаўтыкі. Помню 1961 год, калі паляцеў Ю. Гагарын. Я тады служыў у арміі. Роту паставілі на плацу, на «смірна», і камандзір віншаваў. У асваенні космасу мы адзін час перагналі былі ЗША, а цяпер не інакш, як даганяем.

**15 красавіка.** Добра сядзець у цёплым кабінеце, бо за вокнамі дождж са снегам. А зусім нядаўна было трынаццаць градусаў цяпла. Надвор'е — як само жыццё.

Працуем над дакладам П. М. Машэрава да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

**16 красавіка.** Усе работнікі нашага аддзела атрымалі медаль «За доблестный труд. В ознаменование 100-летия со дня рождения В. И. Ленина». Уручаў загадчык аддзела. Мне не дасталося. «Молодой, — сказаў Парватаў, — у вас всё ещё впереди». Я не пярэчыў. Маю медаль «За освоение целинных земель». Ну і што?

**18 красавіка.** Суботнік. Зноў на бетонных работах. Рабілі пляцоўку пад новы цэх на МТЗ. Зноў чарга самазвалаў з вадкім бетонам.

У рамане М. Шагінян «Гідрацэнтраль» будаўнікі Ленінабуда, апантаныя лозунгам «Даёшь пятилетку в четыре года», працуюць з прыпеўкамі:

*Петух кричит: ку-ка-ре-ку!*
*А мы кричим — даешь кирку!*

Мы моўчкі завіхаемся з бетонам.

— Заморышся пыл глытаць, — паскардзіўся Валерый Сяргеевіч, калі ішлі на абед.

Дзіва што! Апроч алоўка, нічога ў руцэ не трымаўшы.

Дамоў пусцілі ў другой палавіне дня, пачуваў сябе змораным. Калега Лабун ходзіць сагнуўшыся. Чую, нешта і мне закалола ў пахвіне. Што гэта можа быць? Але нічога. Даўняя ісціна: што не забівае — робіць нас мацнейшымі.

**20 красавіка.** Недзе ўжо год, як я тут. А як там Інстытут літаратуры? Часам сумую. Цікавыя ўсё ж такі там людзі — Н. Перкін, М. Грынчык, А. Адамовіч, А. Коршунаў…

**24 красавіка.** Урачыстае пасяджэнне ў Палацы спорту, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. Даклад П. М. Машэрава. Шматлюдна. Пасля даклада — урадавы канцэрт. Спецыяліст па ўрадавых канцэртах — намзагаддзела Я. Б. Парватаў. Калі рыхтуюць урадавы канцэрт, ён заўсёды прысутнічае на здачы. Задача яго, як ён сам кажа, «шчакатлівая». Усякае можа здарыцца. Паводле яго слоў, у Маскве пры Сталіне такія абавязкі выконваў Храпчанка. Калі ў Вялікім тэатры — было гэта пасля вайны — ставілі оперу «Барыс Гадуноў», паўстала пытанне са славутай сцэнай «У Кромах». Да рэвалюцыі яе ставілі, але ж гэта было да рэвалюцыі. Храпчанка як начальнік Камітэта па справах мастацтваў звярнуўся ў ЦК: ставіць «У Кромах» ці не ставіць. Справу разглядалі на Палітбюро. Пасля таго, як Жданаў далажыў, пра што ідзе гаворка, усе доўга маўчалі, чакалі, як Сталін. І той, вытрымаўшы паўзу, абвясціў:

— Сцэну «У Кромах» паставіць, Храпчанку — пасадзіць!

Тут жа двое малойцаў схапілі Міхаіла Барысавіча пад рукі і пацягнулі з залы. І тут здарылася нешта нечаканае і неверагоднае: Міхаіл Барысавіч

высока задраў галаву і гарлавым голасам, як певень, закукарэкаў: «Ку-ка-рэ-ку!!!» Палічылі, што чалавек звар'яцеў. Такім чынам Храпчанка пазбег Гулагу і трапіў у псіхбальніцу.

На думку правадыра, ён праявіў палітычную тупасць, не ўцяміў патрабаванні «моманту». А момант быў такі, што сцэну «У Кромах» трэба было ставіць.

**27 красавіка.** Цёпла. Гняздо на бярозе атулілася зялёнай лісцвяной націткай, за лісцем яго і не відаць. Але не чуваць пчол. Ёсць прыкмета: «У красавіку не лётаюць пчолы — спадзявайся халадоў і слаты». А можа, іх патравілі гербіцыдамі?

**28 красавіка.** Размова з Міколам Ткачовым, аўтарам схематызаванага рамана «Згуртаванасць» і цудоўнага апавядання «Краіна Цыганія». Ён часта курыць і лыпае вачыма. Не то ад здзіўлення, не то ад страху. Але збянтэжаным я яго не бачыў. Я з прыхільнасцю стаўлюся да Міколы Гаўрылавіча.

— Нешта я даўно ўжо нічога вашага не чытаў.

— Пішу… — Ён паглядзеў на мяне, нібы выпрабоўваючы.

Партыйныя ідэолагі не любяць, калі пісьменнік піша «не так», але і не любяць, калі ён наогул маўчыць. Гэта насцярожвае. Падумаць, дык яно і сапраўды, калі пісьменнік маўчыць, ён фактычна выпадае з-пад крытыкі, яго ўжо «не дастаць».

Каб супакоіць, я сказаў:

— Але ж вам хапае клопату і па Саюзу пісьменнікаў.

Міколава мянушка ў Саюзе пісьменнікаў — «Руды».

**29 красавіка.** Атрымаў і я медаль «За доблестный труд. В ознаменование 100-летия со дня рождения В. И. Ленина». Відаць, аказаліся лішнія. Але дзякуй!

**30 красавіка.** Атрымаў у размеркавальніку прадукты. Даюць — бяры, б'юць — уцякай. Але, калі што, не надта і ўцячэш.

Настрой — перадсвяточны.

**1 мая.** Быў на дэманстрацыі працоўных. Пісьменнікаў на гэты раз не выпускалі. Можа, гэта і да лепшага. А дзень цёплы, сонечны. Пра такі час кажуць: ласкавы май. На гасцявой трыбуне ўгледзеў сакратара партарганізацыі СП А. Кулакоўскага. Павіталіся.

Быў у гасцях у брата Лёні. Пасля дэманстрацыі народ выпівае сваю «законную» першамайскую чарку.

**6 мая.** Па старых традыцыях сёння Юр'я. На Юр'я мы, пастушкамі, выганялі на пашу кароў, на Панскае. Рана даводзілася ўставаць — гадзін у шэсць, калі гаспадыні падояць кароў.

**8 мая.** На вуліцы, як звычайна ў гэты дзень, шмат людзей. З медалямі, ордэнамі, стракатымі значкамі. Некаторыя ўжо на падпітку. Хто яны — героі? Хутчэй тыя, каму пашанцавала. Але я не супраць, каб іх называлі героямі. Сустрэў вечарам на праспекце Бярозкіна, ён прыкметна хвалюецца, курыць адну папяросу за другой, свой «Беламор». Павіншаваў яго з надыходзячым святам. У яго, ведаю, шмат узнагарод, ордэны Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны, але чамусьці не пачапіў. Можа, пачэпіць заўтра? Прайшоў вайну ад пачатку да Берліна.

**9 мая.** Святкавалі свята Перамогі. Гулянні, аркестры, песні, перапоўненыя кафэ і рэстараны.

Франтавікі, хто прайшоў само пекла вайны, неахвотна яго ўспамінаюць.

**12 мая.** Збіраюцца цвісці каштаны — не дазваляюць пакуль што халады. Тэмпература паветра раптам апусцілася да сямі градусаў. «Халады на першацвет», як кажа Г. Далідовіч, які выпусціў кнігу прозы з такой назвай.

**13 мая.** На пасяджэнні секцыі прозы абмяркоўваліся раманы Л. Арабей «Іскры ў папялішчы» і Уладзіміра Карпава «Сотая маладосць». З разглядам

гэтых твораў выступіў П. Пестрак. Успомніў, «для затраўкі» патрабаванне А. М. Горкага: «Писатель обязан смотреть на своих героев именно как на живых людей, а живыми они у него выйдут, если он в любом из них найдет, отметит и подчеркнет характерную, оригинальную особенность языка, жеста, фигуры, лица, улыбки, игры глаз и т. д. Отмечая всё это, литератор помогает читателю лучше видеть и чувствовать то, что им, литератором, отражено. Людей совершенно одинаковых нет, у каждого есть нечто своё — и внешнее, и внутреннее». Калі ідэя выказана ў творы абстрактна, калі агульнаму не адпавядае індывідуальнае і бракуе жывых чалавечых вобразаў і фарбаў жыцця, такі твор наўрад ці закране струны чалавечага сэрца. Тады можна гаварыць пра брак мастацкасці. Гэта Піліп Сямёнавіч «выразна», як ён сказаў, бачыць і ў адным рамане, і ў другім.

Ён адзначыў, што аўтары часам залішнюю ўвагу надаюць паказу побыту і забываюць на больш важныя рэчы. Як водзіцца, напомніў, што ў пісьменніка шмат абавязкаў перад народам, пра якія мы недаравальна забываем. Не паспеў скончыць свой даклад, як выступіў Карпаў з крыкам: «Гэта не даклад, а брэд маразматыка!..» Раманы У. Карпава схематычныя — Пестрак так пра іх і сказаў, дадаўшы сваё фірменнае: «Замест павярхоўнасці трэба шукаць глыбіню!»

Пестрака бараніла Вера Палтаран — жанчына з яскрава выражаным пачуццём спагадлівасці і справядлівасці. Калісьці яна падтрымала Івана Ралько, якога ў такой жа сітуацыі адправілі «ў накаўт», а цяпер вось — магло быць — і Пестрака. Апроч Палтаран, выступілі А. Асіпенка, І. Мележ, Я. Герцовіч.

Паміж некаторымі пісьменнікамі, паводле маіх назіранняў, існуе лютая злоба. Я гэта бачу, але гаварыць не хочацца. Непрыемна. І ўвогуле, кожны імкнецца цягнуць коўдру на сябе, ажно рвуць яе на часткі і лаюцца між сабой. Нават былыя рэпрэсіраваныя — людзі адной долі, якія столькі паражылі, не сябруюць паміж сабой і не цікавыя адзін другому. Успамінаюць, хто кім быў у «зоне», па той бок калючага дроту.

**14 мая.** Наперадзе — лета, а я павінен сядзець у гэтых мурах. Кожнага дня — пры гальштуку. Тут усе пры гальштуках, нават паштальён Саламон (яго кабінет у цокальным паверсе). Цікава, што было б, калі б прыйшоў на работу без гальштука?

**21 мая.** Цвітуць сады, але хмурна. Прашумела першая навальніца, непаўторная, як і першы снег.

Званілі з Брэста бацька з дзедам Лявонам. Дзядуля прасіў прыслаць гумовыя боты, старыя парваліся. Трэба будзе пашукаць па магазінах.

**26 мая.** Пілатовіч ужо збольшага ачуняў, і Марцэлеў носіць яму ў палату паперы. Добра гэта ці не? Мне здаецца, не надта. Але такі партыйны стыль — не пакідаць «паста». А папераў шмат.

**1 чэрвеня.** Пачалося лета. На досвітку спявалі салаўі. Ездзіў з Іосіфам Скурко электрычкай на Мінскае мора. Шмат сонца і тых, хто гераічна, да чарнаты, загарае. Пляжы густа ўсцелены людзьмі ў плаўках і купальніках. Выкупаліся і мы.

Хтосьці ўтапіўся, шукалі аквалангісты.

**2 чэрвеня.** Панядзелак. Зноў на працы. Вечарам, як звычайна, дома. Шкада, што няма тэлевізара.

Знайшоў і купіў нарэшце гумовыя боты 42-га памеру. На пошце паклалі ў папяровы мяшок, на якім напісаў адрас. «Дойдзе!» — пасміхнулася паштарка.

**8 чэрвеня.** Трагічна загінуў у шахце ў Салігорску малады паэт Леанід Якубовіч. Зусім яшчэ малады, добры і зычлівы. Смерць у такім узросце — трагедыя.

**12 чэрвеня.** 70-гадоў — знакамітаму М. Забэйду-Суміцкаму. Гады дватры назад ён прыязджаў у Мінск, даваў канцэрт у зале кансерваторыі. Спяваў пад акампанемент «Дудку» і іншыя песні і арыі. Часам каменціраваў творы, якія выконваў, гутарыў з публікай. Побач са мной сядзелі Сцяпан Міско, Арсень Ліс, Алесь Яскевіч, Рыгор Піўтарак, хтосьці яшчэ. Крыху далей — Алесь Бачыла.

На канцэрце прысутнічаў Максім Танк — сябар Забэйды па міжваеннай Заходняй Беларусі. Прысвяціў яму верш. Была надзея, што Забэйда-Суміцкі пераедзе з Прагі, дзе ён жыве, у Мінск, але яна не здзейснілася. Родны дом для эмігрантаў чужы.

**22 чэрвеня.** Самы доўгі дзень. У гэты дзень пачалася вайна, і той час я выразна помню. Рухаўся праз Кругель нямецкі абоз. Паілі коней. У нас каля калодзежа даспелі прыгожыя буйныя вішні. Салдаты, не маючы часу стаяць і абіраць, дасталі з воза сякеру, ссеклі вішню і, прычапіўшы да воза, павалаклі з сабой. Мы толькі моўчкі пазіралі, страшна было штосьці сказаць.

**23 чэрвеня.** У тэатры імя Я. Купалы адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння Кузьмы Чорнага. Пачынаў ён у 20-я гады. Цікавая пара! Гэта быў час бурнага росту маладой беларускай савецкай літаратуры, якая шпарка назапашвала жыццёвыя веды, мастацкае майстэрства, грамадзянскую сталасць. Я. Купала і Я. Колас, М. Гарэцкі і З. Бядуля, М. Лынькоў і К. Крапіва, М. Зарэцкі і П. Галавач, П. Броўка і П. Глебка, М. Лужанін і А. Александровіч і многія іншыя разам з К. Чорным былі сведкамі і актыўнейшымі ўдзельнікамі велічнага працэсу абуджэння і пераўтварэння жыцця, які ахапіў усю краіну, увесь народ.

«…Я думаю, — казаў Я. Брыль, — што К. Чорны настолькі ведаў тую зямлю, пра якую пісаў, што ён мог кожную грудку яе пазнаць навобмацак, кожнага жаваранка ці вераб'я назваць па імені ды па бацьку». Гэта «веданне» адбілася літаральна на ўсіх творах пісьменніка, які паслядоўна ўзнімаў у іх тэму сучаснасці.

Рэгіянальны каларыт у яго ўзмацняюць асаблівасці мясцовай гаворкі. У К. Чорнага шмат было гэтага рэгіянальнага, зямнога, свежага, сакавітага, пра што згадаў А. Бялевіч у сваіх успамінах:

«Хораша цяпер у полі, — гаварыў Кузьма Чорны. — Не забыўся. Калі ідзеш за плугам, у свежай баразне халадок пад босымі нагамі, прыемна пахнуць свежыя скібы. Любата… Або сенакос. Вельмі люблю. Сонцам, ветрам, чмяліным мёдам пахне ў пракосах ужо трошкі завялае, падсушанае сена. Дакосішся да ручаінкі, да крыніцы, а там вада чыстая, халодная, а ты сасмяг, прыляжаш напіцца, а халадок той крыніцы ўсяго цябе асвяжае. Паменціш касу і пайшоў свістаць, рэзаць: жых, жых!.. Музыка, браце. Музыка працы! — Кузьма Чорны задумаўся, закурыў, пачаў далей разгортваць сваю думку:

— Ты панюхай паху на таку, водару ў бары, руку пагрэй зімою аб свежаспілаваны цёплы пень у лесе, ад вугалю ў кузні прыкуры, гэблікам дошку абгаблюй… Тады, як той казаў, чалавекам будзеш.

Я тады добра зразумеў мудрага дзядзьку Кузьму: ён хацеў накіраваць мяне на тэмы жыцця і працы, хацеў каб пісаў я не толькі пра журавоў, буслоў, пра вербы і краскі, а каб ярчэй, паўней паказваў людзей працы, іх нялёгкія працоўныя будні, іх радасці, клопаты, смутак.

З той далёкай вясны, як светлы Першамай, увайшоў у маё сэрца добры дзядзька Кузьма».

А. Бялевіч разумее Чорнага недзе толькі напалавіну, тут яўны эмацыянальны перабор…

У 20-я гады беларускія пісьменнікі шмат і ўважліва чыталі Гамсуна. Ц. Гартны нават свой раман «Сокі цаліны» назваў пад уплывам гамсунаўска-

га «Сокі зямлі». Маладой беларускай прозе даводзілася ставіць і вырашаць мастацкія задачы ўпоравень з літаратурамі сталымі.

Чорны быў добра знаёмы з праблематыкай Дастаеўскага.

**27 чэрвеня.** Сенакосная пара. Калісьці, працуючы ў Інстытуце літаратуры, браў адпачынак і ехаў у гэты час у Кругель, дапамагаў калгасу на сенаўборцы. Касы не цягнуў, але вазіў сена, складаў у стог, сустракаўся з хлопцамі-равеснікамі. Параскідала нас жыццё па ўсім СССР.

Цяпер сабе такое не дазволіш, сядзіш, як у клетцы. Уключыў радыёкропку. Перадавалі раманс на словы Купалы «Шумныя бярозы»:

*Ой, пайду я ў поле,*
*Як бы на вайну,*
*Шукаючы волю,*
*Шаблячкай махну…*

Гэты раманс заўсёды мяне хвалюе. Хто напісаў музыку?

**30 чэрвеня.** Бязвоблачнае неба. Соладка пахне ліпавая квецень. Ліпавых алеяў у Мінску шмат. Дзякуй тым, хто па вайне аднаўляў горад, садзіў дрэвы. Залішне, хіба што, насадзілі таполяў. Дрэва як дрэва, хутка расце (на гэта і спадзяваліся тыя, хто садзіў), але ў чэрвені тапалінае семя — пух забівае дых. Успамінаюцца радкі Б. Пастэрнака:

*Кругом семенящейся ватой,*
*Подхваченный ветром с аллей,*
*Гуляет, как призрак разврата,*
*Пушистый ватин тополей.*

Мне ўсё цікава, мусіць, таму, што і я крыху пісьменнік.

**1 ліпеня.** У апошнім нумары часопіса «Вопросы литературы» артыкул А. Зверава пра сучаснага амерыканскага паэта і крытыка Эзра Паўнда, якога, на мой погляд, можна лічыць супермадэрністам. Да гэтага ў савецкім друку пра яго нічога не гаварылася, апроч кароткай інфармацыі ў КЛЭ (6-ты т.). А. Звераў цытуе ліст Э. Паўнда паэту Уільямсу. Вось погляд Э. Паўнда на сучасную літаратуру:

«Вось спіс тэм, якія я і 900 000 000 іншых абыгрывалі да бясконцасці:

1. Вясна — цудоўная пара года. Кветкі і інш., і інш., распускаюцца, цвітуць і інш., і інш.

2. Юнак марыць. Яго мары лёгкія, сумныя, вясёлыя і інш., і інш.

3. Каханне, яго чароўнае трымценне. Невымоўнасць і г. д.

А) Каханне пры святле дня і інш., і інш., і інш.

Б) Каханне ў змроку ночы і інш., і інш., і інш.

4. Дрэвы, узгоркі і інш. мудрай воляй прыроды створаны так, што не падобныя адно да аднаго.

5. Ветры, воблакі, дажджы і інш. праносяцца над імі і сярод іх.

6. Мужчыны ўлюбляюцца ў жанчын.

7. Мужчыны ваююць на вайне і інш., і інш.

8. Мужчыны адпраўляюцца падарожнічаць».

Эзра — дасціпны, умее пусціць пылу ў вочы. Вось вам адказ, — хоча сказаць ён, — на пытанне, чаму я мадэрніст. Мастацтва ў тупіку, я шукаю выйсце, шукаю новых шляхоў. Але довады яго легкаважкія.

**2 ліпеня.** Разглядаў скаргу на Антона Бялевіча — прыйшла на яго «цялега» з Віцебска. Зняважыў чалавека, нагаварыў абраз, і той не сцярпеў, накатаў ліст у ЦК.

Антон Бялевіч — гэта наш народны наіў: і хітрасць у ім, і грубасць, і ўсё астатняе. Піша доўгія вершы, якія называе «пугамі» і друкуе ў «Звяздзе», часцей на святы, юбілеі. У час вайны, з дрэнным зрокам, як белабілетнік, знаходзіўся ў Маскве. Вечна з ім былі нейкія прыгоды. У трамваі аднойчы пачуў, як двое незнаёмых абмяркоўвалі і хвалілі вартасці нямецкага «Месершміта», узбраенне і хуткасць. Ён палічыў, што гэта шпіёны, паклікаў міліцыянера і разам з ім адвёў «шпіёнаў» у аддзяленне. Ажно высветлілася, што гэта авіяканструктар Якаўлеў і адзін з інжынераў яго КБ. Бялевічу аднак, паводле яго слоў, падзякавалі за пільнасць.

Паклікаў Бялевіча на размову, на 12 гадзін. Спазніўся мінут на сорак. Пытаюся:

— Чаму спазніліся?

— Міліцыянер не прапускаў.

— Партбілет з сабой не прыхапілі? — Па партбілеце ў ЦК праходзяць без пропуску, і я меркаваў, што Бялевіч член партыі.

Ён павёў галавой:

— Дзе ж ты яго прыхопіш?.. Каб прыхапіць!..

Мяне, папраўдзе, гэтае жаданне «прыхапіць партбілет» рассмяшыла сваёй непрыхаванасцю. Ледзь стрымаўся ад смеху.

— Дык вось чалавек на вас скардзіцца.

— А хто такі?

— Вы ляцелі самалётам з Віцебска, сядзелі побач, прыставалі: «Нешта твой профіль мне не падабаецца!»

— Гаўнюк ён.

— Што вы сабе дазваляеце? Вы ж паэт!

— Я не цвярозы быў. Гэта мяне Даніла Райцаў падпаіў — я зараз пра яго паэму пішу, па матэрыял ездзіў. Дык ён з хлопцамі мяне праводзіў і пачаставаў. Гарэлкі, я ведаю, колькі мне трэба, норму сваю знаю і больш як бутэльку за раз не п'ю, а тут спірт. У Данілы знаёмыя на спіртзаводзе. Ну, налыкаўся, перабраў…

Тут была нейкая логіка, але хутчэй за ўсё логіка блазна. Я адчуў прыступ дзікага рогату і выбег з кабінета. Папрасіў Савіцкага завяршыць размову, бо сам ужо не мог.

**3 ліпеня.** Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Горад выглядае прыгожа, па-святочнаму. Духоўны цэнтр свята — плошча Перамогі з помнікам героям Айчыны. Помнік, мне здаецца, ды і плошча таксама, стаіць не на месцы. Не на месцы, бо ў яміне. Гэта асабліва відаць, калі глядзіш на помнік з гары, збоку Даўгабродскай. Вось на гэтай гары, на скрыжаванні праспекта і Даўгабродскай (дзе цяпер ходзіць трамвай), яго б у свой час і паставіць! Было б велічна — як узыходжанне на гару, на нашу Галгофу.

**4 ліпеня.** Памёр — прыйшла вестка — паэт і геолаг Міхайла Грамыка. У свой час рэпрэсіраваны, жыў у Маскве. У самым першым нумары «Полымя» (1922 год) апублікаваў паэму «Гвалт над формай». Чалавек універсальнай, шматграннай дзейнасці. Між іншым, адным з першых браў удзел у пошуках нафты на Палессі.

Кніга «Выбранае» выйшла ў Мінску, у 1967 годзе.

**6 ліпеня.** Забытае купальскае свята. Напярэдадні купальская ноч, моладзь гуляе да раніцы: «Схожахуся на ігрышча, і ту умыкаху жены собе…»

Дзеці нараджаліся ў сакавіку. Сакавіцкія — народ здаровы і таленавіты, шчодра адораны Ярылам.

**8 ліпеня.** Апошнім часам чуў і занатаваў прымаўкі:

Прыбяры пень, дык і пень прыгожы;

З аднаго вала дзве шкуры не дзяруць;

Варанае яйка ўжо не зробіш сырым;
Прапаў, нібы бунька на вадзе;
Ад яго ўжо запалкі трэба хаваць, а мы яго…

**9 ліпеня.** Надта спякотны месяц — ліпень. Горача. Сонца смажыць, ажно млее зямля. У Сцяпана Гаўрусёва ёсць верш «Спёка».

*Дарэмна, сонца, ты перасвяціла,*
*Свяціць і сонцу трэба разумней.*

Кажуць, што гэта сказана пра Сталіна. Трэба будзе запытаць у самога Гаўрусёва. Але што можа адказаць паэт? Разумей, як хочаш, як зможаш…

**10 ліпеня.** Вычытаў у Фрэйда: лібіда. А што гэта такое, не ведаю, не магу даўмецца. Назва кнігі: «Леонардо да Винчи, этюд по теории психосексуальности». Гэта — старое выданне. Фрэйд ужо даўно не выдаецца, фактычна пад забаронай. У слоўніках нават слова гэтага няма.

**14 ліпеня.** Гарачыня 30 градусаў. Сустрэў Мікалая Губскага, даўняга знаёмага.

— Пар касцей не ломіць, — пажартаваў ён, выціраючы з ілба пот. — Я пасля вайны таксама працаваў у ЦК, у аргаддзеле. Аднойчы сядзелі мы ў пакоі на другім паверсе, якраз над ступенькамі. Курылі. Мой таварыш кінуў акурак у фортачку. Ішоў якраз, вылез з машыны, Панамарэнка, і акурак як на тое ўпаў проста яму на галаву, на тое месца, дзе ўжо добра намецілася лысіна. Віноўніка, вядома, знайшлі адразу. Прызнаўся. «Ну, с кем не бывает», — сказаў тады Панцеляймон. Але праз тыдзень звольнілі, бо, сказалі, некультурны. Тады, пры Сталіне, мы і па начах сядзелі. Сталін не спаў, дык Панамарэнка таксама не спаў, а раптам пазвоніць, пра нешта папытае. Што тады? А раз першы не выходзіць з кабінета, дык і ўсе загадчыкі на месцах. А раз загадчыкі, дык і мы, інструктары. Ну, а раптам даведка якая спатрэбіцца. А як цяпер?

— Цяпер вальней. Дапазна не сядзім.

**15 ліпеня.** Споўнілася 70 гадоў Уладзіміру Дубоўку. Выстаўка твораў паэта наладжана ў бібліятэцы імя У. І. Леніна.

Дубоўка жыве ў Маскве, у Мінск наязджае рэдка, новых знаёмстваў сярод пісьменнікаў не заводзіць. Таленавітым быў незвычайна, але, як і многім з таго пакалення, не пашанцавала. Зрэшты, магчыма, пашанцавала ў чым іншым.

**16 ліпеня.** З’явілася новая «Волга», якую называюць «дваццаць чацвёртая». На гэтых машынах ездзяць сакратары ЦК.

**17 ліпеня.** Ужо ноч, але да гэтага часу ўсё ўва мне калоціцца. Зрэшты, запішу ўсё па парадку. Пасля работы (заўтра ж субота, выхадны) выйшаў у купалаўскі сквер. Сонца ўтаймавалася, не пякло. Паперадзе ішлі дзве маладыя, прыгожыя жанчыны. Мяне быццам нешта тузанула («лібіда»?), захацелася пазнаёміцца. Яны прыселі на лавачку каля прадаўгаватай клумбы. Пасярэдзіне клумбы тырчаў знак з надпісам, што тут будзе пастаўлены помнік выдатнаму рэвалюцыйнаму дзеячу Мяснікову (быў такі беларусафоб). Я павярнуў налева і прысеў на такую ж пафарбаваную лавачку з процілеглага боку. Нас аддзяляла клумба, і я са шкадаваннем убачыў, як мяне апярэдзілі нейкія хлопцы ў белых кашулях і, не марудзячы, падсуседзіліся да маіх прыгажунь. Завязваюць размову, хочуць пазнаёміцца. Я ўздыхнуў, дакараючы сябе за сціпласць, якая заўсёды мне перашкаджала: «Зноў упусціў шанец…» Не паспеў я гэтак падумаць, як убачыў нейкіх налётчыкаў. Нібы з неба зваліліся, чалавекі чатыры. Пераскочылі цераз клумбу, падляцелі да тых хлопцаў і давай іх біць. Білі жорстка. Кулакамі, а калі тыя падалі на дол, дык нагамі. Адзін падхапіўся і пабег, замільгала паміж ліпамі яго белая акрываўленая кашуля. Я жахнуўся. Шкада стала хлопцаў. Нічога дрэннага прыгажуням яны не зрабі-

лі. Гэта ж на іх месцы мог быць і я, калі б памкнуўся зрабіць спробу пазнаёміцца з красунямі. Таксама б — аднаго! — збілі б на горкі яблык. Да мяне дайшло, што гэтыя налётчыкі сядзелі ў засадзе, чакалі на «прынаду», захацелася пачасаць рукі. Цяпер да іх наблізіліся і красуні, і ўсе разам пачалі рагатаць, ажно згінаючыся ад рогату. Я не вытрымаў, падышоў да гэтай кампаніі і гучна, на ўвесь голас, скамандаваў:

— Стой! Усе! У міліцыю! — Паказаў рукою на выхад са скверыку і здзівіўся: яны пакорліва пайшлі, угнуўшы галовы, туды, куды я паказаў.

Бліжэйшае аддзяленне міліцыі месцілася насупраць кінатэатра «Перамога» — туды я іх і павёў. Па дарозе яны пачыналі апраўдвацца, нешта казаць, але я быў няўмольны і вёў сябе рашуча: «Там разбяромся!» Нарэшце прыйшлі ў тое аддзяленне насупраць «Перамогі». Дзяжурны ва ўсіх, у тым ліку і ў мяне, запатрабаваў дакументы.

— Сведкі ёсць? Дзе пацярпелыя?

Пацярпелых не было, і маіх затрыманых, перапісаўшы іх прозвішчы, адрасы і месца працы, адпусцілі. Мне паабяцалі прыняць адносна іх магчымыя захады. Я пакінуў свой службовы тэлефон (29-35-55) і патрабаваў, каб міліцыя далажыла пра вынікі сваіх «захадаў».

**24 ліпеня.** Пазванілі з міліцыі, сказалі, што з хуліганамі «разобрались», на рабоце пра іх учынак ведаюць. Вось і ўсё, чаго я дамогся. Не іначай, бацькі нейкія «высокапастаўленыя».

**4 жніўня.** Падаў заяву на адпачынак. Вечарам дазнаўся, што шэф налажыў станоўчую рэзалюцыю.

**10 жніўня.** Ніна Іларыёнаўна Глебка дамагаецца, каб у кватэры стварыць музей Пятра Глебкі. Кажа, што гэта была думка і самога Пятра Фёдаравіча. Ёй дапамагае мой сябар Сцяпан Міско. А што ў тым музеі паказваць? Аб гэтай прапанове ведае і Машэраў. Невядома, як ён паставіцца.

**13 жніўня.** У часопісе «Новый мир» апублікавана новая аповесць В. Быкава — «Сотников». Прачытаў. Увагу спыняе постаць Рыбака. Ён здраднік, але не такі адназначны, якімі паказваліся гэтыя персанажы да Быкава. Відаць, гэта бліжэй да праўды жыцця. Задумваешся: дзе дабро, а дзе зло? Відаць, няма таго, хто чысценька аддзеліць іх адно ад другога.

**14 жніўня.** Алесю Кучару — 60 гадоў. Надта ён малы ростам. Мае «Волгу» (24-ю) і калі сядзе за руль, дык спераду і не відаць. Таму і называюць: «Всадник без головы». Не, галава ў Кучара якраз ёсць, і крытык ён таленавіты, але пра яго ідзе дурная слава: у 30-я гады запляміў сябе даносамі. Сябраваў з Броўкам, Глебкам, Крапівой. Броўка расказваў мне, што ў 1937-м яны — Броўка, Глебка, Крапіва і Кучар — трымаліся разам, начуючы па чарзе ў кожнага.

Ніякай узнагароды Кучару ў сувязі з юбілеем не планавалася. А ён, здаецца, у добрай форме: запомнілася яго талковая рэцэнзія на паэму А. Куляшова «Цунамі» («ЛіМ» ад 31.01.69 г.).

**19 жніўня.** Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР атрымаў паэт Хаім Мальцінскі ў сувязі з 60-годдзем. Можна было б выпісаць і ордэн, бо і паэт ён выдатны, і герой вайны. Да таго ж яшчэ і бязногі інвалід. Помню яго вершы, напрыклад, вось гэты (ужо не помню, хто пераклаў):

*Вось у акопе —*
*у гадах салдат*
*Перахрысціў рукою аўтамат:*
*— Ты, Божа, на грымотным рубяжы*
*Мне ворага забіць дапамажы!*

Пра гэтае чатырохрадкоўе шмат можна сказаць!

**21 жніўня.** Святкаваў сваё 60-годдзе байкапісец Уладзімір Корбан. Марцэлеў скардзіцца: «Юбілейшчына захліствае, патанулі ў юбілеях!»

Калісьці ўедлівы А. Клышка прыдумаў дасціпны загаловак для сваёй рэцэнзіі пра байкі Корбана — «За мухай з абухам». Але гэтак можна сказаць і пра ўсіх савецкіх байкапісцаў.

**22 жніўня.** Субота. Хадзіў на Камароўку. Прадуктаў хапае, можна купіць, але зніклі бочкі з віном, якое прывозілі калісь малдаване: «Кабернэ», «Лідзія», любімае маё — «Ізабэла» і інш. Не раз бачыўся тут з Піліпам Сямёнавічам і інш. 50 кап. за шклянку.

**24 жніўня.** Каля будынка СП па вуліцы Энгельса сустрэў Алеся Кучара. Падумаў, што будзе скардзіцца, што не атрымаў узнагароды, а ён пачаў з падзякі:

— Дзякуй вам.

— За што, Алесь Евелевіч?

— «Гадзіннік спыніўся апоўначы» назвалі класікай беларускага кіно. Гэта дарагога каштуе, для мяне гэта вельмі важна.

Я і сапраўды ўставіў нешта падобнае ў даклад Пілатовіча на нейкім пленуме. І вось вынік. Кучар — аўтар сцэнарыя гэтага фільма.

— Ну дык не зазнавайцеся, — пажартаваў я.

**25 жніўня.** Быкаўскую новую аповесць «Сотнікаў» прачытала ўжо і начальства, што сядзіць на пятым паверсе. Уражанне і пажаданні, па пунктах, перадаў загадчык аддзела:

«1. Не праяснены агульны фон аповесці. Варта было б, хаця б праз успаміны персанажаў, згадаць адзін-два эпізоды гераізму партызан, каб менш адчувалася прысутнасць мясцовай паліцыі.

2. Непрымальна фатальная асуджанасць Сотнікава, якая адбілася на яго паводзінах і ўчынках.

3. Сотнікаў павінен больш мужна трымацца перад смерцю, кінуць ворагам выклік.

4. Рыбак — катэгорыя сацыяльная. Сацыяльны пачатак належыць узмацніць, тады больш зразумелыя і ясныя будуць вытокі здрады.

5. Паказаць, што галоўную ролю адыграюць нямецка-фашысцкія захопнікі, а не паліцаі.

6. Ці трэба, каб стараста круціўся паміж двух агнёў?

7. Чаму людзі абмінаюць Басю, не імкнуцца ёй дапамагчы?»

З гэтах «уражанняў і пажаданняў» відаць, што аповесць прачытана даволі ўважліва. Можна ўсвядоміць таксама накірунак партыйных патрабаванняў. Але ці згаджацца з імі? Ніхто, дарэчы, не звярнуў увагі на тое, што становчы герой аповесці не чалавек з народа Рыбак (які і ўвасабляе народны пачатак), а інтэлігент Сотнікаў, які мае перавагу над «народным» рыбаком. Такое не ў традыцыях савецкай літаратуры. Але ці варта папракаць пісьменніка за гэта? У яго свая логіка і свая праўда.

**28 жніўня.** Артыкул Л. Прокшы ў «ЛіМе» «Праўда партызана Сотнікава». Аўтар піша:

«Сотнікаў» — другая аповесць Васіля Быкава аб партызанах. Думкі чытачоў і крытыкі аб першай аповесці «Круглянскі мост» былі розныя і супярэчлівыя, вострыя, а часам занадта вострыя. Не будзем пакуль вяртацца да гэтага. Галоўнае іншае — ці зрабіў пісьменнік сабе з крытыкі адпаведны вывад? Аповесць «Сотнікаў» дае падставу меркаваць, што зрабіў, і гэта прыемна адчуваць.

Аповесць хвалюе сваёй суровай праўдай, думкамі, якіх нельга пазбыцца і пасля прачытання аповесці. «Сотнікаў» — гэта крок наперад пісьменніка Васіля Быкава ў мастацкім даследаванні мінулай вайны».

Станоўчая ацэнка Л. Прокшы азадачыла многіх, асабліва ў нашым будынку. Па-беларуску «Сотнікаў» яшчэ не друкаваўся.

**1 верасня.** Еду адпачываць у Гагру, па пуцёўцы, у дом адпачынку «XVII партз’езд». Маю білет да Адлера. Ходзяць чуткі, што на поўдні эпідэмія халеры, але гэта мяне не спыняе.

**3 верасня.** Атрымаў адпускныя. Купіў тое-сёе з курортнага адзення, астатняе куплю на месцы. Заказаў таксі на пяць гадзін раніцы да аэрапорта.

Бяру з сабой сшытак і шарыкавую аўтаручку, каб працягваць запісы. Зноў у модзе шарыкавыя ручкі. Такую я меў у падарунак ад бацькі яшчэ калі вучыўся ў школе. Усе прасілі даць папісаць.

**4 верасня.** У аэрапорце сустрэў намесніка кіраўніка справамі ЦК Гоцмана Васіля Антонавіча. Ён накіроўваецца ў Сочы, у санаторый імя Фрунзе. Гэта класам вышэй, чым «XVII партз’езд» і не адпавядае маёй пасадзе.

Ляцім на вялікім, гаматным самалёце «АН-10». Салон, як кінатэатр, але пусты. Мы з Гоцманам ды яшчэ двое. Вышыня — восем з чымсьці, відаць далёка. У такім палёце я не ўпершыню, калісьці разам з Міколам Грынчыкам лёталі ў Душанбэ (Таджыкістан) на міжнародную канферэнцыю па фальклоры. У дарозе я выдаваў Грынчыка за Петруся Броўку. Падзівіўся, што пра Броўку чулі ўсюды. Так і кажуць: «Чулі, чулі».

Прыпынак, на паўгадзіны, рабілі ў Данецку і патарахцелі далей. Тыя двое сышлі ў Данецку, засталіся мы ўдвух — я і Гоцман. Ляцелі недзе гадзіны чатыры. Адлер сустрэў сонцам і паўднёвым цяплом. Успомніў інтэрв’ю футбаліста Славы Метрэвелі, у якога спыталі, калі ён адчувае сябе шчаслівым, той адказаў: «Калі прызямліўся мой самалёт». Развіталіся з Гоцманам, ён — у Сочы, а я — на поўдзень, у Гагру. Наняў таксі. Іх поўна, бо народу, з-за халеры, не шмат. Згаварыліся з шафёрам у цане — 25 рублёў. Едзем. Справа, да далягляду, мора. Ажно дух займае ад гэтага відовішча. Дарога вузкая, высока над вадою.

Мора я бачу не ўпершыню. Бываў і ў Алушце, і ў Ялце, але бываў (адпачываў) «дзікуном», г. зн. прыватным чынам, без пуцёўкі. Аднойчы разам з сястрой Евай, якая ў Алушце і сустрэла свайго будучага мужа — Валодзю Ложкіна.

У свой «XVII партз’езд» уладкаваўся адразу. Памералі тэмпературу і накіравалі ў палату. Нумароў свабодных шмат. Перш за ўсё выкупаўся ў моры, — яно ў дваццаці метрах ад майго акна.

Абедаў з апетытам.

**5 верасня.** Пачаў знаёмства з Гаграй — утульным абхазскім гарадком ля мора. Калісьці тут на пляжы, уздоўж якога цягнецца Гагра, здымаўся славуты фільм «Весёлые ребята». Весялосці было, відаць, мала, бо ішлі арышты і некаторых, я чуў, забіралі, не чакаючы, проста са здымкаў.

З друку ведаю, што тут, у Гагры, нярэдка адпачывае Канстанцін Сіманаў — надзвычай уплывовая асоба ў СП СССР. Пераклаў на рускую мову (ці адрэдагаваў) раман Баграта Шынкубы (назву не помню) пра лёс абхазаў, якія ў пачатку XX ст. выехалі ў Турцыю.

Пазнаёміўся з мясцовым жыхаром Георгіем. Вечарам ён сядзеў у кафэ з паддашкам, на беразе мора, і цягнуў «Букет Абхазіі». Ён паляўнічы. У гарах ёсць і звер, і птушка, на якіх палююць! Расказаў шмат цікавага. Даў адрас: Гагра, вуліца Чаўчавадзе, д. 3, Кір’янаў Георгій Усцінавіч. Рускі, даўно тут жыве, стаў абхазам. Цікавіўся, ці можна ў Мінску прадаць мандарыны.

**6 верасня.** Цудоўна пахне магнолія — вялікія кусты, абсыпаныя ружовымі кветкамі. Сёння — нядзеля, няма ні зарадкі, ні працэдур, ні прыёму ў урача. Можна пагуляць, падыхаць марскім паветрам.

**8 верасня.** Сустрэў у аўтобусе Валодзю Караткевіча з Валяй, яго жонкай. З канца ў канец Гагры бегае невялічкі «ЛАЗ», возіць пасажыраў. Я, на прыпынку, заскочыў у заднія дзверы і шукаю вачыма кандуктара. Бачу, спінаю да мяне, сядзіць нейкі мужчына ў тэнісцы з чорным раменьчыкам цераз плячо. «Кандуктар!» — вырашыў я і, крануўшы чалавека за плячо, прашу:

— Дайце, пажалуйста, білецік.

Гляджу, а гэта наш Караткевіч, а побач Валя. Валодзя пазнаў:

— Здароў, стары!

Павітаўся з ім і з Валяй — пацалаваў ручку. Яны ехалі ў старую Гагру пагуляць па парку. Запрасілі далучыцца да іх. У Гагры пісьменніцкі Дом творчасці, і яны ўжо больш як тыдзень у ім знаходзяцца, адпачываюць па пуцёўцы Літфонду.

Выйшлі на прыпынку каля каланады, гэта і быў уваход у парк, які больш нагадваў батанічны сад, чым проста парк. Дрэвы, кветкі, водар. Тут расце зялёны бамбук — моцныя, хуткія на рост сцябліны імкліва цягнуцца ўгору. Усміхалася з неба сонца, і беглі белыя баранчыкі хмарак. Валя фатаграфуе нас сваім «Зенітам».

— Я тут не ўпершыню, — гаворыць Уладзімір Сямёнавіч. — Мінулай восенню з Брылём адпачывалі. Дык я яму кажу: «Не лезь ты, Іван Антонавіч, на сонца!» А ён не слухае, галаву пад паддашак схаваў, а ногі на сонца выставіў. А яно тут вунь якое пякучае! Абвастрыўся тромбафлебіт, і Іван Антонавіч мусіў датэрмінова ў Мінск вяртацца. А мне сонца хоць бы што! Я магу на сонцы хоць цэлы дзень!

— Ой, расхрабрыўся ты нешта! — пасміхнулася Валянціна.

Доўга з Караткевічамі вандравалі па гэтым эдэме, пакуль не стаміліся і не прыселі на лаўцы з відам на мора. Мне прыйшло на думку, што і да вайны нашы пісьменнікі любілі наведацца ў Крым — у Ялту, Кактэбель. Мора прыцягвала сваёй экзотыкай. Лужанін прывёз з Кактэбеля бутэльку марской вады. Я расказаў пра гэты выпадак сваім калегам Караткевічам.

— Дык ён жа і верш напісаў! — пажвавеў Валодзя і на памяць працытаваў радкі: «Хай сумны мой бацька рупліваю жменяй / У сваім агародчыку мора пасее…»

Верш выдатны.

— Лужанін не благі паэт, — зноў азваўся Караткевіч, — мова ў яго старая, вытрыманая ў традыцыях Случчыны.

— Мова багатая.

— А я, — зноў загаварыў Уладзімір Сямёнавіч, — едучы сюды, пагартаў «Анталогію абхазскай паэзіі». На рускай мове. Абхазы маюць выдатных паэтаў!

Пагаварылі яшчэ пра тое пра сёе. З'явілася думка наведаць чабурэчную, — іх тут, у старой Гагры, паміж пляжам і паркам, хапала. Падышлі да адной: шашлыкі, чабурэкі, недарагое віно розных гатункаў. Я прапанаваў «Букет Абхазіі», але Караткевіч зганіў яго («памыі!»):

— Давай «Александрыні». Сухое.

Заказалі пляшку «Александрыні» і чабурэкі.

— «Александрыні» — першы паратунак ад халеры, — патлумачыў Караткевіч.

— Упадабаў Валодзя «Александрыні», — пасміхнулася Валя. — Усё робіць не па правілах, як Гервасій Выліваха.

Жартоўны Караткевіч працытаваў «Ліст да Абуховіча» (я здзівіўся — на памяць ведае):

— «Віна вянгерскага не зажывалі. Перад тым мальвазію скромна півалі, мядок і гарэлачку дзюбалі…»

— Мальвазія — гэта, пэўна, не віно, а настойка на травах, — удакладніў я, жадаючы паказаць, што валодаю такімі-сякімі пазнаннямі.

Пасля выпітага віна захацелася пашукаць туалет. Схадзілі і раз, і другі.

— У мяне не блага працуюць ныркі, — пахваліўся Караткевіч, зірнуўшы на жонку.

— Уладзімір Сямёнавіч, а як жа ты з Брылём адпачываў, ён жа не п’е? — пацікавіўся я.

— Мы не злоўжывалі.

Вярталіся з прагулкі ў добрым настроі. Пад канец Караткевіч хацеў заказаць яшчэ і шашлык, але шашлыкі аказаліся не з бараніны, а са свініны. «Баран горы ушол», — на наша запытанне адказаў афіцыянт, і мы адмовіліся.

**9 верасня.** Прыхільнікаў так званай тэмы сучаснасці зусім не цікавіць мінулае. Яно не прысутнічае ў іх творах, а калі і прысутнічае, то пад знакам: там было ўсё дрэнна, там была цемра. У Караткевіча зусім інакш.

**12 верасня.** Сустракаюся з Караткевічам, бачымся амаль кожнага дня. Заходжу да іх. Дом творчасці СП стаіць літаральна на пляжы, і, калі мора неспакойнае, пыркі пены залятаюць ім у акно — жывуць на першым паверсе. Валодзю гэта дужа імпануе, ён адчувае сябе як на караблі, Валі — не надта. Побач з імі жыве нейкі пісьменнік. У калідоры каля яго дзвярэй выстаўлена некалькі пустых бутэлек з-пад віна. Усё тое ж «Александрыні». Частка — «Псоў», «Ркацытэлі». Прыгадаўся верш Я. Смелякова, якога я калісьці, у студэнцкую пару, з падачы Калесніка, вельмі запаважаў. Смелякоў, як гэта вынікае з верша, аднойчы па вясне адпачываў у гэтым самым Доме творчасці, можа, нават у гэтым пакоі, і таксама пазіраў на пляж, на якім раніцой рабілі зарадку, размiналіся футбалісты маскоўскага «Спартака». З’явіліся радкі (было надрукавана ў часопісе «Юность»):

*А у меня своя зарядка,*
*Она спортсменам не нужна —*
*Две сигареты для порядка,*
*Стакан грузинского вина…*

Караткевіч курыць, пыхкае «Беламорам».

— Хачу падзякаваць за водзыў пра «Чазенію».

— Чыталі?

— Ну, а як жа. Разам з карэктурай.

Гаворка пра зборнік сучасных аповесцей нашых пісьменнікаў, што выходзіць у «Советском писателе» з маёй прадмовай. Асабліва моцная там аповесць Пташнікава «Тартак».

**13 верасня.** Хацеў запрасіць Караткевічаў у «XVII партз’езд», але «чужых», у сувязі з халерай, не пускае адміністрацыя.

Я ўспомніў, як гады два-тры назад Караткевіч заходзіў да мяне разам са Сцяпанам Міско. Глядзелі па тэлевізары кінафільм «Шчорс» А. Даўжэнкі. Я жыў тады ў Лёні, чытаў «Каласы пад сярпом тваім» — раман, які высока падняў прэстыж беларускай літаратуры дома і ў свеце.

**14 верасня.** Пазнаёміўся з Юрыем Казаковым. Гэта — сусед Караткевічаў. Ён рэдка выходзіць са свайго нумара. Уладзімір Сямёнавіч з ім знаёмы з Масквы, калі вучыўся на курсах кінасцэнарыстаў. Казакова я ведаю па творах. Некалі ў аспірантуры разам з Алёшам Гардзіцкім і Сашам Яскевічам чыталі кнігу апавяданняў Юрыя Казакова: «Тэдди», «Голубое и зеленое», «Арктур — гончий пес» і інш. Выдатны апавядальнік, у традыцыях Буніна.

У апавяданні «Восень у дубовых гаях» Ю. Казакоў апявае рэдкую па прыгажосці ноч і дадае: «Галоўнае ў жыцці — не колькі ты пражывеш — а галоўнае, колькі ў жыцці ў кожнага будзе такіх начэй».

Загаварылі чамусьці пра абхазскую кухню.

— Вот кто знает абхазскую кухню, так это Симонов! — сказаў Казакоў.

Даведаўся, што жонка Юрыя — дачка нашага мовазнаўца М. Р. Судніка, дырэктара Інстытута імя Я. Коласа.

**16 верасня.** Тут недалёка знакамітая Піцунда — паўвостраў, на якім расце рэліктавая сасна. Наведаў гэты запаведны лес разам з Караткевічамі. Запрашалі Казакова, але ён нешта піша, адмовіўся. Незвычайная ігліца на сасне — доўгая і не зялёная, а нейкая бледна-блакітная, пад колер марской хвалі. Караткевіч увесь у палоне сумятлівых, узбуджаных пачуццяў, трапяткіх настрояў.

Вечарам, калі мы ўтраіх сядзелі ў кафэ, Караткевіч разважаў:

— А можа, мы і ёсць той рэліктавы этнас, пра які гавораць сучасныя этнографы? Рэліктавы этнас той, які дажывае адпушчаны яму на зямлі час, дажывае і нікому не пагражае.

— У чымсьці рэліктавы, а ў чымсьці і перспектыўны, — запярэчыла Валя. — Паглядзі, колькі ў нас вучоных! Выдатных вучоных! А літаратура, мастацтва!

Караткевіч ёсць Караткевіч. Помню, Калеснік мне казаў: «Ну што Барадулін: «Калаўроты, калаўроты…», а Караткевіч — «Матчына душа»!»

Гэта не зусім так ці, дакладней, зусім не так, — падумалася тады, — Калеснік задужа катэгарычны. Але сказаць — не сказаў, пашкадаваў нервы былога свайго выкладчыка. Пярэчанняў ён не церпіць, успыхвае як запалка.

**18 верасня.** Ездзілі на экскурсію ў Новы Афон. Гэта адсюль кіламетраў сто. Велічная гара, на якую вернікі паўзуць на каленях, вытоптваючы траву. Наверсе — храм, нейкія пабудовы, манастыр без манахаў. Царква вельмі прыгожая, напісаныя рускімі мастакамі абразы. Унутры ў сценах — вертыкальныя нішы, каб манахі ў час усяночнай маглі, стоячы, крыху адпачыць. Не відаць, што чалавек сядзіць, а ён стоячы сядзіць.

**20 верасня.** Атрымаў тэлеграму ад Сабіра Садыхава, запрашае да сябе ў Баку, а потым у Таўзскі раён Кіравабадскай вобласці, дзе жывуць бацькі, г. зн. на «малую радзіму». Сабір — мой прыяцель па вучобе ў аспірантуры АН БССР. Фізіёлаг. Жылі ў адным пакоі. Ехаць? Не ехаць? Вырашыў усё ж такі ехаць, хочацца паглядзець на Азербайджан. Шкада, што не поўнасцю выкарыстоўваю пуцёўку: да канца тэрміну застаецца яшчэ добры тыдзень. Купіў білет на самалёт да Баку.

**21 верасня.** Развітаўся з Караткевічамі, праводзілі мяне да таксі. «А мы ўжо будзем тут дабываць», — сказаў Уладзімір Сямёнавіч і дадаў, што ў Баку ў яго шмат прыяцеляў сярод паэтаў.

Заўсёды ёсць за што дзякаваць лёсу. На гэты раз — за сустрэчу з Караткевічамі.

**22 верасня.** З Адлера да Баку ляцелі з кароткімі прыпынкамі ў Тбілісі і Ерэване. У Баку, ноччу, сустрэў Сабір. Аўтобусам дабіраліся ў горад да гасцініцы, у якую, аказалася, не проста ўбіцца. Стаяла доўгая чарга людзей у кепках-«аэрадромах» з працягнутымі пашпартамі, з якіх тырчаць асігнацыі — па 50 руб. і болей. Я здагадаўся пазваніць дзяжурнаму ў ЦК КП Азербайджана, сказаў, што я яго калега, і той дапамог уладкавацца.

**23 верасня.** Разам з Сабірам вандравалі па Баку. Узбіраліся на Дзявочую вежу. Горад прапах нафтай.

**24 верасня.** Цягніком разам з Сабірам едзем да яго на радзіму ў Таўзскі раён. З акна вагона відаць было маўзалей Нізамі — адзінокі будынак сярод поля. У Сабірава паселішча прыехалі толькі пад раніцу. Гэта ўжо побач з Арменіяй. У поездзе сустракалі сем'і армян, да якіх у Сабіра стрыманыя адносіны.

**25 верасня.** Паселішча — вялікае, у нас бы сказалі — мястэчка. Бацька Сабіра — паважаны чалавек, былы старшыня калгаса, Герой Сацыялістычнай Працы. З выгляду маленькі, як і Сабір. Завуць — Цяйяр. На знешняй, ад вуліцы, сцяне хаты, у нішы — ягоны партрэт. Падворак прасторны, агароджаны, ходзяць авечкі, растуць гранатавыя кусты. Тут разам з бацькам жывуць жанатыя двое братоў Сабіра, працуюць у калгасе. Пад вечар запрасілі мясцовага мулу, які зарэзаў барана, зняў скуру, расклалі мангал і напяклі смачных шашлыкоў. Апроч скуры (бараніцы) ад жывёліны нічога не засталося, усё пайшло на шашлык. І галава, і ўсё астатняе… Вячэра была багатая, з каньяком. Каньяк тут вырабляюць свой, са свайго вінаграда, нядаўна. У гэтай мясцовасці ў вялікай колькасці расце горны дубняк, які раней куплялі армяне і добра плацілі. Мясцовае насельніцтва да нядаўняга часу не ведала, нашто армянам патрэбен гэты дубняк. Цяпер не прадаюць, самі настойваюць на ім каньяк. Якасць каньяку пакуль што, мне падалося, невысокая.

**26 верасня.** Сабір павінен наведаць родзічаў (гэтага патрабуе мясцовы этыкет). Запрашае мяне. Кожны раз чай і роспыты: «Як там у вас у Беларусі?», «Ці шмат азербайджанцаў у Мінску?», «Ці гандлююць у вас паўднёвымі фруктамі?» і г. д. Гатовы, я зразумеў, закінуць фуру-другую. Вечарам сядзім на верандзе. Вячэраем. П’ем маладое віно. Сабір носіць закуску, прыгатаваную жанчынамі: плоў, закрашаны шафранам, пельмені, смажаныя ў масле, люля-кебаб. Спадабаліся салаты: чучу, фасоля з часнаком у гранатавым соку, баклажаны з моркваю, шмат цыбулі. Жанчын (жанок братоў Сабіра) амаль не відаць. Яны на кухні і на сваёй палавіне, не хочуць трапляць на вочы чужому. Зрэдку толькі выглядаюць у якую-небудзь шчылінку.

Ноччу кожны раз, калі я ўстаю, да туалета і ад туалета мяне суправаджае адзін з братоў ці іхні родзіч Ахмет. Каб не заблудзіўся. Куды? На жаночую палавіну?

**27 верасня.** Нядзеля. Ездзілі ў горы, на возера, на пікнік. У маім распараджэнні «Волга», у якую я запрасіў старога Цяйяра. Праз гадзіну-паўтары прыехалі на месца. Прыгожа! Берагі возера параслі кізілам. Ягады ўжо даспелі, і я пакаштаваў. Не надта, каб смачныя.

Сядзелі, разаслаўшы абрус з ежай. Пілі на свежым паветры гарэлку, закусвалі. Гаспадары, на падпітку, спрабавалі нешта спяваць. Адзін з застольнікаў дапытваўся ў мяне: «Калі прывязу ў Мінск фуру з абрыкосамі, ці зможаш дапамагчы прадаць?» Не маю ў гэтым вопыту.

**28 верасня.** Пара збірацца дадому, у родны Мінск. Трэба ехаць, бо, як у нас кажуць, першы дзень госць залаты, другі — срэбны, трэці — пайшоў вон. А я тут нават болей. Надавалі падарункаў: некалькі кашуль (ад кожнага члена сям’і), з якіх большасць, бачу, на жаль, не майго памеру, замалыя. Але што зробіш: даюць — бяры, бо пакрыўдзяцца. У дадатак атрымаў цэлую бочачку маладога віна, якую зручна несці як чамаданчык.

**29 верасня.** Зноў поездам разам з Сабірам, без прыгод, дабраліся да Баку, дзе я ў касе аэрафлоту купіў білет на самалёт да Мінска. Падзякаваў за гасціннасць. На развітанне Сабір сказаў, што неўзабаве думае жаніцца і што мяне запросіць на вяселле ў якасці «бея». Роля адказная.

**30 верасня.** Нарэшце я дома, у кватэры на Фабрычнай. Адчуваю сябе няблага, засумаваў па цішыні і адзіноце.

**5 кастрычніка.** Ужо на працы. У аддзеле ціха, усё па-ранейшаму, нічога не памянялася. Пазваніў Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі, паведаміў, што гаркам правярае партарганізацыю Саюза пісьменнікаў і што ён у трывозе. Сказаў: «Супрацоўнікі гаркама не ведаюць нашай спецыфікі». Гэта сапраўды так. «Лайдакі!» — дадаў ён.

**6 кастрычніка.** Адвык цэлы дзень сядзець у кабінеце, але зноў даводзіцца прывыкаць.

Вечарам запрасіў калегаў дадому, пакаштаваць маладога азербайджанскага віна.

**10 кастрычніка**. Салжаніцын — лаўрэат Нобелеўскай прэміі. У гэтай прэміі, можа, не столькі літаратуры, як палітыкі. Не ўсё з твораў Салжаніцына мне даспадобы. «Один день Ивана Денисовича» — падабаецца. У захапленні ад апавяданняў «Матрёнин двор» і «Случай на станции Кочетовка». Менш — тыя ўрыўкі з рамана «В круге первом», якія хадзілі ў самвыдаце. Іншая паэтыка.

**14 кастрычніка.** Сталі вядомыя вынікі праверкі. У цэлым яны дадатныя, і Кулакоўскі задаволены, але адзначаны і недахопы, галоўны — недастатковая ідэйна-выхаваўчая работа.

**15 кастрычніка.** Прысутнічаў (Марцэлеў паслаў) на аб’яднаным сходзе партыйных арганізацый у клубе завода аўтаматычных ліній. Камуністы-пісьменнікі і адміністрацыя завода. Гэта ў парадку паляпшэння ідэйна-выхаваўчай работы. З нашых выступілі А. Кулакоўскі, П. Пестрак, А. Русецкі, Е. Лось, В. Мыслівец, які не так даўно працаваў тут мадэльшчыкам.

А. Кулакоўскі трымаецца салідна, па-шляхецку фанабэрыста — напісаў аповесць пра рабочы клас «Расце мята пад акном». Пра іншых кажа: «Лайдакі!» Гэта яго любімае слоўца. Дарэчы, у ім адсутнічае які-небудзь негатыўны змест.

**16 кастрычніка.** Алесь Разанаў працуе ў маім Кругелі, у школе, у якой я вучыўся з першага па дзясяты клас. У Мінску выходзіць (ці ўжо выйшла?) першая яго кніжка «Адраджэнне». Напорысты. Апякуецца Разанавым найбольш У. Калеснік, лічыць яго вельмі таленавітым.

**17 кастрычніка.** У Кругелі кажуць: «Така доля, як у небе століа». Ці чуў гэтую прымаўку Алесь Разанаў? Кватэру мае ў Аляксандра Ільяшава. У нас кажуць не Аляксандр, а Ліксандыр. Каларытны чалавек гэты Ліксандыр.

**23 кастрычніка.** Дайшла вестка, што памёр Юліян Пшыбась. Для мяне ён увасабляў сабой класіку і мадэрнасць. Як паэт імкнуўся пашырыць погляд на акаляючае жыццё і на свет, знайсці агульнае, што можа аб’яднаць усіх.

**28 кастрычніка.** У СП сустрэча з Янам Гушчам. Прыйшоў і я. Побач з Гушчам сядзеў Пятрусь Макаль, які яго суправаджае. Ян Гушча — перакладчык і папулярызатар беларускай паэзіі ў Польшчы, неўзабаве мае выйсці Анталогія беларускай паэзіі на польскай мове. Гэта — у Лодзі, дзе жыве перакладчык. Ян Гушча — смелы чалавек. Горкаўскае «человек — это звучит гордо» ён перайначыў так: «Чловек — то бжмі думне, кеды лежы ў трумне». Як у сук! Мне думаецца аднак, што тут з боку Гушчы ёсць нейкае іранічна-гратэскавае перабольшванне. Але ж урэшце мастак мае на гэта права. Права згусціць, завастрыць. Зразумела, у рамкі сацрэалізму такое не ўкладваецца. Успамінаю, як гады два назад па радыё «Свабодная Еўропа» расказвалі пра драматурга Іянеска, які нібыта даказваў, што пяцьдзясят год Кастрычніцкай рэвалюцыі былі пяцьдзесяццю гадамі злачынств супраць чалавека.

**1 лістапада.** Слата. Няспынна, цэлы дзень, марасіў дождж. У ЦК новы сакратар па ідэалогіі — Кузьмін А. Т. Кажуць, пратэжэ Машэрава. Пілатовіч ужо не сакратар ЦК КПБ, а пасол СССР у Польшчы. Прыйшло распараджэнне ад Суслава. Калі чалавек ужо не начальнік, дык пачалі крытыкаваць. Гаспадар, маўляў, але без шырокага кругагляду. Разбурыў Нямігу.

**2 лістапада.** «Маладосць» працягвае публікаваць раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі». Добрыя водзывы. Мы стаялі з Барысам Сачанкам ля веснічак Дома пісьменніка, калі падышоў Чыгрынаў. Барыс Іванавіч жартам сказаў:

— А ты лысееш, Іван Гаўрылавіч.

У адказ пачулася:

— Напішы ты такі раман, і ты палысееш.

Барыс Іванавіч не разгубіўся:

— Я не лысею, каб ты ведаў, таму, што п'ю не гарэлку, а адвар з абляпіхі, адварваю ягады, — парыраваў ён.

Амерыканская пісьменніца Уіла Кадэр сцвярджала (недзе чытаў), што большая частка найболей важнага матэрыялу, які маецца ў распараджэнні пісьменніка, назапашана ім да пятнаццацігадовага ўзросту. «Плач перапёлкі» гэта пацвярджае.

**4 лістапада.** Дзіўлюся з Кулакоўскага — наколькі ён неабыякавы да жанчын. Сямейны чалавек, паважаны ўзрост, а паводзіць сябе, як халасцяк. У кішэні заўсёды мае шакаладку, каб пачаставаць.

Скардзіцца на яго мой візаві Валерый Сяргеевіч: называе яго прозвішча не Лабадо, а Лабада і сцвярджае пры гэтым, што так больш правільна. Трэба будзе з ім пагаварыць.

**7 лістапада.** Быў на парадзе і дэманстрацыі. Усё прайшло, як заўсёды. Некаторыя дэманстранты, выйшаўшы на праспект, былі ўжо на падпітку, гучна крычалі: «Ур-ра!» На трыбуне, сярод членаў Бюро ЦК А. Т. Кузьмін.

Завіталі з Савіцкім у госці да Івана Пятровіча. Пілі каньяк, закусвалі чырвонай рыбай. Марыя Філатаўна гатуе няблага.

Ні пра якую літаратуру не гаварылі.

**8 лістапада.** Апахмяляўся півам. Кажуць, што яго любіў Ленін, асабліва калі жыў за мяжой. Гэта, відаць, было добрае піва, а наша такое, што калі вып'еш, дык губляешся ў здагадках, што гэта было — піва ці проста нейкая вадкасць.

Нешта маркотна. Цешу сябе думкай нейкага філосафа: не бывае чалавечага жыцця без маркоты.

**9 лістапада.** На рабочым месцы. Святы змяняюцца на будні.

Зноў пачуў, у трамваі, вяртаючыся з работы, панамароўскае слоўца «чувак». Адзін аднаму гаварыў: «Мало того, что чувак всего с одним рогом, так еще и с обрезанным».

Што да чаго — не зразумеў.

**10 лістапада.** Вечарам, пасля работы, наведалі музей крыміналістыкі ў міліцэйскім вучылішчы на Варвашэні. Адкрыўся крымінальны свет з яго жахлівымі сюжэтамі. Як падумаеш — няма канца злачынствам. Моцна ж цісне жыццё на клавішы злачынных схільнасцей чалавека, homo sapiensa!

Палкія каханкі — яна і ён. Ён жанаты, яна замужняя. Пайшлі на тое, каб наняць забойцу для сваіх законных — жонкі і мужа. Маса дэталей і фатаграфій, на многіх трупы і кроў. Няўжо кожны чалавек — носьбіт патэнцыяльнага зла? Хіба што так. Чалавек — стварэнне на мяжы. У ім усё спалучана (дыялектычнае адзінства): дабро і зло, рацыянальнае і пазарацыянальнае, канечнае і бясконцае. Талкова заўважыў мудрэц Талстой: людзі — істоты плынныя. Сёння ён такі, заўтра — інакшы. У «Дзённіку» ў Л. Талстога за 1889 год ёсць цікавы запіс: «Как бы хорошо написать художественное произведение, в котором бы высказать текучесть человека, что он один и тот же — то злодей, то ангел, то мудрец, то идиот, то силач, то бессильнейшее существо».

У Андрэя Платонава (апавяданне «Смерти нет») вычытаў думку: «Человек имеет больше свойств, чем полагает Фосс (герой гэтага апавядання): у человека столько свойств, сколько граней в окружности».

**11 лістапада.** Вось і першы снег. Чысты і безабаронны. Хутка растае, жыве адно імгненне, дае халадок і бадзёрасць.

Што было б з намі, каб не прырода?

**13 лістапада.** Артыкул С. Грахоўскага да 70-годдзя Нічыпара Чарнушэвіча ў «ЛіМе» — «Паэзіі радавы».

«Зусім нядаўна жыў сярод нас і больш за сорак гадоў працаваў у беларускай літаратуры сціплы, далікатны, уважлівы Нічыпар Чарнушэвіч. Часам ён прыходзіў на пісьменніцкія сходы. Некаторыя яго нават не ведалі ў твар. Пасядзіць, паслухае і непрыкметна знікне, як і прыйшоў. І кнігі яго не выклікалі бурных спрэчак у друку і на абмеркаваннях. Ён шмат напісаў і вельмі мала надрукаваў. У архіве пісьменніка засталіся вершы, п'есы, кінасцэнарыі.

…Шляхоў Нічыпару Чарнушэвічу давялося прайсці шмат. І ніводнага лёгкага. Ён зведаў смак казённай апекі над дзецьмі бежанцаў, гадамі галадаў у часе імперыялістычнай вайны і рэвалюцыі. З першых дзён Кастрычніка Н. Чарнушэвіч адразу ведаў, куды яму ісці. У Дарагабужы скончыў курсы чырвоных камандзіраў і павёў сваю роту на белапанскіх акупантаў. З баямі дайшоў да Варшавы, там трапіў у палон і на радзіму вярнуўся толькі ў 1921 годзе.

…Потым зноў «шляхі, шляхі» павялі далёка ад дому. Давялося доўга жыць у Вятцы, працаваць у вучэбна-педагагічным выдавецтве Масквы, інжынерам ляснога ведамства, рэдактарам Беларускага тэлебачання. У 1962 годзе выйшла кніга лірыкі Н. Чарнушэвіча «Нясу надзею», у 1966 г. — зборнік «Гаворка дум».

Тыповы шлях беларускага інтэлігента, літаратара».

**16 лістапада.** З часопіса «Нёман» прынеслі машынапісны «Дзённік» рэпрэсіраванага Барыса Мікуліча (1912—1954). Знаёмы з ім па «Выбраным» (1959). Друкаванне «Дзённіка» забараніў Галоўліт, з якім спрачацца цяжка. Непрабівальны. Паспрабаваў гаварыць у аддзеле, але прыхільнікаў не знайшоў, а маёй улады недастаткова. «Дзённік» — апісанне пакут і надзей. Трэба падумаць, што можна зрабіць для Мікуліча.

**17 лістапада.** Упершыню ў гісторыі чалавецтва на Месяц дастаўлены савецкі аўтаматычны самаходны апарат «Луноход—1», кіруемы з Зямлі. Выдатнае дасягненне!

**21 лістапада.** Новы кансультант СП — Мікола Гамолка. Часта сустракаю і кожны раз дзіўлюся, што гэта звычайны чалавек. У дзяцінстве зачытваўся (у газеце «Сталинская молодёжь») аповесцю «За великую трассу», у якой размова ішла пра небяспеку новай вайны, вайны касмічнай. Аўтар п'есы «Бітва ў космасе», пастаўленай у нашым ТЮГу. Гамолка яшчэ і паэт, калісьці хадзіла па руках яго кніжка вершаў «Б'юць куранты». Назва крыху дзіўная: каго яны б'юць — куранты тыя? Няўдалая назва. Цяпер вершаў, здаецца, не піша. А я помню яго радкі:

*На небе зоркі — як цвікі,*
*Такіх цвікоў павек не адарваць!*

Канкрэтна, але дрэнна. Ніхто ж і не збіраецца іх адрываць. Проза яму болей удаецца.

Гамолка — паляшук, вельмі сімпатычны, просты да наіўнасці.

**24 лістапада.** Хадзіў у лазню (на Зм. Бядулі). Стаяў натоўп, бо не было гарачай вады. Знайшоўся нейкі ініцыятыўны чалавек і пачаў званіць у райвыканкам, потым у гарвыканкам. Дамогся, вада пайшла.

Мыліў спіну, па яго просьбе, нейкаму надта худому, ссохламу чалавеку. Па ім можна вывучаць анатомію. Спіна, як пральная дошка. На рэбрах цвёрдая мачалка ажно грукаціць, калі трэш ёю па спіне.

— Чалавеча, што ты худы такі? — не вытрымаў я.

— А гэта камуністы гэтак схудобілі, цела з мяне спусцілі. У лагеры быў…

Мне стала не па сабе: што было б, як бы ён адрэагаваў, каб даведаўся, што я інструктар ЦК.

**27 лістапада.** Дачытаў кніжку М. Гарэцкага «Дзве душы». Даў прачытаць Слава Чамярыцкі. Тэма «дзвюх душ», «двайніцтва» — даўняя ў сусветнай літаратуры (Гофман, Гогаль, Дастаеўскі). Аповесць Гарэцкага пра тое, як у чалавеку змагаюцца паміж сабой супрацьлеглыя пачаткі: «мяккасць» і «калянасць», «пластычнасць» і «цвёрдасць». І ўсё гэта ва ўмовах рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.

**30 лістапада.** У адзінаццатым нумары «Полымя» — аповесць «Сотнікаў» В. Быкава. Раней яе апублікаваў А. Твардоўскі ў «Новом мире». Пілатовіч загадаў зверыць тэксты — беларускі і рускі. Партыйна-літаратуразнаўчы кантроль.

**2 снежня.** Тэксты тоесныя. Тоесныя нават па стылістыцы і мастакоўскім мысленні. Невядома, што з чаго перакладалася, бо адзін аўтар. Адзін тып думання, а мне хацелася знайсці нешта адметнае, беларускае. Быкаў будуе фразу па эстэтычных законах рускага рэалізму. У «Сотнікаве» (і іншых рэчах пісьменніка) адчувальны ўплыў Л. М. Талстога, у прыватнасці яго аповесці «Хаджы-Мурат». Цікавая тэма для даследавання.

**4 снежня.** Чарговая нарада ў загадчыка, які, мяркуючы па ўсім, быў не ў настроі, бо ўся размова звялася да павучанняў. У прыватнасці, ён сказаў:

— У асабістым жыцці і справах, таварышы, мы адлюстроўваем усе паводзіны камуніста — і на рабочым месцы, і дома, і, так сказаць, на вуліцы. Папярэджваю, таварышы, нас усе бачаць, усе за намі сочаць, нам нішто не даруецца. Мая справа папярэдзіць.

— Трэба быць вельмі ўважлівымі, — дадаў Парватаў.

**7 снежня.** Усеагульная цікавасць да кінаэпапеі «Освобождение» рэжысёра Озерава. Уражвае работа кінааператараў, сучасныя кінатэхналогіі (здымкі з верталёта і інш.). Мала яшчэ мы ведаем пра тую вайну. Добра іграюць літаральна ўсе акцёры.

Сталін — ідэалізаваны.

**13 снежня.** Барыс Бур'ян пакрытыкаваў маю рэцэнзію на зборнік А. Куляшова «Сасна і бяроза» за недастатковую ўвагу да аналізу мастацкіх сродкаў. Крытыка правільная, усе мы «недамагаем» на гэты аналіз, хварэем на недастатковасць эстэтычнага разляду твораў. Але мне зрабілася крыху не па сабе. Я ж, так бы мовіць, начальнік. Радавы пераносіць крытыку лягчэй.

Падпісаўся на наступны год на «ЛіМ», «Полымя», «Иностранную литературу» і часопіс «Амерыка». Апошнія два — вялікі дэфіцыт.

**14 снежня.** Паездка цягніком у Магілёў — на здачу спектакля «Баня» па камедыі Маякоўскага. Пазнаёміўся з арыгінальным Аркадзем Маўзонам, які прыехаў ад Міністэрства культуры і спазніўся, нягледзячы на тое, што прыляцеў самалётам. Доўга дабіраўся з аэрапорта, бо чакаў машыну, якую павінны былі за ім прыслаць. Чаму не прыслалі, не ведаю. На спектакль Аркадзь Іосіфавіч з'явіўся толькі пад канец, не ўсё бачыў, але выступаў з велькім апломбам, жэстыкуляваў абедзвюма рукамі. Гаварыў упэўнена, адзначаў недахопы, маючы вопыт, павучаў. Пасля спектакля крыху падпілі, у гасцінічным нумары. Аркадзь Іосіфавіч скардзіўся, што яму не шанцуе па жыцці. За спектакль «Канстанцін Заслонаў» усе ўдзельнікі атрымалі Сталінскую прэмію, апроч яго, аўтара п'есы.

Маўзон мне між іншым чымсьці спадабаўся. Ён неардынарны. Кулакоўскі расказваў, што ён згубіў білет члена Літфонду і напісаў заяву, каб выдалі новы, патлумачыўшы, што стары ён выкінуў разам са смеццем. Нейкая смеласць па-маўзонаўску.

**17 снежня.** На партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў абмяркоўвалася пастанова ЦК КПСС «Аб практыцы правядзення партыйных сходаў у Яраслаўскай гарадской партыйнай арганізацыі». З дакладам выступіў Антон Алешка. Ён цяпер намеснік сакратара партбюро. Выступілі: А. Шашкоў, І. Мележ, П. Пестрак, С. Шушкевіч, У. Юрэвіч, А. Эвентаў, А. Асіпенка. Поўны пратакол.

**18 снежня.** У «ЛіМе» — успаміны Я. Брыля пра польскіх пісьменнікаў Уладзіслава Бранеўскага, Леана Кручкоўскага, Юліяна Пшыбася і інш. Цікава, але ад аўтара ўспамінаў хочацца больш выразных ліній. Пераважаюць чыста акварэльныя мяккія фарбы.

**20 снежня.** Прачытаў у дванаццатым нумары «Полымя» артыкул І. Баса «Палескія пісьмы А. Блока». Ісідара Самойлавіча Баса ведаю і помню. Калісьці ў пару майго студэнцтва ён выкладаў старажытную рускую літаратуру ў Брэсцкім педінстытуце. Тады ён казаў нам, студэнтам, што яго вельмі цікавіць творчасць рускага паэта XIX ст. Івана Іванавіча Гольцмілера (я запомніў гэтае імя), пра якога нічога не вядома.

**22 снежня.** Гэтымі днямі, помніцца, адзначалі дзень нараджэння Сталіна. У народзе некаторыя і сёння сумуюць па Сталіне: «Ён бы навёў парадак!» Мае калегі-апаратчыкі Сталіна не любяць, ён прымушаў працаваць ноччу і наганяў страх. Ходзіць выраз «перамалоць у лагерны пыл».

**23 снежня.** Няма ні мяса, ні каўбас, затое шанцуе ў зімніх відах спорту: фігурысты, хакей, лыжы. Асабліва напружана праходзяць паядынкі з чэхамі.

У кватэры, дзякуй ЦЭЦ, цёпла. Радыятары — гарачыя, не дакрануцца. Праз шчыліну ў покуце паступае з вуліцы паветра, ахалоджвае і асвяжае.

**25 снежня.** Пятніца. Нарада маладых пісьменнікаў у Брэсце, праводзіў Саюз пісьменнікаў. Удзельнікі: Міхась Рудкоўскі, Жэня Янішчыц, Ніна Мацяш, Васіль Жуковіч, Алесь Разанаў і інш.

Нешта з Камянеччыны, дзе я нарадзіўся, няма ці амаль няма вядомых пісьменнікаў. Выключэнне — Плакід Янкоўскі, які нарадзіўся ў Вайской (1810—1872), і мой сучаснік Вася Жуковіч.

Маладым цяжка ў тым сэнсе, што позна нарадзіліся, ужо ўсё апета: рукі, ногі, твар, валасы, плечы — усё. Расліны, дрэвы, пейзаж — усё ўжо было. Сёння паэзія эвалюцыянуе ад лозунгавасці і апісальнасці да філасафічнасці, сталасці думкі.

**26 снежня.** Дзень нараджэння не адзначаў, але ведаю: маю ўжо 33 гады. Кажуць, што чалавечае жыццё складаецца з дзвюх палавін па 33 гады. Адна з іх (не абавязкова першая) бывае лепшая, другая — горшая. А як будзе ў мяне? Ажаніцца? Лейбніц — знаны матэматык і філосаф — пасля працяглага роздуму вырашыў, што калі жаніцца, дык не раней як у сорак гадоў, бо надта важны гэты крок — шлюб. Дачакаўшыся сарака, ён прапанаваў руку сваёй абранніцы, але тая, аказваецца, таксама думала і прыйшла да супрацьлеглай высновы.

**30 снежня.** Завяршаецца год, і думаеш, што там наперадзе. На гэтае пытанне, мусіць, ніхто не адкажа. Бачыш тое, што навокал, але прадбачыць цяжка.

Атрымаў віншавальную паштоўку ад Віталіка з Ленінграда. Успомніў, як калісьці мы з ім і трэцім братам Лёнем шукалі навагоднюю ёлку. Было гэта перад новым, 1950-м годам (дваццаць гадоў назад). Хацелася, каб ёлка на Новы год стаяла не толькі ў школе (я вучыўся ў 6-м класе, Віталік — у 4-м, Лёнік — у 3-м), а і ў нашай хаце. У лес, у Бярэзіну, пайшлі з раніцы, прыхапіўшы сякеру. Бярэзіна не так і далёка. Ішлі гасцінцам да Бабіцкай гары, а там звярнулі ўлева, у лясны масіў і пачалі азірацца, але ёлкі не траплялі. Рушылі ў глыб лесу. Снег у лесе мяккі, пушысты, і навалена яго столькі, што

не прайсці. Хутка змарыліся, але ад мэты не адступалі. Дзень быў без сонца і па-зімоваму кароткі. Не заўважылі як і павечарэла. Пара было вяртацца дадому. Мацнеў мароз. Мы агледзеліся і з жахам зразумелі, што заблудзілі. Вакол усталявалася злавесная, напоўненая нямой, гнятучай пагрозай, цішыня. У які бок ісці — прапановы былі супрацьлеглыя. Мы з Віталікам сталі паміж сабой спрачацца. Кожны даводзіў сваё, свой накірунак, як вяртацца дадому, у якім баку наш Кругель. Скончылася тым, што Віталік пайшоў у адзін бок, а мы з Лёнікам у другі. Давялося паблудзіць, але дадому мы з Лёнікам усё ж такі дабраліся. Я адразу спытаў у мамы, ці дома Віталік. Брата не было, і я расказаў, як мы шукалі ёлку. Было ўжо позна, паднялі родзічаў, вёску і, запаліўшы ліхтары, пачалі шукаць. Прачасалі поле, лес. Усчалася завея. Я, галоўны віноўнік, помню, ад знямогі, фізічнай і маральнай, валіўся з ног. Шукалі да раніцы, і безвынікова.

— Куды ж ты пайшо-оў? — галасіла бедная мама. — Ой, доля мая горкая!..

Крыху адпачылі, забыўшыся сном, і ўжо прадоўжылі пошукі пры дзённым святле, ідучы па слядах. Сляды засталіся: вось ён ідзе, вось спыніўся каля куста, пайшоў далей. Асабліва перажывала мама, баючыся знайсці сына замерзлым. Баялася кожнага куста. Баялася, што задралі ваўкі. На аднаго ў нас напалі ваўкі, дык ён палез на дрэва, але драпежнік паспеў учапіцца яму ззаду за кажух і рвануў так, што пакінуў толькі каўнер ды рукавы. Аднак чалавек на дрэве выратаваўся.

Знайшлі Віталіка ў далёкай лясной вёсцы, ажно ў Робанцы, куды ён прыблукаў, шукаючы дарогі дадому.

Цяпер Віталік жыве і працуе ў Ленінградзе. З’езджу, праведаю!

***Працяг будзе.***





## Казімір КАМЕЙША

### РОДНЫ БЕРАГ

Недзе там, за Сулой,
Між пагорышчаў шэрых,
Ёсць адзін, толькі мой,
На зямлі гэтай бераг.

Посах мой пацяжэў,
Цэлы свет абхадзіў я,
І мяне беражэ
Родны бераг адзіны.

Лепш жывецца ці горш,
Зноў сюды ты кіруеш.
А забудзеш яго —
Ён табе не даруе.

Ён гукаў, ён рыкаў,
Клікаў водарам жытнім,
Ды паўстала рака
Непрыступна, як мытня.

Шлях праз кладку ляжыць.
Але хісткая кладка:
Не чужы? Дакажы!
Пакажыся спачатку!

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя». Цяпер — у альманаху «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кніг прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Ты пусці, я прашу, —
Зачакалася мама.
Я душу пакажу,
Калі пашпарта мала.

Смешна жмурыцца дзень
Светлым вокам нашчадка.
На той бераг вядзе,
Хоць хістаецца кладка.

Зверху птах празвінеў
Залатымі шамкамі:
Там, у хаце, мяне
Толькі сцены чакаюць.

А расце і цвіце
Дрэва ў бацькавым садзе.
Я трымаўся б і сцен,
Каб парог мне не здрадзіў.

Скача ў печы агонь
І страляе вуглямі.
Дрэва роду майго
Час ірваў з каранямі.

Як той ліст, я кружу
Над забытымі снамі.
Што парвана, звяжу
Зноў тугімі вузламі.

Сыпле лісцем амшар,
Засыпае мне вочы.
Так, як хоча душа,
Час чамусьці не хоча.

* * *

Мой бор пашуміць, і суцішыцца,
І будзе маўкліва стаяць.
Як лодка мая калышацца,
Калосіцца доля мая.

О так,
Я хрышчоны пушчаю.
Я пушчу, як мог, бярог.
А што там мне Богам адпушчана,
Ведае толькі Бог.

І сам сёе-тое ведаю.
Як кажа мой дзед лясны:
«Пакончым мы ўрэшце з бедамі,
Ці з намі пакончаць яны».

Ды лепей не трэба пра сумнае,
Пра болькі свае і боль.
Мы добрыя,
Мы разумныя,
За гэта і любіць нас Бог.

Вось пойдзем за мёртвых памолімся.
Хай собяць спакой нам і лад.
На самым зялёным полюсе
Жывем мы з табой, мой брат.

Гадзіннік наш бомкае, дзінькае,
Прыспешвае недзе нас,
Хоць сэрцам, а не гадзіннікам,
Мы свой вымяраем час.

* * *

Сем вёрст марудных тупаў ад шашы,
Напіцаваны сумкамі і стомай.
А ў доме ні адной жывой душы,
Але жыве душа самога дома.

Яна распаліць сонны стаячок,
Дымком салодкім небу памахае,
Ажно ўсміхнецца на дзвярах сучок.
І ён душы набожнай памагае.

Яна ўжо ў сенцах лашчыцца катом,
Звініць вядзерцам ля пліты, жывая,
І ставіць штось вясёлае на стол,
І тут жа лёгка ў чаркі налівае.

Нас гэтым не здзівіць і не ўгнявіць —
Здарожанаму варта ўсё ж сагрэцца.
Жыве мой дом, і ты, душа, жыві,
Хай нават і не соладка жывецца.

Сцяну і нас, сагрэтых за сцяной,
Асыпаў час сваёй сівою пудрай.
І ўсё гэта прыдумана даўно,
Да нас яшчэ,
Але, глядзі, як мудра.

І тых, што сном наймоцным сёння спяць,
Разбудзім — сёння ўсім цяпла хапае.
Паслухайце:
маснічыны скрыпяць!
Сам час ля нас задумліва ступае.

* * *

І прысніў, і паверыў,
Потым сон даганяў.
Ёсць там хата і дзверы,
Што я сам адчыняў.

Дагараюць паленцы,
Печ вясёла гудзе.
Там сядзіць пры акенцы
У навушніках дзед.

Хай дурнота ўся спрахне.
Аж да самай начы
Свет і злева, і справа
У слухаўкі крычыць.

Свішча ён, і галосіць,
І бяжыць наўздагон,
І прысуд свой выносіць:
Слухай толькі яго.

Можа, ён і не хлусіць.
А як хлусіць — не ён.
Пра чужое балусіць
Так, нібы пра сваё.

Зноў крычыць, бы ў прыпадку,
Зноў скуголіць шчанём.
А давай мы спачатку
З роднай хаты пачнём.

Косяць? Ведаю — косяць
У маіх Навіках.
А якую хоць восень
Нам з бабуляй чакаць?

Што там тоіць навука?
Калі гэта сакрэт,
Ты скажы мне на вуха,
Незгаворлівы свет.

Мала ў свеце парадку,
Не табе мне казаць.
Мо пара ўжо манаткі
У той, іншы, збіраць?

Што палохаць старога?
Ну які ў яго век?
Не адкажа нічога —
Хай яшчэ пажыве.

Свет пра беды шчабеча,
Пра чыесьці грахі,
А цябе, чалавеча,
Ён не чуе — глухі...

* * *

Басанож па расе
Прабягуся уранку,
А вясковы сусед
Пасмяецца на ганку:

— Ты, дзівак гарадскі,
Ты мяне не здзіўляеш.
Гэта ж ты перад кім
У вяскоўца гуляеш?

А цыгарка ў яго
Дагарэла да вуснаў.
І раса, як агонь,
Так пячэцца спакусна.

То нагоніць слязу,
То кальнецца ўспамінам.
Я і памяць разуў
За якуюсь хвіліну.

Срэбрам сцелецца след,
І сцяжынка віхляе.
Супакойся, сусед.
Ну хіба я гуляю?

Хай нап’юцца расы
Мае вочы і ногі!
Я зямлі гэтай сын.
Божа, як гэта многа!..

Ты, зямляк, памаўчы,
Не судзі мяне строга.
Госцем можаш лічыць,
Не прымі за чужога!..

* * *

Смуткам восеньскіх дзён
Пушчы сэрца працята.
Абышоў паштальён
Сёння маміну хату.

Час, нястомны хадок,
Той, чужой, самапіскай
Зноў закрэсліў радок
Пенсіённага спіска.

Той жа самай рукой
Ён да неба прыпіша
І душу на спакой,
І здранцвелую цішу.

Сіні дожджык імжыць,
Плача ў вокнах ад ранку.
Кот прамоклы чужы
Штось мурлыча на ганку.

Клічу ў хату: «Заходзь,
Госць мой.
                    Сумны ты штосьці?»
Я і сам тут як госць,
Ды і ўсе мы тут госці.

Паштальёна гукну,
Калі будзе вяртацца:
— Што ж ты хату мінуў
І забыў прывітацца?

Што ж ты, брат лістанос,
Так пратупаў няўцешна?
Зноў на двор, зноў на лёс
Шлях твой стаў карацейшым.

Мамін след, мамін стогн
Даганяць мне навошта?
Не прымае лістоў
Пражытага пошта.

## СТАРЫЯ ХОДЗІКІ

Добры дзень, мой коце-браце,
Чорны, хітранькі з вачэй!
Як ты там, на цыферблаце,
Не заблытаўся яшчэ?

Ты спяшаўся, бег у вечнасць —
І не сорамна табе? —
Проста з раніцы ды ў вечар
Адным махам перабег.

Сам я, цёрты, часта біты,
Аднаго ў жыцці хацеў,

Каб з тваёй жывой арбіты
Не сарвацца, не зляцець.

Не сарваўся, дзякуй Богу,
За табой услед іду.
Заўтра ў новую дарогу
Тваe стрэлкі павядуць.

Ты іх лёгка — вус да вуса —
На ўсю вечнасць развядзеш.
А ў мяне свая спакуса —
На гульню тваю глядзець.

## РАНІЦА

Камусьці — свята,
Камусьці — будзень.
Не спіцца толькі
Касе і вудзе.
З чароту качар
Ляціць стралою,
І паўтараецца ўсё
Старое.
З расы ў гнядога
І хвост, і грыва.
І ўсё адкрыта,
І ўсё без грыму.
Табе спакою і сонца,
Вёска!
А мне на памяць —
Зары палоска...

## НАЧНЫ ЭЦЮД

Выплываў з-пад аблок маладзік,
Заглядаўся ў маё вядзерца.
Доўга плаваў і плакаў адзін,
Так падобны да сэрца.

Аніякіх на зрухі прыкмет.
Што ён можа, лядзяш, напрарочыць?
Толькі ўсё ж скалыхнуў гэты свет,
У вядзерцы заўважылі вочы.

Бразнуў недзе замок і замоўк,
Паўстагоддзя — не менш — прамінула.
Калыхнулася неба само
І адразу душу ўскалыхнула.

## ЗВЕСТАВАННЕ

На брылі воданапорнай вежы
Бусел звеснаваў сабе гняздо.
Час бяжыць, струмень булькоча свежы,
І не пахне ніадкуль бядой.

І за дзень яшчэ да звеставання,
Калі ўсё ад сонца аж плыло,
Прыляцела беленькая пані,
Чарнаватым бліснуўшы крылом.

А за ёй і пан чырвонай глюгай
Весела зямлю пераждагнаў.
А пасля кружыўся —
круг за кругам,
Прыглядаўся: ці яна, вясна?

Ну а хто ж яшчэ?
Яна, вядома.
І паходка тая, што была.
Сенам, заляжалаю саломай
Пахне нават вецер ля крыла.

Прыглядайся.
Мы яшчэ пабачым,
Што ты заклякочаш па вясне,
Колькі новых галасоў дзіцячых
Ты, скупы, нам з-пад крыла шпурнеш.

Клекачы! Хай крумкачы зайздросцяць,
Ёсць яшчэ ты, белы, у мяне.
Клёкат твой чуваць і на пагосце,
І ў чужой далёкае вясне.

Родны мой, і ў радасці, і ў скрусе,
І калі пятлёй сціскае зло,
Толькі да крыла твайго цягнуся,
Хоць надзеі мала на крыло.

* * *

За ракою Перакуль,
Дзе мне стол рыхтуе вечар,
Квасяць,
вараць
і пякуць,
Ажно трэскаюцца печы.

За ракою Перакуль
Пахне кропам і каляндрай.

Каўбасою на шастку
Закруціўся дзень калядны.

Сеецца сухі сняжок,
Нібы вея аржаная.
І сусед свой кажушок
Трэці дзень не распранае.

Сесці нам за стол пара,
Хоць без нас ён не астыне.
Ды няма гаспадара,
Не чуваць і гаспадыні.

А яны жылі-былі.
Не крыўдуйце толькі, госці,
Стол накрылі і сышлі,
Спяць даўно ўжо на пагосце.

Падаліся нацянькі,
Не пакрыўдзіўшы нікога.
Хоць бы клуначак які
Прыхапілі на дарогу.

Час зацяты, як куркуль,
За гады хвілінай плаціць.
...За ракою Перакуль
Цёпла мне ў бацькоўскай хаце.





**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ**

# СЯСТРЫЧКА

*Апавяданне*

*Г. І. Бяляй,*
*ветэрану Вялікай Айчыннай вайны, прысвячаецца*

У шпіталі Ганна звычайна прачыналася ад аднаго і таго ж страшнага сну: нямецкіх самалётаў было ў небе столькі, колькі на Палессі па вясне чорнага варання, а з неба няспынна сыпалася і сыпалася смерць. Ворагі люта насоўваліся, бамбілі і абстрэльвалі калоны савецкіх войскаў, якія адступалі на ўсход. Вакол — тысячы бежанцаў, абозы з параненымі. І яна, маленькае дзяўчо, кожнага хоча ўратаваць…

Сёння ёй прыснілася санчасць, куды дзяўчына патрапіла адразу пасля заканчэння медвучылішча. Размяшчалася яна недалёка ад каманднага пункта палка, у прылеску. Толькі што з'явіўся пасыльны — туды тэрмінова выклікалі іх начальніка, капітана Сідарцова.

За старшага застаўся фельчар Быстроў — невысокі круглячок-мужчынка з хітрымі вочкамі. Яго ў палкавой санчасці чамусьці не любілі. Былы калгасны ветэрынар мала таго, што быў няветлівы да іх, маладзенькіх медсястрычак, дык увесь час бурчэў: і тое не так робяць, і гэта не так. Чапляўся без прычыны і да самай малодшай, ёй толькі нядаўна споўнілася шаснаццаць, — Ганны. Але за дзяўчыну аднойчы заступіўся Сідарцоў. Ваенурач пахваліў яе за старанасць. А Быстроў, наадварот, пацярпеў ад начальства: атрымаў вымову. За неахайнасць. На дзяўчо з тае пары займеў крыўду. Праўда, больш не прыдзіраўся, не рабіў ёй заўваг. Убачыўшы яе, толькі чмыхаў носам і адварочваўся.

Ганне снілася, як надвячоркам, калі адсутнічаў начальнік санчасці, немалады вусаты санінструктар прынёс на сабе з роты непрытомнага маладога салдата.

---

*__Гаўрыловіч Уладзімір Мікалаевіч__ нарадзіўся 30 жніўня 1967 года ў вёсцы Вятчын Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1991). Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Вятчынскай сярэдняй школе, дырэктарам Бялёўскай СШ у Жыткавіцкім раёне. Цяпер — галоўны рэдактар раённай газеты «Новае Палессе», старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі».*

*Аўтар кніг прозы «Споднія яблыкі» (1999), «Забранае шчасце» (2001), «Глыбокія карані» (2001), «На мяжы» (2003), «Плата за каханне» (2007) і публіцыстыкі «...Дзе над горадам лунаюць буслы» (2000), «Крокі па роднай зямлі» (2005), «Запрашэнне» (Швейцарыя, 2007) і інш.*

— Там… бой пачаўся… — толькі і паспеў паведаміць ён рыжаму фельчару і зусім юнай медсястры, што якраз аказалася побач, ссунуў з плеч параненага на насілкі і знік, нібы вецер.

Фельчар, які дагэтуль бачыў нямала смярцей, збялеў. Маладзенькай медсястры таксама стала кепска, хоць яе рукі яшчэ некалькі хвілін таму былі ў крыві — перавязвала такога ж юнага лейтэнанта. Але гэтага хлопца, які толькі пачынаў жыццё, было асабліва шкада. Гады на два, не больш, ён выглядаў старэйшым за яе.

Кірпаты салдацік, да якога час ад часу вярталася прытомнасць, бездапаможна лыпаў вачыма, стагнаў ад нясцерпнага болю і зноў трапляў у небыццё. Рука яго была перабіта вышэй локця. Яна ледзьве трымалася на шматку скуры, а вышэй быў накладзены жгут.

Хвіліны праз дзве салдацік зноў расплюшчыў вочы, Быстроў жа і Ганна ўсё яшчэ разгублена пазіралі на яго, не ведаючы, што рабіць.

— Таварыш Быстроў, дапамажыце! — раптам скамандавала медсястра, авалодаўшы сабой. Фельчар незадаволена чмыхнуў, але падпарадкаваўся, і паранейшаму разгублена лыпаў вачыма, у якіх застыла здзіўленне ад рашучасці гэтага дзіцяці — медыцынскай сястры.

Яны перанеслі параненага ў палатку. Ганна хутка зрабіла яму патрэбныя ўколы. Краі пашкоджанай скуры рашуча апрацавала ёдам, і толькі тады зірнула на фельчара. Ён, збялелы, стаяў побач. Вачыма паказала, каб моцна трымаў за плечы няшчаснага салдаціка. Той быў у шокавым стане. І раптам ачуняў. Агледзеўся. Відаць, зразумеў, што будзе з ім. Яго вочы, васільковыя, глыбока пасаджаныя, прасілі ў яе, яшчэ зусім дзяўчынкі, літасці.

Ад гэтай нямой просьбы ў Ганны задрыжэлі рукі. Але яна прымусіла сябе супакоіцца. Дастала з сумкі нож. Апрацавала яго ёдам і затым рашуча аддзяліла руку салдата. Яна ведала, яе вучылі, што рабіць у такіх выпадках. Туга перавязаўшы рану, злёгку адпусціла жгут, дала трохі адпачыць руцэ, а потым зноў зацягнула яго. Салдат збалелымі вачыма з хвіліну глядзеў на яе з дакорам, потым зноў страціў прытомнасць.

— Усё… — ледзь чутна прашаптала яна і выцерла хусцінкай свой лоб, які густа пакрыўся потам.

— Ну, сястрычка…— толькі і змог вымавіць ашаломлены фельчар. Відаць, хацеў пахваліць яе, але слоў не хапіла.

— Са жгутом павінен знаходзіцца, каб не развілася гангрэна, не больш як дзве гадзіны?.. — быццам правяраючы свае веды, разгублена спытала дзяўчына ў Быстрова.

— Трэба тэрмінова ў медсанбат… — ачомаўшыся, пагадзіўся фельчар, і раптам упершыню за гэтыя месяцы ўсміхнуўся ёй. І чамусьці пачырванеў.

Яны разам перанеслі непрытомнага салдаціка на стары воз, на якім ляжалі іншыя цяжкапараненыя. Фельчар яшчэ раз неяк вінавата ўсміхнуўся сястрычцы і моўчкі сышоў. Відаць, збіраўся загадаць, каб параненых хутчэй павезлі ў медсанбат — сам жа пакінуць без нагляду санчасць не мог.

Ганне стала кепска: яе затрэсла, хістала. Нясцерпна балела галава. Аднак дзяўчына прымусіла сябе вярнуцца ў палатку, дзе на століку засталася ляжаць акрываўленая чалавечая рука.

На вочы наплывалі слёзы. Але дзяўчына змагла-такі зрабіць тое, дзеля чаго сюды вярнулася. Ліхаманкава абгарнула руку бінтамі і, выйшаўшы з палаткі, пайшла да недалёкага хмызняку. Там выкапала лапаткай невялікую ямку, з бояззю ссунула туды белы скрутак і хуценька прысыпала яго зверху зямлёй. Калі ўсё было скончана, дзяўчыну званітавала. Як крыху стала лепей, азірнулася: Быстроў стаяў каля падводы і глядзеў на яе. Загадкава ўсміхнуўшыся, скамандаваў, нарэшце, возчыку рухацца…

Яна застагнала ад болю, нібыта самой толькі што ампутавалі руку. Не расплюшчваючы вачэй, паварушыла пальцамі. Не, на месцы левая і правая… Цяжка ўздыхнула. Зразумела, дзе яна. Ледзь не заплакала. Значыць, жывая. Жывая, пасля ўсяго кашмару, што адбыўся з ёю за гэтыя некалькі месяцаў. У вушах дагэтуль чуўся свіст, хаця ж кантузія праходзіла, і яна стала лепей чуць на правае вуха, на якое, здавалася, аглухла назаўжды. Але ж — жывая…

— Ну, што, гаротная, прачнулася?

Ганна расплюшчыла вочы. Каля яе на белым табурэце сядзела немаладая паўнатварая санітарка. Ганна ўспомніла: страціла прытомнасць на чыгуначнай платформе. Мабыць, яе адтуль і даставілі ў шпіталь. Колькі яна тут ляжыць?

— Як вас завуць? — спытала Ганна ў жанчыны, якая глядзела на яе з пяшчотай.

— Цёткай Верай мяне заві, дзіцятка Божае... — усміхнулася тая.

— А цябе як матуля звала?

— Ганначкай…

— Вось і я цябе так буду зваць, — Ганначка? Добра?

— Добра, цёць Вера… — Ганна спрабавала ўсміхнуцца сасмяглымі вуснамі, але ў яе нічога не атрымалася.

— Што ж ты выцерпела, галубка? Ай-яй-яй… Яшчэ б у лялькі гуляць, а столькі, відаць, нагледзелася… Так стагнала, дзяўчыначка, так стагнала, аж страшна… От ліха, гэтая вайна…

— А які сёння дзень? — Ганна праз сілу паспрабавала ўсміхнуцца ёй краёчкам вуснаў.

— Чацвер, дачушка, чацвер, мілая. Сярэдзіна лістапада, лічы, мінула. Трэці дзянёк ты ў нас ужо. Абход быў, ты спала. Ваенурач забараніў цябе будзіць. Сказаў, пасля яшчэ раз прыйдзе. Добры ён, наш Гаўрылавіч. Ды што гэта я загаварылася? Давай я цябе крупнікам пакармлю…

— Я не хачу есці… — стомлена прамовіла дзеўчынёха і заплюшчыла вочы.

— Табе ж трэба, такая ты худзенькая. Калі не будзеш есці, то доўга будзеш у ложку валяцца, у цябе вунь рэбры свецяцца… — завохкала санітарка.

— Можа, лыжку супу…— згадзілася, нарэшце, хворая, зразумеўшы, што жанчына ад яе не адстане.

— Давай, дзяўчыначка, лыжачку, другую…

Нішчымны, вадзяністы супчык-крупнік ёй падаўся вельмі нясмачным. Ды і глытаць было цяжка. Дзяўчына папярхнулася. Нейкія тры лыжкі толькі і здолела праглынуць. Захітала галавой, што больш не хоча. Санітарка не настойвала.

— Добра і гэта. Перадыхні, маленькая. Перадыхні, а я пакуль скажу ваенурачу, што ты, дзякуй богу, крыху ачомалася…

Санітарка хуценька пайшла, а хворая заплюшчыла вочы і зноў правалілася ў сон. Ён вырываў з яе бязвольнай памяці тое, што яна хацела б забыць…

Ганне сніліся чорныя лясы Чарнігаўшчыны. Чаму яны ёй здаюцца чорнымі? Лясы такія ж, як і на яе радзіме — густыя, зялёныя… Так, яна памятала: дома такі ж змешаны лес — сосны, вольхі, елкі, бярозавыя гаі, арэшнікі. Чаму ж яны чорныя? Яна шукала адказу і не знаходзіла. Чаму яе не пакідаюць у спакоі чорныя лясы? Чаму так даймаюць, мучаць? Што гэта — знак нейкі?..

Тут, у гэтым чорным лесе — такі знаёмы, крыху прыглушаны голас кампалка Іванова. Побач з ім — камісар, начальнік санчасці, сёстры, фельчары. Як яна ўзрадавалася ім у сне — знайшла ж, знайшла ж сваіх, родных!..

— Падраздзяленні Паўднёва-Заходняга фронту апынуліся ў цяжкім становішчы — немцы бамбяць днём і ноччу. Мы не ведаем, на жаль, дзе лінія

фронту. Адчуванне такое, што ворагі насядаюць адусюль… — Іваноў вельмі сур'ёзны. Мяшкі пад вачыма, даўно не спіць.

Усе згодна ківалі галовамі, згаджаючыся: на ўсход — немцы, на поўдзень — немцы. Увесь час адступаючыя войскі знаходзіліся ў руху, і ўсюды натыкаліся на ворагаў.

Камбат працягваў:

— Сувязь з тылам адсутнічае, таварышы. Зразумела, што мы ў акружэнні: пасыльныя, адпраўленыя ў штаб дывізіі, медсанбат і да суседзяў, не вярнуліся. Што з імі — няцяжка здагадацца. Мы аказаліся ў вельмі цяжкім становішчы. У нас трыццаць восем параненых, якіх мы павінны выратаваць. Іх трэба вывезці. А для гэтага патрэбен добраахвотнік...

Усе апусцілі галовы, маўчанне зацягнулася.

Ганна паглядзела на Быстрова: а чаму ён маўчыць? Гэта ж яго абавязак — суправаджаць параненых у шпіталь. Няўжо спалохаўся? Эх ты, мужчына!

Нечакана для сябе дзяўчына ўстала і сказала:

— Я паеду з параненымі. Я камсамолка, і мне можна давяраць…

— Малайчына, дачка…— Іваноў падышоў да яе і моцна паціснуў руку. — Збірайся. І ніякай панікі, таварышы…

Хутка сабралі абоз. Падводы, якія ўзялі недзе ў навакольных вёсках, былі старыя. Ды і то іх аказалася толькі шэсць. Цяжкапараненых па тры чалавекі паклалі на воз. Хто мог сядзець, сядзелі вакол ляжачых. «Лёгкія» ішлі побач. Выдалі сухі паёк. На трое сутак.

Камандзір палка, камісар і начальнік штаба правялі абоз да ўзлеску. Там ёй зрабілі інструктаж: нікому не гаварыць, з якой часці, дзе дыслацыруецца яна, хто камандзір.

Рушылі. Але куды, хто ведае? Вакол — чорны, чорны лес. Чаму, чаму ён такі чорны, гэты страшны лес?..

— Дачушка, што ж з табою? Ці ты зноў трызніш? Доктар, ёй зусім кепска… — праз сон чуўся голас санітаркі. Цётка Вера вохкала. Доктар намацаў пульс і пасля зрабіў аслабелай дзяўчыне ўкол.

— Адваявалася, мабыць, наша сястрычка… — уздыхнуў ён. Ганна чула ўсё, старалася расплюшчыць вочы, але не магла, сілы пакінулі яе. А ёй так хацелася запытацца: чаму, чаму ён так кажа? Хто даў яму права так казаць? Не верыць ёй, Ганне? Яна ж — камсамолка! Няўжо яна, такая маладая, больш не вернецца ў сваю санчасць? А як жа яны будуць, яе параненыя, без яе?

І зноў правалілася ў трывожны сон. Тыя ж чорныя лясы… Чаму яны чорныя? Няўжо пачарнелі, як і людзі, ад бяды, што прыйшла на іх зямлю? Ну, каб хто толькі адказаў, чаму такія чорныя гэтыя лясы?..

Цэлы дзень блукалі па дарогах, але медсанбата там, дзе паказваў яго на карце начальнік штаба, не аказалася. Яна сказала, што трэба заначаваць на ўскрайку нейкай вёскі. Возчыкі-сяляне і лёгкія параненыя, пакуль медсястра рабіла перавязкі цяжкапараненым, згатавалі ў вядры кашу з грэчневага канцэнтрату. Ездавыя знайшлі калодзеж і прынеслі вады.

Ганна не адыходзіла ад аднаго цяжкапараненага. У яго ў грудзях усё хлюпала. Дзяўчына разумела, што патрэбна тэрміновая аперацыя. Салдат цяжка дыхаў, і медсястра зрабіла яму ўкол камфары. На другі дзень шляху бедалага памёр. Нібыта назло неба зацягнула чорнымі хмарамі, а пасля доўга церушыў дождж.

Салдата пахавалі на вясковых могілках. Магілку выкапалі неглыбокую, сапёрнымі лапатамі. На фанернай шыне алоўкам напісалі прозвішча нябожчыка і бінтам прывязалі да палкі. Паехалі далей.

У роспачы некалькі дзён Ганна кідалася з параненымі па запруджаных войскамі дарогах. Ёй ніяк не ўдавалася знайсці які-небудзь медсанбат ці шпіталь.

Усе машыны былі загружаны параненымі, ніхто не хацеў яе і слухаць. Адны паварочвалі направа, другія — налева, а там, дзе ўзнікаў затор, — абавязкова з'яўляліся варожыя самалёты і пачыналі бамбіць… Як ёй хацелася плакаць! А яшчэ гэты чорны лес, здавалася, праследаваў яе…

Вечарам, на чацвёрты дзень, абоз пад'ехаў да нейкага населенага пункта. Збоку быў разбіты масток: калёсы па ім неяк праязджалі, а машыны — не. Тут стаяла калона, машын было вельмі многа. Шафёры цягалі калоды — рабілі пераправу.

Ганна раптам убачыла, што да калоны пад'язджае легкавік. Рашэнне прыняла імгненна, адчайна. Яна папрасіла ў параненага лейтэнанта запалкі і накіравалася туды.

З машыны выйшаў шафёр, астатнія сядзелі на сваіх месцах. Медыцынская сястра ведала загад: ні ў якім разе ў калоне не запальваць агню, але інакшага выйсця, каб яе заўважылі і паслухалі, не знайшла. Чыркнула запалкай. Бліснуў кволенькі агонь.

Адразу ж адчыніліся дзверцы машыны і адтуль выйшлі двое. Пачуўся злосны вокліч:

— Навошта, баец, парушаеце загад?! Вы ж дэмаскіруеце калону! За гэта…

— Дазвольце далажыць. Я адказваю за гэты абоз. Суправаджаю трыццаць сем параненых. Адзін у дарозе памёр. Перавязкі рабіць няма чым. Прадукты закончыліся. Коні прысталі. Чацвёртыя суткі не ўдаецца знайсці ні медсанбата, ні шпіталя...

— Ваш нумар часці, прозвішча камандзіра, званне…— чаканіў словы адзін з іх, высокі.

— Я не маю права гэта сказаць. Ваенная тайна… А маё званне — малодшы сяржант, калі гэта так важна… — не спалохалася Ганна, чакаючы прысуду.

Адзін з іх, відаць, камандзір, як зразумела дзяўчына, загадаў ад'ютанту разабрацца — і праз паўгадзіны ўсе параненыя былі размешчаны па аўтамашынах.

Сястрычка развіталася з кожным салдатам. Зрабіўшы сваю справу, яна вярнулася да аўтамабіля, дзе застаўся той высокі камандзір. Ён убачыў яе і выйшаў з машыны насустрач.

— Ну, малодшы сяржант, а ты маладзец! Перадасі гэтыя словы свайму камандзіру.

Яна стомлена ўсміхнулася і перапытала:

— Ад каго?

І той у адказ рассмяяўся:

— А гэта, дарагая мая, ваенная тайна…

Раніцай пачалася бамбёжка. Дзіва: чорны лес выратаваў, схаваў іх да ночы. Як толькі немцы перасталі з неба сыпаць бомбы, возчыкі раз'ехаліся дадому. А медсястра з радавым дзядзькам Яшам паехала шукаць свой полк, хаця не ведала, дзе яго цяпер шукаць…

— Трэба, дачушка, есці, набірацца сілы. Ты ж паглядзі, што ад цябе засталося. Гэта ж трэба, і сарака кілаграмаў нямашака… — добрая цётка Вера сёння ёй дзесьці знайшла казінага малачка. — Табе набірацца сілы трэба, дзяўчо. Казінае малачко мёртвага падымае… Гэта ж трэба такое перажыць… Нехта з тваіх акружэнцаў прыходзіў. Цябе пытаўся. Ты трызніла. Ваенурачу расказаў, якая ты геройская дзеўка. Малая, а смелая… І голад табе нішто, і балоты, і халодныя дажджы, выйшла з акружэння. Слава богу, да нас выбілася, а цяпер на ногі ў шпіталі цябе хутка паставім …

— Цёць Вера, а ў якім я горадзе? — Ганна крыху ачуняла і паспрабавала прыўзняць галаву.

— То ж у тульскай ты старонцы, дзіцятка Божае… Горад Яфрэмаў. Чула пра такі? А сама ж, казалі, з Беларусі будзеш?

— З Палесся. Паляшучка я…

— Добрыя людзі — беларусы. Вельмі добрыя. Працавітыя. Вунь у нас лейтэнанцік паранены ляжаў. Як пайшоў на папраўку, то ўсё нам у шпіталі дапамагаў, пакуль не адправілі на фронт. Шкадавалі мы яго, каб галаву не склаў. Беларус таксама. Ці не з Гомеля, здаецца, родам. Добры хлопец. Табе б такога мужа, дзеўка. Каб мірным даваенным часам… Але да гэтага, мабыць, далёка. Прэ фашыст… Пі малачко, сардэчная, падыме яно цябе на ногі. І яшчэ бульбіначку з'еш… Згаладася ты.

— Я, здаецца, напілася… А есці не хачу… — Ганна ледзьве знайшла сілы, каб гэта прамовіць. — Я пасплю яшчэ, цётка Верка, можна?

— Паспі, мілая. А як прачнешся, паспрабуем трохі пасядзець на ложку, а можа, дасць Бог, паходзім сёння з табою. Ваенурач загадаў, каб цябе, як лепей стане, вадзілі абавязкова…

— Я не змагу…

— Зможаш, міленькая. Усё зможаш. Цяпер табе лепей будзе, — усміхнулася санітарка і сказала цішэй. — І вось што, дачка… Тут быў капітан. Цікавіўся табой. Я яго даўно прыкмеціла — часты госць у нас. Прыйдзе яшчэ. Дык думай, што яму сказаць. Хай немач міне цябе, дачушка…

Навіна ўзрушыла Ганну. Значыць, правяраюць. Што ж, так і павінна быць. Яна не баялася гэтай сустрэчы.

Але ж заснуць Ганна цяпер не змагла. Думала пра чорны лес і па-ранейшаму ніяк не знаходзіла адказу: чаму ў яе снах ён чорны, а не зялёны? Навошта ўвогуле так часта ёй сніцца ўсё, што перажылося за апошнія некалькі месяцаў? Чаму яна не можа нічога забыць?

Доўга ляжала з расплюшчанымі вачыма. Пазірала ў столь. Чамусьці наплыло на памяць, як у першыя дні вайны з Мазыра ў Кіеў адпраўляўся параход, і іх, пяцёра дзяўчат — новаспечаных медсясцёр, вызначылі суправаджаць параненых. Параход быў трохпалубны, белы, з велізарнай трубой. Параненымі занялі ўсе каюты, усе праходы і палубы — іх было больш як трыста чалавек. Пагрузілі прадукты, а таксама судны (вуткі), бінты, вату, жгуты. Такіх суднаў, якія называліся вуткамі, яна ніколі раней не бачыла, аказваецца, увесь гэты інвентар быў выраблены для працы ў палявых умовах.

Параход быў відавочна перагружаны, таму ішоў павольна. Усю ноч медыцынскія сёстры кідаліся з каюты ў каюту, па палубах. Параненыя бесперапынку стагналі. У многіх хутка макрэлі павязкі, іх трэба было падбінтоўваць. З усіх бакоў чуліся просьбы: таму трэба судна, гэтаму… Усе параненыя — хлопцы маладыя, і сястрычкам спачатку было сорамна сцягваць з іх штаны і дакранацца сваімі рукамі. Неўзабаве ўжо было не да сораму. Хутка ў дзяўчат з'явіліся словы з мацярынскага лексікону: «міленькі», «дарагі», «патрывай крышку», «цяпер усё будзе добра»… Пад раніцу яна паднялася на палубу — навокал ужо светла, а думала, што ўсё яшчэ вечар — не заўважыла нават, як мінулася ноч.

На досвітку наляцелі нямецкія самалёты, вакол пачалі ўзрывацца бомбы. Магутныя хвалі шпурлялі параход з боку ў бок, але ім пашчасціла: бомбы падалі міма. Потым капітан падвёў параход да берага, хтосьці насек галінак, і санітаркі з лёгкімі параненымі замаскіравалі імі палубы. Лес тады быў яшчэ зялёны, яна гэта добра памятае…

Увесь шлях да Кіева заняў больш як тры дні. На чацвёртыя суткі іх сустрэў «плывучы шпіталь». Катары асвяцілі параход пражэктарамі, і санітары забралі ўсіх параненых, а іх, медсястрычак, высадзілі на беразе Дняпра побач з украінскай сталіцай.

Вярнуліся дзяўчаты ў Мазыр катарам праз тыдзень. Горад было не пазнаць: людзі засмучаныя, усюды чуецца плач, кожны дзень бамбёжка. Яны пайшлі ў вучылішча, дзе тыдзень назад ім афармлялі дакументы, а там ужо сядзіць зусім іншы камандзір, фарміруе новы батальён. Знаёмыя мазырскія дзяўчаты разышліся па хатах, а яна праціснулася да гэтага камандзіра і распавяла аб сабе, папрасілася на фронт. Ён праверыў дакументы, нешта запісаў у блакнот і сказаў, каб Ганна садзілася ў машыну. Вечарам яна была ўжо ў санчасці стралковага палка…

Яна раптам усміхнулася краёчкамі сасмяглых вуснаў. Чамусьці згадала фельчара Быстрова. Ён усё ж мусіў расказаць начальніку санчасці, калі той вярнуўся назад: і як яна, Ганна, адрэзала таму маладзенькаму салдату руку, а пасля закапала яе, і як яе ванітавала і як яна плакала, нібы па блізкім чалавеку, над гэтай рукой. Сідарцоў пры ўсіх пахваліў яе: «Малайчына, толькі не палохайся больш і не хвалюйся…»

Задумалася пра сваіх: дзе ж ты дзеўся, дзядзька Яша? Дзе вы, таварыш капітан Сідарцоў? Дзе ж вы, дзяўчаты-медсёстры з санчасці палка? Што з вамі сталася цяпер? Ці, можа, адступленне закончылася, і яе аднапалчане гоняць фашыстаў назад, у іх логава? Шкада, што без яе…

Раптам Ганна заснула. Ёй снілася высокае сіняе неба. Такога неба, здаецца, яна ніколі дагэтуль не бачыла. Толькі дзе ж падзеліся людзі? Чаму яна апынулася пад гэтым дрэвам, якое не мела ніводнага лісточка? А на галінах віселі чыесьці вантробы і шматкі ад вопраткі. Па абвугленым ствале цякла чырвоная кроў. Вочы выядаў дым.

Ганна памацала свой жывот — цэлы, значыць, яе толькі кранула… Галава кружылася. І сэрца тахкала, быццам хацела выскачыць з грудзей. Дзяўчына сабрала ўсе сілы і, хістаючыся, паднялася-такі на ногі. Стаяла доўга, не разумеючы, дзе яна. Навокал — дзіўная цішыня. Аж страшна ад такой цішыні.

Мясціна была ёй незнаёмая. Побач валялася пераламаная аглобля і раскрышанае кола — усё, што засталося ад падводы. Дзядзькі Яшы не было нідзе. Ганна зразумела, што з ім адбылося самае кепскае, і заплакала.

Непадалёку стаяла адзінокая белая хата-мазанка, і дзяўчына, хістаючыся, паціху дабралася да яе. Слёзы цяклі самі па сабе — яна не магла іх спыніць. Так крыўдна, несправядліва ўсё складваецца. Куды цяпер ёй адной падацца? Дзе шукаць сваіх? Ці далёка яны? А што, калі немцы ідуць следам? Не, яна не павінна патрапіць у палон…

З хаты выйшла немаладая жанчына-ўкраінка. Гаспадыня хутара дала дзяўчыне кавалак хлеба і кубак малака, штосьці з хваляваннем гаварыла, аднак Ганна нічога не чула. Толькі цяпер зразумела, што яе кантузіла. Ганну пачало трэсці, было вельмі холадна. І немаладая кабета пашкадавала няшчаснае дзяўчо, якое спрабуе яшчэ ваяваць, дала ёй куфайку. Вывела за прыгуменне і паказала, у які бок пайшлі савецкія войскі.

Па дарозе Ганну дагналі два чырвонаармейцы, і яны разам дайшлі да вёскі. Тут было сканцэнтравана шмат вайскоўцаў і машын. Машыны былі паўнюткія параненымі, паміж імі мітусіліся ўрачы і медсёстры, якіх дзяўчына не ведала.

Яна зусім нічога не чула. Хацелася зваліцца на зямлю і спаць. Дужа балела галава. Паспрабавала запытацца ў салдат, куды закінуў яе лёс? Па вуснах здагадалася, што знаходзяцца яны недзе паблізу горада Лубны. Геаграфію ведала са школы няблага: гэта ж, выходзіла, Сумская вобласць. Так далёка ад родных мясцін!

Здаецца, толькі прыселі ў чужым садзе, нехта з салдат прынёс сліў, паракусілі імі. І раптам усё вакол закруцілася-заварушылася. Ганна не зразумела,

што здарылася. Але салдаты, што ішлі з ёю, пацягнулі яе за сабой. Беглі што ёсць сілы, але Ганна паспела азірнуцца і зразумела: за палямі, каля кіламетра ад іх, вал-узвышша, і там, выстраіўшыся як на парад, з'явіліся варожыя танкі. Яны пачалі расстрэльваць вёску.

Вакол была страшэнная неразбярыха. Усе рассыпаліся хто куды. А куды схаваешся? Ганна бачыла, што мост на ўскраіне вёскі быў разбураны нямецкай авіяцыяй — на Лубны дарога перакрытая... Вось чаму ўсе кінуліся за вёску, у невялікі прылесак.

Хутка дабраліся да чорнага балотца, на якім нават кусты не хацелі расці…

— Тут, дачушка, да цябе прыйшлі… — раніцай добрая цётка Вера разбудзіла яе і са шкадаваннем пагладзіла Ганну па галаве. Дзяўчына ўсміхнулася ёй, як маці, з удзячнасцю.

— А хто прыйшоў?

— Давай паспрабуем сесці… — санітарка дапамагла ёй падняцца і спусціць ногі, прыкрыла іх коўдрай.

— Капітан Пятрэнка. Мне трэба задаць вам некалькі пытанняў.

Ганна падняла вочы і ўбачыла перад сабой чалавека ў вайсковай форме, і зразумела, хто перад ёй. Санітарка ціхенька знікла. Ганна агледзелася: у палаце больш нікога не было. Хворых, відаць, вывелі ў калідор.

Капітан быў даўгалыгі, са светлымі кароткімі валасамі. І, на яе шчасце, далікатны. Папрасіў расказаць падрабязна, як яна выходзіла з акружэння. Сёння Ганна адчувала сябе лепей, галава сапраўды не кружылася, але слабасць яшчэ не адступала. Яна магла гаварыць…

— У вас было раненне? — капітана цікавілі ўсе дробязі.

— Уначы мы прабіраліся маленькімі групкамі праз поле, невялікае балотца, на якім стаялі сцірты. Я страціла сваіх новых знаёмых, прыбілася да іншай групы. Разам прабіраліся ў лес, дзе — ніхто пра гэта не ведаў — нас чакалі фашысты. Немцы пачалі абстрэльваць нас аўтаматнымі трасіруючымі кулямі. Адна куля патрапіла мне ў ногі, атрымала раненне абодвух сцёгнаў.

— І вы змаглі ісці далей? — усміхнуўся капітан. Дзяўчына зразумела, што ёй не давяраюць.

— Раны, на маё шчасце, былі павярхоўнымі, невялікімі. Праз нейкі час мне ўдалося схавацца за стогам сена. Я дастала з санітарнай сумкі індывідуальныя пакеты і проста паверх штаноў перавязала сцёгны. Так стала лягчэй ісці… — Ганна гаварыла ціха, але дастаткова ўпэўнена.

— Што вы елі? — удакладніў афіцэр.

— Досвіткам ішлі па полі, на якім стаялі копы пшаніцы. Мы ўсе ўзялі па снапу пшаніцы з сабой.

— Што было далей?

— Мяне кантузіла. Потым была нейкая вялікая вёска. Фашысцкія танкі. Танкаў было шмат. Зноў чорнае балотца. Кіламетры два. Чорны лес… Праз нейкі час патрапілі ў вялікі яр. Там ужо было вельмі шмат чырвонаармейцаў. Я схавалася ў хмызняку, каб зрабіць сабе перавязку. Раны былі неглыбокія, адна насупраць другой, я апрацавала іх ёдам і перавязала чыстымі пакетамі. Цяпер не свяціліся мае ногі белымі павязкамі… — Ганна ўсміхнулася следчаму, і той ёй таксама. Хаця ж у яе і не знікала думка, што ёй не давяраюць, але адкінула яе: чаго ёй палохацца?

— На шчасце, у правым вуху стала шчоўкаць, і я пачала трохі чуць. Даведалася, салдаты распавялі, што ў канцы яра ёсць камандзіры і нават генерал. Там выстаўлены вартавыя і нікога не падпускаюць. Потым высветлілася, што тут было ўсё камандаванне Паўднёва-Заходняга фронту.

— Пра гэта салдаты гаварылі адкрыта?

— Так. Там была крынічка, яны хадзілі туды па ваду…

— Што было далей?

— Не паспелі мы крыху адпачыць, як зноў пачулася буркатанне танкаў, а нямецкія аўтаматчыкі пайшлі па ўскраінах яра і стралялі па нас, як па жывых мішэнях. Мы хаваліся хто дзе. Многія выскоквалі ў поле — за імі ганяліся танкі, фашысты душылі, расстрэльвалі з аўтаматаў. Гэта было страшна. Добра, што хутка надышла ноч…

— Дзе вы былі ў гэты час?

— Сядзелі ў глыбіні яра, у хмызняку… Калі ноччу немцы крыху супакоіліся — мы хавалі загінуўшых у гэтым яры. Я бачыла, як зрабілі брацкую магілу для ўсіх. І тут я пазнала…

— Каго?

— Гэтага чалавека… Я пазнала яго па профілі… Яго цела ляжала на грудзе жоўтага пяску. Прамы, доўгі нос. Гэта быў камандуючы Паўднёва-Заходнім фронтам… Так, генерал-палкоўнік Кірпанос. Гэта быў той, хто дапамог мне перакласці параненых з падвод на машыны…

— Гэта быў сапраўды генерал-палкоўнік? Вы не памыляецеся? — перапытаў капітан і нешта запісаў на паперы.

— Гэта быў дакладна ён.

— Калі прыблізна гэта было?

— Я не ведала, зблытала дні, недзе паміж 15 і 25 верасня… Вайна працягвалася толькі тры месяцы, а здавалася, што прайшла цэлая вечнасць. Столькі перажыта…

— Вы сцвярджаеце, што бачылі пахаванне камандуючага фронтам?

— Так. Пасля пахавання ўсіх, хто знаходзіўся ў гэтым яры, размеркавалі на групы па дваццаць пяць чалавек. У нашай групе было тры дзяўчыны, за камандзіра старшы лейтэнант з ордэнам Чырвонага Сцяга на грудзях. Прозвішча яго я не ведаю… Нам загадалі ісці на Курск. Не ўвязвацца ў бой. Прабівацца ўначы. Днямі ў ціхім месцы адпачываць. У населеныя пункты не заходзіць, каб не патрапіць у палон. У камандзіра быў компас і карта. Але, выходзячы з акружэння, нам прыходзілася перасякаць дарогі, па якіх днём і ўначы ехалі фашысты да фронту. І мы часта разбіваліся на невялікія групкі, каб не быць заўважанымі. Прызначалі сустрэчу ў якім-небудзь месцы, было такое, што чакалі адзін-два дні, але так і нікога не дачакаліся…

— У Курск выйшлі ўсе?

— Толькі восем чалавек. Старшы лейтэнант з намі ўжо не быў — мы раздзяліліся за два тыдні да гэтага… Брудныя, мокрыя, вашывыя, у разбітых кірзавых ботах мы дабраліся да Курска. Ішоў мокры снег, было вельмі волка. А тут… Горад якраз пакідалі нашы часці, і на нас ніхто проста не звяртаў ніякай увагі...

— Як вы патрапілі ў Яфрэмаў? — капітан увесь час нешта пазначаў алоўкам у сваім планшэце.

— Калі мы ішлі ўздоўж дарогі, нас пашкадавалі чырвонаармейцы і ўзялі ў машыну. Уначы часць, з якой мы цяпер ехалі, перагрузілася на чыгуначныя платформы. Да раніцы прыехалі на станцыю Мармыжы, дзе цэлы дзень стаялі… Прабачце, у мяне закружылася галава…

— Можа, вады… — прапанаваў капітан і падсеў да яе на ложак, баючыся, каб дзяўчына не звалілася долу.

— Не, дзякуй. Так са мной бывае часта. Праз хвілінку пройдзе… — усміхнулася Ганна. Я магу працягваць, прайшло…

Капітан перасеў на табурэт, глядзеў на яе ўважліва. Ганна, нібы просячы прабачэння, усміхнулася і працягвала расказваць далей.

— Было сонечнае надвор’е, а гэта перашкаджала руху. На наступную ноч прыехалі ў Яфрэмаў. Раніцай да нас падышлі камандзір танкавай брыгады і камісар. Распыталі, арганізавалі нам памывачны пункт, выдалі чыстую бялізну, боты, абмундзіраванне. Вядома, усё не па памеры. Замест куфаек выдалі танкісцкія бушлаты шэрага колеру. Нам патлумачылі, што перад гэтым на подступах да Курска быў моцны бой, многія там загінулі. Таму нас змаглі апрануць і абуць, пакуль інтэндант яшчэ не прывёў у парадак дакументацыю. Далей вы ведаеце, я, мабыць, страціла сілы…

— Што ж, таварыш малодшы сяржант. Усё сыходзіцца. Пытанняў больш няма. І калі б не ваша здароўе, то вы мелі б магчымасць прадоўжыць службу… — падагуліў капітан і згарнуў свой планшэт.

— Я папраўлюся… Я абавязкова папраўлюся… — здзівілася такому паведамленню дзяўчына.

— Тут, разумееце, урачы. Мы ім не ўказ. Дыстрафія. Вы падлягаеце дэмабілізацыі. Для вас вайна закончана, прабачце…

Капітан развітаўся, а Ганна заплюшчыла вочы, з якіх выкочваліся гарошыны слёз.

Цяпер добрай санітарцы не трэба было знаходзіцца пастаянна каля Ганны. Дзяўчына старалася больш есці, днём і ноччу смактала аржаныя сухары, і праз тыдзень пачала папраўляцца. З дапамогай цёткі Веры яна спачатку вучылася хадзіць па палаце, пасля сама выходзіла і на калідор. Там падоўгу стаяла ля акна і ўзіралася на недалёкі заснежаны лясок, што стаяў непадалёку. Цяпер ён ёй зноў бачыўся зялёным. Як дома, дзе пакуль быў вораг.

Праз два тыдні яна атрымала накіраванне ў медсанбат адной са стралковых дывізій, на перадавую лінію фронту. Сястрычка не думала, што гэта быў толькі пачатак доўгай вайны…





Соф'я ШАХ

# УВЕРХ

## ВЯНОК САНЕТАЎ

### 1

Даўно ўжо не стала мне шляху назад.
Даўно ўжо, даўно... Толькі памяць і помніць.
О, як яна часта з душою гамоніць, —
так часта, што розум ужо і не рад.

Яна праяўляе свой звычны дыктат,
дні дружнымі згадкамі поўніць і поўніць:
узрушвае — светліць, засмучвае — томіць,
мяне ў сабе топіць ужо не на жарт.

Ну вось і пра шлях незваротны ізноў,
ізноў пачынае размову размоў,
бы іншае і не цікавіць нічога...

Кіруе-спяшае ў сваю даўніну,
як бы і не знае праяву адну:
там часу былога глухая аблога.

---

*__Шах Соф'я Мікалаеўна__ нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Дзіцячыя і школьныя гады прайшлі ў г. п. Азарычы таго ж раёна. Скончыла факультэт пачатковых класаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1969), дэфекталагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1980). Працавала настаўніцай пачатковай школы ў вёсцы Гажын Нараўлянскага раёна, у вёсцы Цідаў, у пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна, лагапедам у школе-інтэрнаце ў Светлагорску.*

*Аўтар паэтычных кніг «І не пакіне спадзяванне» (1989), «Пад высокай лагодай нябёс» (1995), кніг вянкоў вянкоў санетаў «Адухаўленне» (2000), «Прысвячэнне» (2001), «Прызначэнне» (2002), «Увасабленне» (2003), «Спасціжэнне» (2004), «Азарычы» (2007), зборнікаў вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ» (2003), «Кругаспеў» (2006), «Малітваспеў» (2010) і інш.*

**2**

Там часу былога глухая аблога,
там дзесяцігоддзі — не проста гады —
свае за сабой пасціралі сляды.
Якая ад іх мне цяпер дапамога?!

Няма ж іх. Там іншая зараз эпоха,
абсяг ужо іншай якойсь паўнаты,
красы-пекнаты, мілаты-любаты...
Якойсьці інакшай пары перамога.

Куды мне з адкрытаю прагай маёй,
з маркотай-журбою, са скрухай-тугой,
з маёю вось гэтай амаль што знямогай?!

А помню мінулае, помню яго:
там рознага роднага столькі ўсяго,
там столькі ўсяго імяннога крутога!..

**3**

Там столькі ўсяго імяннога крутога,
уласнага, існага, што й не забыць,
не пералічыць мне і не перасніць...
А зараз — нічога. А зараз — нікога.

Там столькі ўсяго мела добрага, злога,
высокага, нізкага, што й не раскрыць,
не пераказаць, не ўзнавіць, не змяніць
ні дня, ні дзянька з той пары басаногай.

І бедаў было, і пакутаў хапала,
і твані-брыды дасталося нямала,
іспыты ўваходзілі ў самы азарт.

Спазналася гэтулькі там блытаніны,
цвілой павуціны, скразной халадзіны, —
што як і трываў мой тады юны гарт?!

**4**

Што як і трываў мой тады юны гарт
між родным пасёлкам і роднаю вёскай
у яве замкнёнай, прыгнечана-жорсткай,
выразліва шчодрай на копаць, на чад…

Над ладам часцей уладарыў нялад,
хацелася ўвагі і ласкі бацькоўскай,
адданасці-вернасці шчырай сяброўскай...
Ці мала мне ў чым быў тады недахват!

Крый Божа, ніколечкі я не крыўдую
і не дакараю часіначку тую,
хаця нацярпелася ўсё-такі шмат.

А вырасла, вынесла выпрабаванні,
а выжыла, высніла мары-жаданні, —
Господні, напэўна, памог высягляд.

**5**

Господні, напэўна, памог высягляд:
высокія зоры ў надзейнай прасторы,
вятры-непакоры і гіпнатызёры,
ды град, снегапад, промнепад, лістапад.

За вокнамі неба, і ліпы, і сад, —
асеннія, зімнія, веснія ўборы,
на вокнах дажджоў, маразоў цуда-ўзоры, —
для скрытнай душы і адхланне, і спрат.

І клопат птушыны, і кветкавы рай
няхай непрыкметна, павольна няхай,
няхай, можа быць, урачыста і строга,

а веру лучылі з надзеяй заўжды,
што нават праз спёкі і праз халады
наперад мне ёсць не сцяжа, а дарога.

**6**

Наперад мне ёсць не сцяжа, а дарога.
Дарога — шырокі і доўгі бальшак.
І розум — калі не гультай, не лайдак —
павінен згадзіцца, што дадзена многа.

Мінула развілка, і знікла разлога,
і крочыць патрэбы няма наўскасяк,
бо дзесьці між далечы дальняй маяк,
які не заслонены чартапалохам.

І мары — наперадзе, мары ўсе — там,
там ззяючы храм, так патрэбны вачам,
душы так патрэбны для ладу зямнога.

Дарога... дарога... Вядзе напрамкі,
як быццам вякі ўжо — зусім не вякі...
Ды йсці па ёй, Божа, — такая трывога!

**7**

Ды йсці па ёй, Божа, — такая трывога...
Адкуль, і чаму, і з прычыны якой

яна забірае апошні спакой,
апошні — з запасу майго патайнога?

Яна і ад духу майго, ад жывога,
па нейкай няласцы, па даўняй, сляпой,
штораз патрабуе ж усёю сабой
чагось немагчымага і ключавога...

А я на сярэдзіне зараз на самай, —
хада час ад часу становіцца драмай,
і гэта душою правераны факт.

Такая раз-пораз напруга і скруха,
што хоць адступай сваім полымным духам,
што хоць узнімай, хоць таі ў сабе гвалт.

**8**

Што хоць узнімай, хоць таі ў сабе гвалт,
што хоць завяжы распачлівыя вочы
і стой між знянацку насунутай ночы
ці кроч ужо як сабе хочаш — наўгад.

Нічога ні розум, ні талент не варт, —
сірочы напрамак ёсць вечна сірочы,
а хоць ён станоўчы, а хоць ён прарочы,
ды мусіць прымаць і чарговы напад.

Змірылася з гэтакім суджаным лёсам?
Вядома, бадай што, Гасподнім нябёсам.
Адно зразумела: усё — нездарма.

Ішла. Бо ісці не магла нейк іначай —
і вось апынулася перад задачай,
і вось між кірункамі зараз двума.

**9**

І вось між кірункамі зараз двума.
Яшчэ не стаю і аднак жа не крочу,
і збочыць — вядома ж, ужо я не збочу, —
прызначана так мне, як бачна, здаўна.

І так усвядомлена гэта спаўна.
Налева — імпэтам штось не падыходжу,
направа — то лепей увогуле ўмоўчу, —
і тут навісь фальшу, і там скрозь мана.

У роздум паглыбіцца? З доляй спрачацца?
Занадта ўжо марная гэта вось праца,
а часу і так мо амаль што няма.

Куды павярнуць на дарозе шырокай
мне, спадчынна горкай, мне, лёсава стойкай?
Назад — дык там вечная легла зіма.

**10**

Назад — дык там вечная легла зіма,
дык глуханямая там ціша на варце,
дык там жа даўно ані бацькі, ні маці,
дык там жа без іх векавечная цьма.

Жывыя былі, то дарога сама
назад — а вяла ўсё-ткі ў нейкім суладдзі,
назад — а імкнула праз багны і гаці.
Дарога дахаты — было ёй імя.

А зараз туды — аніводнай сцяжы.
Растуць на мяжы і старэюць крыжы, —
такое ўжо вось назаўжды пагранічча.

Дарога наперад? Дык вось яна — ёсць.
Але — о, святы, міласэрны Гасподзь! —
наперад — туды аніхто і не кліча.

**11**

Наперад — туды аніхто і не кліча.
Там светла і цёпла пакуль без мяне.
Пакуль? Ну і ну! Тут памылка ў цане,—
дарма нутраны голас штосьці мармыча.

Адно што апошнюю мару казыча,
адно што надзейку апошнюю тне,
адно што парою ў расчуленым сне
то шчасна смяецца, то горка скавыча.

Наіўны, і бедны, і спознены голас, —
чуллівыя сны — ну які гэта доказ?!
А ява — то ў мроях пустых, то ў слязах...

Наперад заняты надоўга кірунак, —
такі вось істотна выразны малюнак.
Але ж і на месцы таптацца мне — крах.

**12**

Але ж і на месцы таптацца мне — крах.
З маім-то скразным узрушэннем-памкненнем,
няўтольным здзіўленнем, прачулым крыленнем
і адухаўленнем на новы працяг...

З імпэтам маім, што пабыў у вірах
глухіх знемажэнняў, нямых ачмурэнняў,
сляпых захапленняў і злосных скажэнняў,
і нават падманаў, і нават зняваг...

Якое пытанне?! Якое таптанне?!
Якое, навошта, чаго шчэ чаканне,
загнанае ў лона няпэўных развяг?!

Ілюзій — звышдосыць, віроў — дастаткова.
З сябе вынікае сама ўжо выснова:
уверх яшчэ ёсць, ёсць уверх яшчэ шлях.

**13**

Уверх яшчэ ёсць, ёсць уверх яшчэ шлях —
Гасподняя, чыстая, вечная сіла, —
а я ж пра яго нейк нават забыла,
забыла, што дух мой — акрылены птах.

Ніякі не верад, ніякі не страх —
узняцца над зведаным чадам і пылам,
над змеранай тванню, над памятным ілам,
над бытам, што некалі сыдзе на прах.

Збавенная высь, міласэрная высь,
што вабіла так у лятунках калісь,
што клікала ў мроях скрозь так чараўніча...

Ну што, ўсе астатнія спевы — пасля.
Бывай, дарагая зямелька-зямля, —
прытулак між зор зіхаціць таямніча.

**14**

Прытулак між зор зіхаціць таямніча, —
якраз дзе маленства шукала цяпла,
якраз дзе юнацтва жадала святла,
а сталасць не ўнікла як бы ў гэты звычай.

Лічыла карцінай адно маляўнічай,
не верыла сталасць, што доля знайшла
нябеснае выйсце з зямнога сіла,
змяніўшы ад спеву сваё і аблічча.

Прытулак між зор — ну якраз там, дзе мама,
дзе млечніцца Шлях і да зорнага храма,
дзе ні крывадушша, ні помсты, ні здрад,

дзе ісціна моцай сваёю нязмоўчнай
дарэшты зрабілася звышвідавочнай:
даўно ўжо не стала мне шляху назад.

## 15

Даўно ўжо не стала мне шляху назад, —
там часу былога глухая аблога,
там столькі ўсяго імяннога крутога, —
што як і трываў мой тады юны гарт?!

Гасподні, напэўна, памог высягляд, —
наперад мне ёсць не сцяжа, а дарога,
ды йсці па ёй, Божа, — такая трывога,
што хоць узнімай, хоць таі ў сабе гвалт.

І вось між кірункамі зараз двума:
назад — дык там вечная легла зіма,
наперад — туды аніхто і не кліча...

Але ж і на месцы таптацца мне — крах.
Уверх яшчэ ёсць, ёсць уверх яшчэ шлях, —
прытулак між зор зіхаціць таямніча.





Янка ГАЛУБОВІЧ

# СПОВЕДЗЬ

*Апавяданне*

## 1

Калі Янук Залуцкі прыехаў у свой гарадок, ужо стаяла ноч. Зорак на небе не было відаць. Толькі паўкруглы месяц зрэдку паказваўся з-за хмар. Але яго святло, скупое, бляклае, не даходзіла да зямлі, гублялася сярод густой непрагляднай цемры.

Каля свайго дома Янук прыпыніўся, паставіў на лаўку чамадан, агледзеўся. Наўкола жаўтлява свяціліся ліхтары. Нядаўна прайшоў дождж, і на дварэ стаялі невялікія лужыны. Ад ліп, якія раслі ля дома, струменіўся духмяны, мядовы пах кветак.

«Нічога не змянілася за два гады, — падумаў Залуцкі. — Адно ліхтары паставілі, ды ліпы падужэлі, добра-такі ўгору выцягнуліся».

Янук падняўся па лесвіцы на трэці паверх, падышоў да дзвярэй сваёй кватэры і націснуў на кнопку званка. Пачакаў крыху і зноў пазваніў, але да дзвярэй ніхто не падыходзіў. Пакорпаўся ў кішэні пінжака, дастаў ключ і адчыніў дзверы сам. Уключыў у калідоры святло і адразу ж зазірнуў у спальню, потым у залу. Але ў кватэры было пуста і ціха.

На кухні Янук убачыў апарожненую з-пад каньяку бутэльку і дзве высокія чарачкі. Стаяла на круглым століку і попельніца з недакуркамі. «А дзе ж Марына, жонка, падзелася? Яна ж бухгалтар у мяне, заўсёды ў першую змену працуе, — прысеўшы на табурэцік каля стала, задумаўся Залуцкі. — Можа, якая бяда здарылася, захварэла мо? Дачкі Яні няма, дык з ёй усё ясна. Студэнтка. Пісала, што летам усім інстытутам на будоўлі будуць працаваць. Ажно ў Акцюбінск паедуць».

Янук устаў, прайшоўся туды-сюды па пакоі.

«Марына не курыць. А хто ж быў другі? Калі б жанчына курыла, то хоць бы які след ад губной памады пакінула. А то чысценькія ляжаць недакуркі, беленькія… Значыць, мужчына? Няўжо зноў жонка за сваё ўзялася?»

---

***Галубовіч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 26 мая 1942 года ў вёсцы Пранчэйкава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, працаваў трактарыстам і камбайнерам на цалінных землях, служыў у арміі.*

*Скончыў Мінскі фінансавы тэхнікум (1969) і факультэт журналістыкі БДУ (1975).*

*Выдаў для дарослых і дзяцей кнігі прозы «Па родных сцяжынках» (1991), «Гром на світанку» (1992), «Пастарайся стаць чалавекам» (1993), «Зязюля дзетак шукала» (1994), «Гронка каліны» (1997), «Янотавы абяцанкі» (2001), «Пяюць жаваронкі» (2005) і інш.*

Януку зрабілася млосна, і ён стомлена апусціўся на канапу.

«Але чаго кіпяціцца, разбаўляць гарачую ваду халоднай? Пройдзе час, і сама астыне. Не трэба раней за бацьку ў пекла сунуцца. Пачакаем да раніцы. Як кажуць: заснеш з ліхам, устанеш з дабром».

Янук паспакайнеў, закурыў. Дастаў з чамадана падарункі. Жонцы — модную з жоўта-ружовымі кветкамі сукенку, а Яні, дачцэ — джынсы, і акуратна паклаў іх на спінку крэсла. Спартыўны касцюм, сіні, у беленькую палоску, павесіў у шафу.

У кватэры было душна. Янук адчыніў дзверы на балкон, і ў залу хлынула свежае прахалоднае паветра. Потым вярнуўся на кухню, прыбраў са стала бутэльку, вытрас з попельніцы ў вядро недакуркі і паставіў на пліту чайнік. Забыўшыся на сваю падазронасць, Янук павесялеў, рабіў усё спакойна, з ахвотаю.

Але спаў кепска, нібы той заяц, якога напалохалі паляўнічыя. Мружыў вочы, але думкі, неспакойныя, часам нават балючыя, не пакідалі яго, быццам патрывожаныя мурашкі ля свайго гнязда, мітусіліся ў Януковай галаве.

Падняўся з канапы, ахінуў коўдраю плечы і высунуўся на балкон.

Кажуць: той жыцця не пазнаў, хто гора не спазнаў. Янук, нібы ад холаду, сцепануўся ўсім целам, паправіў на сабе коўдру. І зноў, быццам тыя густыя вячаровыя прыцемкі, якія наўкола ахінаюць сабою зямлю, яго ўзялі ў палон успаміны.

…З Аўгінняй, сваёй першай жонкай, Янук пазнаёміўся, калі адпачываў у Ялце. Такой прыгожай дзяўчыны, здаецца, за свае дваццаць гадоў і не бачыў ніколі. На шчоках дзве ямачкі, шыя, нібы ў лябёдкі, высокая, белая, на лбе ледзьве прыкметная радзімка. А цела, як у той Афрадзіты. Глянеш на дзяўчыну — і сэрца замірае. Янук і Аўгіння многа купаліся. Праўда, Аўгіння плавала слаба, і яны ад берага далёка не адплывалі, толькі да таго месца, дзе на вадзе калыхаліся чырвоныя буйкі. Загаралі, збіралі пасля прыбою бурштын.

Праз паўгода Янук і Аўгіння пажаніліся. Увесь час жылі ў згодзе. Жонка нарадзіла яму дачушку Янінку. Толькі на свеце так вядзецца: адзін плача, другі смяецца. Янінка расла здаровенькай, а жонка пасля родаў цяжка захварэла. Змарнела, патухлі гарэзлівыя агеньчыкі ў вачах, твар зрабіўся белы, як крэйда, а сама ўся, быццам тая трава пад сонцам, высахла, выпетрыла. Куды толькі не вазіў яе Янук, якім дактарам не паказваў! Але нічога не дапамагло. Калі дачушцы споўніўся годзік, Аўгіння памерла…

Аднекуль наляцеў вецер. На двары цяжка ўздыхнулі, як усё роўна пачулі гаротную споведзь Янука, зашамацелі лістотай ліпы. Янук, прытрымліваючы рукамі коўдру, пашыўся ў залу. Сеў на краёчак канапы, скурчыўся. Зноў задумаўся.

…Янук ажаніўся другі раз. Здарылася гэта зусім нечакана. Тым летам у іхні будтрэст, дзе Янук быў майстрам, прыехала пасля заканчэння інстытута дзяўчына. Сама тоненькая, а грудзі высокія, вабныя, валасы, як лён, доўгія. Твар кругленькі, ружовашчокі, нібы ў школьніцы, носік кірпаты, а голас мяккі, чароўны. Скажа слова-другое Марына, і здаецца Януку, што побач светлая крынічка бруіцца.

Неяк пасля кіно Янук запрасіў Марыну да сябе на кватэру. Выпілі па чарачцы каньяку, селі на канапу, узялі адзін аднаго за рукі. А потым Марына прытулілася да яго, таямніча прашаптала: «Што ў цябе была, нікому ні слова, Янучок. А сама я такога правіла прытрымліваюся: еш з голаду, а любі з моладу».

Пасля той шчаслівай салодкай ночы, гарачага жаданага Марынінага цела, яе ласкавых слоў і пацалункаў, Янук як нанава на свет нарадзіўся.

Раніцою, шчаслівыя, узбуджаныя, яны занеслі ў загс заяву, а праз тыдзень Марына пакінула інтэрнат і перайшла жыць да Янука.

На Новы год Марына нарадзіла дужага, здаровенькага сына. Ды бяда за бядою хадзілі за Януком. Калі Дзімку ішоў сёмы годзік, Янук на самым пачатку лета адвёз яго ў вёску да сваёй маці. Аднойчы пасля навальніцы, надвячоркам, калі ўжо сонейка садзілася на спачын, хлопчыкі і дзяўчынкі гойсалі па цёплых лужынах басанож, ажно пырскі ляцелі ва ўсе бакі. І Дзімка сярод іх быў. Высокі, нібы той дубочак маладзенькі, чарнагаловы. Не думаў-не гадаў хлопчык, што апошні раз бачыць вясёлку на небе, чуе зязюльку ў блізкім лесе. У той вечар Дзімка пад машыну трапіў. Памёр хлопчык па дарозе ў бальніцу…

Янук цяжка ўздыхнуў, прылёг на канапу і накрыўся коўдраю. Адна бяда не бяда, дзве бяды — паўбяды, калі трэцяя прыйдзе, вось тады сапраўды бяду пазнаеш. Пасля смерці сына зусім змаркатнела Марына, асунулася, пад вачыма паявілася густая шчыльная сетка маршчынак. Але праз які месяц Янук не пазнаў жонку. Дзе падзеліся яе журба, смутак? Цэлымі гадзінамі каля люстэрка круцілася, кожны дзень новую прычоску рабіла, перабірала сукенку за сукенкай. Калі клалася спаць, цалавала яго ў губы і тут жа да сцяны адварочвалася. Янука да сябе і блізка не падпускала. А яму ўспамінаўся той час, калі яны толькі пажаніліся. Тады Марына, быццам сонечны ласкавы прамень, асвяціла ўсё яго жыццё, клапацілася аб ім, як аб малым. Цяпер жа ўсё было наадварот: Марына стала абыякавай да Янука.

Нейк надвячоркам Янук вярнуўся з Нарачы, ведаючы, што ў гэты дзень дома яго не чакалі. Там, на Нарачы, яго рабочыя праводзілі капітальны рамонт гасцініцы. Ішоў праз парк і на лавачцы ў абдымку з мужчынам убачыў сваю жонку. Мужчына гэты быў архітэктар горада, Зянон Андрончык. У скураной куртцы і джынсах. Валасы чорныя, кучаравыя, вусікі таксама чорныя, вузкай палоскай пад носам з гарбінкаю. Не мужчына, а сам Апалон. Такім толькі ў кіно здымацца. Праўда, ганарысты вельмі. Ходзіць так, што і носа крукам не дастаць.

«З кім звязалася, ляціць як матылёк на агонь, — падумаў Янук пра жонку. — Хіба яна не ведае, што гэты красун давёў да самагубства Святлану Асаед, афіцыянтку з рэстарана «Папараць-кветка»? Пад поезд дзяўчына кінулася. Залатыя горы ёй абяцаў, а як дачушку Святлана нарадзіла, дзе тая і любоў яго падзелася. Ад дачушкі адрокся і афіцыянтку пакінуў».

Затросся тады ад злосці Янук, але стрымаўся. І словам нават іх не зачапіў. Ступіў за бярозку і ссутулены, цяжка перастаўляючы непаслухмяныя ногі, нібы хворы, пацёснуўся па сцяжынцы назад.

Калі падышоў да магазіна «Космас», пачало сутоньвацца. У галлі старой раскідзістай, што шацёр, кроне вярбы, якая расла пры самым магазіне, яшчэ скакалі, звонка чырыкалі вераб'і.

Ён купіў бутэльку каньяку і паплёўся да Ядвісі Хрол. Яна таксама працавала ў будтрэсце, нарміроўшчыцай. Было ёй дзесьці за трыццаць гадоў. Заўсёды насіла доўгую, да самага пояса, тоўстую чорную касу. Стройная, фігура як у дзяўчыны, нібы і не нараджала ніколі. Вабная была Ядвіся, у самым росквіце жаночай прыгажосці.

Толькі адна загана ў яе была. Дастала Ядвіся бражнік, іншыя прычындалы і завезла ўсё гэта ў вёску да сястры. Тая самагонку гнала, а Ядвіся збывала гэтае зелле, мужчын спойвала. Жанкі, канешне, Ядвісю па галоўцы не гладзілі. Але паспрабуй, зачапі яе. Таму добрыя людзі і не чапалі: такую пальцам кранеш, як ад ліхое скулы не адчэпішся.

Пасля чаркі-другой Янук расслабіўся, расказаў Ядвісі пра сваё жыццёбыццё. А Ядвіся пляснула ў ладкі, зарагатала, падсунулася да яго бліжэй:

— Во, бяду знайшоў. Самае страшнае, што ёсць на свеце — гэта цяжкая хвароба і смерць. Плюнь ты на яе, Марыну сваю…

Ядвіся падсунулася да Янука бліжэй, узяла за руку.

— Вунь сёлетняй вясною — ці бачыў? — каля маёй хаты буслы на ліпе гняздо зрабілі. Жывуць сабе, дзетак вывелі. Думала, якое гэта шчасце мяне напаткае. Ажно ты, во, Янук. Скажу табе па сакрэце: падабаешся мне, даўно ўжо да цябе прыглядаюся. Кідай Марыну і да мяне пераходзь. Ну што, спалохаўся? Ведай, Янук: таму шанцуе, каго дзеўка цалуе.

Ядвіся паклала яму на плячо рукі, хацела пацалаваць, але раптам ля іх у доўгай кашульцы паявіўся хлопчык. Тоненькі, худы, на галоўцы рыжыя кучаравыя валосікі.

— Мамка, я пісаць хачу.

Пакуль Ядвіся ўкладвала малога спаць, Янук непрыкметна выслізнуў за дзверы.

Дома ён застаў жонку ў пасцелі з архітэктарам. Марына з перапуду і слова не магла сказаць. Са страху, у чым матка нарадзіла, яна саскочыла з ложка і зачынілася ў ваннай, а Зянон Андрончык кінуўся да яго біцца. Яны доўга валтузіліся ў спальні, паразбівалі адзін аднаму да крыві насы, а потым Янук, хоць быў намнога і старэйшы за архітэктара, злаўчыўся, выцягнуў яго на балкон і скінуў на зямлю.

Андрончык тады зламаў абедзве нагі і левую руку.

І пайшло, і паехала. Назаўтра ранічкою Янука забралі ў міліцыю, выключылі з інстытута, хоць ён ужо дыпломную работу пісаў, далі два гады турмы.

«Эх, Янук, Янук… Нешчаслівы ты чалавек. Куды ні кінь — усюды клін. Дамоў ехаў, думаў жонку абніму, а вось далей усё як у людзей будзе. А тут замест жонкі падушку абнімаць прыйшлося. Дзе ж усё-такі Марына, куды яна знікла?»

Янук застагнаў, моцна заскрыгатаў зубамі.

## 2

Пад самую раніцу Янук Залуцкі заснуў. Але ён спаў нядоўга. Яго разбудзіў за сценкаю нейкі нечалавечы лямант і дзікі крык. Падхапіўся Янук, хуценька нацягнуў на сябе штаны, надзеў кашулю і босым выскачыў на лесвічную пляцоўку. Крык даносіўся з кватэры суседа Язэпа Адосіка. Дзверы кватэры былі злёгку прыадчынены, праз іх цадзілася жоўтая палоска святла. Янук доўга не думаючы штурхануў дзверы рукою і ступіў у калідор.

— Які дзень нараджэння?.. Скажы, дзе была?

Язэп стаяў перад жонкай з пабялелым ад злосці тварам, тоўсценькі, як баравічок, з густою сівізною на скронях і размахваў рукамі.

Аліса, жонка, у моднай з дэкальтэ сукенцы, з залатымі, падобнымі на месячык, завушніцамі, з пышнай прычоскай сядзела на канапе і залівалася горкімі слязамі.

— Кажу ж табе. У Монікі была…

— У Монікі… Я табе пакажу… — зноў, як мядзведзь, зароў Адосік.

«Што ж гэта з намі робіцца? Дзе ж дабрыня наша падзелася, ветлівасць? На каго мы падобныя сталі?» — Янук стаяў ззаду іх і калаціўся, нібы ад холаду.

Ён наблізіўся да Адосіка, сказаў яму:

— Язэп, ну, хопіць, не гарачыся. Мабыць, і праўду Аліса гаворыць.

Адосік павярнуўся тварам да Янука, зайшоўся істэрычным смехам.

— Ха, ха, ха… І ты заступаешся? Явіўся ўжо. А твая Марына дома? Нешта мне не верыцца. Ты ў турме сядзеў, а яна зноў са сваім хахалем, Андрончыкам, знюхалася. Учора іх ва ўнівермагу на свае вочы бачыў. Так што, Янук, каціся адсюль. За Марынай лепей глядзі, а са сваёй я і сам разбяруся.

«Няўжо і праўда, што знюхалася? Зноў з ім, з архітэктарам? — вострай балючай стрэмкай варухнулася ў Януковай галаве думка. — Во, вырадак. Мала яшчэ яму. Хай бы ён, як з балкона падаў, не ногі паламаў, а і галаву скруціў».

У Янука пацямнела ўваччу, і ён, як пабіты, паціху пасунуўся ў сваю кватэру.

…Паснедаўшы, якраз была нядзеля, Янук вырашыў схадзіць на рынак. Не спяшаўся, мінуў Зарэчную вуліцу, павярнуў на сцяжынку і пайшоў паўз раку. Неба было чыстае, блакітнае. Ярка свяціла сонца. Пасярэдзіне ракі, пакідаючы пасля сябе доўгія пругкія хвалі, пранеслася маторка, а бліжэй да Янука, амаль ля самага берага паціху плыла байдарка. Дзяўчына ў байдарцы, маладзенькая, мабыць, равесніца яго Яніне, бронзавая ад загару, з коратка падстрыжанымі, як у хлапчука, цёмна-русявымі валасамі ветліва ўсміхнулася яму, памахала рукою.

Байдарка з дзяўчынкаю хутка схавалася за паваротам ракі, а Янук, ступіўшы яшчэ колькі крокаў наперад, раптам адчуў, як моцна, ажно сцяла ў яго дыханне, закалола ў паясніцы. На шэрым ад болю твары выступілі буйныя кроплі поту, а перад вачыма паплылі цёмна-жоўтыя кругі.

Янук застагнаў, апусціўся на зялёны грудок пад вярбою, выцягнуў ногі, дастаў з маленькай бліскучай баначкі дзве таблеткі но-шпы і хуценька праглынуў іх.

Праз паўгадзіны Януку стала лягчэй, і ён паціху пайшоў далей. Ля ўвахода на рынак прыпыніўся, пачаў чытаць аб’явы на шчытах. Кінулася ў вочы адна з іх: «Прапаў гончы сабака. Вышыня ў карку шэсцьдзясят сантыметраў, масць светла-рыжая, шараватая. Хто ведае яго месцазнаходжанне, прашу паведаміць па тэлефоне 5-76-45 за вялікую ўзнагароду».

«Во галава, во аболтус… — нібы бліскавіца, жыганула Янука думка. — Людзі сабаку шукаюць, а я пра жонку зусім забыўся. Мабыць, трэба ў міліцыю пазваніць. А можа, яна дома ўжо. Ага, трэба толькі ёй букет купіць».

Янук закурыў, пайшоў уздоўж драўляных лавачак і ў вочы кінуліся яркія бухматыя букеты кветак. «Гладыёлусы трэба Марыне купіць, — падумаў Янук. — З усіх кветак сама болей яна гладыёлусы любіць».

Ён купіў букет гладыёлусаў і заспяшаўся да выхада.

Ля рагу дома стаяла новенькая бліскучая «Ніва». Янук абышоў машыну, азірнуўся і ўбачыў у ёй Зянона Андрончыка. Позіркі іх на нейкі міг сустрэліся, і было відаць, што гаспадар машыны спалохаўся Янука. Твар архітэктара збялеў, а сам ён неяк ненатуральна скурчыўся і хуценька адвёў убок галаву.

«Палюбоўніцу, пэўна, чакае. Калі ўжо ён насыціцца імі?»

Янук яшчэ раз агляну ўся назад, на «Ніву» і схаваўся ў пад’ездзе.

Жонка была дома. Сядзела на канапе і перабірала ў шкатулцы пярсцёнкі, завушніцы, бранзалеты, каралі. Янук павітаўся. Жонка спуджана ўсхапілася, шкатулка бразнулася на падлогу, і вочы яе, жывыя, блакітныя пацямнелі.

— А, явіўся…

— Явіўся, Марынка, адседзеў сваё. А ты чаму доўга не пісала? Зусім мяне разлюбіла, ці што?

— Пра якую ты любоў, Янук, гаворыш? — жонка крыва ўсміхнулася. — Ад яе ў душы засталася адна пацяруха.

— А раней не так гаварыла, раней не тое было.

— Ат, памаўчы. Як кажуць, было, ды густым быллём парасло. Ды і смерць сына ніколі не дарую табе.

Жонка падняла з падлогі шкатулку, надзела на палец пярсцёнак з жоўта-ружовымі каменьчыкам. «Пярсцёнак з брыльянтам. Адкуль ён у яе?» — падумаў Янук.

Тым часам жонка падышла да люстра, надзела на шыю каралі і пачала фарбаваць вейкі. Гнуткі жончын стан і высокія грудзі шчыльна аблягала квяцістая вішнёвая сукенка, такая прыгожая, як зоркі на небе. Янук стаяў воддаль, любаваўся жонкаю, і была яна для яго першай красуняй на свеце: месяцу і сонцу да пары.

— Раскажы, як жыла. Вазьмі кветкі, калі ласка…

— А хіба не бачыш? — буркнула, адвярнулася ад люстра жонка, але на гладыёлусы нават не глянула. — Жыву, без цябе не пабяднела.

Гутарка з жонкай не атрымоўвалася. Яна патухала, як той агонь пад дажджом.

Янук прысеў на канапу, спакойна сказаў:

— Блізкі сусед, кажуць, лепш за далёкую радню. Ці не цябе гэта Андрончык на «Ніве» чакае? А мо памыляюся? Раю табе: перш чым адрэзаць, сем раз адмераць.

Жонка крута павярнулася тварам да Янука. У яе вачах, нібы кропелькі ртуці, заскакалі чорныя бліскучыя агеньчыкі. Ступіла крок-другі да Янука і закрычала на ўвесь пакой, быццам яе кіпнем з ног да галавы абліло.

— Мяне, мяне!.. Каго ж яшчэ… Курыцы заўсёды проса сніцца, так і кожнай жанчыне хочацца жыць па-людску. Зянон для мяне нічога не шкадуе. Табе да яго, як да Масквы пяшком.

Марына падхапіла каля люстра сумачку і выскачыла за дзверы.

Янук падышоў да акна на кухні і ўбачыў, як жонка амаль подбегам наблізілася да «Нівы» і ўскочыла ў салон.

«Вось і сустрэўся з жонкаю», — трымаючыся за сэрца рукою, падумаў Янук. Ногі яго падкасіліся, сталі быццам нежывыя, і ён паціху апусціўся ў крэсла. З твару градам ліўся пот.

Колькі прайшло часу, многа ці мала, Янук не ведаў. Падняў галаву — вечар настаў, сцямнела ўжо. Усю ноч, да самай раніцы не звёў вачэй…

Пасля рэстарана Андрончык павёз Марыну да сябе на дачу. У лесе «Ніва» загрузла, села на задні мост. Ледзьве выбраўся з гразі Андрончык, а калі выбраўся, развярнуўся і паехаў у гараж.

Раніцою Зянона Андрончыка і Марыну Залуцкую знайшлі ў гаражы мёртвымі. Пасля любоўнай уцехі, забыўшыся выключыць матор машыны, яны заснулі і атруціліся газам.

Зянон, падкурчыўшы пад бараду калені, ляжаў у машыне, а Марына яшчэ змагла вылезці з яе і дапаўзці да дзвярэй. Дзверы гаража знутры былі зачынены на засоўку, але падняцца на ногі і адчыніць іх у Марыны ўжо не хапіла сілы. Так і ляжала яна каля дзвярэй з распластанымі ў бакі рукамі. На яшчэ мокрым ад слёз твары нябожчыцы, нібы ў вязня, які апынуўся ў вузкай клетцы за кратамі, дзе ні кроку ступіць, ні глыток свежага паветра злавіць, віднеліся, цёмнай хмаркай застылі туга і смутак…

Марыну Залуцкую хавалі ў аўторак. Маладая, прыгожая, з белым мармуровым тварам яна ляжала ў труне. Побач з труной сядзела яе маці, Агрыпіна. З яе вачэй ручаём каціліся слёзы. Вочы ж Янука былі сухія.

«Эх, Марынка, Марынка… Во якая смерць цябе напаткала. Бывае, людзі пражывуць век, як у карты згуляюць. А ў нас не выйшла так. Думаў, вярнуся

да цябе пасля турмы, пра ўсё кепскае забудзем. Ажно во як атрымалася. Думалася адно, а яно перавярнулася на дно».

Янук ішоў за машынай, на якой стаяла труна, а перад вачыма пакалыхвалася шэрая заслона туману. Януку здавалася, што людзі не спачуваюць, а, наадварот, пасміхаюцца з яго. І ён, чырванеючы ад сораму, да жончынай труны блізка не падыходзіў, стараўся з натоўпу не вытыркацца.

Труну паставілі ля ямы. Агрыпіна кінулася да дачкі, моцна загаласіла. «А мая ж ты, Марыначка, дзіцятка маё беднае. Чаму ж твой лёс такі нешчаслівы? Я ж не хацела, каб ты за Янука замуж ішла. Каб мяне паслухалася, то й цяпер бы як кветачка цвіла…»

Янук стаяў з другога боку труны, якраз насупраць Агрыпіны. Спачатку не разабраўся, а калі скеміў, што ў смерці дачкі Агрыпіна вінававіць толькі яго аднаго, скалануўся. Ён затуліў рукамі вушы, каб не чуць Агрыпінінага плачу, і паціснуўся далей ад труны.

Каля пахіленага набок дубовага крыжа Янук прыпыніўся. Душа яго супраціўлялася, падказвала, што трэба вярнуцца назад, развітацца з жонкаю, а розум дыктаваў другое. «Не рабі гэтага, Янук, не трэба. Цябе ж і вінаватым лічаць».

Янук пастаяў яшчэ крыху і пачаў выбірацца на дарогу. Далёка за могілкамі яго дагнаў цёплы спорны дождж.





## Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

### ПАРТЫЗАНСКІЯ КАСТРЫ

Вайны збіваючы пажары,
Кастры палілі партызаны.
Яны і мірным часам зараз
Кастрам удзячны невыказна,

Што ім і ежу гатавалі,
І ад злой сцюжы ратавалі,
І, як ваўкам,
тузе, адчаю
Упіцца ў сэрцы не давалі.

Надзею цеплячы, шугалі,
Каб зверху бачылі іх лікі, —
Не раз яны дапамагалі
Прыняць дары з зямлі Вялікай.

Дымкі, як сцежачкі, віліся,
Ляцелі ўвысь іскрынак восы,
Што і дагэтуль засталіся
Ў нябёсах...

### РАЙНІСАЎСКІ САД

Ўваходжу ў райнісаўскі сад,
Як колькі год таму назад.
Мяне тут дрэвы пазнаюць.
І я руку ім падаю.

---

***Валодзька Станіслаў Віктаравіч*** *нарадзіўся 11 лістапада 1956 года ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1987). Працаваў на чыгунцы. Цяпер жыве і працуе ў Даўгаўпілсе (Латвія).*

*Аўтар паэтычных кніг «У вачах Айчыны» (1996), «Памяці гаючая трава» (2000) і інш.*

*Узнагароджаны нагрудным знакам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь «За ўклад у развіццё культуры Беларусі».*

Хоць і не Райніс іх садзіў, —
Па гэтых сцежках ён хадзіў,
Дзе мары хораша цвілі,
Што пустацветам не былі...

Тут ёсць мядовыя плады, —
Іх час вітае малады.
Плады і горкія тут ёсць, —
І Райніс мужна крыж свой нёс...

Мне стаў, як родны, гэты сад.
Так райскаму не буду рад.
Яшчэ праз многа лет і зім
Дай Божа мне сустрэцца з ім!

## КАМІНАР

Перад Вялікаднем звычайна
Я гэтай працы не мінаў, —
У сажы ўвесь блішчаў вачамі,
Нібы сапраўдны камінар.

Яловым голлем чысціў комін.
Было далёка мне відаць.
Мяне убачыўшы, — таксама
Хтось мог жаданне загадаць.

Няма работы болей важнай.
І жарам згадкі абдало, —
Як загарэлася ў нас сажа
І страшна ў коміне гуло.

Мы выбягалі на падворак, —
Над дахам іскраў сноп дрыжаў.
На шчасце, абмінула гора
І ў нас не здарыўся пажар.

…Ў жыццёвых клопатах спрадвечных
Аб тым найлепш мне ўспамінаць,
Калі блішчыць вачамі вечар,
Нібыта ў сажы камінар.

## ОЙ ВЫРАСЛА РУЖАЧКА...

*(Пераклад латгальскай народнай песні)*

Ой вырасла ружачка
Чырвона ў садзе,
Ой вырасла ружачка
Чырвона ў садзе.

Пад той ружай, пад той ружай
Спіць краса-дзяўчына,
Пад той ружай, пад той ружай
Спіць краса-дзяўчына.

Ай дзіцятка, ай дзіцятка,
Цябе маці кліча,
Ай дачушка, ай дачушка,
Цябе маці кліча.
Знаю, знаю, разумею,
Чаго маці кліча,
Знаю, знаю, разумею,
Чаго маці кліча.

Хоча мяне мамачка,
Родная хоча
За старога выдаць,
За старога выдаць.
Ды старога, маладая,
Бачыць не жадаю,
Ды старога, маладая,
Бачыць не жадаю.

Прэч, стары, адгэтуль
І не азірайся,
Прэч, стары, адгэтуль
І не азірайся.
І ніколі, і ніколі
Болей не з’яўляйся,
І ніколі, і ніколі
Болей не з’яўляйся,

* * *

Помніш, Янька-жартаўніца,
Як хадзілі па суніцы?
Мне дзяцінства наша сніцца, —
Ярка ўспыхвае зарніцай.

А забыць хіба маглі мы,
Як хадзілі па маліну?
У юнацтве аніколькі
Нам з табой быў лес не колкі!..

Плач пачуўшы жураўліны,
Мы журыцца ці павінны?
Мо, Янінка, зараз разам
Сходзім хоць па журавіны?!.

Мне дзяцінства наша сніцца —
Ў лесе кроплі зараніцы.
Помніш, Янька-чараўніца,
Як хадзілі па суніцы?

## ЗАВЕЯ

Іду адзін у родным краі —
Мяне завея сустракае.
Мяне завея абдымае,
Цалуе так — аж дых займае.

І тут жа рэжа праўду ў вочы,
Нібы да слёз давесці хоча.
Я добра ведаю, завошта
Яна мяне па шчоках хвошча...

Перада мною зноў паўстала:
Як не прыйшла ты на спатканне,
Мяне завея запрашала,
Як калісь ты, на белы танец...

Не толькі можа сум навеяць,
Але й журбу падчас развеяць...

Я добра ведаю, — завея,
Ты для мяне не злая фея...

## БАЦЬКОЎСКІ ДОМ

Гадам, напэўна, трэба доўг аддаць:
Бывае сумна мне — не перадаць.
І я сябе спрабую апраўдаць,
Што мне прыйшлося родны дом прадаць.

Бо ён адзін стаяў як сірата,
А мне не выпадала завітаць, —
Страху залатаць і скасіць быльнёг,
Каб весялей глядзець на свет ён мог.

Яшчэ мне і аб тым не грэх сказаць:
За грошы, што за дом я змог узяць,
Не раз я на радзіму прыязджаў,
Паклон магілам родным аддаваў.

І зноў сплывае смутак мой з вачэй,
І ў вочы мне зірнуць яму лягчэй.
Ён дзеліцца са мной святлом сваім.
Жывіце, людзі, шчасна сёння ў ім!



Васіль ШАБАЛТАС

# КАЦІНЫ БАРОН

*Апавяданне*

Праходзячы міма стала сакратаркі, Вадзім Андрэевіч сказаў:

— Пакліч да мяне ў кабінет механіка Ключнікава.

Была палова на першую, механік толькі што вярнуўся з абеду, а тут званок. Калі Ключнікаў адчыніў дзверы кабінета дырэктара, той ужо быў за сталом. Тры гады таму ён звольніўся з арміі ў чыне палкоўніка. Узначаліў амаль збанкрутаваны кансервавы завод. Пасля ўстаноўкі італьянскай тэхналагічнай лініі прадпрыемства ажыло, нават пачало даваць прыбытак. На ім працавала 220 чалавек. Людзі новага дырэктара паважалі, калі б не ён, усе яны ў невялічкім раённым гарадку сталі б беспрацоўнымі.

— Я толькі што вярнуўся з нарады ў райвыканкаме, — закурыўшы, сказаў дырэктар. — Там выступіў даішнік, расказаў, што ўчора ў вадзіцеля гарадскога аўтобуса на лініі прыхапіла сэрца, ён нейкім чынам паспеў спыніцца. З пасажыраў ніхто не пацярпеў, а шафёр за рулём памёр. Нас просяць уважліва правяраць здароўе пажылых вадзіцеляў. Вось і Гетманаву як-ніяк семдзесят.

— Сёння ён у паліклініку пайшоў, на медкамісію, — адказаў Ключнікаў.

— Сорак пяць гадоў чалавек бездакорна працуе на адным месцы, хоць і шкада, а давядзецца з ім развітацца. Кантракт ты з ім не перазаключаў?

— Не, тэрмін кантракта ў яго скончыўся ў той час, як вы прыйшлі да нас. Я дакладваў вам. Вы сказалі, што калі ён пенсіянер, няхай працуе пакуль без кантракта.

— Значыць звольніць мы яго можам у любы момант?

— Так.

— Не, гэта будзе зусім не па-людску, — задумліва мовіў дырэктар. — Бачыў, як ён вылізвае сваю машыну, і, мне здаецца, калі яго ад яе адарваць — ён можа і інфаркт атрымаць… Але ж нічога не зробіш, усяму прыходзіць канец.

— Можа, сёння яго камісія забракуе? — няпэўна сказаў Ключнікаў.

— Як бы там ні павярнулася, шукай чалавека на яго месца.

— Вадзім Андрэевіч! — усклікнуў механік. — Я ўчора пятага чалавека прыводзіў, тайком, каб Гетманаў не заўважыў, паказваў ім яго машыну. А яны, маладыя, усе як у адну дуду. Першы: «Гэты ГАЗ-51 трэба ўжо як эспанат

---

***Шабалтас Васіль Канстанцінавіч*** *нарадзіўся 15 жніўня 1936 года ў вёсцы Круціны Петрыкаўскага раёна.*

*Скончыў Маскоўскі палітэхнікум (1960). Працаваў канструктарам-мадэльерам, галоўным інжынерам, дырэктарам камбіната бытавога абслугоўвання. Жыве ў горадзе Асіповічы.*

*Аўтар кніг прозы «Экзамен» (1984), «Плата за страх» (1994), «Злой дух» (2006) і інш.*

у музей ставіць». Другі: «На такой машыне працаваць — сябе не паважаць». Трэці: «Калі я на ёй засвячуся — са мной сябры здароўкацца не будуць». Пасмяяліся і пайшлі.

— Ды што яны, згаварыліся! — раззлаваўся дырэктар. — Знешні выгляд цудоўны, рухавік працуе як гадзіннік, надзейная ў дарозе, яе ні разу тросам дамоў не цягнулі.

— Гэта ўсё Гетманаў. Яго рукі. А машыне ўжо пяцьдзясят сем гадоў…

Размова скончылася тым, што рашылі пачакаць вынікаў абследавання Гетманава. Абмяркоўваючы вытворчыя пытанні і асобна — самога вадзіцеля ГАЗ-51, кіраўнікі нібы знарок абыходзілі адну даволі значную прычыну, па якой ім хацелася пазбавіцца ад старога шафёра. А справа заключалася ў тым, што ў Івана Пятровіча, як і ў многіх мужчын, меўся свой недахоп ці слабасць. Адзін п’е, жонку ганяе і ў гэтым бачыць сэнс жыцця. Другі ў люты мароз сядзіць зімой на возеры над пелькай і трасе вудачкай. Трэці з асалодай бадзяецца па лесе са стрэльбай на плячы і калі што ўпалюе — адчувае сябе на сёмым небе…

У Гетманава таксама меўся свой, як казалі, вывіх. Едзе, бачыць: на абочыне кацяня ад марозу калее. Абавязкова спыніцца, возьме коціка да сябе ў кабіну, «тармазок», што жонка ў дарогу дала, разверне, накорміць небараку, за пазуху яго пакладзе, каб сагрэўся. Прыедзе з рэйса іншы раз ноччу, папросіць цётку Тасю з прахадной, каб яна за коцікам прыгледзела. Дадому ў апошнія гады прыносіць катоў баяўся, там ужо было іх ажно дванаццаць.

Ездзіў Гетманаў па ўсёй Беларусі, дастаўляў прытулкам для старых, дзіцячым садам і санаторыям усю тую прадукцыю, што выпускаў завод: пладоваагародніннныя сокі, салянкі, варэнні, марынаваныя агуркі і памідоры. Раней даішнікі яго часта спынялі, правяралі дакументы, лазілі пад капот, заглядвалі пад кузаў. Але з цягам часу звыкліся са старой машынай. А калі ўпэўніліся, што аўтамабіль спраўны, чапляцца перасталі, як старому знаёмаму махалі ўслед рукой, жадаючы добрай дарогі.

Па характары Іван Пятровіч — чалавек маўклівы, слова з яго не выцягнуць, хоць раней быў гаваркі. Але ж аднойчы выпадкова даведаўся, што за вочы некаторыя людзі завуць яго каціным баронам, і прымоўк: лепш з катамі гаварыць, чым з такімі людзьмі.

Для сваіх гадаванцаў, з дазволу даўнішняга дырэктара, цяпер нябожчыка, Гетманаў паставіў за складам сыравіны, далей ад людскіх вачэй, шэсць сабачых будак, дзе каты мірна ўжываліся з сабакамі. Калі аднойчы кошка ў будцы акацілася, кабель па клічцы Ранет уступіў сям’і месца, і не пасягаў на яго, пакуль кацяняты не падраслі, спаў побач, каля будкі.

На працу Гетманаў прыходзіў у сем гадзін раніцы, нёс з сабой пяцілітровае вядзерца з кашай, зваранай на костках, якія купляў на рынку. За гадзіну да работы ён паспяваў накарміць усю сабача-каціную ферму, іншы раз тую ж пярлоўку еў і сам. Яшчэ на прахадной сабакі ўжо чулі Івана Пятровіча, скакалі вакол яго, імкнучыся лізнуць свайго карміцеля ў твар. Кошкі паводзілі сябе больш стрымана, яны звычайна сядзелі на бакавых бартах яго машыны, і калі гаспадар набліжаўся — саскоквалі на зямлю і цёрліся аб калашыны яго штаноў. Невядома, колькі б часу доўжыліся такія адносіны чалавека і хатніх жывёлін, калі б не аўчарка Маруська. Ашчаніўшыся, яна нікога і блізка не падпускала да сваёй будкі. Пакусала жанчыну, што праходзіла міма. Тая ледзь паспела забегчы ў кантору, нарабіла лямanту. Выклікалі нават «хуткую дапамогу», жанчыну адвезлі ў бальніцу на перавязку. Іван Пятровіч тады быў у рэйсе, і калі вярнуўся, на яго накінуўся раззлаваны Ключнікаў:

— Зводзь сваю зграю, а то выклічу жывадзёраў! Твае сабакі ўжо людзям праходу не даюць.

Іван Пятровіч зайшоў за склад. Сабакі сустрэлі яго радасным скуголеннем. Толькі Маруська паводзіла сябе стрымана, адводзіла ўбок вочы.

— Ну што ж ты, дурніца, нарабіла? — спытаў яе Гетманаў.

Аўчарка вінавата паклала на яго калені галаву, ледзь чутна заскавытала.

Падняўшыся, Гетманаў падышоў да будкі, дзе ляжалі яшчэ сляпыя шчаняты, прасунуў туды руку, пакратаўшы цёплыя цельцы, павесялеў: жывыя! Ён баяўся, што пасля здарэння сабачанят у гарачцы маглі ўзяць і закапаць.

А пад вечар пасля работы Іван Пятровіч сабраў у кошык Марусьчын прыплод і накіраваўся дадому. Маруська бегла побач, амаль упрыцірку ля ног гаспадара, часта зазірала яму ў вочы.

…Стрэлка гадзінніка на сцяне ў кабінеце механіка паказвала палову дванаццатай, час ісці на абед, але Ключнікаў рашыў дачакацца Гетманава, каб даведацца, як ён прайшоў медагляд. Чакаць давялося нядоўга.

— Ну, як жывеш? — спытаў механік, як толькі ўбачыў вадзіцеля. Замест адказу Гетманаў дастаў з кішэні стары пацёрты блакнот і падаў начальніку медыцынскую даведку. «Годны да кіравання аўтамабілямі…» — прачытаў з задавальненнем механік, нават не звяртаючы ўвагі на далейшыя словы, дзе было сказана, з якой максімальнай вагой, і ад радасці ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

— Пасля абеду пачну рыхтаваць машыну да тэхагляду.

— Рыхтуй, а то паслязаўтра трэба будзе ехаць у Глуск, — згадзіўся Ключнікаў. Узрадаваўся ж ён таму, што калі б вадзіцеля забракавалі, за баранку давялося б сесці яму, механіку. У дагаворах са спажыўцамі іхняй прадукцыі было напісана: дастаўка транспартам вытворцы. Было Гетманаў зламаў нагу, ляжаў у бальніцы. Нацярпеўся тады Ключнікаў, развозячы сам кансервы. Тады ён рубам паставіў перад дырэктарам пытанне аб пакупцы новага грузавіка. Калі ж высветлілася, колькі ён каштуе — усе за галаву схапіліся. Заводзік жа маленькі, прыбытак невялічкі, зарплата ў рабочых — толькі б не разбегліся. Узяць крэдыт, надзець на сябе хамут пазык дырэктар не рызыкнуў.

Нягледзячы на такую вострую сітуацыю, ад Гетманава ўсё ж пазбавіцца хацелі: калі б ён звольніўся — разбеглася б уся яго сабача-кашэчая зграя. Справу аб нападзе аўчаркі на жанчыну замялі, па парадзе медыкаў пацярпелая спачатку хацела на прадпрыемства падаць у суд, але аналізы паказалі, што сучка не шалёная, і жанчына судзіцца не стала.

Але з таго часу кошкі і сабакі Гетманава сталі для дырэктара галаўным болем. З палкай у руках (на ўсякі выпадак), калі Гетманаў быў у ад’ездзе, кіраўнік не-не ды і заглядваў за сцяну склада, дзе стаялі сабачыя будкі.

…Была халаднаватая жнівеньская раніца. У дадатак да назапашаных для перапрацоўкі яблыкаў прымешваўся моцны дух выспелага палыну, які густа рос за цагляным плотам. Вадзім Андрэевіч з’яўляўся на працу а палове восьмай. Абыходзіў тэрыторыю двара, гаспадарскім вокам зазіраў ва ўсе куткі. Зайшоў за склад, а там Іван Пятровіч сваю хеўру карміць. Ён сядзеў на лаўцы спінай да дырэктара, накладваў з вядзерца драўлянай лыжкай кашу ў кармушкі, штосьці жывёлінам нагаворваў. Па паводзінах сабак Іван Пятровіч здагадаўся, што падышоў хтосьці свой. Сабакі дырэктара ведалі, пры сустрэчы з ім нават хвастамі вілялі, але кіраўнік на ўсякі выпадак трымаўся ад іх далей.

На гэты раз, убачыўшы дырэктара, маладая сучка Разетка не вытрымала, нязлосна гаўкнула. Пятровіч павярнуўся, сустрэўся з поглядам кіраўніка, разгубіўся.

— Што, Гетманаў, сабачак корміш?

— Так, жывыя ж істоты, есці хочуць.

— Ну, кармі, — адказаў суха, павярнуўся і пайшоў.

…Чарговы тэхагляд аўтамабіль Гетманава прайшоў, як кажуць, «без сучка, без задзірынкі». Аўтамабіль стаяў на двары завода, нібы толькі што з канвеера, увесь ён быў пафарбаваны ў той колер, з якім яго калісьці выпусцілі з завода. Каля машыны паходжваў задаволена Іван Пятровіч з анучкай у руках, дзе-нідзе падціраў.

Усё, здавалася б, утаймавалася, нават жонка Маруську прыняла без асаблівага скандалу, бо аўчарка-хітруга знайшла момант і лізнула гаспадыню ў руку, і гэты прымусіла жанчыну быць да яе лагоднай. Але, як вядома, якраз у такія спакойныя часіны і здараюцца з людзьмі непрыемнасці.

На другі пасля тэхагляду дзень механік, як абяцаў, пуцёўку на Глуск не выпісаў. Такое здаралася і раней, можа, у іх там штосьці не састыкавалася. Непакою Гетманаў не выказаў, апрануў камбінезон і аглядаў машыну. Было гэта а палове дзясятай раніцы. І тут да машыны падышоў Ключнікаў, адводзячы ўбок вочы, коратка сказаў:

— Пятровіч, здымі сваю робу, памый рукі, цябе на дзесяць гадзін дырэктар выклікае. — І, нібы ў чымсьці вінаваты, павярнуўшыся, хутка пайшоў прэч. Унутры ў Івана Пятровіча ўсё пахаладзела, ён адчуў, па якой прычыне яго клічуць. І яго адразу нібы выключылі, аслабелі рукі, ногі таксама сталі непаслухмянымі, ледзь выбраўся з-пад кузава. З цяжкасцю зняў з сябе прамасленую робу, пайшоў да ўмывальніка і пачаў старанна мыць рукі. «Эх, Маруська, Маруська, каб не ты, можна было б яшчэ папрацаваць, — падумаў з сумам. — Цікава, каго ж на маё месца знайшлі, хто за такія капейкі згадзіўся працаваць?»

Увайшоўшы ў кабінет, убачыў у белай кашулі пад чорным гальштукам за сталом дырэктара, старшыню прафкама, начальніка аддзела кадраў, галоўнага інжынера, механіка, галоўнага бухгалтара. Не паспеў зачыніць за сабою дзверы, як хуценька паднялася чырванашчокая паўнацелая старшыня прафкама і, трымаючы ў руках букет кветак, падышла да шафёра:

— Дарагі Іван Пятровіч! Сёння мы тут сабраліся і рашылі, што вам ужо час ісці ў адпачынак. Сорак пяць гадоў без водпускаў… Таму жадаем вам добрага здароўя і доўгіх, доўгіх гадоў жыцця! А вось тут, — падаючы канверт, — апроч зарплаты, мы вам асобна выдзелілі прэмію за безаварыйную работу і эканомію паліва. Усяго вам найлепшага.

Прыняўшы кветкі і канверт, Гетманаў разгубленым позіркам акінуў прысутных і, з цяжкасцю выгаворваючы словы, прамовіў у адказ:

— Дзякуй вам, людзі добрыя, за ўсё тое, што вы для мяне зрабілі. — Пакланіўся і выйшаў з кабінета.

Пасля таго, як ён выйшаў, у пакоі на паўхвіліны ўсталявалася цішыня. Першай парушыла яе начальнік аддзела кадраў, жанчына гадоў пад сорак, з ярка падфарбаванымі вуснамі.

— Усіх нас гэта чакае і нікуды не дзенешся, — сумна сказала яна, выціраючы насоўкай вочы.

— Калі б усе былі такімі, як гэты дзівак Гетманаў, у нас даўно б быў камунізм, — бліснуў акулярамі галоўны бухгалтар завода. — Вы глядзіце, як ён сваю машыну, нібы дзіця, песціць. Ёй пяцьдзясят сем гадоў, а яна ж нібы новая. Цяперашнія маладыя, дадуць яму новы аўтамабіль, а праз два-тры гады ён ужо пад плотам стаіць. А тое, што Пятровіч сабак і катоў любіць… У мяне сусед у райспажыўсаюзе працуе, у цэху, дзе забіваюць жывёлу. Як уяўлю, як ён… — страшна робіцца. За руку я з ім не здароўкаюся. А Гетманава паважаю: жаласлівы чалавек. І яшчэ, некаторыя вадзіцелі стараюцца прыпісаць у пуцёўках больш кіламетраў, каб атрымаць і ўкрасці дармавы бензін, а Іван Пятровіч не такі. Здаючы пуцёўкі, у графе «эканомія паліва» ён сумленна ставіць зэка-

номленыя літры, за месяц іх набягае нямала. Каб украсці, у яго нават думкі няма. Таму з яго многа хто смяецца, лічыць дзіваком. Мянушку прыклеілі — каціны барон. А ён запчасткі для машыны за свае грошы купляе, рамантуе сам. Зарплата ж у яго — кот наплакаў. — Бухгалтар памаўчаў і заключыў: — Я яго не скарачаў бы. Бо без такіх гетманавых нам век з галечы не выбіцца.

…З кабінета дырэктара Іван Пятровіч ішоў у сваю каморку нібы ў тумане. Апынуўшыся ў сваім закутку, дзе ў яго ляжалі старыя і новыя запчасткі, сеў на табурэтку, з палёгкай уздыхнуў. Рады, што нікога не сустрэў. «Ну вось і ўсё, — падумаў горка, — прыйшоў мой час, трэба развітвацца з усім, да чаго душой прырос… Але што я, у мяне — пенсія, а што рабіць тым, каго выкінулі на вуліцу без усякай пенсіі…»

Пра сабак і кошак не турбаваўся: яны пойдуць за ім туды, куды павядзе, тут не пакіне.

Механік вярнуўся ў сваю канторку, зайшоў да яго, сказаў:

— Аляксеевіч, а можна мне, пакуль месца катам і сабачкам знайду, на завод пахадзіць, карміць жа іх трэба. Я перашкаджаць нікому не буду.

— Ды хадзіце, ніхто вам не забараняе, — адказаў механік, адводзячы ўбок вочы. — Хаця нельга трымаць жывёлу побач з цэхам, дзе вырабляецца прадукцыя.

Гетманаў хадзіў на завод, быццам нічога не здарылася, з тым жа зялёным вядзерцам. Прыйдзе раніцай, сядзе на лавачку, корміць і размаўляе з імі. Праходзілі дні.

І пакуль Іван Пятровіч, зжываючыся са сваім новым статусам беспрацоўнага, карміў ды лячыў сваіх любімцаў, у кабінетах заводскіх начальнікаў ішла амаль што вайна. Надзея на больш маладога пенсіянера-вадзіцеля адпала, новы шафёр не захацеў працаваць за малую зарплату. А сваім транспартам спажыўцы забіраць тавар не хацелі — дорага. Ды і парушаўся пункт дагавора. Паміж дырэктарам і механікам нібыта чорны кот прабег, дайшло да таго, што Ключнікаў паабяцаў напісаць заяву на звальненне.

Да яго заходзілі начальнікі цэхаў: калі падасі машыну пад пагрузку, працуем на склад. Трэба было самому садзіцца за руль. А так не хацелася! Выйшаў неяк механік на вуліцу, а там хараша. Птушкі ў кронах дрэў спяваюць, густа пахнуць прывезеныя на перапрацоўку спелыя яблыкі... Зірнуў Ключнікаў, а каля сваёй, цяпер былой, машыны, Іван Пятровіч стаіць, як у жалобе. Не вытрымаў механік, забег у сваю канторку, схапіў са стала бланк пуцявога ліста, нервова выпісаў Гетманаву пуцёўку. На Глуск.

— Пятровіч, на ключы і дуй пад загрузку, там цябе чакаюць.

— Аляксеевіч, як так можна, я ж звольнены, — паспрабаваў пярэчыць Гетманаў.

— Пятровіч, я табе што сказаў: пад загрузку! — уладарным голасам крыкнуў механік.

І зноў рарытэтная ГАЗ-51 забегала па дарогах Беларусі, зноў Гетманаву, як добраму знаёмаму, даючы зялёную вуліцу, даішнікі махалі рукамі. Іншыя нават бралі пад казырок. З’ездзіўшы разы тры, Гетманаў захваляваўся: як да такога свавольства механіка паставіцца дырэктар? І вельмі здзівіўся, калі аднойчы Вадзім Андрэевіч падаў яму руку так, быццам не адпраўлялі яго на пенсію.

Пакуль усё нармальна. А ці надоўга?

Добра ведаў: у яго ўзросце за кожны пражыты дзень трэба Богу дзякуй гаварыць і свечку ставіць.



## Надзея САЛОДКАЯ

### СЛОВЫ, СЛОВЫ...

**1**

Я знайду тыя словы, што стануць
Цёплай хваляй у мораку стыні,
Што ў нябытнасць ніколі не кануць,
Хоць яна сваю прорву й адчыніць.

Я знайду тыя словы: асіляць
Адзіноту, журбу і гаркоту,
У прасторы, стагоддзях і хвілях
Будуць лашчыць журліваю нотай.

Я знайду тыя словы, каханы:
Ты адчуеш у шэпце нябёсаў,
Як зямля на ўсю сілу ўздыхае
І як падаюць кропелькі з вёслаў…

Я знайду тыя словы. І ў сконе
Іх прамоўлю з пяшчотаю звыклай —
Хай жывуць у высокім бяздонні
Маёй светлай ласкавай малітвай.

**2**

Не першы раз знаходжу ў слове сілу,
Калі здаецца: вось — канец, усё...
Усё сваё адплакала, знасіла,
І засталося выкінуць рыззё.

---

***Салодкая Надзея Стэфанаўна*** *нарадзілася 23 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Шэркіна Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Полацкае медвучылішча (1968). Працавала клінічным лабарантам ва Удзелаўскай участковай бальніцы на Глыбоччыне, затым машыніствай у полацкай аб'яднанай газеце «Сцяг камунізму».*

*Аўтар паэтычных кніг «Я ішла да сябе...» (2000), «Свечка жаліцца небу» (2002), «На ўзлёце малітвы» (2002), «Апошняя квадра» (2007), «Месца пад сонцам» (2011) і інш.*

У печ, на сметнік — выпаліць, развеяць
Няздару гэту, леную сябе…
А потым словы пачынаю сеяць
І прарастаць сама на той сяўбе.

Цягнуся ўверх, як парастак да сонца,
Ласкавы промнік вейкі казытнуў —
Сагрэў душу да самага да донца…
Спадзеўна веру: не маю адну.

## ЖАЛОБНАЯ ПАНІ

Вялікая пані ў жалобным адзенні
Прыходзіць, і ўсё расстаўляе належна,
І колераў розных любыя адценні
Сцірае, руйнуючы іхнія межы.

Пачуццяў і ўчынкаў узважвае вартасць,
Шпурляючы жорстка на чуйныя шалі,
І чэрпае жальбу вялікаю квартай,
Нібыта шукае святыя скрыжалі.

На вуснах у пані — няўхільнасць сыходу...
Майго і чужога... І сутнасці мера.
І гэта апошняга чыну нагода
Адчуць, ці ты годна пражыў, ці няўмела.

Бязлітасна душыць, згрызае сумленне:
Нашто тыя крыўды, нашто тая пыха?
І я вінавата згінаю калені
Істотай збалелай, пакорнай і ціхай.

* * *

Ідуць дажджы — то буйны, то драбнюткі,
То раптам градам-шротам секане…
Я цешуся празрыстасцю навюткай,
Прыціхлая ў расчыненым акне.

Глытаю водар вымытых суквеццяў,
Што ў палісадзе страсянулі пыл.
І вось ужо ласкава сонца свеціць,
І зноў пасыпаў, косенькі, сляпы.

Раскідаў кроплі-блёсткі па травінках,
Разнёс духмяны зёлкавы настой...
Жывільны дождж, ты і мае памылкі
Адмый нябёснай лекавай вадой.

## КОЛА

Дзе-нідзе галінкі зажаўцелі —
Нехта зверху золатам сыпнуў.
Значыць — восень... Птушкі паляцелі
Сумаваць па роднаму цяплу.

Барва з пазалотаю сальецца,
Палыхне агніста кожны ліст...
Непаўторным гэта ўсё здаецца,
Як і неспадзеўным зімны свіст.

Так кружляе колам лёсаносным
Чаргаванне твараў і падзей —
Залатым, зялёным, цёплым, злосным...
Немаўля да мудрасці ідзе.

* * *

Хочаш праўды? Тады стаіся
І пыхлівасць зацісні ў жмені.
Ці за тое ў жыцці ты біўся,
Саграваўся ці тым агменем?

Восень. Скруха. Халодны вецер.
Адзінота ў кутах скуголіць.
Пачарнелым згалелым веццем
Дрэвы нізкія хмары гоняць.

І шукаеш, шукаеш праўды...
А яна — свая ў кожным лёсе.
Ці то шчасце, ці то бяда ў тым, —
Ды ўжо так яно павялося.

Што аддаў — ад душы, з палёгкай, —
Тое возьмеш у свой набытак.
І над доляй, прабач, не вохкай —
Зберагае ўсё Боскі світак.





Ліляна ХАБ'ЯНАВІЧ-ДЖУРАВІЧ

# ПАРАСКЕВА: КРЫЖ У ПУСТЫНІ*

*Раман*

## Феафана, васіліса

Маё імя — знак маёй долі: Феафана значыць абвешчаная Богам, абраная Ім. Праўда, мае нядобразычліўцы распускалі чуткі, нібыта мне пры хрышчэнні далі імя Анастасія — так захацеў бацька мой, карчмар з прыгарада, які сам заўжды быў на падпітку. Але я прымусіла змоўкнуць гэтых подлых плеткароў. А я ўмела гэта рабіць. Бо каб не ўмела, то не была б жонкаю траіх і маткаю дваіх візантыйскіх цароў.

А хто была гэтая дзяўчына? Яна прыйшла ніадкуль і знікла невядома куды. Гаварылі, што яна добрага роду, што брат яе — манах у Студыцкім манастыры. Яна, нібыта, раздала ўсю сваю маёмасць бедным, а сабе пакінула гэтулькі, каб толькі самой не прасіць міласціны. І падвізаецца яна, маўляў, у пустэльніцтве і малітвах. Для яе няма нічога мілей за Бога. У рэшце рэшт яна, быццам бы, адправілася на Святую Зямлю, каб на шляхах Яго пакут маліцца за ўсіх нас.

Як бачыце, няма тут нічога асаблівага. Наслухалася я розных такіх аповедаў. І ўсе яны для мяне былі аднолькавыя. І гэты я б не запамятала, каб дзяўчына не ўплялася ў маё жыццё, калі мне было найцяжэй.

Што яна для мяне зрабіла? А ўжо тое, што існавала. І была зусім інакшая, чым я. Ды і гэта не замінала мне, пакуль нас не пачалі параўноўваць. Прычым, не ў маю карысць. Дзе б я ні апынулася, чула размовы толькі пра яе: якая яна прыгожая, якая сціплая, якая чыстая, цнатлівая, адухоўленая, самаахвярная... Аж моташна слухаць! А тыя, што гэткае гаварылі, уважліва глядзелі на мяне. І поглядамі выказвалі мне, што я не такая, а гэта кепска. Выказвалі тыя, якія асмельваліся на мяне глядзець. Ды і тыя, якія не асмельваліся глядзець, думалі гэтаксама. Я ведаю, што так менавіта думалі.

Першымі з-за яе пачалі страчваць розум маладыя арыстакраты таму, напэўна, што ні на каго з іх яна не звяртала ўвагі. Потым свяшчэннікі і манахі. А ўрэшце і сам Полівект. Але пра яго скажу пазней.

Увесь час за ёю хадзіў гурт гарадскіх беднякоў. І, як паведамлялі мае давераныя людзі, рыбакі спрачаліся з пастухамі наконт таго, марская русалка яна, ці лясная. Можаце сабе ўявіць?!

А што рабіла яна? Летуценна ходзячы па Царграду, наведваючы цэрквы і манастыры, вяла гаворкі, нібыта які прапаведнік, пра славу і міласць Божую ды заклікала на шлях хрысціянскага ўдасканалення. «Пакайцеся!» — гаварыла

* Працяг. Пачатак у № 4, 2011 г.

яна. Гэтаксама, як некалі Іаан Хрысціцель. Але не грымела і не пагражала, як ён. Не. Больш прасіла, мякка і ласкава. Змяя! Нават каб шаптала, то яе б чулі!

«Змыйце грахі з душы сваёй слязьмі пакаяння!» — паўтарала. І плакала.

«А што ты ведаеш пра грахі? І пра тых, хто іх чыніць з любові, каб не дапусціць грахоў іншых?» — карцела мне ў яе папытацца. І паглядзець, што б яна тады сказала! Але я не пыталася. Не хацела ўдастойваць яе прыёму ў палацы і размовы з царыцаю. Ды і часу не мела. Непакоілі мяне вельмі сур'ёзныя рэчы.

Палівект несупынна распускаў плёткі пра мяне. А ён жа патрыярх, і мог, калі яму трэба, спасылацца на Бога, на Яго волю. І ў мяне бракавала сілы, каб устаяць перад такім праціўнікам. На гэта сілы ўсё меншала.

А некалі мы з ім былі па адзін бок. Тады, калі памёр мой муж, калі трэба было выбраць новага цара і ўмацаваць яго ўладу. Тады гаварылася: «Народ хоча Нікіфара!» Ды які там народ! Што народ ведае! Народ ідзе туды, куды яго павядуць. А вялі яго Палівект і я ў адзін бок — насустрач Нікіфару. Пазней Палівект абвясціў сябе самаахвярным дабрадзеем, айцом царквы і дзяржавы, а мяне блудніцаю.

Пачало гаварыцца, што я — каранаваная распусніца, бунтоўная і самалюбівая, прытворная і вераломная, прагная ўлады і гатовая на любую подласць, на любы грэх, каб толькі ўладу захаваць. Сцвярджалася, што я была такой заўжды. Што атруціла свайго свёкра і некалькіх блізкіх родзічаў мужа; што прымусова зачыніла ў манастыры пяцёх мужавых сясцёр, а свякруху Елену перажываннямі за іх на той свет адправіла. Трэба было чуць кранальны аповед пра гэта! Нібыта царыца Елена заклінала мяне злітавацца над яе пяццю дочкамі. А тыя цудоўныя прынцэсы, народжаныя і бацькам выхаваныя для свецкага жыцця, усе разам, абняўшыся, плакалі і прасілі міласці ў Бога і ў мяне! Аднак мая жорсткасць была такой, што нават міласць Божая да іх прабіцца не магла!

Так гаварылася, такімі байкамі Палівект атручваў народ. Пры гэтым замоўчваў, што прынцэсы былі схільныя да плётак і тайных інтрыг. Што яны любілі раскошу і рознага кшталту ўцехі. А таксама, што ён сваімі рукамі іх пастрыгаў. І калі ён пстрыкаў нажніцамі, а іхнія косы падалі на падлогу, гэтыя высакародныя паненкі супраціўляліся, зрывалі з сябе суконнае манашаскае адзенне, вішчалі, выгуквалі праклёны і розныя богазневажальныя словы. У рэшцэ рэшт ён вымушаны быў дазволіць, каб яны пакінулі сабе свае раскошныя ўборы, памады, парфумы з Місіра і Бхараты, каб штодня елі мяса і пілі віно. А потым на мяне зваліў віну і за гэтыя спакусы, якія парушалі і ганьбілі манастырскі лад жыцця.

Палівект быў самым небяспечным для мяне праціўнікам. Ён хацеў, каб Нікіфар абуў чырвоныя пантофлі царскай годнасці, а каб я свае скінула. Тым не меней, згадзіўся нас абвянчаць і маўчаў пра мяне, пакуль спадзяваўся, што Нікіфар і як цар, і як муж мой застанецца яго з Афанасіем духоўным сынам.

Калі ж Нікіфар прызнаў — і зрабіў гэта без пакаяння, — што пожадзь да мяне ўладарыць не толькі над яго целам, але і над душою, калі паказаў, што ўсе зарокі Богу і патрыярху ён забывае ў маіх абдымках, губляе ў складках маіх сукенак, пакідае ў маёй пасцелі, тады Палівект вырашыў зрабіць так, каб нас народ узненавідзеў. І ва ўсім найперш мяне абвінаваціў. Як быццам я вінавата, што набожнасць яго былога любімца вынікала не з любові да Бога, а з адчаю.

Ён, які павінен, будучы манахам, ведаць усё пра ахвярнасць, не жадаў прызнаваць, што я прынесла ахвяру, стаўшы жонкаю Нікіфара.

Калі памёр мой гожы і палкі муж — цар Раман, мне было дваццаць два гады. І сэрца маё нагадвала крывавую рану. І ўлонне маё скавытала па ім, як

згаладалае сабачаня. Але я не смела заставацца ў жалобе па маім каханым, жыць па праўдзе сваёй душы, як няўцешная ўдава. Бо я ж была царыцай, якая не смее аддаваць прастол. Я ж маці, і для сваіх сыноў павінна была захоўваць спадчыну. «Як гэта зрабіць? Якім чынам?», — задавала я сабе пытанні, усведамляючы, што не маю верных людзей ні ў войску, ні пры двары. Усё, што я маю, гэта мая незвычайная прыгажосць. Ды яшчэ ўменне, якое мяне рабіла непараўнальнай палюбоўніцай. «Невялікія гэта сілы», — разважала я. Аднак ведала, што яны могуць быць неабмежаванымі, калі сутыкнуцца з мужчынскай слабасцю.

Усяго двое мужчын маглі ўяўляць небяспеку для маіх сыноў. І толькі яны двое мелі сілу адзін ад другога абараніць мяне і маіх сыноў. Гэта Іосіф Урынга і Нікіфар Фока. Урынга — еўнух. Адпаведна, заставаўся мне Фока. Гэта быў нават не выбар з дваіх. Гэта вымушанасць.

Нікіфар — нашчадак слаўнага роду военачальнікаў. І ён сапраўды быў першым вялікім палкаводцам Візантыі пасля трох стагоддзяў заняпаду. І ўсе яго праслаўлялі, акружалі пашанаю. Але воінская слава не мае значэння для жанчыны, якая прывыкла, што яе кахае цар, да таго ж і непараўнальны мужчына.

Фока быў за мяне старэйшы на трыццаць гадоў. Непрыгожы, па-салдацку праставаты і грубы. Я гідзілася яго дыхання і дотыкаў. Аднак завабіла ў сваю пасцель. Стала яго каханкай, потым і жонкай. Аддала сваю прыгажосць за яго ўладу, сваё цела за яго душу, сваю жарсць за яго няўмелыя мілошчы і слязлівыя прызнанні, што ён Богу здрадзіў з-за кахання да мяне. З-за кахання да мяне — бачыце! Дурань! Каб я магла выбіраць, то ён бы зноўку надзеў кашулю свайго дзядзькі.

А Полівект назваў мяне распусніцай. Ды яшчэ і шлюб наш абвясціў кровазмяшальным, паколькі ён, быццам бы, толькі пасля вянчання даведаўся, што Нікіфар быў хросным бацькам аднаго з маіх сыноў. Такі вось Полівект, і такія дзейкі яго! А іх распаўсюджвалі папы і манахі, і ўсе мае ворагі. Так што з часам гэта стала ўспрымацца як праўда.

І пачалі гаварыць, што гэтая дабрадзейная дзяўчына мяне мае на ўвазе, кажучы: «Пакайцеся!» і паўтараючы: «Абмый грахі свае, а не толькі твар». Быццам бы гэта яна, Богам пасланая, заклікае да пакаяння мяне і Нікіфара. Падобна як Іаан Хрысціцель заклікаў Ірада і жонку, з якой ён жыў у кровазмяшальным шлюбе. Так я стала царградскай Ірадзіядай! О, як гэта было даспадобы маім ворагам! Усё, як у старадаўніх аповедах: грэх, грэшнікі, заклік да пакаяння. Розніца толькі ў тым, што цяпер замест напаўдзікага пустэльніка вястункаю Божай была прыгожая, ласкавая і далікатная дзяўчына.

«Чысціня Параскевы — люстэрка нячыстасці, бруду царыцы!», — дзейкалі прыхільнікі Полівекта і ўсе, хто ім верыў.

Ах, як мне хацелася разбіць гэтае люстэрка!

Я сапраўды была ў гневе!

Аднак такія свае парывы я магла і ўтаймоўваць. Акрамя таго, нечаму навучылася з гісторыі, а таксама з жыцій святых. Гора і ганьба таму ўладару, якога памятаюць па імені яго ахвяры. Што б ні казаў Полівект, я не была Ірадзіядай. І не хацела забіваць гэтую дзяўчыну, каб такім чынам зрабіць з яе святую. Хоць, можа, у рэшце рэшт і такое вымушана была б зрабіць. Каб яна змоўкла, каб знікла з вуліц і з цэркваў. Каб народ на яе больш не глядзеў. І каб мяне больш не параўноўвалі з ёю.

Не ведаю, ці малілася яна Богу за тое ж, што і я, але Бог змілаваўся над намі абедзвюма. Калі стала вядома, што яна адышла, я дзякавала Яму, стаўшы на калені і молячыся так шчыра, як ужо даўно не малілася. Слязьмі аблівалася, што і мяне самую крыху здзівіла. А потым шчодра міласціну раздала ўсім

гаротнікам, якія ў той дзень аказаліся на паперці Влахернскай царквы. І дала таксама грошы, каб сем дзён у сямі царградскіх цэрквах служылі падзяку Госпаду. Але нікому не тлумачыла прычыны сваёй радасці. Нават тады, калі народ пачаў гаварыць, што гэта я бессаромна, і Нікіфару на здзек, адзначала ваенную перамогу і шчаслівае вяртанне свайго каханка, Іаана Цымміскія.

## Параскева

Усё, што нам Бог даў, усё, да чаго нас далучыў, нават калі гэта справы іншых, а мы застаёмся толькі сведкамі, можа быць знакам Яго рукі, якая нам паказвае дарогу. Кожная сустрэча, кожная размова, хоць яна і здаецца нам нязначнай, можа быць Яго адказам на пытанні, якія нас хвалююць і на якія мы просім Яго адказаць. Трэба толькі навучыцца глядзець, слухаць, спазнаваць. Тады зможам пачуць голас Усепрысутнага ў сваім сэрцы.

Гэта я даўно, яшчэ ў дзяцінстве, засвоіла ад Яўфімія. Але ідучы па жыцці, як па дарозе, не была ўпэўнена ў сваёй пільнасці — што заўважаю ўсе знакі Божыя, што адрозніваю тыя ўказальнікі, якія ён паставіў, каб ішлі да чыстай вады, ад тых, якія папярэджваюць пра бездарожжа, небяспеку і прорву. І яшчэ мяне хвалявала, ці магу я растлумачыць тое, што некалі здавалася голасам Усявышняга. Ці гэта сапраўды голас Яго, а ці толькі покліч маіх жаданняў і водгук майго розуму.

Таму я прасіла: «Кажы мне так, каб я Цябе разумела! Прашу пра гэта не з-за ленасці духу, не з-за таго, што мне цяжка разгадваць Тваю волю, а з-за таго, што баюся ўчыніць грэх непаслушання. А як магу не памыліцца, калі не ўпэўнена, што Цябе добра пачула? І як магу слухацца, калі Цябе не разумею?»

Я прасіла, і Ён, заўжды міласцівы, пачуў мяне. Таму часта размаўляў са мною на мове малюнкаў, выяў — той мове, якую ўсе, нават малыя дзеці, разумеюць і без цяжкасці тлумачаць.

Я многа і часта сніла.

Ніколі не забуду тыя два сны, якімі пачаўся апошні год майго знаходжання ў Царградзе.

У першым сне я ішла па насыпе каля нейкай вады. Але глядзела не пад ногі, а на другі бераг, дзе стаялі шэрагам нізкія дамкі, адзін да аднаго падобныя, толькі па-рознаму афарбаваныя. У кожным з іх было акно ў бок вады, і ўсе тыя вокны зачынены. Акрамя аднаго, да якога я і скіроўвала свае вочы і сваё сэрца. Я ведала, што яно там ёсць, і шукала яго.

У рэшце рэшт дабралася. А ў тым расчыненым акне, у залатым святле нябесным, стаяў Спаціцель, распасцёршы рукі і ўсміхаючыся. Гэта было сапраўды цудоўнае відовішча, якое я не магла параўнаць ні з чым, што дагэтуль бачылі мае вочы. Святло Яго азарыла мяне! Усмешка Яго прыцягвала мяне! Ён Сам быў усмешкаю. Сам быў святлом. І мне захацелася, усёй маёй істоце захацелася, кінуцца да Яго. Каб у абдымках Яго магутных рук адчуць цяпло, адчуць спакой, які прадчуваўся, якога я так моцна жадала, а ніколі і нідзе яшчэ не знаходзіла. Але між намі плёскалася вада — цёмная, быццам бы яна змяшчала ўвесь бруд гэтага свету.

У другім сне Спасіцеля я не бачыла. І берага таксама. Усё было пакрыта вадой. Чорнай, непрагляднай, цяжкай, слізістай ад бруду, які яна змывала.

Вада была паўсюль вакол мяне. Яна ліпла да майго цела, да скуры; душыла мяне. Я ведала, што не адна там. Вакол было многа цел чалавечых і гадзючых. Я не бачыла ў цемені, але іх прысутнасць адчувала па страху — тым, які вядзе да страты розуму, пераходзіць у вар'яцтва. Усе адзін аднаго баяцца, і ўсе адзін

аднаго староняцца, ачмурэла кідаючыся ў розныя бакі па твані. У мяне страх таксама нарастаў. Я баялася гадзюкі і таго, хто гадзюку трымаў, настаўляючы на мяне, каб дотыкам нанесці мне шкоду. Не маючы ніякіх сіл, каб захіліцца, я больш прадчувала, чым адчувала, канец халоднага хваста гадзюкі і крычала, крычыла, крычала, у імя Гасподняе, клічучы на дапамогу.

«У мяне два спосабы дабрацца да другога берага: пайсці па вадзе і бруднай з'явіцца да Спасіцеля, альбо вызваліцца ад цяжару цела і прыляцець да Яго чыстай», — разважала я пасля першага сну.

А пасля другога я ведала, што не павінна, ні ў якім разе не смею заходзіць у ваду. Мне ж Гасподзь паказаў, што чакае тых, якія ідуць гэтым шляхам, бо Ён не хоча, каб я гэтак рабіла. А інакш бы і не пасылаў сны такія — навошта мяне палохаць. Я зразумела, што гэта заклік, каб я цалкам адмовілася ад шматмяцежнага жыцця. Таму што яно, як бы я ні ўхілялася, мяне кранала нейкім сваім канцом, нібы гадзюка хвастом. І я была гатова сысці. Але куды? Як? Калі? Мне хацелася, каб Ён гэта падказаў. Таму што адзіным маім жаданнем было — не мець іншых жаданняў, як толькі выконваць Яго наказы.

І Ён, міласцівы, зноў выказаў Сваю волю. Паслаў вестуноў. Да мяне ўсё часцей пачалі заходзіць тыя, хто здзяйсняў паломніцтвы, а таксама тыя, хто рыхтаваўся адправіцца ў святое падарожжа.

* * *

Якімі хвалюючымі былі для мяне сустрэчы з паломнікамі! Як горача я дзякавала Усявышняму за гэтую міласць!

Людзі, якія пабывалі на Святой Зямлі, вярнуўшыся, прыносілі подыхі далячыняў, пахі пустыні і вярблюдаў, ваду з ракі Іардан. Яны расказвалі пра Божых угоднікаў, якія жывуць у пячорах, у пустыні, якія ў свеце веры іншай, мухамеданскай, годна падтрымліваюць святасць Крыжа.

Я шукала сустрэч з імі, слухала іх расказы ўважліва, чырванеючы ад хвалявання, бо сэрца маё поўнілася трапяткой радасцю.

Ад іх я даведалася, што Маці Божая першай паломнічала па слядах свайго Сына. Пасля Яго Уваскрасення, каб здаволіць прагу свайго сэрца, каб быць да Яго бліжэй праз успаміны, Багародзіца адправілася наведаць усе месцы, дзе Ён бываў і прыняў пакуты. На гэтым шляху болю Маці спынялася ўсюды, дзе спыняўся Сын са Сваімі вучнямі, дзе размаўляў з імі і з народам. Маці Божая начавала ў тых месцах, дзе Ён шукаў Сабе сну. Падоўгу стаяла на каленях, молячыся, там, дзе Ён спатыкаўся пад цяжарам крыжа і ад болю ран, там, дзе Яго бічавалі, здзіраючы скуру і плоць, і там, дзе на Яго ўсклалі вянец цярновы. Прачыстая слязьмі амывала сляды Яго крыві, што засталіся як знакі, хоць і не бачныя, на вуліцах Іерусаліма. На гэтым шляху Яна, абраная, каб несці найбольшую для жанчыны славу і найстрашнейшы боль, была толькі Маці. Маці распятага Сына. І калі Яна праходзіла, дрэвы нагіналіся і кланяліся Ёй. Птушкі прыпынялі палёт і луналі над Яе галавой.

«Як жа гэта цудоўна пабываць там, убачыць усе месцы ахвяр і славы Госпада! Гэта вялікая міласць!» — думала я. І ўсё часцей задавала сабе пытанне, ці заслужу калі-небудзь, каб Гасподзь паклікаў мяне ў краіну Свайго яўлення і ўкрыжавання.

Пэўна ж, я добра ведала, што дарога да Палесціны доўгая і небяспечная, што ў такіх падарожжах многія пазбаўляюцца сваіх набыткаў, а то і жыццяў. Там нямала і хвароб, і разбойнікаў. Але я не баялася. Лічыла, што і пакуты на Святым шляху — гэта дар. І была гатова такі дар прыняць.

Зноў і зноў шукала я сустрэч з паломнікамі. Сілкавалася іх уражаннямі, апаведамі пра хрысціянскія святыні, якія на працягу стагоддзяў чакаюць вернікаў і сведчаць, як быў здраджаны Той, Хто прыйшоў, каб нас навучыць любові.

Паколькі ішоў час і я сустракалася з усё новымі паломнікамі, то маё жаданне пабываць на Святой Зямлі нарастала і мацнела, поўнасцю ахопліваючы мае сэрца і розум.

Праўда, часам я задумвалася, а ці не сорамна такое жаданне мець мне, якая Госпаду перадала сваё жыццё і, адпаведна, усе свае жаданні. А ці гэта Ён Сам такое жаданне паслаў мне як заклік?

«Ці Твая гэта воля, каб я адправілася ў Палесціну?» — пыталася я ў Яго. І паўтарала гэтае пытанне як малітву. У сваім пакойчыку, у царкве, на вуліцы.

«Ці Твая гэта воля, каб я адправілася ў Палесціну? А ці гэта падман майго розуму?» — пыталася я ў Яго несупынна і тады, калі слухала адну дзяўчыну, якая толькі што вярнулася з Горада Апосталаў.

Мы тады сабраліся перад Влахернскай царквою. Сядзелі на цёплых камянях. Любоў да Хрыста яднала нас: і захопленых слухачоў, і ўжо вопытных паломнікаў. Яны вярнуліся ўмацаваныя ў веры і надзеі, што Яго шлях, як шлях ісціны і жыцця, ніколі не апусцее.

«Ці Твая гэта воля, каб я адправілася ў Палесціну? Скажы мне! Скажы, прашу Цябе! Каб я не сваімі помысламі кіравалася, думаючы, быццам іду за Табою!» — заклінала я.

І тады звярнуўся да мяне адзін малады чалавек, які сядзеў побач.

«Я далучыўся да грамады, якая збіраецца ў паломніцтва дарогаю Спасіцеля. Можа, і ты, сястра, хочаш пайсці з намі?» — запытаўся ён.

У мяне хлынулі слёзы расчуленасці, замілавання і гарачай удзячнасці Таму, хто ставіць усе пытанні і дае ўсе адказы. Я была ўпэўнена, што выразна Яго пачула і добра зразумела.

* * *

З Царграда я пайшла гэтак жа, як некалі з Эпівата — радасная, што далей іду шляхам, які Ён мне вызначыў. Я не ведала, дзе буду спыняцца і дзе затрымлівацца, дакуль дайду. Але ведала, што назад не вярнуся.

Мне горача хацелася прайсці тымі дарогамі, якімі Ён хадзіў, паліць слязьмі кожны слядок ад Гефсіманіі да Галгофы і самой падмацавацца на Яго шляху. А разам з тым, пакладаючыся на Яго прамысленне, я разумела, была ўпэўнена, што мой адыход — не толькі дзеля паломніцтва.

Рушыла я з лёгкасцю, бо ніякага цяжару расстання з сабою не панесла. Развіталася толькі з Яўфіміем і нашым духаўніком, богабаязным настаўнікам, старцам Сімяонам. Але з імі я не разлучалася. Мы ж верылі ў аднаго Бога, і дзе б ні апынуліся, былі разам у сваёй малітоўнай любові.

Уласна, знаходзячыся ў Царградзе і будучы з Яўфіміем у такіх адносінах, якія складаюцца між дзвюма душамі, памкнёнымі да аднаго і таго ж, я зразумела, што мы рассталіся яшчэ ў Эпіваце — тым ранкам, калі я сціскала яго руку ў сваіх павільгатнелых ад перажывання далонях. Ад той пары кожны з нас жыў сваім жыццём, павярнуўшыся да Бога і Богу прысвяціўшыся. Шмат гадоў ужо Яўфімій быў маім братам у Хрысце больш, як братам па крыві і лоне мацярынскім.

Ён іераманах, і жыў па мудрых правілах манастырскага жыцця, устаноўленых прападобным Феадорам Студытам. Павінен быў прайсці трыццаць ступеняў падзвіжніцтва, каб дасягнуць духоўнай дасканаласці. У яго былі свае абавязкі перад брацтвам і перад духаўніком — неадменнае паслушэнства. Усе яго

думкі і пачуццёвыя памкненні ўвесь час павінны былі накіроўвацца да Госпада і чысціні. Толькі да Госпада і чысціні. Таму я не была — і не смела быць, — часткай яго свету больш, чым любое іншае стварэнне Божае. Ён не смеў нават сустракацца і перапісвацца са мною без благаславення старца Сімяона.

І тады, напярэдадні адыходу, я спачатку сустрэлася і развіталася з старцам Сімяонам.

А Яўфімія потым чакала ў манастырскім двары, каля царквы. Кіпарыс, пад якім я стаяла, нагадаў мне пра сад за нашым родным домам. А таксама пра напаўсляпую дзяўчынку, якая захоплена слухала свайго старэйшага брата, абапіраючыся на яго руку і яго любоў. Кароткім быў гэты трапяткі дотык мінулага, гэты момант мілых згадак. Бо манах, які падыходзіў да мяне, зусім мала нагадваў брата з успамінаў. Ён быў сур’ёзны, спакойны, духоўна ўзвышаны. У ім ужо можна было пазнаць будучага епіскапа Мадзіцкага і правадыра воінаў Хрыстовых у барацьбе з ліхавер’ем.

«Адпраўляюся на Святую Зямлю, — сказала я, калі ён падышоў, і пацалавала яго руку. — Іду, і думаю, што больш сюды не вярнуся».

Ён ступіў крок бліжэй і пацалаваў мяне. У кожную шчаку і ў лоб.

«І я думаю, што ты не вернешся, — адказаў брат. З упэўненасцю, як быццам гэта даўно ведае. — З Богам, сястра! Няхай табе на шляху тваім спадарожнічае міласць Гасподня».

Ён адступіў ад мяне і накіраваўся да царквы. Павольна, размеранай хадою, роўна. Яго не кранала мая расчуленасць. І мае гарачыя слёзы, якімі, пэўна ж, я змачыла яго руку і шчаку.

Я стаяла і глядзела яму ўслед, усведамляючы, што гэта ў апошні раз.

Ён не мяняў ні хады, ні паставы, пакуль не дайшоў да дзвярэй царквы. А там, спыніўшыся, азірнуўся на мяне. І ўзняў руку, як быццам благаслаўляючы, ці то адвітваючыся.

«З Богам, Петкана!» — прамовіў ён. І ўсміхнуўся. Так, як калісьці.

Гэтую выяву Яўфімія — як ён усміхаецца і кажа мне: «З Богам!» — я панесла ў сваіх вачах і ў сваім сэрцы. За мора — на Святую Зямлю. І далей, туды, куды мяне павёў адзіны Знаўца найлепшага шляху для кожнага з нас.

* * *

Мора! Неабсяжны бяскрай, як усепрысутнасць і ўсемагутнасць Божая. Яно заўжды мяне вабіла да сябе і падганяла мае думкі наперад, усё далей. Яшчэ малой дзяўчынкай я, гледзячы на яго, прадчувала неабмежаванасць Тварца.

Пазней, калі расла і набывала досвед з кніг і размоў, гледзячы на мора, я ўсё часцей задумвалася пра нашага Айца Нябеснага. Пра любоў Яго, якую Ён адкрыў нам праз Сына Свайго: паслаў нас навучыць любові і з любові да нас ахвяраваў Яго.

Я думала пра неабмежаваныя магутнасць і мудрасць Айца, выяўленыя ў дасканаласці створанага Ім. Ён стварыў неба, зямлю і мора, даўшы ім шмат цудоўнага. І прадумаў да самых драбніц — каб усё існуючае мела сваю абумоўленасць і сэнс існавання; каб усё было і самадастатковым, і адначасова часткаю ўсеагульнага.

Пакуль ад Царграда мы плылі да берагоў іудзейскіх, я часта начамі выходзіла на палубу і ў малітвах сустракала світанне, той цудоўны час, калі знікае падзел між небам і морам, і два бязмежжы зліваюцца ў святле.

Я бачыла, што наша ладдзя сярод марской прасторы — як арэхавая шкарлупіна, а мы, падарожнікі, — як мурашы ў яе порах. І больш, чым

калі, усведамляла ўсю мізэрнасць чалавека, яго залежнасць ад любой сляпой сілы.

«Чалавек — лёгкая здабыча ўсялякай пагрозы, — шаптала я сама сабе. — І ўратаванне ма́е толькі ў адным: абапірацца на сілу і міласць Спасіцеля ды на веру сваю».

Згадвалася тое, як Іісус ішоў па моры, каб далучыцца да вучняў Сваіх, якія чакалі яго ў лодцы. «Госпадзі, калі гэта Ты, загадай мне прыйсці да Цябе па вадзе», — звярнуўся да Яго Пётр. «Хадзі!» — паклікаў яго Настаўнік. І Пётр пайшоў да Яго, таксама па вадзе. А потым, апусціўшы погляд з аблічча Іісусавага і ўгледзеўшы хвалю, якую на яго вецер наганяў, Пётр спалохаўся і зноў стаў толькі целам, магчымасці якога абмежаваны цяжарам. «Малаверны, чаго ты ўсумніўся?» — выказаў яму дакор Той, Які прыйшоў, каб умацаваць нас у веры.

«Дзе ваша вера?» — пытаўся ў Сваіх вучняў на Генісарэцкім возеры Гасподзь. Ён, Які ўсё мог праз малітву Айцу Свайму, і Які Сваёю рукою спыніў буру, не забараніў буры пачынацца. Бо каб не было буры, то як бы Ён паказаў нам, што вятры і хвалі ўтаймоўваюцца вераю ў душы.

«Дзе ваша вера?» — нагадваў уваскрэслы Хрыстос рыбакам з пустымі мярэжамі. Тым, якіх Ён абраў, каб былі лаўцамі чалавечых душ.

«Дзе ваша вера?» — можа спытацца Ён у кожнага з нас.

Пра гэта я думала, калі мы набліжаліся да Святога берага.

«Якая ж вера ў мяне?» — задавала я пытанне сабе, адчуваючы і разгубленасць, і страх, і глыбокую пашану да Бога. З усёй сілы я старалася разгледзець як след сваё сэрца. І малілася, каб яно заўжды было напоўнена вераю. Каб я магла яго без сораму паказаць воку, якое ўсё бачыць.

* * *

Па моры я з Ім падарожнічала. Гэтаксама і потым: па Галілеі, Самарыі, Іудзеі. З Ім ішла я да берагоў Мёртвага мора і да Іардана.

Усюды, дзе я прайшла, Ён быў. Усюды Яго я бачыла. І толькі на Яго глядзела.

Я бачыла Яго такім, як у кнігах напісана. Ён сур’ёзны, крыху задуменны. Глядзіць на тое, што аднаму Яго воку бачна.

Ён ведаў будучыню. Ведаў, што многія ад Яго адракуцца, і Ён будзе распяты. Што народ і святары, і многія цары будуць на Яго пляваць, каменнем закідваць, а таксама страшным пакутам падвяргаць Яго апосталаў і ўгоднікаў, пры гэтым гаварочы, што так яны абараняюць сапраўдную веру і Бога ад няверных і духоўна спакушаных. Ён ведаў сутнасць людзей і ведаў усё, што з імі будзе — што́ яны пачнуць рабіць, спасылаючыся на Яго і Айца Яго.

Таму Ён ніколі не смяяўся. Але бачылі, як Ён плакаў.

Сапраўды, сапраўды кажу вам: усюды, дзе я прайшла, Ён быў. І я, паломнічаючы па мясцінах Яго зямнога жыцця, нібыта бачыла і дні Яго.

Бачыла Яго як дзіця Святой Маці — калі Ён рос у Назарэце, у сям’і беднага цесляра. Бачыла Яго як нялюбага ў коле сыноў Іосіфа, якіх Ён лічыў Сваімі братамі. Бачыла, як Яго не разумелі і адвяргалі тыя, сярод якіх Ён жыў, пакуль не стаў на шлях, прайсці які Ён і быў народжаны.

Я адчула боль Яго Маці той пары, калі Ён пайшоў, і Матчын страх, калі пачалі даходзіць чуткі пра Яго. Паводле тых чутак, Ён быў прарокам і цудатворцам, але і багахульнікам, які парушае веру і законы сваіх продкаў, дружыць з нягоднымі і гаворыць: «Я прыйшоў разлучыць чалавека з бацькам яго, і дачку з маці яе, і нявестку з яе свекрывёю».

Я бачыла Яго ў пустыні падчас посту, калі Ён сорак дзён і начэй змагаўся і адольваў спакусы, праз малітвы на Айца Свайго абапіраючыся. Сатана мяняў аблічча і спакушаў Яго. Прапаноўваў Яму ўсю славу свету і ўвесь свет у падпарадкаванне. А Ён, галодны, адвяргаў хлеб Сатаны. «Не хлебам адным будзе жыць чалавек, але і кожным словам, якое зыходзіць з вуснаў Божых», — казаў Ён. І дадаваў: «Адыдзі ад Мяне, Сатана, бо напісана: «Госпаду Богу свайму пакланяйся і Яму аднаму служы!»

Так Ён адагнаў Уладара чалавечых слабасцяў, застаўся ў моцы Духа і пайшоў па зямлі Ізраілевай.

Я бачыла, як Ён хадзіў па дарогах пыльных у спёку. Ён паперадзе, як пастыр, а за Ім — чарада прагных суцяшэння і праўды.

«Як, пэўна ж, цяжка было Яму несці ўсю тую магутнасць у Сваім кволым і любой хваробе падлеглым целе чалавечым, — разважала я. — А Ён хадзіў босы і з непакрытай галавою, каб быць нароўні з тымі, што ішлі за Ім. Бо для Яго ўсе былі аднолькавыя — дзеці Айца Яго».

Я бачыла, як Ён стаіць на нейкім пляцы, а многія хочуць дакрануцца да Яго, каб праз веру сваю ацаленне знайсці, як Марыя з Магдалы.

Я бачыла, як Ён падтрымлівае бедных, вылечвае хворых. Як навучае пакорнасці і любові, навучае прабачэнню і Сам прабачае.

Я думала пра Яго міласэрнасць у адносінах да грэшнікаў і хворых — да роду чалавечага, дзеля ўратавання якога Ён згадзіўся быць распятым.

Гэта быў Сын Божы, але таксама і слуга людзей. Усё, што Ён рабіў, — гэта для іншых. Ён і на крыжы не пра Сябе думаў. «Вось, Маці твая!» — сказаў наймалодшаму Свайму вучню, адзінаму, хто суправаджаў Яго да Галгофы. «Жанчына, вось сын Твой!» — сказаў Сваёй Маці і перадаў Яе пад апеку і любоўны догляд Іаана, усведамляючы, што дом Іосіфавых сыноў не можа быць Яе домам.

І міласці да людзей прасіў Ён у Айца Свайго. «Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што чыняць»,— маліў з крыжа Ён, Які прыйшоў, каб нас навучыць прабачэнню.

У Гефсіманіі бачыла я Яго, як Ён на каленях маліўся, у той час, калі вучні Яго спалі. Ён трымцеў ад перажывання, погляд узвёўшы да Айца, «і быў пот Яго нібы кроплі крыві, якія падаюць на зямлю».

«Няхай будзе воля Твая!» — казаў Ён Айцу.

«Няхай будзе воля Твая!» — кажам падчас і мы, людзі, да Бога звярнуўшыся. Але не ведаем, што нас чакае. І ў нас трымаецца надзея — няхай і кволая, няхай патаемная, але жывая, — што Айцец, здзяйсняючы волю Сваю, улічыць і нашу: будзе міласцівы, пазбавіць нас ад спакус, вызваліць ад пакут, альбо хоць боль зменшыць, скароціць яго моц і працягласць.

А Ён жа ведаў, якая воля Айца Яго. Ведаў, што Яго чакаюць ганебныя прыніжэнні, самая жахлівая здрада, нязносны боль. Аднак усё роўна сказаў: «Няхай будзе воля Твая!» Ён згадзіўся Сваёй ахвярай адкупіць нашы грахі. Прыняў на Сябе пакуты, каб мы маглі спадзявацца на прабачэнне.

Я бачыла Яго, як ішоў па Іерусаліме, згінаючыся пад цяжарам болю і здрады. Бачыла сябе сярод тых, хто ішоў услед за Ім і задавала сабе пытанне, што б я зрабіла, каб была ў ліку Яго апосталаў. Ад рымскага суда, ад пагрозы раз’юшанага натоўпу і ад помсты яўрэйскіх святароў ратавала б сваё прыгнечанае страхам цела, а ці душу? «Ніколі, ніколі б ад Цябе не адраклася!» — паўтарала я, стоячы на каленях перад Яго Гробам у храме Пакут. І адчувала, што такое заклінанне прамаўляю ад чыстага сэрца. Але пры гэтым ведала, наколькі ж немачная прырода чалавека. Хіба Пётр не гэтаксама абяцаў, прычым вочы ў вочы з Госпадам? Ды адрокся ж ад Яго тройчы, за адну ноч. Тры разы — ад поўначы да першых пеўняў, іменна так, як сказана, што будзе.

«Не бойцеся тых, якія забіваюць цела, а душу не могуць забіць!» — нагадваў Настаўнік. «Вера! Вера! Вы павінны мець веру!» — паўтараў Ён. Між тым, апосталы і вучні быццам бы забыліся пра гэты святы наказ. Яны разбегліся перад судом сілы і неміласэрнасці, не прызнаючыся, што Ягоныя. Падда ліся найстрашнейшым сумненням, каб сябе апраўдаць: «Калі Ён сапраўды Сын Божы, то чаму ідзе на суд і на пакуты? А калі Ён не той, за каго Сябе выдае, то нашто нам пакутаваць за Яго?» Нават яны, тыя, што былі Яму найбліжэйшыя і сведчылі пра ўсе Яго павучанні і цуды, не разумелі сэнсу Яго прыходу і Яго ахвяр.

«Мабыць, і Пятрова здрада — гэта частка промыслу Божага, — разважала я. — Яна адрасуецца нам. Каб мы разумелі, што стаіць за сумненнем, і навучаліся пакаянню. Каб усведамлялі, што страта веры, як іржа, раз’ядае нават самыя чыстыя сэрцы і, як атрута, паралізуе нават самыя лепшыя розумы».

Ходзячы па Святой Зямлі і па святых слядах Яго, я думала пра ўсё, што Ён рабіў. І старалася хоць часткова зразумець, якім Ён быў. І які ёсць. Ды як пядзяю ахапіць бязмежжа неба?! Як па глытку вызначыць змесціва глыбіняў марскіх? Як у адну слязу сабраць, праз адзін уздых спазнаць увесь боль і ўсю радасць свету? А Ён — усё гэта, ды яшчэ намнога больш. І ў кожны міг да Яго даходзіць кожная думка чалавечая, кожнае ўздрыгванне травы, дотык ракавінкі да карала, трапятанне зоркі. А напісана, што і верабей з плота не можа ўпасці без волі Яго.

«Усё, што ёсць, і што магло быць, — ад Яго. Ды як уявіць сабе такую неймаверную велічыню? Як розумам ахапіць такую ўсемагутнасць і ўсепрысутнасць Яго?» — задавала я сабе пытанні.

Так ці інакш, увесь час думала пра Яго. Увесь час Яго бачыла і слухала Яго словы.

Ён быў побач, калі я ўвайшла ў святую раку Іардан на месцы Яго Хрышчэння. Там, дзе Айцец азваўся словамі, якія толькі Сын чуў і разумеў.

Мне здавалася, што рака працякае скрозь мяне, змывае ўсё ліха, якое сабралася на душы ў мяне, вычышчае знутры і што я, выйшаўшы, буду ўжо не такой, як дагэтуль. І калі ў маю руку заплыў каменьчык — кругленькі і блакітны, як адарваны кавалачак неба, — я была ўпэўнена, што гэта Ён мне паслаў. Каб падзякаваць, я ўзняла вочы ўвысь, да Яго — так, як Ён узводзіў погляд да Айца Свайго. І заплакала, кранутая любоўю, адчуваючы, як маё сэрца напаўняецца спакоем.

«Няхай будзе воля Твая, якой бы яна ні была!» — сказала я ў неймаверным захапленні.

Потым, апусціўшы погляд, перавяла яго на другі бераг проста перад сабою. І ўбачыла іх — мужчыну і жанчыну. Яны стаялі поплеч, нерухома, і быццам бы ў чаканні.

Мужчыну я пазнала адразу. І затрымцела. Ад страху, ад сораму, ад спадзявання.

Паглядзела вакол сябе, на людзей, з якімі паломнічала. Каб праверыць іх погляды, каб упэўніцца, ці бачаць яны тое ж, што і я, каб развеяць сваё сумненне. Мае спадарожнікі былі заняты сабою. Кожны ў сябе заглыбіўся, у свае пачуцці, выкліканыя Святым Хрышчэннем. І ніхто, ніхто не глядзеў на другі бераг. А мужчына і жанчына былі яшчэ там. Яны з’явіліся ўмомант, як прывід. Але рэальныя.

«Няхай знікнуць, калі яны — толькі ўяўленні майго розуму, які падпаў пад спакусу, калі гэта прывіды маёй ганарлівай душы!» — узмалілася я, зусім разгубіўшыся. Бо хто ж я такая? Убогая дзяўчына, такая ж грэшная, як іншыя, толькі што загарэлася жаданнем ачысціцца і агарнуцца святлом Божым. І як

жа тады я пасмела паверыць, што сапраўды бачу іх — Таго, хто хрысціў Ісуса з Назарэта і пазнаў у Ім Сына Божага, і жанчыну, якая такое ж святло, як Хрысціцель, несла?

«Госпадзі, калі не ад Цябе яны, то няхай знікнуць!» — заклінала я.

Яны ж не зніклі.

Засталіся там, дзе я іх убачыла, і тады, калі мы пайшлі з Іардана.

А жанчына праз некалькі дзён пасля гэтага з'явілася ў сне. Каб павесці мяне туды, куды Ён прызначыў.

## Пагоншчык вярблюдаў, праваднік каравана

Я быў не паломнік. Што праўда, мне даводзілася многа разоў наведваць усе святыні Старога і Новага Запаветаў. Але я гэта рабіў не дзеля веры і Бога, а дзеля заробку. Маёй справаю было вадзіць тых, хто паломнічае — забяспечваць іх ежай і вадой, выбіраць месцы для прывалаў, знаходзіць начлег. З гэтага жылі я, мая паважаная маці, мае прыгожыя, пладушчыя і пакорлівыя жонкі і нашы дзеці. Я спадзяваўся, што, па міласці Божай, і сыны мае будуць так жыць.

У мяне былі коні і вазы, аслы таксама. Але я асабліва любіў вярблюдаў. Гэта адважныя, вынослівыя і цярплівыя жывёлы. Яны ганарлівыя, быццам каралевы, аднак і разумныя. Ад іх я многаму навучыўся.

Два разы на год я наведваў усе мясціны, па якіх прайшоў Той, па імені Якога хрысціяне назвалі сваю веру. Але мне хацелася як-небудзь адправіцца далёка на поўдзень. Каб у месяцы зулхіджы наведаць Мекку. Каб, чыстаму целам і духам, з вернымі абысці вакол чорнай гранітнай будыніны, якая называецца Чаба, і дакрануцца да яе. Каб пабываць на магілах Хагары і Ісмаіла, на крыніцы Земзем. Каб узняцца на Гару міласці ў даліне Арафат.

Я мусульманін, пакорлівы Богу. Мая вера — вучэнне Мухамеда, якога некаторыя называюць апошнім біблейскім прарокам. Яму таксама явіўся той архангел, што шасцю стагоддзямі раней маці Ісусавай прынёс добрую вестку як пасланне ад Бога. Хрысціяне называюць яго Гаўрыілам ці Габрыэлем. А мы яго ведаем як Джыбрыла. Джыбрыл даў Мухамеду Кнігу для нас. Каб мы чыталі.

У хуткім часе пасля атрымання Кнігі племя веры маёй заняло Святую Зямлю хрысціян. Ці быў гэта напамін Ісуса дзецям Яго і што яна азначае, не мне судзіць. Няхай хрысціяне пра гэта думаюць і вырашаюць.

А я кажу, што Ісус быў чысты, гэта Божы абраннік, і я паважаю Яго за тое, што памёр за веру пакутніцкай смерцю. І за тое, што дабру навучаў.

Я ва ўсім чалавек просты. Вылучаюся толькі адным — умею чытаць чужыя думкі. Але пра гэта заўжды стараюся маўчаць. Не ведаю, нашто мне дадзена такая здольнасць. Напэўна, каб мог сведчыць? І не ведаю, як гэтую здольнасць трэба ўспрымаць — як міласць, а ці як пракляцце.

Чаго толькі я не наслухаўся, водзячы паломнікаў! Якіх думак! І чаго толькі не наглядзеўся! Бывала і сам сабе не верыў. Часам у жаху пытаўся, можа, гэта Ібліс, як мы называем Сатану, муціць мне розум і спакушае мяне.

Многія паломнікі нагадвалі мне жанчыну з даўняй прытчы: яна стаіць на службе Божай, слязьмі абліваючыся. Святар, упэўнены, што яе расчуліла святасць храма і што яго пропаведзь дайшла да сэрца. «Чаго ты плачаш, мілая?» — пытаецца ў яе. «Ды вось, — адказвае тая, — у чалавека, які стаяў непадалёку, было такое самае адзенне, як у майго нябожчыка мужа. А мой

муж быў такі добры! Не магу суцешыцца пасля яго спачыну! Як некалі было напісана: «Рахіль плача па сваіх дзецях, і не можа суцешыцца, бо іх няма», — так і я плачу заўжды, калі нешта нагадае мне пра майго незабыўнага!»

І жанчына тая не выключэнне. Многія паломнікі і ў час малітвы заняты былі справамі свецкімі. Менш за ўсё думалі пра Бога ды пра свае грахі. І нават калі нехта ўсведамляў недарэчнасць сваіх думак, то хутка прабачаў сам сабе. «Я трачу тут грошы і час! Дык наколькі ж я лепшы за іншых! Колькі раблю з любові да Бога!» Так, так, праўду вам кажу! І такія думкі я чытаў.

Я разумеў гэтых людзей. Яны прыбывалі з краін, дзе вялікія грахі чыніліся. Таму ім свае грахі здаваліся мізэрнымі, а хоць нейкія крокі на шляху да Бога — вялікімі. Яны мералі не мераю Божых запаведзяў, а мераю людскіх учынкаў.

О, як мне было шкада іх! З-за таго, што слухаюць, а не чуюць. З-за таго, што ім даецца, а яны не прымаюць. І я маліўся за некаторых з іх: «Божа, збаў яго ад глупства самалюбнасці, ад лёгкасці прабачэння самому сабе. Збаў ад таго граху, у якім чалавек бярэ на сябе такое, што адзін толькі Бог смее на Сябе браць».

Можа, з майго аповеда складваецца ўражанне, быццам усе паломнікі былі такія. Ды не. Былі сярод іх і сапраўды памкнёныя да Бога. Тыя шчыра ўздыхалі і сапраўднымі слязьмі абліваліся на сцежках Госпада свайго, і маліліся, каб ніколі не сысці з Яго шляху.

А вось адна дзяўчына, яе звалі Параскева, і сярод іх вылучалася, як полымя з дыму. Такіх з маімі караванамі яшчэ ніколі не было. Такой не памяталі ні я, ні мае памочнікі, ні вярблюды.

Яна трымалася адасоблена і ўвесь час размаўляла з Богам. Ішла ў асноўным пешшу і згаджалася на воз сесці, разам з іншымі жанчынамі, каб адпачыць, толькі тады, калі стома ўжо зусім даймала. Ела і піла мала, быццам бы яна дачка пустыні.

А як малілася! Такой малітвы я ніколі не чуў! Іншыя ў Бога прасілі, а яна Богу прапаноўвала. Іншыя маліліся, каб ім Бог даў, а яна маліла Бога, каб ад яе прыняў. Яна ведала, што міласць даецца таму, хто абраны служыць Богу, і малілася: «Госпадзі, дай мне як мага больш сілы, каб я здольна была як мага больш Табе служыць!»

Калі яна знікла, многія былі здзіўлены. А я не. Яшчэ з таго часу, як упершыню пачуў яе думку — а гэта было пры адыходзе з Хайфы, — я ведаў, што яна не вернецца. Калі ж пачуў, каго яна ўбачыла на другім беразе Іардана і хто прыходзіў потым да яе ў сне, то зразумеў, куды яна адправіцца.

«Няхай бароніць яе Бог! — сказаў я. — І ўсе прарокі Яго!»

***Працяг будзе.***

***Пераклад з сербскай Івана Чароты.***





## Іосіф РОГАЛЬ

### ПАМЯЦЬ

Белавежы ранішні туман
Павяртае зноўку, як малітву,
Памяць незагойных даўніх ран
І яе — нясконачаную бітву.

Накрапам світальнае расы
На травін узнесеных сцяблінах
Майскі ранак зырка ўваскрасіў
Кроў жывую вінных і нявінных.

Цуг пахмура стоеных аблок —
Душы мёртвых, што спавіты скрухай.
Прыпыні пад імі спешны крок,
Памаўчы і сэрцам іх паслухай.

Свой прыняўшы тут ахвярны лёс,
Нас яны спяшаюцца прывецiць,
Верачы, што больш крыві і слёз
Не пасеюць войны ў Божым свеце.

Адрачыся ад любой вайны
Здатны людзі, будучы ў дазоры.
І як дараванне нам віны
Хай, як свечкі, ззяюць светла зоры.

Цуг пахмура стоеных аблок
Рушыць мірна з захаду да ўсходу…
Веру, што пагрозы новай крок
Не пачуюць заўтра Буга воды.

---

***Рогаль Іосіф Міхайлавіч** нарадзіўся 27 студзеня 1940 года ў вёсцы Ласіцк Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт (1969). Працаваў у Міністэрстве юстыцыі СССР, выкладаў у МДУ на юрыдычным факультэце. Кандыдат юрыдычных навук.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Радуга Полесья» (2008), «Брестчина — душа моя» (2009). Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Жыве ў Маскве.*

## ГОЛАС СЭРЦА

Згас маладзік — схаваў свой рог.
Ступіў я шпарка за парог
І хвалявання збыць не змог
Перад бясконцасцю дарог.

Хмяліла роснае лісцё,
Ўскіпала ў сэрцы пачуццё,
І я ў душы тады знайшоў
Святло такіх расстайных слоў:

Якім, мой лёс, не станеш ты,
Ды беларускія жыты,
Што хвалямі на ўскрай зямлі
Услед за марамі плылі,

Я не забуду! Хутка тут
Я паяўлюся, родны кут,
І пакланюся ў пояс зноў
Табе, зямля маіх дзядоў.

Ў другой краіне ўжо даўно
Смакую хлеб я і віно,
Ды праз гады усё адно
Душа шчыміць, і ёй відно:

Мой край, жывеш у згодзе ты,
Калышаш спелыя жыты,
Што хвалямі на ўскрай зямлі
Услед за марамі плылі,

Мне не забыць іх. Сёння ж тут
Я паяўлюся, родны кут,
І пакланюся ў пояс зноў
Табе, зямля маіх дзядоў.

## АБДЫМІ МЯНЕ

У вялізным сшарэлым горадзе,
З яго грукатам і людзьмі,
Непрытульна нам, з ранку холадна, —
Абдымі мяне, абдымі!

У кахання век не было адмоў,
Дары шчодрыя ты прымі,
Да грудзей цябе прыхіну наноў, —
Абдымі мяне, абдымі!

У кахання свой светлы далягляд,
І, хоць гром зімой прагрымі,
Я злаўлю душой ласкавы пагляд, —
Абдымі мяне, абдымі!

Я вялізны свет аддаю табе,
І сваё, што ёсць — ўсё вазьмі!
Папрасіць дазволь нават у журбе:
Абдымі мяне, абдымі!

Літасцівы Бог, сэрца боль уваж,
Толькі розум мой не задзьмі,
Калі я малю замест «Ойча наш…»
«Абдымі мяне, абдымі!»

Калі Бог — Любоў, быць святой хачу, —
І на крыж мяне падымі,
Горача табе зноўку прашапчу:
Абдымі мяне, абдымі!

Калі Бог — Любоў, святасцю душа
Захлынецца ўміг — ты прымі.
Я скажу й тады, знятая з крыжа:
Абдымі мяне, абдымі!

## МАТУЛІНА ПРОСЬБА

Веснім звонам вады
За акном красавік
Зноў паклікаў туды,
Дзе Яе светлы лік —

За бясконцасць балот
На знаёмы аблог.
Там дзяцінства цяпло
І бацькоўскі парог.

Прыгадаю той міг
У расстайных слязах.
Мой хвалюючы слых,
Матчын голас сказаў:

«Моц любові спазнай,
Не жыві за дваіх,
Раным-рана ўставай,
Будзь шчадрэй за другіх…»

Шмат гадоў адгуло.
Шлях зваротны бяжыць

Да мясцін, дзе сяло
Ў лозах ніцых ляжыць.

Мне ж цяпер гасцяваць
Паміж смутных магіл,
Дзе і слоў не чуваць,
Як і ранішніх сіл.

Колькі вёсен і лет
Праляцела, як міг?!
І Яе запавет
Зноў на вуснах маіх:

«Моц любові спазнай,
Не жыві за дваіх,
Раным-рана ўставай,
Будзь шчадрэй за другіх…»

Веснім звонам вады
За акном красавік
Зноў пакліча туды,
Дзе Яе светлы лік.

Я — здарожаны госць,
І дарога — адна.
Проста памяць там ёсць —
Як мне трэба яна!

## МАЛІТВА

Божа, быў Ты і ёсць па-над цемрывам скутым,
Толькі я не прасіў анічога ў Цябе,
Калі мужна трываў усе цяжбы-пакуты,
Калі сілы губляў за жыццё ў барацьбе.

Ды бядоты мае — гэта кропліна з мора
Перад тымі, што маці давалі тугі.
І вяршыня ўсяму — неадступнае гора:
Дзень прыйшоў мне праводзіць яе ў свет другі.

Вось таму я, каўтаючы роспачы слёзы,
На каленях стаю і малю аб адным:
Ты душу узнясі яе светла ў Нябёсы,
Дай пазбыцца пакут ёй у раі Тваім.

Хай спазнае яна хоць цяпер, што такое
Адпачыць ад бядотаў, пазбыўшы іх здзек.
І ў Нябёсах Тваіх — ціхім райскім спакоі —
Хай прабудзе яна у лагодзе павек.

А яшчэ папрашу — ці такое магчыма? —
Калі я завяршу шлях зямны між снягоў,
Дай убачыць мне там хоць імгнення вачыма,
Што пачуў і прыняў Ты мальбу маіх слоў.

І тады, быццам вынік грахоў маіх ранніх,
А магчыма, і тых, што былі ў яе тут,
Ускладзі на мяне ўсе свае пакаранні,
На якія і здатны адзін Божы Суд.

Свой агонь мне пашлі або лютую сцюжу,
Прад Тваім заміраю прачыстым чалом,
На каленях за маці прасіць Цябе мушу:
Ёй уздай за пакуты ўсім райскім цяплом.

***Пераклад з рускай Міколы Мятліцкага.***



Таццяна ВЫСКВАРКА

# КАДЫФІКАВАНЫЯ І НЕКАДЫФІКАВАНЫЯ ПРЫМЕТНІКІ-КАМПАЗІТЫ ЗАРЭЦКАГА-АПАВЯДАЛЬНІКА

Паколькі літаратурная творчасць — з’ява сацыяльная, на якой непазбежна пакідае свой адбітак гісторыя, то абуджэнне беларускай «словатворчай» мастацкай думкі ў 20—30-я гады XX стагоддзя выступае заканамерным фактам. Па сведчанні М. Прыгодзіча, у той час «у многім праз штучныя ўтварэнні рабіліся спробы надаць беларускай лексіцы большы нацыянальны каларыт і нават рэкамендаваць яе ў якасці літаратурнай нормы» [16, с. 34]. Рамантычна-ўзнёслае светаадчуванне маладых літаратараў падштурхоўвала да стварэння новых моўных адзінак, здольных змясціць у сабе зменлівыя рэаліі жыцця.

Аднак уласна лінгвістычнае асэнсаванне працэсаў утварэння індывідуальна-аўтарскіх слоў, іх месца ў беларускай моўнай сістэме распачалося толькі ў 50—60-я гады XX стагоддзя, прычым першапачаткова гэтыя вытворныя адзінкі ўключаліся ў склад так званай паэтычнай лексікі і не разглядаліся як лінгвістычны феномен. Г. Басава, І. Казейка, М. Прыгодзіч, М. Шабовіч і іншыя навукоўцы ажыццявілі грунтоўныя даследаванні індывідуальна-аўтарскіх слоў на багатым фактычным матэрыяле. Аўтарскія неалагізмы сталі аб’ектам даследаванняў такіх рускіх даследчыкаў, як А. Лыкаў, М. Бакіна, Л. Чэхава, Э. Ханпіра, А. Земская і інш. Аднак пытанні аб узуальным, аказіянальным і патэнцыяльным статусе індывідуальна-аўтарскіх слоў заставаліся і застаюцца спрэчнымі і неадназначнымі і ў рускім, і ў беларускім мовазнаўстве.

Слоўнікавы склад кожнай мовы ўключае *кадыфікаваныя* і *некадыфікаваныя* словы. Да кадыфікаваных належаць словы, замацаваныя ў нарматыўных слоўніках, у якіх раскрыта іх семантычнае значэнне і пададзены адпаведныя стылістычныя прыкметы. Да некадыфікаваных слоў адносяць індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні, сярод якіх вылучаюць лексемы, якія назаўжды застануцца арыгінальнымі аўтарскімі словамі-экспромтамі (аказіяналізмы), і лексемы, што маюць патэнцыял перайсці ў «рады» агульнаўжывальных слоў (так званыя патэнцыяльныя моўныя адзінкі). Некаторыя даследчыкі (М. Багданаў, М. Калніязаў і іншыя) вылучаюць пласт аказіянальна-патэнцыяльных слоў, якія ўбіраюць у сябе прыкметы і аказіянальных, і патэнцыяльных моўных адзінак.

М. Бакіна прапануе наступныя азначэнні аказіянальных слоў: «Аказіянальныя словы — 1) індывідуальныя, невядомыя моўнай сістэме новаўтварэнні, створаныя па непрадуктыўных тыпах; 2) індывідуальныя, невядомыя моўнай сістэме новаўтварэнні, якія ўяўляюць сабой пэўнае адхіленне ад структуры існуючага агульналітаратурнага словаўтваральнага тыпу. Гэтае адхіленне можа праяўляцца як парушэнне фармальных або семантычных умоў утварэння слоў пэўнага словаўтваральнага тыпу» [1, с. 17]. Да групы патэнцыяльных слоў у мовазнаўстве адносяць словы, утвораныя па прадуктыўным тыпе словаўтварэння непасрэдна ў працэсе вуснага ці пісьмовага маўлення ў выніку рэалізацыі патэнцыялу, закладзенага ў словаўтваральнай сістэме пэўнай мовы. Як правіла, патэнцыяльныя словы часцей за ўсё не маюць эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі, характарызуюцца поўнай матываванасцю іх значэння значэннем частак. Аднак як у рускім, так і ў беларускім мовазнаўстве не выпрацаваны адзіны крытэрый размежавання

аказіянальных, патэнцыяльных і аказіянальна-патэнцыяльных слоў, чым і абумоўлены неадназначныя і спрэчныя погляды даследчыкаў на пытанні мастацкай словатворчасці.

А. Лыкаў супрацьпастаўляе аказіянальныя моўныя адзінкі кананічным (узуальным) і выдзяляе паўаказіянальна-маўленчыя ўтварэнні, што стаяць на мяжы паміж аказіянальнымі і кананічнымі словамі. Даследчык аб'ядноўвае патэнцыяльныя і індывідуальна-аўтарскія словы ў адну групу пад агульнай назвай «аказіяналізмы», паколькі «як індывідуальна-аўтарскія словы, так і патэнцыяльныя ў самым агульным выглядзе можна вызначыць як словы, якія ствараюцца самім аўтарам у вусным ці пісьмовым маўленні для патрэб дадзенага кантэксту» [12, с. 6]. Сугучнай з'яўляецца навуковая думка У. Лапаціна: «Абедзве групы — патэнцыяльныя і індывідуальна-аўтарскія словы — ствараюцца ў залежнасці «ад выпадку», аказіянальна» [11, с. 71]. Л. Чэхава лічыць тэрмін «патэнцыяльнае слова» няўдалым і штучным, паколькі, на думку даследчыцы, аказіянальныя і патэнцыяльныя словы маюць аднолькавыя прыкметы, а слова, якое ўжо створана і функцыяніруе ў маўленні, наўрад ці можна назваць патэнцыяльным. Іншых поглядаў прытрымліваецца А. Земская: «Патэнцыяльныя і аказіянальныя словы ўяўляюць сабой два полюсы словаўтварэння: першыя з'яўляюцца рэалізацыяй законаў словаўтварэння, другія — парушэннем гэтых законаў. Гэта — антыподы» [9, с. 38]. Э. Ханпіра таксама лічыць, што аказіянальнасць адваротна прапарцыянальная патэнцыяльнасці: «Чым вышэй магчымасць з'яўлення таго ці іншага моўнага факта, тым ніжэй яго аказіянальнасць. І наадварот: чым вышэй ступень аказіянальнасці, тым ніжэй патэнцыяльнасць моўнага факта» [19, с. 246]. М. Шабовіч сцвярджае, што «ёсць рэальныя падставы разглядаць усе аўтарскія наватворы як аказіянальныя, бо ў мовазнаўстве не выпрацаваны яшчэ адзіны крытэрый вылучэння ў асобную групу так званых патэнцыяльных слоў» [23, с. 5], тым больш што «такія дэрываты ствараюцца ў працэсе маўлення і кампанентны склад іх нярэдка мае выразную вобразнасць, экспрэсіўнасць» [23, с. 10]. На думку Н. Чарнаброўкінай, «аказіянальныя словы, уваходзячы ў лексіку індывідуальнай мовы <…>, уяўляюць сабой патэнцыяльныя моўныя адзінкі беларускай літаратурнай мовы» [21, с. 13]. Атаясамліваючы аказіянальныя і патэнцыяльныя лексемы, даследчыца ўзгадвае той факт, што «аўтарскім наватворам уласцівы рысы лексічных адзінак агульнанароднай мовы» [21, с. 13], гэта значыць, яны валодаюць патэнцыялам уступаць у сістэмныя адносіны паміж сабой, а са словамі літаратурнай мовы могуць утвараць рознага роду семантычныя групоўкі — лексіка-семантычныя і тэматычныя групы, сінанімічныя рады, антанімічныя апазіцыі.

Нягледзячы на прыведзеную разнастайнасць поглядаў і меркаванняў адносна аўтарскай словатворчасці, па сведчанні М. Прыгодзіча, «пераважная большасць даследчыкаў прапануе ўсе аўтарскія наватворы разглядаць як аказіянальныя» [18, с. 58].

Як вядома, прыметнікі з'яўляюцца менш неагеннымі ў адносінах словаўтварэння, чым назоўнікі або дзеясловы. У той жа час індывідуальна-аўтарскія прыметнікі-кампазіты шырока прадстаўлены ў беларускіх празаічных мастацкіх творах 20—30-х гадоў XX стагоддзя і маюць ярка выражаную ацэначную накіраванасць. М. Прыгодзіч называе такія складаныя прыметнікі ўтварэннямі «так званага эмфатычнага значэння (ад грэч. emphasis — выразнасць), якія характарызуюць пачуцці, думкі, стан, паводзіны людзей у маральна-псіхалагічным плане як цэлы комплекс розных адценняў іх знешняга і ўнутранага праяўлення» [17, с. 47]. Вучоны засяроджвае ўвагу на кампазітах з эмфатычным значэннем, утвораных у выніку аб'яднання дзвюх раўнапраўных асноў простых прыметнікаў, як на мастацка-вобразных сродках мовы. Сярод прычын аўтарскай словатворчасці ў адносінах да складаных прыметнікаў М. Прыгодзіч у першую чаргу называе ўплыў рускай мовы, у якой прыметнікі-кампазіты «з эмфатычным значэннем» адлюстроўваюцца з часоў Жукоўскага, Пушкіна, Лермантава.

На думку М. Шабовіча, індывідуальна-аўтарскія складаныя прыметнікі набываюць статус аказіянальных, паколькі «такія дэрываты ствараюцца ў працэсе маўлення і кампанентны склад іх нярэдка мае выразную вобразнасць, экспрэсіўнасць» [23, с. 10]. Асноўнымі прычынамі аўтарскай словатворчасці даследчык называе наступныя:

— пошук найбольш дасканалых лексічных адзінак у сувязі з неўнармаванасцю тагачаснай літаратурнай мовы;

— жаданне стварыць сінонім да агульнаўжывальнага слова, якое не задавальняе пісьменніка паняційнай дакладнасцю або гукавым афармленнем;

— імкненне стварыць непаўторна-яркі эпітэт;

— стылістычныя задачы;

— арыентацыя на рускую паэтычную школу пачатку XX стагоддзя.

Руская даследчыца Н. Маніева называе індывідуальна-аўтарскія прыметнікі-кампазіты метафарычнымі эпітэтамі-прыметнікамі аўтарскага характару, якія сведчаць пра «эмацыянальна-інтэлектуальнае асваенне навакольнага свету» [14, с. 20] мастакамі слова.

Н. Чарнаброўкіна засяроджвае ўвагу на аказіянальных прыметніках са значэннем колеру. Складаныя прыметнікі дадзенай лексіка-семантычнай групы можна аб’яднаць у мікрагрупы паводле наяўнасці ў іх агульнага семантычнага кампанента: *бела-сонны, бялютка-весні, вечнабелы, стройна-белы; бетонна-шэры, вячэрне-шэры, дымна-шэры, пахіла-шэры, сумна-шэры* і г. д. Н. Чарнаброўкіна разглядае сінанімічныя рады аказіянальных прыметнікаў са значэннем колеру. Такія прыметнікі «называюць колеры, якія існуюць рэальна, і па сваёй семантыцы далучаюцца да нарматыўных слоў з аналагічным значэннем, утвараючы разам з імі сінанімічныя рады, дзе нарматыўныя словы з’яўляюцца дамінантай: *белы — вэлюмна-бялюткі, чаромхава-белы*» [21, с. 9].

Такім чынам, індывідуальна-аўтарскія складаныя прыметнікі валодаюць багатымі вобразна-выяўленчымі магчымасцямі, выконваючы «функцыю сэнсавых і эмацыянальных стымулятараў» [20, с. 48].

Творчасць М. Зарэцкага, маладнякоўца, пачынальніка рамантычнага кірунку ў беларускай прозе, прыпадае на 20—30-я гады XX стагоддзя — час інтэнсіўных пошукаў мастакамі слова асаблівых кодаў доступу да чытача. Прафесар П. Бузук у артыкуле «Увагі аб мове і стылю маладнякоўцаў» зазначае: «Маладнякоўцы з рэвалюцыйнай смеласцю ўтвараюць новыя словы і звароты» [4, с. 68]. Прыметнікі-кампазіты настойліва патрабавалі ўвагі сваімі вобразна-выяўленчымі магчымасцямі, знешнім і ўнутраным моўным патэнцыялам. П. Бузук называе індывідуальна-аўтарскія складаныя прыметнікі «падвойнымі эпітэтамі»: «Нарэшце, трэба яшчэ зазначыць, што ў мове маладнякоўцаў пашырана ўжыванне падвойных эпітэтаў» [4, с. 72]. У. Дубоўка ў артыкуле «Пра нашу літаратурную мову» ўзгадвае некаторыя прыметнікі-кампазіты: «За апошнія часы ў нашу мову ўведзена шмат наватвораў, якія добра прышчапіліся і набылі поўнае прызнанне. З ліку такіх слоў адзначым некалькі складаных: мілагучны, мэтазгодны, роўналежны, добрабытны і інш» [6, с. 179]. М. Зарэцкі ўспрыняў багатыя стылістычныя магчымасці складаных прыметнікаў у мастацкіх тэкстах як знаходку, што пацвярджаюць словы П. Бузука: «Што датычыцца эпітэтаў, іх вельмі шчодра сыпяць М. Зарэцкі і А. Дудар» [4, с. 70]. Тут жа знакаміты прафесар дае азначэнне эпітэтам-знаходкам М. Зарэцкага: « … У Зарэцкага пераважаюць псіхалагічныя [падкрэслена мной. — **Т. В**] эпітэты» [4, с. 70].

Сярод складаных прыметнікаў, што сустракаюцца ў апавяданнях М. Зарэцкага, выяўлена шэраг кадыфікаваных, што ў сярэднім складае 8,3 працэнта ад агульнай колькасці ўжытых аўтарам згаданых ад’ектыўных вытворных лексем. Кадыфікаваныя складаныя прыметнікі ў першую чаргу выконваюць намінатыўную функцыю і не вызначаюцца багатымі вобразна-выяўленчымі магчымасцямі: *блакітнавокі, вастраносы, дабравольны, раўнамерны, дабрадушны, крывавжэрны, мілагучны* і інш. Некадыфікаваныя прыметнікі-кампазіты ўжыты М. Зарэцкім

з мэтай даць ірэальную характарыстыку рэальным аб’ектам: *беспрасветна-панурыя, наіўна-сур’ёзны, напружана-жалобны*, *сумна-прыветны, туманна-цягучы, турботна-едкі* і інш. Сярод некадыфікаваных складаных прыметнікаў лічым мэтазгодным выдзеліць наступныя групы лексем:

1) патэнцыяльныя лексемы;

2) аказіянальна-патэнцыяльныя лексемы.

Да **патэнцыяльных** лексем прапануем аднесці:

а) прыметнікі-кампазіты, кампаненты якіх уступаюць у сінанімічныя адносіны і выступаюць семантычнымі сінонімамі. Такія дэрываты створаны на ўзор існуючых у мове слоў, абазначаюць аднародныя паняцці з дапамогай не менш «аднародных» моўных сродкаў, гэта значыць, згаданыя ўтварэнні не валодаюць багатымі вобразна-выяўленчымі магчымасцямі, выразнай стылістычнай маркіраванасцю. Больш таго, такія складаныя прыметнікі характарызуюцца поўнай матываванасцю іх значэння значэннем частак, з якіх складаюцца, і зразумелыя па-за межамі кантэксту: **вясёла-гуллівы***: …І ажывіцца тая [зямелька], блісне даўнейшым ззяннем-хараством, зноў апаўецца мінулымі* ***вясёла-гуллівымі*** *строямі…* [8, с. 47]; **дабрадушна-лагодны***: …Усмешка... усё больш і больш набывала* ***дабрадушна-лагодны*** *характар* [8, с. 356]; **нервова-турбуючы***: …Нейкая думка працінала яго, абдавала* ***нервова-турбуючай*** *хваляй* [8, с. 188]; **панура-сумны***: А гэтыя гарэзна-светлыя дзянькі …на часіну ажыўляюць твае* ***панура-сумнае*** *аблічча* [8, с. 46]. Гэтыя лексемы валодаюць шырокай спалучальнасцю з іншымі носьбітамі прымет, што прадстаўляюць розныя лексіка-граматычныя і тэматычныя групы, напрыклад: *вясёла-гуллівыя строі — вясёла-гуллівыя размовы, дабрадушна-лагодны характар — дабрадушна-лагодны настрой, нервова-турбуючая хваля — нервова-турбуючы боль, панура-сумнае аблічча — панура-сумны настрой* і інш. Згаданыя прыметнікі не «прывязаныя» да азначаемага слова, што звычайна характэрна для аказіянальных ад’ектыўных слоў;

б) прыметнікі-кампазіты, якія адносяцца да групы лексем, што абазначаюць так званы «змешаны» колер (а не рознакаляровасць (*жоўта-сіні, чырвона-белы*) і не адценні аднаго колеру (*светла-зялёны, цёмна-шэры*)!!!): **жаўтавата-чырвоны***: Час ад часу ўспыхвалі цыгаркі і кідалі наўкола* ***жаўтавата-чырвоны*** *водблеск* [8, с. 38]; **жаўтлява-зялёны**: *На* ***жаўтлява-зялёным празрыстым*** *фоне маладога лёну буйнымі сінімі зоркамі красавалі васількі* [8, с. 359]; **сінява-бледны***: Стася падала яму тонкую* ***сінява-бледную*** *руку* [8, с. 322]; **сінява-шэры***: Выпаўзаў* [змрок] *паволі з куткоў-завулкаў і разліваўся наўкола* ***сінява-шэрымі*** *павадкамі* [8, с. 33]. Дадзеныя колеры існуюць (або могуць быць штучна створаны) у аб’ектыўнай рэчаіснасці. Прыметнікі гэтай групы ўтвораны на ўзор прыметнікаў тыпу *светла-зялёны, цёмна-сіні*, якія адзначаны ў слоўніках (г. зн. з’яўляюцца кадыфікаванымі вытворнымі адзінкамі), матывуюцца лексічным значэннем кампанентаў, зразумелыя па-за межамі разгорнутага кантэксту, што дае падставу аднесці такія моўныя адзінкі да патэнцыяльных слоў.

Абсалютную большасць прааналізаваных індывідуальна-аўтарскіх прыметнікаў-кампазітаў М. Зарэцкага можна аднесці да **аказіянальна-патэнцыяльных** лексем, паколькі яны, індывідуальныя знаходкі пісьменніка, ствараюцца ў працэсе маўлення з мэтай даць рэальным аб’ектам характарыстыку з адценнем ірэальнасці, кампанентны склад іх валодае багатымі вобразна-выяўленчымі магчымасцямі (прыкметы аказіянальных слоў), аднак практычна ўсе складаныя прыметнікі, ужытыя пісьменнікам, могуць быць аднесены да прадуктыўных словаўтваральных тыпаў [прыметнікі не з’яўляюцца такімі ж неагеннымі ў адносінах словаўтварэння, як назоўнікі або дзеясловы, — **Т. В.**] і створаны на ўзор ужо існуючых у мове слоў (прыкметы патэнцыяльных слоў). Больш таго, некадыфікаваныя складаныя прыметнікі Зарэцкага-апавядальніка, утвораныя спосабам чыстага складання, уяўляюць сабой сумяшчэнне двух (або больш) незалежных прыметнікаў, як правіла, замацаваных моўнай практыкай, што забяспечвае пэўную

празрыстасць семантыкі ад’ектыўных кампазітаў, незалежнасць ад разгорнутага кантэксту (гэта дазваляе назваць такія мастацкія пошукі М. Зарэцкага не толькі словатворчасцю, але і «словасудакрананнем», «прыкметатворчасцю»)): **пякуча-салодкі**: *Нешта такое, што кратае ў сэрцы балючыя струны і грудзі агортвае жалем* ***пякуча-салодкім****...* [8, с. 413]; **свежа-гнілы:** *У чытальні таксама нікога, адна бібліятэкарша. Пульхная,* ***свежа-гнілая*** [8, с. 142].

Сярод прааналізаваных індывідуальна-аўтарскіх складаных прыметнікаў Зарэцкага-апавядальніка можна вылучыць наступныя тэматычныя групы лексем:

1) складаныя прыметнікі, якія абазначаюць знешнія матэрыялізаваныя прыкметы, што ўспрымаюцца органамі пачуццяў: **аднатонна-пявучы:** *Пацягнуў сваім тонкім,* ***аднатонна-пявучым*** *голасам* [8, с. 260] (слыхавое ўспрыняцце); **жаўтавата-чырвоны**: *Час ад часу ўспыхвалі цыгаркі і кідалі наўкола* ***жаўтавата-чырвоны*** *водблеск* [8, с. 38] (зрокавае ўспрыманне); **жоўта-буры**: *І потым ужо — зялёнаю роўняддзю пожні бязмежныя, ручнікі* ***жоўта-бурыя*** *збожжа* [8, с. 300] (зрокавае ўспрыманне); **мякка-ўпарты**: *І ўрэшце ўзняглася — цяжка, пухка, пластом ваты; захінула, сціснула ў* ***мякка-ўпартых*** *абнімках* [8, с. 128] (успрыняцце органамі дотыку);

2) складаныя прыметнікі, якія абазначаюць псіхічныя, нематэрыялізаваныя прыкметы, што адлюстроўваюць суб’ектыўны ўнутраны свет чалавека: **дабрадушна-лагодны**: *...Усмешка ...усё больш і больш набывала* ***дабрадушна-лагодны*** *характар* [8, с. 356]; **дабрадушна-пагадлівы**: *Ён у замяшанні глядзеў на паперку і ўсміхаўся нейкай невыразнай усмешкай: ні то вінаватай, ні то* ***дабрадушна-пагадлівай*** [8, с. 337]; **нервова-напяты**: *Хвіліна працякла ў* ***нервова-напятым*** *маўчанні* [8, с. 348—349]; **няўкорна-чысты**: *Гэта была першая пляма ў* ***няўкорна-чыстых*** *адносінах паміж маладымі* [8, с. 367]; **радасна-светлы**: *На твары ў яго яшчэ плавала* ***радасна-светлая*** *задуменнасць* [8, с. 336];

3) складаныя прыметнікі, што ўяўляюць сабой «сумяшчэнне, накладанне прыкмет», якія «прадстаўляюць» розныя тэматычныя групы: **жоўта-тужлівы**: *І хто можа забараніць шчыра і моцна любіць цябе,* ***жоўта-тужлівая****, сумная восень*! [8, с. 46] (прымета, што ўспрымаецца органамі зроку, і псіхічная, нематэрыялізаваная прымета); **магутна-маўклівы**: *Старавечныя разложыстыя бярозы ...застыглі ў сваіх пакарожаных постацях —* ***магутна-маўклівыя****, хмурыя* [8, с. 305] (псіхічная, нематэрыялізаваная прымета + прымета, што ўспрымаецца органамі слыху).

Такім чынам, абсалютная большасць (91,7 працэнта) складаных прыметнікаў, ужытых М. Зарэцкім у апавяданнях, належыць да некадыфікаваных моўных адзінак, што абумоўлена патрэбамі мастацкага тэксту, накіраванага на эмацыянальнае ўздзеянне на чытача. Некадыфікаваныя прыметнікі-кампазіты даюць рэальным з’явам характарыстыку з адценнем ірэальнасці, валодаюць багатымі вобразна-выяўленчымі магчымасцямі, змяшчаюць у сабе «дух» сказаў. Безумоўна, прапанаваная намі класіфікацыя некадыфікаваных складаных прыметнікаў Зарэцкага-апавядальніка не можа разглядацца як канчатковая і абсалютная. Заўжды заявяць пра сябе лексемы, што застаюцца па-за ёй. Гэта абумоўлена не толькі недастатковай распрацаванасцю ў мовазнаўстве тэорыі аўтарскай словатворчасці, але і зменлівай і неадназначнай прыродай знойдзеных сярод чужых СВАІХ ад’ектыўных слоў. Аднак, каштоўнасць кожнай даследчыцкай думкі вымяраецца як яе рэальным унёскам у навуковыя набыткі, так і патэнцыялам прадказваць і заахвочваць да рэальных унёскаў іншых даследчыкаў.

## Літаратура:

1. Бакина, М. А. Отадъективные новообразования в языке современной поэзии: автореф. дисс. … канд. филол. наук: 10.02.01/ М. А. Бакина; Институт русского языка АН СССР. — Москва, 1973. — 30 с.

2. Басава, Г. «Наталяю смагу словам сакавітым…» / Г. Басава // Роднае слова. — 1995. — № 12. — с. 59—61.

3. Басова, А. И. Окказиональные слова в современной белорусской художественной речи: автореф. дисс. … канд. филол. наук: 10.02.02 / А. И. Басова; БГУ им. В. И. Ленина. — Москва, 1981. — 20 с.

4. Бузук, П. Увагі аб мове і стылю маладнякоўцаў / П. Бузук // Маладняк. — 1927. — № 5. — с. 63—73.

5. Выготский, Л. С. Мышление и речь / Л. С. Выготский // Психолингвистика в очерках и извлечениях: хрестоматия. — Москва: ACADEMA, 2003.

6. Дубоўка, У. Пра нашу літаратурную мову / У. Дубоўка // Узвышша. — 1927. — № 2. — с. 174—180.

7. Зарэцкі, М. Збор твораў: у 4 т. / М. Зарэцкі. — Мінск: Маст. літ., 1989. — Т. 1.: Апавяданні. — 1989. — 526 с.

8. Зарэцкі, М. Кветка пажоўклая: апавяданні, аповесць / М. Зарэцкі. — Мінск: Маст. літ., 2002. — 433 с.

9. Земская, Е. А. Современный русский язык: Словообразование / Е. А. Земская. — Москва: Просвещение, 1973. — 302 с.

10. Казейка, І. П. Патэнцыяльныя словы ў беларускай мове / І. П. Казейка // Веснік БДУ (серыя 4). — 1988. — № 3. — с. 32—34.

11. Лопатин, В. В. Рождение слова: неологизмы и окказиональные образования / В. В. Лопатин. — Москва: Издательство «Наука», 1972. — 151 с.

12. Лыков, А. Г. Заметки об окказиональных и потенциальных словах / А. Г. Лыков // Вопросы современного языкознания. — 1968. — с. 5.

13. Лыков, А. Г. Современная русская лексикология (русское окказиональное слово) / А. Г. Лыков. — Москва: Высшая школа, 1976. — 117 с.

14. Маниева, Н. С. Прилагательные-эпитеты в поэтическом дискурсе второй половины XX века: лингвистический анализ: автореф. дисс. … канд. филол. наук: 10.02.01 / Н. С. Маниева; Дагестанский государственный университет. — Махачкала, 2007. — 24 с.

15. Намитокова, Р. Ю. Авторские неологизмы: словообразовательный аспект / Р. Ю. Намитокова. — Ростов: Издательство Ростовского университета, 1986. — 191 с.

16. Прыгодзіч, М. Р. Аказіяналізмы як крыніца папаўнення лексічнага саставу сучаснай беларускай мовы / М. Р. Прыгодзіч // Веснік БДУ (серыя 4). — 2009. — № 2. — с. 124—125.

17. Прыгодзіч, М. Р. Словаскладанне ў беларускай мове / М. Р. Прыгодзіч. — Мінск: БДУ, 2000. — 227 с.

18. Прыгодзіч, М. «Сэнс у іх хаваецца яшчэ большы, чым паэзія…: Аўтарскія неалагізмы як факт мовы» / М. Прыгодзіч // Роднае слова. — 1995. — № 8. — с. 56 — 60.

19. Ханпира, Э. И. Окказиональные элементы в современной речи / Э. И. Ханпира // Стилистические исследования . — Москва, 1972. — 246 с.

20. Цікоцкі, М. Я. Сугучнасць слоў жывых…: Нататкі па стылістыцы мастацкай літаратуры / М. Я. Цікоцкі. — Мінск: БДУ, 1969. — 191 с.

21. Чарнаброўкіна, Н. У. Аказіянальныя словы ў складзе лексічных сродкаў сучаснай беларускай паэзіі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Н. У. Чарнаброўкіна; БДУ. — Мінск, 1998.

22. Чехова, Л. Н. Окказиональные слова в произведениях В. И. Ленина: автореф. дисс. … канд. филол. наук: 10.02.01 / Л. Н. Чехова; Московский областной институт им. Н. К. Крупской. — Москва, 1979. — 18 с.

23. Шабовіч, М. В. Аказіянальныя словы ў беларускіх мастацкіх тэкстах 20-х гг. XX ст.: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / М. В. Шабовіч; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. — Мінск, 2004. — 20 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 29 чэрвеня 2010 года.

**Таццяна Выскварка**

**«Кадыфікаваныя і некадыфікаваныя прыметнікі-кампазіты Зарэцкага-апавядальніка»**

**Рэзюмэ**

Артыкул Таццяны Выскваркі «Кадыфікаваныя і некадыфікаваныя прыметнікі-кампазіты Зарэцкага-апавядальніка» прысвечаны семантычным і стылістычным аспектам словатворчасці Міхася Зарэцкага, увасобленай у некадыфікаваных складаных прыметніках. Прадстаўлена спроба дыферэнцыяцыі кадыфікаваных і некадыфікаваных складаных ад'ектыўных слоў з улікам іх неўзуальнага статусу і прыналежнасці да пэўнай тэматычнай групы.

**Tatsiana Vyskvarka**

**The Codified and Non-codified Compound Adjectives in Michael Zaretski's stories»**

**The Summary**

The article «The Codified and Non-codified Compound Adjectives in Michael Zaretski's stories» by Tatiana Vyskvarko is devoted to the semantic and stylistic aspects of Michael Zaretski's wordbuilding incarnated in non-codified compound adjectives. The attempt of differentiation codified and non-codified adjective units on the basis of the author's status of the latter and their belonging to a subject-matter group is carried out.



Алесь БАРАНОЎСКІ

# ГНАСЕАЛАГІЧНЫЯ МАТЫВЫ Ў ЛІРЫЦЫ НІНЫ ШКЛЯРАВАЙ

Сярод неацэнных духоўных скарбаў, на якія багатая Беларусь, адмысловае месца належыць жаночай лірычнай паэзіі. Кажучы аб лірычных гінатэкстах, варта разглядаць іх ва ўсёй шматстайнасці, гэта значыць, філасофскія, грамадзянскія, пейзажныя, інтымныя вершы, не замыкаючыся, як гэта часта бывае, толькі на апошніх. І менавіта ў філасофскай паэзіі паэт выяўляе сілу і цэласнасць адчування жыцця.

Творчасць Ніны Шкляравай не належыць да так званай інтэлектуальнай плыні з яе ўскладненасцю думкі, ланцуговай асацыятыўнасцю і верлібравымі формамі. Хутчэй гэта традыцыйная медытатыўная лірыка з яе невынішчальнай прагай ідэалу, спробамі разабрацца і ў космасе быцця, і ў мікракосмасе свайго «я». Пад пяром Ніны Шкляравай упадабаныя раней, спецыфічныя для жаночай лірыкі, тэмы змяняюцца агульначалавечымі праблемамі. У сваёй творчасці паэтэса часта аддае перавагу эмацыйнай стыхіі, але назваць яе лірычную гераіню спантаннай і імпульсіўнай таксама будзе не зусім правільна. Паэтычная прамова аўтаркі нярэдка ператвараецца ў адзіны гарачы парыў. Уся яе творчасць — «ода» жыццю, напоўненая болем і жахам, часам — апакаліпсічным адчуваннем згубы:

Прамільгнуў і згас
Залаты мой час.
Здзіўлена наўкол
Мой глядзіць анёл:
Самотна маўчыць
На маім плячы [1, с. 27].

Ні бяды, ні нуды,
Аніякага ліха!
Раптам знікла ўсё —
Так вадзіца бяжыць
І ў зямельцы знікае…
Толькі сполахі ціха
Танцавалі ў траве,
Там, дзе крыж мой
Ляжыць [1, с. 28].

Падобнага кшталту мінорнасць — гэта шмат у чым вынік засваення біблейска-хрысціянскіх традыцый, якія, хоць і апасродкавана, уплываюць на творчае развіццё Ніны Шкляравай. Сяброўка творцы, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, журналіст Ганна Атрошчанка заўважала: «Асаблівы ўплыў на дзяўчынку мела цётачка Лёкса, якая была вялікай верніцай. У яе хаце заўсёды гучалі праваслаўныя малітвы перад абразамі, прыгожыя псалмы. Таму ўражлівая Ніначка таксама расла верніцай, баялася зрабіць дрэннае нават маленькаму мурашу…» [2, с. 11]. Найбольш выразна біблейска-спавядальныя матывы выявіліся пасля перакладу на родную мову паэтычных тэкстаў іераманаха Рамана. «Ён, — заўважае Юрый Фатнеў, — блізкі ёй перш за ўсё сваёй рэлігійнасцю» [3, с. 12]. Біблейская, урачыстая прыўзнятасць шкляраўскіх вершаў гэтага перыяду тлумачыцца

сапраўднай вышынёй прыхаванага ў старажытным творы пачуцця. Невыпадкова паэтэсу пачынае прыцягваць біблейская вобразнасць і асацыяцыі з евангельскімі матывамі («Як з плячэй маіх крыж мой…», «Некалі царква стаяла тут…», «Святары» і г. д.). Дзіўнае спалучэнне жаноцкасці і вытанчанасці з мужнасцю і воляй, апантанасцю і імпэтам, з чаканнай філіграннасцю верша, непадробная шчырасць пачуццяў і глыбокія філасофскія роздумы аб вечных праблемах быцця — вось што вылучае сённяшнюю паэзію Ніны Шкляравай.

Аднак нельга разумець падобнага кшталту паэзію як вузканакіраваную, спачувальна-слязлівую з'яву. Жаночай паэзіі, таксама як і мужчынскай, нярэдка характэрна моцнае пачуццё сяброўства ці, як прынята гаварыць, «адчуванне пляча». І ў гэтым, насуперак агульным стэрэатыпам пра немагчымасць жаночага сяброўства, Ніна Шклярава пераконвае ў сваім вершы, прысвечаным Яўгеніі Янішчыц:

А пакуль жыццё маё — іржышча.
Босая іду, як пад цягнік.
Табе добра, Жэня,
Ты — Янішчыц,
Я ж — табой забыты
Чарнавік [1, с. 24].

Аднак пачуццё своеасаблівай «другаснасці» не перашкодзіла Н. Шкляравай заняць сваю нішу ў беларускай літаратуры. Можна ўпэўнена гаварыць, што гэта паэтэса самабытная. Адметнасць яе вершаванага радка адбіваецца своеасабліва — у пявучасці і меладычнасці. Паэтэса не столькі пісала вершы ў звычайным сэнсе, колькі іх запісвала — на слых. Крыніца музычнасці яе лірычных твораў не суадносіцца з сімвалічным гукапісам, аўтарка чакае, калі паэтычнае слова само з'явіцца з гукавой прасторы. Гук, музыка ў яе свядомасці — улонне верша і першавыток паэтычных вобразаў. Падпарадкоўваючыся музычнай інтанацыі, Н. Шклярава, падобна да музыканта, імкнецца арганізаваць какафонію, гукавое бязладдзе свету, у строга выверанию, вытанчаную мелодыю.

Тэма спасціжэння сябе і свету надае лірыцы творцы арыгінальны характар, з гранічнай шчырасцю агаляючы чалавечую душу ў яе пакутах і болю. Непрыхаванасць унутранага пачуцця асабліва яскрава можна ўбачыць у вершы з неадназначнай назвай «Мяне чакаюць»:

Я засынаю…
Пяюць мне калыханку зоры…
Мяне чакаюць за небасхілам:
Конь мой — вецер.
Мой клічнік здзіваваны —
Промень сонца,
Пытальнік надакучлівы — дарога,
Рукзак, напакаваны днямі доўгімі,
Кароткімі гадамі.
Мяне чакаюць —
Бяссонніца
і
Вечны сон [4, с. 193].

Цяжкі, крызісны стан, у выніку якога з'явіўся верш «Мяне чакаюць», быў тым больш пакутлівым, што пошукі новага сэнсу жыцця, усведамленне хуткацечнасці і нявечнасці чалавечага існавання, складаныя перыпетыі асабістага лёсу ў спалучэнні з трывожным адчуваннем будучых змен — усё гэта патрабавала ад паэткі служэння вышэйшым інтарэсам мастацтва. Складанасць дасягнення жаданага ідэалу заключалася ў тым, што агульныя каардынаты, паводле якіх развіваўся і рухаўся час, былі ёй да канца незразумелыя. Ніна

Шклярава, мяркуючы па ўсім, арыентавалася галоўным чынам на сілу мастацкай інтуіцыі.

Паступова матывы камернай лірыкі гублялі і для самой аўтаркі сваё зачараванне і ў выніку перасталі дамінаваць у яе творчасці, бо супярэчылі пафасу драматычнага перажывання жыцця і ўсведамленню высокага прызначэння паэта, якое ўсё больш авалодвала аўтаркай.

Паміж ранняй лірыкай і сталай творчасцю Ніны Шкляравай — велізарная паласа: тут былі смерць, разруха, страты, здрады, перавернуты побыт, адчуванне катастрофы, было ўсё, што толькі можа выпасці на долю чалавека. Быў перыяд, калі за шмат гадоў на паперы не з'явілася ніводнага верша, але, як усё жывое, яе лірыка працягвала жыць у думках. Стары свет быў разбураны, новы толькі пачынаў будавацца. Для Ніны Нічыпараўны зруйнаванае мінулае сімвалізавалася з пакутлівым адрывам ад каранёў: пераезд у Расію і цяжкае вяртанне на Радзіму… Ды ўнутраная сіла жыцця прымушала пасярод абломкаў старога і незнаёмага новага працягваць ствараць паэзію.

Заўважым, што для філасофскай лірыкі характэрна дамінаванне рацыянальнага плана над пачуццёвым. Першым чынам яна вызначаецца абрысамі малюнка, у аснову якога пакладзеная думка, зарыентаваная на асновы чалавечага быцця, нярэдка разбаўленага сацыяльнымі або этычнымі планамі. У сувязі з гэтым у медытатыўнай лірыцы Ніны Шкляравай варта адрозніваць філасофскі верш і філасофскі кантэкст. Прыкметай размежавання гэтых паняццяў можа быць счапленне розных па сваім характары думак, калі само гэтае счапленне ў выніку дае новую «мадэль» — адкрыццё. Дамінантным аб'ектам лірычнай рэфлексіі становіцца не столькі само жыццё, колькі яго рух, зменлівасць з акцэнтам, у сваю чаргу, не столькі на пачуццях, колькі на адмысловай каштоўнасці эмацыйнага плана на рознай часавай стадыі, і асабліва — у сталым узросце.

Творчасць Ніны Шкляравай не выключае «пячаткі часу», бо па-за ёй нельга паглыбіцца ў падтэкст верша, зразумець прыхаваныя ўзроўні, семантыку слоў, своеасаблівасць сімволікі. Па-за гістарычным кантэкстам філасофская паэзія набывае абстрактныя характарыстыкі. Іншая справа, як сцвярджае Л. Гінзбург, што «гістарызм можа быць няяскравым, неўсвядомленым ці замоўчаным у сілу вызначанай устаноўкі» [5, с. 17]. У сувязі з гэтым узнікае актуальнае і даволі спрэчнае пытанне аб магчымасці адкрыццяў у галіне агульначалавечых «вечных» каштоўнасцей, па-за якімі філасофская паэзія абмежаваная. Не патрапіць у пастку адцягненага тэарэтызавання паэту-філосафу можа дазволіць форма споведзі перад чытачом.

Калі гаварыць пра вобразы шкляраўскіх твораў, яны прадстаўленыя як свайго роду катэгорыі: прастора і воля («Мая вёска»), роўнасць і братэрства («Будзьма!»), жыццё і смерць, дабро і зло, прыгажосць і бязладдзе, асоба і ўлада («Калі не станеш прэзідэнтам», «Перабудова», «Не для адводу» і г. д.). Акрамя таго, лірыка Н. Шкляравай можа быць успрынята як адзіны глабальны тэкст, у якім ёсць арганічная філасофская паэтычная думка: «Думкі зграбаю, / Як гарачыя вуглі…» [6, с. 13]. Паэтэса ставарае вершы не як рацыяналістычныя інтэлектуальныя канструкцыі, а як эмацыйныя імправізацыі — рухомыя, жывыя ўтварэнні: «Гэта нагадвае фрэску, складзеную з каляровых аскепкаў. Можна адшукаць сувязь паміж імі. Але справа ў тым, што кожны верш — усё-ткі не асобны фрагмент, а закончаная карціна» [3, с. 12], — слушна зазначыў у прысвечаным Н. Шкляравай артыкуле Ю. Фатнеў.

Відавочна, што пытанне аб адкрыццях у філасофскай лірыцы закладзена ў самой прыродзе гэтага віду паэзіі. Гістарычна складвалася так, што новае ў ёй сцвярджалася праз усё большую адмену абмежаванняў, і, адпаведна, пашырэнне прасторы творчай дзейнасці. А паколькі лірыка з'яўляецца адмысловай формай спазнання рэальнасці і асоба ў ёй выступае як адлюстраванне свядомасці свайго часу, то і «вечныя» ідэі, пераламляючыся праз светаадчуванне паэтычнай асобы, набываюць новыя адценні і значэнні, своеасабліва інтэрпрэтуюцца.

Асабліва выразна ў паэзіі Ніны Шкляравай форма споведзі праявілася ў інтымна-філасофскіх рэфлексіях. Каханне заўсёды нясе з сабой патэнцыйную магчымасць самаразвіцця, але ў лірыцы аўтаркі і само гэта паняцце трансфармуецца ў іншае, больш шырокае пачуццё — любоў да роднай зямлі, народа. Філасафічнасць падобнага кшталту вершаў заключаецца ў спасціжэнні адвечных пытанняў светабудовы: законаў, што кіруюць жыццём, яго арыенціраў, і, нарэшце, сэнсу існавання.

Цесна звязаны з матывам спавядальнасці ўспаміны аб мінулым («Успамін», «Мамачка, з якім давер’ем…», «Беларусь, маё шчасце…»). Але паэтэса не засяроджваецца толькі на пражытым, яна, надзеленая пачуццём вострай інтуіцыі, глядзіць наперад. «Я — палонная вечнасці», — прамаўляе лірычная гераіня верша «Балада паэткі». І працягвае: «Я палонная вечна» [6, с. 13]. Відавочна, Ніна Шклярава верыць, што яе творчасці наканавана доўгае жыццё (адсюль і вобраз вечнасці), бо, як вядома, паэт застаецца не толькі ў народнай памяці, а і ў вершах. Аднак падобнае прызнанне нельга расцэньваць як акт самаўпэўненасці. Аўтарка ўсведамляе: «Я — вечнасці кароткай толькі міг…» [7, с. 3], «Мой транзітны білет / У жыцця ў палоне» [6, с. 13].

Адзінота жаночая і творчая, адзінота чалавека ў Сусвеце, адзінота перад Богам… Гэтая тэма часта сустракаецца ў паэзіі Н. Шкляравай. І тады жыццё замыкаецца ў нейкія квадраты, з якіх, здаецца, няма выйсця:

Усюды квадраты. Квадратамі
І вокны, і сцены, і хаты.
Я думкі хаваю за кратамі,
На сценку палезеш хіба ты? [8, с. 29].

У рэальным жыцці нават тады, калі, здавалася б, відавочнага выйсця не відаць, Ніна Шклярава спрабавала яго знайсці. І гэты «новы стары» шлях часта атаясамляўся з літаратурай. Творчасць, звязаная са спавядальнасцю, прадвызначае ўздым лірычнай гераіні на высокую паэтычную прыступку. Шлях маральнага самавызначэння гераіні звязаны з яе рухам у часе і прасторы. З дапамогай матыву шляху ды прасторавых метафар у твор уводзіцца тэма волі, якая становіцца асноватворчай у псіхалагічным сталенні лірычнай гераіні («Ветразь скача, нібы лось…», «Ой, ляцелі птушкі…»)…

Шмат увагі Ніна Шклярава надае ўвасабленню рэчыўнага свету (люстэрка, крыж, хусцінка), нярэдкія таксама і фларальныя вобразы (яблыкі, дзічка). Такая накіраванасць паэтычнага мыслення тлумачыцца, хутчэй за ўсё, тым, што ў міфалагічных уяўленнях рэч звязана з душой, таму часта набывае вялікую каштоўнасць. Прыхільнасць да асабістай, а таму «моцнай», рэчы становіцца прыкметай глыбокага ўнутранага свету лірычнай гераіні. Таму ў творчасці Н. Шкляравай ставяцца пытанні побытавага плана, вырашыць якія дапамагаюць міфалагічныя матывы — крыніца ўніверсальных ведаў. Так, у творах («Кірмаш. Я стаю…», «Колькі ў маім горадзе рабін…» і г. д.) суіснуюць рэальна-гістарычная і міфалагічная прастора і час, якія дазваляюць рэалізаваць касмалагічныя ідэі аўтаркі. У апошнім вершы, дарэчы, відавочны смутак па страчаным маленстве, вёсцы, у якой нарадзілася, па тым, што ўжо ніколі не вернеш. Стаўшы гараджанкай, лірычная гераіня вымушана асвойваць новую прастору, але і ў ёй яна адшуквае прыкметы малой радзімы:

Колькі ў маім Гомелі рабін!
Тэлевышка арабінай ззяе.
Нават лёс у нас цяпер адзін
З горадам, як у рабіны з гаем [6, с. 13].

Падобнае імкненне да апявання роднага краю зразумелае: у ім Н. Шклярава чэрпае творчае натхненне, «а спачатку яна захаплялася горадам. І… шукала

ў ім сельскія прыкметы, каб хутчэй з ім зжыцца» [3, с. 12], — заўважаў паэт Ю. Фатнеў.

Увогуле ў творчасці Ніны Шкляравай вылучаюцца тры стылявыя лініі. Створанае ў юнацкія гады адрозніваецца рамантычнай узнёслацю, ідэалізацыяй мастацкага вобраза. Сталыя гады прыўнеслі ў вершы больш раскаванасці, пазбавілі стэрэатыпнай абмежаванасці. У апошні час паэтэса сур'ёзна занялася перакладамі. «Пераклала са старажытнарускай на беларускую «Слово о полку Игореве». Ды так, што нельга не зачаравацца музыкай роднае мовы» [9, с. 2]:

Яго яшчэ помняць
Лясы і палеткі,
Шчыміць яшчэ вечнасці рана…
Хай слова маё
Будзе мужнасці сведка,
Што вартае гусляў Баяна… [10, с. 316].

«Як прыйшла да гэтага? Зусім нечакана для самой сябе. Рухалася па слядах палескага Златавуста Кірылы Тураўскага. Спрабавала суаднесці жыццё і творчасць Вялікага Тураўляніна з падзеямі, якія ўзноўлены ў помніку старажытнаславянскай літаратуры. Вычытала яго прытчы і малітвы. Затым узялася за «Слова пра паход…». Зачапіла. Рашыла перакласці ўрывак. І не заўважыла, як ахапіла твор цалкам. Містыка нейкая» [11, с. 315], — згадвала ў прадмове да перакладу Н. Шклярава.

Такім чынам, сённяшнюю творчасць Ніны Шкляравай можна разглядаць у рэчышчы філасофскай паэзіі. Яе медытатыўная лірыка набыла арыгінальнааўтарскія рысы напеўнасці і спавядальнасці, дзякуючы чаму ўдала ўпісваецца ў кантэкст лепшых узораў жаночай паэзіі. «Шчыры давер к людзям, напеўнасць радка, свабода інтанацыі, вобразнасць, глыбіня думкі, — па словах Ю. Фатнева, — характэрныя асаблівасці лірыкі Н. Шкляравай [12, с. 2]. Гнасеалагічныя матывы, шырока прадстаўленыя ў творчасці паэтэсы, часта рэалізуюцца пры дапамозе прыёму споведзі, а лірычная гераіня ў гэтым выпадку пераходзіць на якасна новы ўзровень свайго існавання, набліжаны да безграхоўнага. Матыў своеасаблівага ачышчэння, які таксама шырока прадстаўлены ў творах Н. Шкляравай, звязаны, хутчэй за ўсё, з засваеннем аўтаркай біблейска-хрысціянскіх традыцый, а імкненне да апявання рэчыўнага свету дае магчымасць вылучаць у творчасці аўтаркі язычніцкі пачатак.

**Літаратура:**

1. Шклярава, Н. Н. Аканіцы: вершы і пераклады / Н. Н. Шклярава. — Мн. : Беларуская навука, 2007. — 192 с.

2. Атрошчанка, Г. Я вам насцеж расчыню душу сваю і сваё сэрца… / Г. Атрошчанка // Советский район. — 2008. — 20 лютага (№ 8) — С. 11.

3. Фатнеў, Ю. С. …І ўсё пры ёй (баба) / Ю. Фатнеў // ЛіМ. — 2008. — 26 снежня. (№ 52). — С. 12.

4. Шклярава, Н. Н. Натхненне: вершы / Н. Шклярава; [рэд., прадм. У. Гаўрыловіча]. — Мазыр: КПУП «Калор», 2007. — 193 с.

5. Гінзбург, Л. Я. О лирике / Л. Гінзбург. — 1974, 2-е выд. Л., 1974.

6. Шклярава, Н. Н. Балада паэткі / Н. Шклярава // Літаратурная Гомельшчына. — 2008. — № 3. — С. 13.

7. Шклярава, Н. Н. Міг і вечнасць: вершы / Н. Шклярава. — Мн.: Маст. літ., 1979. — 70 с.

8. Шклярава, Н. Н. Дзічка: лірыка, / Н. Шклярава. — Гомель: Палесдрук, 2001. — 96 с.

9. Кручэнка, Т. В. Край палескі наўкола, луста роднай зямлі / Т. Кручэнка // Гом. праўда. — 2007. — № 192. — 2 с.

10. Шклярава, Н. Н. Слова пра паход Ігаравы / Н. Шклярава // Гоман. — 2006.— Выпуск 2. — С. 316 — 318.

11. Шклярава, Н. Н. У адным прамежку часу: [прадмова да перакладу «Слова пра паход Ігаравы»] / Н. Шклярава // Гоман. — 2006. — Выпуск 2. — С. 315.

12. Фатнеў, Ю. С. А дзічка ўсё-такі цвіце / Ю. Фатнеў // Гом. праўда. — 2001. — 11 жніўня — С. 2.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 28 лютага 2010 года.

**Алесь Бараноўскі**
**Гнасеалагічныя матывы ў лірыцы**
**Ніны Шкляравай**

**Рэзюмэ**

У артыкуле даследуецца тэма спасціжэння асобы і свету ў творчасці Ніны Шкляравай. Яе філасофская лірыка мае арыгінальныя аўтарскія рысы напеўнасці і спавядальнасці, дзякуючы чаму ўдала ўпісваецца ў кантэкст лепшых узораў жаночай паэзіі. Асаблівая ўвага надаецца паэтычным вобразам, тэме адзіноты чалавека ў Сусвеце і перад Богам.

**Ales Baranovski**
**Gnoseological motires in lyrics**
**of Nina Shkljarova**

**The Summary**

The topic of comprehension of a personality and the World in works of Nina Shkljarova is researched in this article. Her philosophic lyricism has original features of melodiousness and confession. Due to such filling her verses is very well blended with the best samples of woman’s poetry. The author of the article pays special attention to the poetical images of Nina Shkljarova and her main theme of loneliness of a man in the World and in front of God.



# УРОК МУЖНАСЦІ

***11 сакавіка 2011 года ў Мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся школьны ўрок, прысвечаны раману «Обаль» Алеся Савіцкага. У правядзенні ўрока прынялі ўдзел старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі і Генадзь Пашкоў, а таксама настаўнікі і вучні 10—11 класаў гімназіі № 25 горада Мінска імя Рымы Шаршнёвай.***

***Пра свой раман «Обаль» і ўвогуле пра мужнасць і адвагу ў гады Вялікай Айчыннай вайны расказаў вучням вядомы пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Алесь САВІЦКІ.***

— Сёння не проста ўрок мужнасці, які праводзяць Саюз пісьменнікаў Беларусі і часопіс «Полымя» з вучнямі гімназіі № 25 горада Мінска ў Мемарыяльнай зале СПБ. Гэта даніна павагі гераічнаму мінуламу тых пакаленняў, якія прайшлі жахлівыя гады вайны, тым героям, пра якіх напісана мая кніга. Тут няма прыдуманых імён, няма прыдуманых прозвішчаў, няма прыдуманых сітуацый, падзей. Усё адбывалася абсалютна рэальна. Героі твора — рэальныя людзі. Яны існавалі ў гэтым жыцці. Яны сталі героямі, сышоўшы ў нябыт, аддаўшы сваё самае дарагое, што было — гэта іх уласнае жыццё. І сёння наш урок — гэта даніна павагі новых пакаленняў (вашага пакалення) ім, не толькі тым, чые прозвішчы ў гэтай кнізе названыя, а ўсім тым, хто ляжыць у зямлі, чые косці даўно сатлелі, а многія з іх пераўвасобіліся ў бронзе, помніках, увайшлі ў кнігі, кінафільмы, паданні і легенды. І сёння наша гаворка — даніна нас, жывых, ім — героям тых віхурных і страшэнных дзён.

Загадзя скажу, мне пашанцавала, што пісаў гэту кнігу, калі была яшчэ жывая Фруза Зянькова — Герой Савецкага Саюза, кіраўнік падполля обальскіх маладагвардзейцаў. Яна расказала мне пра Зінаіду Партнову. Так з’явіліся ў рамане раздзелы «На беразе Дзвіны», «Каля грушы-дзічкі», «У чыстым полі». Яны пра тое, чым жыла Зіна Партнова і як яна прыходзіла да асэнсавання свайго ўласнага жыцця.

Мы будзем гаварыць пра мужнасць чалавека, што яна яму патрэбна не толькі ў цяжкія хвіліны, але і штодня, у кожным жыццёвым кроку. Мужнасць — яна неабходная. Гэта тое, што забяспечыла ў 1945 годзе перамогу. Тыя мужныя людзі, большасці з іх ужо няма, сёння глядзяць на нас, на вас — маладую змену, на будучых гаспадароў гэтай зямлі. Яны глядзяць, і не думайце, што яны не чуюць. Іх дух жыве ў гэтай зале. Ён адчувае тое, што адбываецца. Ён пачуе вашы галасы.

Як бы ні склалася ваша далейшае жыццё, у вас абавязкова будзе каханне, дзеці, унукі і праўнукі, а ў герояў, у пераважнай іх большасці, пра якіх расказана на старонках кнігі «Обаль», абсалютна нічога не будзе. Ні каханых, ні дзяцей, ні ўнукаў. Яны пайшлі ў нябыт, здзейсніўшы самае важнае, што можа зрабіць чалавек у сваім жыцці — подзвіг у імя незалежнасці сваёй зямлі, свайго народа, сваёй Радзімы. І яны пакінулі нам запавет берагчы гэтую памяць, берагчы іх імёны.



*Мікалай Іванавіч Чаргінец, Алесь Ануфрыевіч Савіцкі,
Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі.*

У душах герояў было толькі адно — нянавісць да ворага, да тых, хто ўсё забівае — і памяць, і веру, і чалавека. Змагары глыбока верылі ў перамогу. З тых людзей, што на ваеннай фотакартцы, уцалеў толькі я адзін. Відаць, небам было так наканавана. Маўляў, няхай гэты застанецца жывым, стане пісьменнікам, раскажа людзям, што такое вайна. Раскажа, як гэтая страшная бяда ламала людзей слабых і як загартоўвала моцных, як у душы чалавека вырастала любоў да свайго краю, сваёй Радзімы. І гэта было адзінае, што мацней за кулю, за снарад — мужная душа чалавека. Сёння яна вельмі нам патрэбна. Вайна — гэта самае паганае, што мог прыдумаць чалавек на Зямлі, і ён яе прыдумаў.

Раман «Обаль» выйшаў у 1989 годзе. Ужо знайшліся тыя, хто апаганіў Гастэлу, адбылася злая фальсіфікацыя адносна подзвігу Зоі Касмадзям’янскай... Усё ставілася з ног на галаву, каб вытравіць у душах новых пакаленняў гэтую памяць. І сёння б’юць па нашай памяці, каб у новага пакалення за плячыма нічога не было: ні мужнасці, ні герояў, ні славы зямлі, ні прыгажосці гэтага краю і зямлі. Тады народ і зямля — лёгкая здабыча.

Кожны сам па сабе з членаў обальскага падполля варты такой, а можа, і яшчэ большай кнігі. Я думаю, што новыя пакаленні пісьменнікаў вернуцца да гэтай тэмы. «Вайна і мір» Талстога была напісана праз паўстагоддзя пасля адлюстраваных у ёй падзей. Перадаць глыбіню пачуццяў, як складваецца характар чалавека, як ён робіцца мужным — гэта настолькі вялізная і глыбінная духоўная праца, калі чалавек прыходзіць да думкі, што інакш ён не можа, а вось павінен зрабіць так. У вашым школьным, вучнёўскім жыцці таксама бываюць сітуацыі, калі трэба сказаць штосьці суровае, смелае. Гэта выходзіць адтуль, з душы...

Сярод рэліквій музея Вялікай Айчыннай вайны ёсць невялікі экспанат — медаль «За адвагу», прабіты навылёт фашысцкай куляй. Гэты медаль знайшлі школьныя следапыты праз трыццаць год пасля вайны ў заваленым выбухам акопе. Па нумары медаля вызначылі, што ён быў атрыманы рускім салдатам Сямёнам Рыгоравічам Летавым. Ён атрымаў яго за мужнасць на Курскай дузе, а страціў, прабіты куляй, у 1944 годзе, калі ішло вызваленне Беларусі. Памятаю, як з навуковым супрацоўнікам музея ездзілі ў тую навучальную ўстанову. І калі я ўзяў гэты медаль

у рукі, я іх не мог утаймаваць, каб не дрыжэлі. Калі хто не верыць у мужнасць чалавечага сэрца, няхай сходзіць у музей. Паглядзіць на прабіты куляй медаль — і ўбачыць новы свет. Убачыць гераізм. Не бывае, каб лёг спаць чалавек баязліўцам, нясмелым, а прачнуўся раніцай і мужным, і адважным. Так не бывае.

Вялікі наш пясняр Якуб Колас напісаў вядомыя радкі: «Вобразы мілыя роднага краю, / Смутак і радасць мая! / Што ж маё сэрца да вас парывае, / Чым так прыкованы я? / К вам, мае ўзгорачкі роднага поля, / Рэчкі, курганы, лясы...» Колас быў у такім здранцвенні і разгубленасці. Ніяк не мог асэнсаваць. Ну, чым я прыкаваны? Чым? Да гэтай простай зямлі. Вось ад гэтай прыкаванасці да роднага краю і ідзе вялікая мужнасць. Кожны з вас, маладых, павінен быць душой і сэрцам прыкаваны да свайго роднага краю, да славы гэтай зямлі, да славы яе людзей, сваіх бацькоў. Тады паступова складваецца асоба, тады вырастае Чалавек і Змагар у першую чаргу.

Мастацкае слова мае вельмі магутную сілу. Незалежна ад таго, хоча чалавек ці не, але, калі ён завучвае на памяць беларускі верш, прыгажосць, адкрытая талентам паэта, не знікае бясследна, чалавек робіцца іншым. Беларускае мастацкае слова сказала пра вайну такое, што, можа, сусветная літаратура такога не сказала. Дзе ў сусветнай літаратуры вы ўбачыце такое?

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту.
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

*Пімен Панчанка*

Наша гаворка пра мужнасць адбываецца ў зале, дзе з фотаздымкаў глядзяць людзі, якія прайшлі вайну, напісалі шмат кніг. Цудоўныя радкі пра іх сказаў наш пясняр Аркадзь Куляшоў:

Вочы вязняў, спаленых на крэслах,
На мяне праз акіян глядзяць.
Перад позіркам іх самым чыстым,
Як перад сумленнем, не хлушу.
Знаю, што пішу я не гранітам —
Іхнім сэрцам спаленым пішу.

Мудры запавет, які пакінулі нам класікі, сёння застаецца з намі. Я паўтараю, што сённяшні ўрок — шчырая даніна, сардэчная наша падзяка тым пакаленням, якія рабілі гэту перамогу, якія, галадаючы, узнімалі і будавалі гарады, селішчы, на месцы зямлянак будавалі новыя хаты і аднаўлялі жыццё. А сутнасць чалавечага жыцця вельмі хораша тлумачыцца ў вершы Генадзя Пашкова:

Не багата адмерана жыць,
Ды кажу, паўтараю бясконца:
Мы прыйшлі ў гэты свет, каб любіць
І рассыпацца кроплямі сонца.

Хіба можа быць лепшы лёс у чалавека чым «рассыпацца кроплямі сонца»? Але, каб гэта зрабіць, трэба тое сонца назапасіць сабе ў душы.

Будуйце сваё жыццё, каб кожны ваш крок і кожны здабытак у гэтым жыцці быў як помнік героям. А здзейсніць гэта можна толькі працай і вучобай. Верце сваім настаўнікам, ідзіце за імі, слухайце іх, завучвайце кожнае слова, якое ўскалыхне вашу душу і вы, незалежна ад таго, хочаце ці не, будзеце рабіцца багацейшымі душой, смялейшымі, мужнымі.

Беларусь ніколі не станавілася на калені перад ворагам. Хлопцы, запомніце, што сапраўдны мужчына можа толькі тры разы стаць на калена. Першы раз —



*Выступае Пахвалёная Аліна Казіміраўна.*

калі прысягае на вернасць сцягу, якому будзе потым служыць усё жыццё, другі раз — стаць на калена перад маці, калі ўсвядоміць, што нешта не так нарабіў у жыцці і скажа: «Мама, даруй, дурнем быў». Трэці раз — калі з радзільнага дома каханая твая жонка вынесе табе дзіця. Ты яго возьмеш на рукі. Стань перад ёй на калена і ўзнімі гэта дзіця над светам, каб яно ўбачыла, якая прыгожая зямля, на якой яно нарадзілася, павінна жыць, станавіцца грамадзянінам і гаспадаром. А вы, дарагія вучні — заўтрашнія гаспадары гэтай зямлі, гаспадары таго парадку, які будзе на ёй існаваць. Гэта вам несці запаветы, якія вы вучыце ў школе. Ніколі не станавіцеся на калена перад ворагам, верце ў тое, што самая лепшая зямля — гэта ваша Бацькаўшчына, і вы павінны не проста пражыць гэта жыццё, а «рассыпацца кроплямі сонца». Вы зразумееце, што толькі слова, шчырае душэўнае слова можа ўратаваць планету Зямля і чалавецтва. Наш Прэзідэнт Аляксандар Лукашэнка на юбілейнай сесіі ААН звяртаўся да сусветнай супольнасці і мудра сказаў: «Нельга ж так жыць, трэба ж жыць па-людску». І сённяшняя рэчаіснасць падцвярджае гэтыя словы.

**Пахвалёная Аліна Казіміраўна, настаўніца беларускай літаратуры, кіраўнік гісторыка-краязнаўчага музея «Невычэрпная крыніца гісторыі».**

— Дарагія нашы дзеці. Сёння ўрок у нас незвычайны. Ён не праходзіць, як прывыклі, у сценах нашага гісторыка-краязнаўчага музея «Невычэрпная крыніца гісторыі», а ў гэтай цудоўнай Мемарыяльнай зале СПБ, дзе мы можам убачыць на фотаздымках твары маладых і прыгожых людзей, якія пайшлі на вайну, і многія з іх не вярнуліся. Яны застаюцца ў нашай памяці, як засталася Рыма Шаршнёва, імя якой носіць наша гімназія, Зіна Партнова, як засталося ўсё обальскае падполле, дзякуючы кнізе Алеся Савіцкага, які сам прайшоў усю вайну, дайшоў да Берліна, юнаком спазнаў вайну, узмужнеў духам са зброяй у руках. Мы, старэйшае пакаленне, не можам дапусціць, каб вы, наша моладзь, якая не прывыкла да забойстваў, да крыві, па мастацкіх сюжэтах тэлебачання ўспрымалі самую найвырашальную вайну, як чарговы баявік, а крутых кіношных суперменаў ведалі лепш, чым тых людзей, хто змагаўся за нашу родную зямлю, хто непараўнальнай

цаной даў нам магчымасць жыць, вучыцца і працаваць, радавацца жыццю, якім бы супярэчлівым і складаным яно ні было. Я лічу, што Алесь Савіцкі прадоўжыў традыцыі Васіля Быкава, расказаўшы сённяшняму маладому пакаленню горкую праўду пра вайну. У рамане «Обаль» ён паказаў, што на вайне было ўсё: гераізм і трагізм, баязлівасць і подласць. Калі мы яго разглядалі на ўроку беларускай літаратуры, нам кінулася адметная асаблівасць гэтага рамана — падзеі падаюцца праз успрыманні Зіны Партновай на фоне роздумаў каля грушы, на беразе ракі Дзвіны, у чыстым полі. Мы лічым, што такі прыём паглыбляе дакладнасць, выразнасць мастацкага даследавання ўнутранага свету герояў. Такая кампазіцыя дае нам магчымасць супастаўляць не толькі паводзіны герояў, але і матывы, якімі яны кіраваліся. Хочацца адзначыць, што ў рамане пятнаццаць роздумаў каля грушы-дзічкі, і калі мы чыталі першы, то адразу заўважылі, што аўтар — незвычайны майстар, высокі мастак слова. Прыгадаем успаміны Алеся Савіцкага, які казаў: «Калі я вучыўся ў 1953 годзе ў Маскве ў Літаратурным інстытуце, у нас быў такі выкладчык, які нас адпускаў з заняткаў, але мы павінны былі прыйсці на прыпынак гарадскога транспарту, знайсці новы яркі вобраз і прынесці яго на наступны занятак. Або на ўроку давалася кніга скаргаў і паводле яе па адным радочку, мы павінны былі ахарактарызаваць чалавека, які напісаў тую скаргу». Гэта быў пачатак творцы.

Сапраўды, вельмі ўзрушваюць успаміны-роздумы. Я сама ўяўляла вялікую разгалістую грушу каля сваёй бацькоўскай хаты. Добра памятаю, каб грушы былі смачныя, іх спачатку складалі ў кашы, ставілі ў хлеў, і, калі пачыналіся першыя халады, бабка дазваляла іх каштаваць. Яны былі вельмі смачныя. На фоне гэтых роздумаў ідуць думкі Зіны Партновай. Груша — незвычайны вобраз. Гэта не проста дрэва — гэта сябар. Зіна Партнова гладзіць яе шурпатую кару, яна з ёй раіцца, гаворыць пра свае думкі, пачуцці, перажыванні. І гэта груша нам дапамагае болей зразумець галоўную гераіню. У другой частцы вельмі кранае роздум пра школу ў вёсцы. Яна сама ў ёй не вучылася, але, калі прыйшла да гэтай школы, убачыла, што вакол ходзяць немцы, навокал дрот, што не пачынаюцца заняткі, што бібліятэка спалена. Аўтар паказвае нам вытокі гераізму.

Груша-дзічка — вобраз-сімвал бессмяротнасці беларускага народа. Калі фашысты яе спілавалі, праз некаторы час на яе месцы паявіліся маладзенькія карэньчыкі. Гэта азначае, што наш народ непераможны. «Людзі падобныя да



*Кветкі для Алеся Ануфрыевіча Савіцкага.*

гэтых карэнняў. Чалавека можна забіць, можна ператварыць у дым, у попел, але народ знішчыць нельга, калі карані яго ўвайшлі глыбока ў зямлю». Карані народа — гэта не толькі яго сыны і дочкі, яны — тое, што ім народжана, створана і пабудавана на зямлі, што застанецца нашчадкам. Вельмі шмат такіх маральна-этычных праблем раскрывае Алесь Савіцкі ў гэтых роздумах.

Роздумы вельмі лірычныя. Гэта прыклады лірычнай прозы. Напрыканцы хочацца зачытаць верш аднаго нашага дзесяцікласніка пра Зіну Партнову, які можна лічыць гімнам усім загінуўшым.

Жыццё скончылася, а памяць засталася,
Але памяць — тое ж жыццё.
Страшней усяго ў жыцці — забыццё,
Нібыта цябе не было.
А гледзячы праз часу шкло —
Разумееш, што гэта бяссмерце.
Дзеля гэтага можна памерці.
Як засталася ў памяці нашай Зіна,
Заўсёды з усімі была яна.
Любіла. Людзям дапамагала,
Жыццё сваё аддала дапамагаючы,
Выратоўваючы. Ці ж гэта не бяссмерце?
Наперадзе — чакае вечнасць
За тое, што праяўляла чалавечнасць.

Шчыра дзякую, Алесь Ануфрыевіч, за вашу кнігу і дай вам Бог усяго найлепшага, што ёсць на гэтым свеце.

**Купрэева Любоў Міхайлаўна, настаўніца рускай мовы.**

— Дзякую, Алесь Ануфрыевіч, за гэтую кнігу. Ёсць творы, якія выхоўваюць у падрастаючага пакалення пачуццё мужнасці, гонару за сваю Радзіму. «Обаль» з'яўляецца менавіта такой кнігай. Герой яе мне вельмі знаёмы, і обальскае падполле для мяне — не пусты гук. Калі я вучылася ў школе ў вёсцы Збароў Рагачоўскага раёна, мы рабілі альбомы аб героях рамана. Патрэбна было прачытаць кнігу, знайсці звесткі. Мы пранікаліся пачуццём патрыятызму. Гэтаму спрыялі нашы настаўнікі. У школе быў і атрад Зіны Партновай, і піянеры-героі. З маленства было закладзена, што подзвіг — гэта бясцэнна, не падлягае ніякаму сумненню. З кнігі відаць, што подзвіг здзейснілі зусім маладыя людзі дзеля нашага сённяшняга дня. Мастацкія сродкі і вобразы вельмі даступныя і зразумелыя дзецям. Такія кнігі вельмі патрэбныя.

Упэўнена, што сённяшняя наша сустрэча не пройдзе бясследна. Вы, дарагія вучні, дакранецеся да духоўных каштоўнасцей і зразумееце, што трэба вельмі ганарыцца сваёй гісторыяй. Кніга «Обаль» — энцыклапедыя выхавання. Падрастаючаму пакаленню можна шмат чаго ўзяць з яе для сваёй душы. Дзеці павінны ведаць, што такіх месцаў, як Обаль, дзе здзяйсняліся подзвігі, вельмі шмат. На Рагачоўшчыне ёсць, напрыклад, адзіны ў Беларусі музей салдата. Там сабраныя вельмі цікавыя рэчы.

**Вольга Алексяюк, вучаніца 11 класа.**

— Я хачу расказаць пра эпізод, які найбольш мяне ўразіў. Пра адну з галоўных гераінь рамана, пра Зіну Партнову. Нарадзіўшыся ў Ленінградзе, яна на канікулы прыязджала да сваёй бабулі, і там яе застала вайна. Я лічу, што гэтая дзяўчына была сапраўдным патрыётам сваёй краіны, бо нават у чужым горадзе яна спрабавала хоць неяк дапамагчы Радзіме. І летам 1942 года яна ўступае ў атрад, якім кіруе Фруза Зянькова, бо яна не магла застацца ўбаку ад таго, што адбывалася ў краіне. Апошнія роздумы — роздумы ля турэмнай сцяны. Яны вельмі трывожныя. Мяне ўразіла тое, што дзяўчына вельмі часта глядзела ў вочы



*Алесь Ануфрыевіч Савіцкі сярод навучэнцаў гімназіі №25 г. Мінска ў Мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

смерці, але нават у самыя апошнія хвіліны свайго жыцця не думала пра тое, што яе пужае смерць, а думала, як паведаміць, данесці да свайго атрада папярэджанне аб небяспецы. Гэта галоўная рыса мужнага характару Зіны Партновай. Хацелася б, каб у нашай сучаснай моладзі было больш такіх рыс.

**Багдан Рамазанаў, вучань 11 класа.**

— У дом кожнай беларускай сям'і Вялікая Айчынная вайна прынесла шмат болю і пакутаў. Разам з Чырвонай Арміяй на барацьбу з захопнікамі падняўся ўвесь народ. Былі створаны шматлікія падпольныя арганізацыі, якія за здзейсненае фашысцкімі захопнікамі зло адплачвалі справядлівасцю. «Обаль», я лічу, праўдзівы раман аб падполлі. Раман пра здзейсненыя подзвігі, пра недаспаныя ночы, пралітую кроў такіх сыноў і дачок беларускай зямлі, як Зіна Партнова, Фруза Зянькова, Мікола Зянькоў, Аркадзь Барбашоў і шмат іншых. Раман не можа пакінуць раўнадушным ніводнага чалавека, ніводнага патрыёта сваёй зямлі, ніводнага беларуса. Бо ў творы зроблены акцэнт на ўнутраны свет галоўных герояў. Іх думкі, пачуцці, словы... Чытаючы раман, нібыта ўваходзіш у стан галоўнага героя. Ён, я лічу, вельмі актуальны на сённяшні час. Бо часта сучаснай моладзі задаецца пытанне: «Калі б зараз на нашу суверэнную Беларусь напаў вораг, ці змагалася б так моладзь?» Ці можа хто дакладна адказаць? Я лічу, калі малады беларус, малады патрыёт прачытаў раман «Обаль», даведаўся, аб чым думала моладзь у тыя страшныя часы, вызначыла яе каштоўнасці, то многія сказалі б: «Так. Гатовы. Гатовы ахвяраваць сваім жыццём дзеля роднай зямлі». Алесь Савіцкі адкрыў людзям вочы. Расказаў пра сапраўдных герояў. Паказаў грамадзянскую сталасць. Падняў пытанне чалавечай годнасці. Паказаў бескарыслівае, добраахвотнае ахвяраванне не за славу, не за медалі, а за Радзіму, за родных, блізкіх людзей. Асабліва кранае сэрца апошняя дзея гэтага рамана. Пра подзвіг Аркадзя Барбашова і Фрузы Зяньковай. Асабліва кранула яе ўнутраны стан, яе адчуванні на той момант, яе жаданне знішчаць катаў, змагацца да апошняй кроплі крыві. Адпомсціць за сяброў і знаёмых, родных, загінуўшых ад рук ворага. Наша гімназія носіць імя гераіні Рымы Шаршнёвай, якая буду-

чы маладой дзяўчынай, прынесла сябе ў ахвяру, закрыўшы сабой камандзіра і тым самым выратаваўшы правядзенне баявой аперацыі. Шчыра дзякую, Алесь Ануфрыевіч, за падараваную магчымасць дакрануцца да праўдзівай гісторыі, за магчымасць паразважаць і вызначыць моладзі маральныя каштоўнасці на сённяшні дзень.

**Ягор Сушко, вучань 11 класа.**
— Я лічу, што гэта вельмі добры твор для выхавання моладзі. Ён мае ў сабе такія моманты, якія дапамагаюць жыць далей і разумець, што зрабілі дзеці ў гады вайны. Калі загінула Зіна Партнова, ёй было ўсяго 18 гадоў. Невядома, ці змаглі б здзейсніць такое сённяшнія юнакі і дзяўчаты. Гэты твор і зараз нам дапамагае. Гэта жывая памяць.

**Ягор Сушко:**

***— Ці сапраўды, забіты ў адным з эпізодаў рамана зондэрфюрэр Карл Борман з'яўляецца братам Марціна Бормана?***

— Так. Сапраўды гэта рэальны факт, рэальныя прозвішчы. Нават нямецкія прозвішчы рэальныя.

***— А сёння Зіна Партнова ў гісторыі з'яўляецца піянеркай ці камсамолкай?***

— Зіна Партнова ўступала ў камсамол будучы падпольшчыцай.

***— А бацькі яе засталіся жывыя пасля блакады Ленінграда?***

— Засталася мама. Адна. Бацька Зіны Партновай загінуў на фронце.

*Падрыхтаваў Рагнед Малахоўскі.*

**Таццяна ПАДАЛЯК,**

*кіраўнік Прэс-цэнтра Дома прэсы,*
*кандыдат філалагічных навук,*
*дацэнт Інстытута журналістыкі БДУ:*

Тое, што ў гімназістаў узнікае шмат пытанняў да Алеся Савіцкага адносна дэталяў «Обалі», сведчыць якраз пра тое, што і сёння, у XXI стагоддзі, твор хвалюе, не пакідае абыякавым. Ён па-ранейшаму актуальны, бо не проста набліжае да сучаснасці ўжо далёкія падзеі Вялікай Айчыннай вайны, а пагружае ў іх, дае магчымасць адчуць, што і як было на самай справе.

Раман «Обаль» атрымаўся надзвычай пранікнёным і пранізлівым невыпадкова. Хачу нагадаць некалькі падзей з біяграфіі самога Алеся Ануфрыевіча. Ён нарадзіўся ў Полацку, перад вайной скончыў 8 класаў. Ужо ў 1942 прыйшоў у партызанскі атрад «Смерць фашызму». А каб патрапіць туды, прыпісаў сабе год. Пісьменнік Алесь Савіцкі з 1925-га, а не з 1924 года, як значыцца ва ўсіх энцыклапедыях…

Такім чынам, юнацтва, па сутнасці, не было: у 1942—1943 гадах — партызан атрада «Смерць фашызму», пазней — камандзір падрыўной групы атрада «Бальшавік» на Віцебшчыне. На яго рахунку шмат падарваных эшалонаў, спаленых і ўзарваных мастоў…

Тады ж юны патрыёт захапіўся словам. Самы першы яго твор быў змешчаны ў партызанскай насценгазеце, гэта быў верш на смерць сябра, таксама шкаляра, Колі Паўлава. Алесь Ануфрыевіч перакананы: яго куля дасталася сябру. Справа ў тым, што аднойчы падрыўную групу на заданне павёў не Савіцкі, а Паўлаў, бо выпаў першы снег, а ў Алеся валёнкі былі не падбітыя, прамакалі... Ужо з 1943 года Алесь Савіцкі друкаваўся ў ветрынскай раённай газеце «Чырвоная звязда».

А ці ведаеце вы, што ордэн Славы знайшоў пісьменніка ажно... праз 55 гадоў!?

Пасля злучэння з часцямі Савецкай Арміі партызанская моладзь папоўніла 3-ці механізаваны Сталінградскі танкавы корпус, Савіцкі трапіў у 9-ю гвардзейскую брыгаду дэсантнікаў. Удзельнічаў у вызваленні Варшавы і Гдыні, у баях за ўзяцце Берліна.

Увосень 44-га за баі пад Шаўляем (тады ён трэці раз быў паранены) узнагароджаны ордэнам Славы, але доўгі час не ведаў аб узнагародзе. А праз 55 гадоў, у 1999-м, у кватэру пісьменніка патэлефанавалі: «Гэта з ваенкамата. Знойдзены наградныя дакументы — у 44 годзе вы былі ўзнагароджаны ордэнам Славы»…

Вось так гартаваліся пісьменнікі ваеннага пакалення. І сёння яны загартоўваюць моладзь.

**Алесь САВІЦКІ**

# ОБАЛЬ

*(Урывак з рамана)*

## Роздум ля грушы-дзічкі

Груша-дзічка расце на затравелым узмежку ў самым далёкім кутку даўняга бабулінага саду. За ўзмежкам — шырокая лугавіна, за ёй пакаты ўзгорак, густа парослы маладым альхоўнікам, які вострым клінам уразаецца ў густы хваёвы лес, што зялёным грабеньчыкам акрэслівае далягляд.

Вецер, асабліва ўзімку, часцей за ўсё дзьме адтуль, з-за таго пакатага ўзгорка, і высокая раскідзістая груша-дзічка, нібыта нейкі казачны асілак, настаўіўшы на бакі доўгае голле, затуляе сад ад сцюжы, уздымае ля сябе высозныя снегавыя гурбы, за якімі хаваюцца яблыні. Бабуля казала мне, што наш прадзед пасадзіў на гэтым месцы слуцкую бэру, якую зваліў потым снарад з кайзераўскай гарматы. Але карані, што сядзелі глыбока ў зямлі, далі жыццё тонкаму дубчыку, з якога і ўзнялося на радасць чалавечаму воку гэтае магутнае і прыгожае дрэва.

Ранкам, калі сонца яшчэ не ўсплыло над лесам і лугавіна зацягнута белым туманам, вершаліна грушы-дзічкі зырка зіхаціць у сонечных промнях.

Удзень уся яна ажно льсніцца ад сонечнага святла, кладзе на зямлю шырокі парасон ценю, у якім ціха шухціць густая цімафееўка.

Увечары, калі сонца схаваецца за Дзвіною і на лугавіне ля альхоўніку гусцее сінявае сутонне, вершаліна грушы-дзічкі залачонай дзідаю ўпіраецца ў пацямнелае неба.

Вясною яе відаць здаля; абсыпаная густой квеценню, груша-дзічка падобна на белае снегавое воблака, што асела на зямлю з нейкай казачнай высі.

Увосень, у яркай барвовай апратцы, груша-дзічка здаецца адкутай з дзівоснага незямнога металу.

Смак цёмна-карычневых грушак на тонкіх зялёных дудках, з блішчастым чорным зернем усярэдзіне, параўнаць няма з чым. Сабраныя ў вялікія кашы з дранкі, яны доўга, аж да маразоў, стаяць у хлеўчуку; і калі бабуля прыносіць у хату поўнае сіта гэтых выспеленых спачатку ў траве, а потым у кашах з сасновай дранкі цёмна-карычневых грушак, уся твая істота аж трымціць ад водару звялай

цімафееўкі, падсушанай канюшыны, залачонай духмянай лістоты яблынь, агрэсту, парэчак...

Пра гэта я напісала ў сваім сачыненні летась, калі прыехала ад бабулі дамоў у Ленінград. Настаўніца папрасіла нас напісаць сачыненне на вольную тэму — што нас уразіла ўлетку найбольш. Я напісала пра нашу грушу-дзічку, пра тое, як лёгка марыць, калі ляжыш на траве ля тоўстага шурпатага камля, па якім з ціхім шоргатам снoўдаюць рудыя мурашы і цягнуць пасохлыя саломінкі, травінкі, здабытых недзе камароў з празрыстымі тонкімі крылцамі, кавалачкі пасохлых лісцінак...

Настаўніца сказала: самае лепшае, маўляў, сачыненне ў Зіны Партновай, якое яна назвала «Бабуліна груша-дзічка».

А клас адгукнуўся іначай: за мной трывала асела мянушка, якая мяне не вельмі і абражала, — Дзічка.

Далёка цяпер мой родны Ленінград, далёка мая школа. Колькі жахлівага пабачыла я за апошні час! Здаецца, што ўсё ў свеце перакруцілася, пайшло не ў той бок, куды трэба: змяніліся людзі, твары, аблічны, змянілася гаворка людзей...

А бабуліна груша-дзічка — дзіва гэта, ці што?! — усё тая ж. Поўна на голлі грушак, поўна грушак і ў траве, што месцамі пажоўкла і пасохла. І ўсё гэтак жа, як і летась, снoўдаюцца па шурпатым камлі рудыя мурашы, усё гэтак жа таямніча шапоча лістота, сярод якой дзе-нідзе прабіваецца ўжо мядзяны колер, усё гэтак жа лянотна гайдаецца голле. Поўна ў траве паданак, але грушкі шчэ не саспелі, вяжуць рот: трэба, каб яны паляжалі ў кашы з сасновай дранкі.

І неба над грушай-дзічкай гэткае ж, як і летась, калі мы гасцявалі разам з мамай і Галяй у нашай бабулі. Здаецца, гэткія ж вось бела-белыя плылі аблокі. І гэткай жа была трава... Не, тады цімафееўка цвіла, а зараз яна скошаная, і пад грушай-дзічкай густа зеляніцца прыгожая і сакавітая атава. І аблокі ж, вядома, не тыя: тых аблокаў, што летась плылі над маёй галавою тут, зараз ужо даўно няма на свеце.

І я таксама зусім іншая. Цікава, каб зараз вось паехаць у Ленінград, сесці за школьную парту, пісаць сачыненне на вольную тэму… Пра што я напісала б зараз?.. Напэўна ж, пра тое, што давялося пабачыць і мне, і нашай грушы-дзічцы…

Памятаю, калі дзядзька Янка выпісаўся са шпіталя — ён быў паранены пад Выбаргам — і прыехаў да нас, дык я слухала яго з цікавасцю, і мне не было жахліва, і я прасіла расказваць і расказваць пра тое, як яны штурмавалі фінскія доты, як білі па нашых салдатах з аўтаматаў «кукушкі», што хаваліся на старых ялінах. Яго дзівіла мая цікавасць да франтавых падзей, і ён штораз, канчаючы гаворку, казаў, што самае паганае на свеце — гэта вайна.

Я тады не ведала, што хаваецца за гэтым кароткім словам. Але заўжды, калі глядзела на яго скалечаныя асколкамі фінскай міны рукі, па скуры на патыліцы ў мяне паўзлі халодныя мурашы.

Цяпер я ведаю, што вайна і сапраўды самае паганае, самае жахлівае на свеце. І я ведаю, што фашысты, чужынцы, што ўварваліся на нашу зямлю, не людзі, а самыя сапраўдныя звяры. Я ненавіджу іх, я хачу з імі змагацца. Толькі вось як змагацца?.. Усё часцей і часцей я лаю сябе за тое, што не магла прадбачыць вайну і не засталася ў Ленінградзе. Каб зараз я была там, дык ведала б, што рабіць: напісала б заяву і пайшла б добраахвотнікам на фронт. У Ленінградзе, напэўна ж, усё было б прасцей.

А куды напісаць заяву тут, у нашых Зуях, дзе штодня на вуліцы фашысты?

Але неўзабаве тое-сёе будзе мне вядома. На мінулым тыдні да дзядзькі Янкі прыходзілі незнаёмыя людзі. Ён сядзеў з імі вось тут, пад грушай-дзічкаю. Пра што яны гаманілі? Позна ўночы, калі зусім ацямнела і паслаўся на лугавіне густы туман, тыя людзі пайшлі ў бок чыгункі. Назаўтра ранкам стала вядома, што пад Гаранамі зляцеў пад адхон эшалон. Выгляд у дзядзькі Янкі быў святочны, і я адразу здагадалася, што тыя людзі, з якімі гутарыў дзядзька Янка, маюць дачы-

ненне да таго, што адбылося ля станцыі Гараны. Пазаўчора дзядзька Янка зноў сустракаў у садзе незнаёмых мне людзей, хадзіў некуды з імі і вярнуўся толькі пад раніцу. Сёння ранкам я даведалася, што пазаўчора ўночы быў спалены мост на шашы пад Шумілінам.

З дзядзькам Янкам я збіраюся пагаварыць. Калі яму патрэбны памочнікі, дык няхай разлічвае на мяне.

Але гаворку гэтую я правяду крышку пазней, бо напачатку мне трэба тое-сёе высветліць у Ільі. Ён мой сваяк. Усе ранейшыя гады Ілья ставіўся да мяне з поўным даверам. Летась, аднак, у нашых адносінах нешта змянілася. А сёлета яго быццам падмянілі: скрытны зрабіўся, недаверлівы. У мінулы чацвер мы сядзелі тут, ля гэтай грушы-дзічкі, і з кішэні яго пінжака вываліліся вінтовачны патрон і два патроны ад нагана. Адкуль патроны? Аніяк не хацеў гаварыць. Я моцна пакрыўдзілася, тады ён паабяцаў, што будзе час і ён скажа мне праўду: хлусіць, маўляў, не хочацца, а праўду сказаць не мае права. Значыцца, ён будзе з кімсьці раіцца. Няхай параіцца. І няхай ведае, што я магу чакаць, што чалавек я цярплівы. Учора ён прыходзіў, і мы доўга з ім гаманілі пра аповесць Якуба Коласа «Дрыгва». На кніжцы стаіць штамп бібліятэкі Обальскай школы — немцы павыкідалі ўсе кніжкі са школьнага будынка і папалілі. А гэтую Ілья ўратаваў ад агню — схаваў пад кашулю, калі яго з хлопцамі фашысты пагналі працаваць на кухні.

— Нам трэба знайсці свайго дзеда Талаша, — сказала я.

— Дзед Талаш быў на Палессі. Даўно, — засмяяўся Ілья. — У нашым Шашанскім лесе дзеда Талаша няма.

Па тым як ён адвёў позірк убок, я здагадалася: словы яго — простая адгаворка. Мабыць, ён ведае, дзе ёсць партызаны, сустракаўся з імі — невыпадкова ж былі ў яго кішэні патроны! — і гутарыў. І вынікі той гаворкі былі для Ільі сумныя. Мне лёгка было давесці, што ён памыляецца. Бараніць сваю Радзіму ад ворага павінен кожны. І тут галоўнае не тое, колькі табе гадоў, а тое, што ёсць у тваім сэрцы. Я ведаю, што ўся краіна наша ўзнялася на святую барацьбу з ворагам. І ад гэтай барацьбы свайго народа я не магу стаяць убаку. Не магу і не буду!..

Сёння неяк зусім іначай пачынае шухцець лістота дзічкі. А можа, гэта толькі з таго, што скошана цімафееўка і вуха не чуе, як дудзіць вецер у сухіх мяцёлках, як стракочуць конікі?.. Не, нешта дужа журботнае і сумнае чуецца ў шапаценні густой лістоты, дзе льсняцца сакавітыя грушы-пацеркі. Сапраўды, быццам пацеркі панадзяваны на тонкае голле. І аблачыны быццам аселі па макавіну, аніяк не адчэпяцца і гайдаюцца на зялёных хвалях лістоты.

Калі і як я напішу пра ўсё тое, што бачаць зараз мае вочы? Трэба, мабыць, напісаць пра гэта неадкладна. Напісаць і пакласці гэты сшытак… Не, пісаць нельга! Хай усё будзе ў сэрцы!..

<…>

…Сёлета сады цвітуць па вёсках слаба. Шмат у каго яблыні і слівы пабіты маразамі. Жахліва глядзець на такія дрэвы. Увосень, калі дрэвы ў садах паскідаюць лістоту, гэты колер здаецца натуральным. А вясной, калі скрозь зеляніцца ўсё жывое, чорны колер яблынь рэжа зрок, палохае, ад яго пагана робіцца на сэрцы.

Стаіць адна чорная яблыня і ў бабуліным садзе, непадалёк ад грушы-дзічкі. Бабуля часцяком жаліцца, кляне зімовы мароз, бы жывую, але дужа брыдкую істоту: от жа гад — яна шчэ звычайна і грозіць пальцам, нібыта мароз той стаіць недзе непадалёк і ёй відзён добра! — самую лепшую яблыньку папёк. А ўнучачка мая яблыкі з яе о-о-ёй як упадабала!..

Шмат на якіх і іншых дрэвах у бабуліным садзе ўбачыш чорнае, спечанае марозам голле: кара на ім палопалася, звілася ў цёмна-рудыя і чорныя струпы — нібыта акрываўленыя бінты на галінах panaчапляны. Мне надта шкада малінавачкі — дужа смачныя яблыкі былі на ёй. Балюча глядзець на яе. Балюча глядзець на чорнае голле на дрэвах, што рэдзенька цвітуць. Белы колер квецені — колер жыцця. Чорны колер папечаных марозам галін — колер смерці.

А на грушы-дзічцы аніводнай чорнай галінкі няма. Станеш на ганак, зірнеш у сад, дык здаецца, што яна зусім без голля, а злеплена з гэтых густых і пышных кучомак бела-ружаватай квецені. Здаецца яшчэ, што гэта зусім не дрэва, абсыпанае вясновымі квятамі, а белае воблака, якое ціха апусцілася з блакітнага неба, зачапілася за слуп жардзяніку і знерухомела, назаўсёды завісла над вузкім лапікам зялёнай травы.

Гэтага дзіва ніколі раней я не бачыла. Даводзілася мне да бабулі прыязджаць і вясной, бачыла я сад у квецені, нават у сачыненні, якое настаўніца дужа ўхваліла, пісала, як цвіце наша груша-дзічка. Але ж гэткай пышнай, нейкай шалёнай квецені аніколі раней бачыць мне не даводзілася. І што дзіўна: вайна ж ідзе, чужынцы наўкола пануюць, людзі гаруюць, гэтулькі слёз людскіх ліецца, а дрэва сваім жыццём жыве. Відаць, ёсць у гэтым вялікая мудрасць зямлі, якую я шчэ не спасцігла. Дрэвы, мабыць, мудрэйшыя за людзей.

Мне часам здаецца, што я чую мову дрэў у садзе. Толькі вось пра што яны гамоняць — зразумець не магу. А вось каб знайшоўся гэткі чалавек, які зразумеў бы мову дрэў і зямлі, мову пчол, птушак, травы... Дзівосы з дзівосаў адкрыліся б тады перад такім чалавекам.

Дужа хацелася б дажыць да таго дня, калі голас такога чалавека прагучыць!..

А я пакуль што слухаю галасы, што плывуць з кожнай галінкі нашай грушы-дзічкі. Такое ўражанне, што сюды пазляталіся ўсе пчолы Падзвіння. Яны лётаюць над суквеццямі, сноўдаюцца па квятах, гудуць, зумкаюць, варушаць пялёсткі. А вось і чмялі прыляцелі, гудуць басавіта, і суквецці пад імі зыбаюцца, і на зямлю церусіцца рэдкае белае сяйво, нібыта снег у цёплы хмарны вясновы дзень. Поўна белых пялёсткаў і на траве, і на градах, дзе пасеяна морква, і нават да камля яны папрыліпалі, і кара здаецца стракатай, быццам прапалена кропкамі белага агню навылёт. І ў мяне такое адчуванне, што разам з гэтымі пялёсткамі некуды ціха плыве і зямля, і наша груша-дзічка, і разам з імі і я сама плыву.

Знарок збегла з хаты сюды, у засень бела-ружовага шатра, дзе ўтульна і лагодна, дзе паветра бясконца і напеўна дрыжыць і гудзе, дзе адчуваеш сябе ў поўнай адзіноце. А менавіта адзінота патрэбна мне,— між іншым, гэта здараецца ўсё часцей і часцей! — каб спакойна і глыбока, а галоўнае без памылак, усё разважыць і прааналізаваць.

Той час, калі Фруза Зянькова ставілася да мяне, бы да малой і зялёнай дзеўчынёхі, ужо ў мінулым, даўно, на маю думку, мінуў і мінуў беззваротна. Я давяла ўсім, чаго вартая ленінградка, як яны мяне клічуць: амаль аніводнай аперацыі ў вясновыя дні і напрадвесні не праходзіла без майго ўдзелу. Магчыма, крыху і перабольшваю. Аднак калі пачнеш падлічваць, дык зроблена шмат: расклейвалі лістоўкі на станцыі і па вёсках, звалілі і сплавілі ў Дзвіну восем тэлеграфных.слупоў, а дрот з іх патапілі ў вірах на рэчцы, спалілі два масты на гравійцы, ставілі міны на брукаванцы, і на тых мінах падарваліся тры машыны з салдатамі, рэгулярна збіралі дакладныя звесткі аб усіх эшалонах, што прайшлі праз Обаль...

Але на сэрцы вялікай задаволенасці ад зробленага ў мяне няма. І я цяпер дакладна ведаю прычыну гэтае незадаволенасці: мы займаемся не тым, чым трэба. Дакладней, робім камарыныя ўколы вялікаму і злому зверу. Можа, гэтыя ўколы і адчувальныя, але ж робім мы — і тут я перакананая! — мізэрную частку з таго, што, на маю думку, можна, а галоўнае, трэба рабіць.

Гэткай жа думкі прытрымліваецца, прынамсі, і Ілья. Ён лічыць, што сапраўднай справай занятыя тыя хлопцы, што пайшлі ў партызанскія атрады і трымаюць у руках зброю. А мы? Ну, сплылі, скажам, тыя слупы ў Дзвіну. Дык немцы ж роўна праз дзень паставілі новыя і новы дрот нацягнулі, і на кожным слупе — надпіс: «Ахтунг! Мінэн!» Лістоўкі? Экерт са сваёй хеўрай паздзіралі іх з платоў, слупоў, дрэваў. Праўда, шмат людзей паспелі іх прачытаць, а гэта ўжо важна. Спалілі масты? Тут, праўда, таксама трэба прызнаць важнасць таго, што мы зрабілі. Тыдні са два яны адбудоўвалі тыя масты. Аб’езд, праўда, зрабілі на другі дзень, але машыны там грузлі па самае пуза, і немцам нялёгка было іх выцягваць.

Звесткі аб руху эшалонаў?.. Гэта, мабыць, адзінае, што вельмі крэпка важыць. На тым тыдні нашы бамбардзіроўшчыкі сярод белага дня размалацілі эшалон з жывой сілай і тэхнікай немцаў. Амаль два дні цягнікі на Віцебск і Полацк не ішлі. Гэта — рэальная дапамога фронту. Але тут галоўная заслуга нашых лётчыкаў, а нашы звесткі толькі дапамаглі ім, аблегчылі пошук.

Вось з таго я ўсё часцей і часцей пытаюся ў сябе: а што ты асабіста зрабіла? Якая твая асабістая дапамога фронту? І калі на поўную шчырасць, дык асабліва няма чым пахваліцца. А час жа не чакае. Галоўнае, самае важнае, на маю думку, сёння вось што: патрэбна канкрэтная барацьба кожнага, барацьба, якая дае вынікі неадкладныя, рэальныя.

Па ўсім відаць, Зянькова ўрэшце гэта зразумела. У аўторак у атрад да Маркіянава пайшлі чацвёра нашых хлопцаў. Праз паўтара тыдня яны павінны вярнуцца, тады ў лес пойдзе наступная група. Прасілася ў Фрузы, каб у склад гэтай групы ўключылі і мяне. Яна паабяцала, што гэта будзе зроблена.

Слова Зяньковай цвёрдае — гэта ведае кожны з нас. Аднак жа я з нецярплівасцю чакаю таго дня, калі вернуцца з атрада хлопцы і надыдзе наша чарга. Я хачу навучыцца добра страляць з нямецкага аўтамата і парабелума, навучыцца працаваць з толам і ўвогуле з рознымі мінамі.

Думаю зараз пра гэта, і мяне дзівіць вось што. Чаму да вайны — мы ж ведалі, разумелі, што вайны з немцамі нам не мінуць рана ці позна! — мы гэтак мала надавалі ўвагі гэтай справе? У школьным гуртку мы вучыліся перавязваць раны, вучылі назвы газаў, вучыліся, як абыходзіцца з супрацьгазам. Не дужа прыдаліся мне гэтыя веды. Праўда, у школьным гуртку я навучылася страляць з малакалібернай вінтоўкі. Але ж куды ты сёння паткнешся з той вінтоўкаю малакалібернай, нават каб яна і была ў цябе: немец з аўтаматам, з хуткастрэльным кулямётам, а ты супраць яго — з малакаліберкаю?..

Так, шмат, вельмі ж шмат я спасцігла за гэтыя месяцы, што жыву на тэрыторыі, дзе пануюць немцы. І галоўнае вось у чым: вера ў перамогу. Трэба верыць, верыць да канца, да апошняга дня верыць у светлы дзень нашай хуткай перамогі над ворагам. «Наше дело правое, враг будет разбит, победа будет за нами!..» Лепей за гэта аніяк не скажаш. І я бачыла, з якою радасцю чыталі людзі нашы лістоўкі, дзе былі напісаны толькі гэтыя словы!

Сёння, як тое патрабуе жыццё, той, хто хоча змагацца з ворагам эфектыўна, павінен дасканала валодаць аўтаматычнай зброяй, добра ведаць падрыўную справу, трапна кідаць гранаты. А чым я тут магу пахваліцца? Што вораг будзе разбіты і перамога будзе за намі,— сумненняў быць не можа, і ў мяне іх няма. А вось валодаць зброяй... Тут мне няма чым пахваліцца. Праўда, гранату — Ілья навучыў мяне — я ведаю няблага і кідаю і нашу і нямецкую даволі дакладна на такую адлегласць, як і хлопцы. І гэта — вынік трэніроўкі, якую праводзілі кожны ранак, па паўгадзіны амаль. У альхоўніку на беразе Абалянкі знайшлі добрую пляцоўку, паставілі ў канцы яе бярозавы пяньчук і па чарзе смалілі па ім гранатамі.

Праўда, гранаты былі без капсуляў, але цяжкія, у рабрыстых кажухах.

Ілья кажа: каб дакладна страляць з нямецкага парабелума, трэба прывучыць сябе трымаць на выцягнутай руцэ пэўны цяжар. Я раблю цяпер гэта кожны ранак. У адрыне знайшла цяжкі жалезны прэнт, крыху сагнула яго і шмат разоў на дні, акрамя раніцы, падоўгу «цэлюся» з яго ў пэўную кропку на сцяне. Напачатку, як толькі выцягнеш руку з тым прэнтам, пачынала трымцець яна, балела запясце. Цяпер узнімаю прэнт лёгка, рука амаль не дрыжыць.

Спачатку было сорамна казаць Ільі пра гэты мой занятак, баялася, што будзе пацвельвацца. Сказала пазней, калі рука прызвычаілася да цяжкага прэнта, нават паказала яму сваю прыладу. Ён шчыра ўхваліў маю настойлівасць, сказаў сур'ёзна, што страляць навучуся хутка і буду страляць дакладна.

Учора на правым беразе Дзвіны фашысты спалілі тры хаты, гаспадары якіх не здалі чоўны, як таго патрабаваў загад камендатуры. Людзей — і жанчын і дзяцей — спалілі разам з хатамі.

Ніна Азоліна сказала ўчора, што немцы абвясцілі аб сваёй новай перамозе: яны, маўляў, захапілі Севастопаль. Як паверыць у гэта? Як паверыць?

Бабуля сёння ранкам зноў употай плакала. Я здагадваюся, што нейкая бяда напаткала дзядзьку Янку. Цётка Ірына кажа, што ён паехаў да сваякоў. Сказала, я разумею гэта, на той выпадак, каб я ведала, што адказаць, калі хто-небудзь папытае мяне пра дзядзьку. Яны, у хаце, лічаць мяне гэткай жа, як лічыла некалі Зянькова. Крыўдна. Але ж ведаць, дзе дзядзька Янка, хочацца. Мне здаецца, што бабуля і ніхто ў хаце не ведаюць, куды знік дзядзька Янка.

У каго мне папытаць пра гэта?

Можа, груша-дзічка ведае?

Калі нават і ведае, дык не адкажа. А можа, не пчолы гэта гудуць на пышнай квецені, а парываецца, сіліцца нешта сказаць схаванае пад белым вэлюмам голле?

Куляючыся, ападаюць на дол пялёсткі. Яны, выяўляецца, зусім не падобны на яблыневыя: на яблынях пялёсткі ў квятах шырокія, з светла-малінавай палоскаю, а тут яны доўгенькія, драбнейшыя і бела-белыя, амаль празрыстыя.

Можа, гэта не пялёсткі ападаюць на дол, а злятаюць з невядомай высі літары слоў?

А што зараз там, у Германіі, адкуль ідуць і ідуць цягнікі, гружаныя танкамі, гарматамі, салдатамі? Таксама цвітуць сады? З краіны, дзе цвітуць сады, едуць забойцы і рабаўнікі?

Едуць, выяўляецца.

Якою карай пакарае наш народ Гітлера, калі фашысцкія войскі будуць ушчэнт разбіты і мы ўвойдзем у Берлін?

Не ведаю. Не ведаю ўвогуле, якую кару можна прыдумаць жывому стварэнню, на сумленні якога гэтулькі чалавечай крыві, смерці, бяды, разбурэння.

Мне хочацца, каб перамогу людзі святкавалі вясной. Каб скрозь па зямлі цвілі сады, а мы святкавалі перамогу.



**Наталля МІЦКЕВІЧ**

# ДОЎГАЯ ДАРОГА*

*(ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа)*

## У Маскве

У Маскву я прыехала апошнім эшалонам са студэнтамі ў верасні 1943 года. Даставілі нас непасрэдна ў двор інстытута, куды была пракладзена чыгунка. Інстытут быў ваенізаваным, яго тэрыторыя была агароджана высачэннай агароджай з калючым дротам. А ўваход на гэтую тэрыторыю дазваляўся толькі па прапусках з асабістай фотакарткай. Пакуль нас размяркоўвалі па факультэтах, групах і выпісвалі пропускі, мы жылі ў вагонах. Пасля ўсіх пасялілі ў недабудаваным вучэбным корпусе № 5, у які яшчэ не падвялі ацяпленне. Мне пашанцавала — я трапіла ў параўнальна невялікі пакой, дзе жыло 20 дзяўчат. Увесь пакой быў застаўлены тапчанамі, а паміж кожнай парай ложкаў стаяла тумбачка, пасярэдзіне пакоя — доўгі стол з некалькімі крэсламі, ды каля ўвахода — электраплітка. Было холадна і страшэнна сыра.

У гэты час у Маскву прыехаў Фёдар. Бацька напісаў, каб той паклапаціўся купіць галёшы на мае басаножкі. Фёдар купіў на рынку за 130 рублёў старыя, усе ў латках гумавыя галёшы. У такім абутку мне даводзілася хадзіць на заняткі.

З першых дзён побыту ў Маскве са мной сталі здарацца адна непрыемнасць за другою. Спярша ў мяне ўкралі пашпарт, а без яго жыць было проста немагчыма. Спробы атрымаць другі скончыліся безвынікова. Толькі па адным запісе з дамавой кнігі, без штрафу, на які грошай не было, і даведкі з месца нараджэння начальнік Ленінградскага аддзела міліцыі Масквы адмовіўся выдаць мне новы пашпарт. З паўгода даводзілася выкручвацца з непрыемнасцей. Калі хто з дзяўчат не начаваў з намі, а пашпарт знаходзіўся ў тумбачцы, мы збіралі ў кучу ўсе дакументы і паказвалі іх міліцыянтам, якія іншы раз уначы наведвалі нас са сваімі праверкамі. А то прыходзілася залазіць пад тапчан і там перачакаць такі візіт. Другая бяда напаткала мяне ў лазні, куды стараста пакоя рэгулярна вадзіла нас. Паліто і абутак мы пакідалі ў калідоры, чыстую і брудную бялізну завязвалі ў вузел і аддавалі лазеншчыцы. Калі мы памыліся і вярнуліся ў раздзявалку, мая бялізна знікла. Нехта скраў. І ніхто з нас не здагадаўся аб неабходнасці напісаць скаргу адміністратару лазні. Можа, хоць якую кампенсацыю атрымала б. А так давялося накінуць на голае цела паліто і сандалі з галёшамі на босую нагу. Калі прыйшлі ў свой пакой, дзяўчаты падзяліліся сваім небагатым гардэробам — хто чым мог. Калі ж у нашым пакоі завялася мышка, якая нічога не знайшла ў мяне з ежы, то яна прагрызла агромністую дзірку ў маёй адзінай віскознай сукенцы. Добра, што яна не сапсавала шарсцяны адрэз, вывезены з Мінска і захаваны, нягледзячы на галоднае існаванне. З яго маці адной з нашых дзяўчат, якая была швачкай і жыла разам з намі, пашыла мне касцюм. Касцюм атрымаўся на славу, я яго аздобіла кветкамі з белай скуры. У гэтым касцюме хадзіла і на заняткі, і на танцы. І мяне празвалі «дзяўчына ў чырвоным

---

* Працяг. Пачатак у № 3, 4 2011 г.

касцюме». А за пашыў давялося расплаціцца боханам хлеба, так што два дні я вытрывала без яго.

Жыць у Маскве толькі на студэнцкую стыпендыю было вельмі складана. Большасць маіх суседак па пакоі мела радню, якая крыху дапамагала ім. У мяне ж бацькі жылі на ўтрыманні Федзі. Арсень і Шура ніколі не цікавіліся маім лёсам, лічылі, што я паўналетняя ўжо і павінна існаваць самастойна. Забыліся, што ў мірныя часы, калі былі студэнтамі, жылі за кошт бацькі. Такіх бядотных студэнтаў было нямала. А інстытуту і яго службам патрабаваліся рабочыя рукі. І рэктарат, а рэктарам быў Міхайлаў А. І., вырашыў дазволіць атрымліваць акадэмічны адпачынак пры ўладкаванні на работу. Каго размеркавалі лабарантам на кафедру, каго ў аддзел кадраў ці сакратаром дэканата, а мяне накіравалі ў шавецкую майстэрню інстытута. Давялося выконваць абавязкі прыёмшчыцы заказаў, табельшчыцы, касіра і асабістай сакратаркі дырэктара майстэрні. Паслугамі гэтай майстэрні карысталіся не толькі студэнты і выкладчыкі, але і работнікі раённых устаноў. Прыйшоў сюды і начальнік Ленінградскага аддзела міліцыі Масквы нешта пашыць. Маё ж кіраўніцтва адносілася да мяне са спагадай і папрасіла начальніка дапамагчы мне атрымаць пашпарт. Відаць, адмовіцца яму было няёмка і ён сказаў прыйсці да яго ў кабінет — без чаргі — з дзвюма фотакарткамі і дамавой кнігаю. Калі я прыйшла, ён выклікаў начальніка пашпартнага стала і даручыў яму выпісаць пашпарт на аснове дамавой кнігі. Мне ж сказаў пачакаць у яго кабінеце. Не прайшло і гадзіны, як мне прынеслі маскоўскі пашпарт, толькі зрабілі мяне рускай. Так з тае пары ў беларускай сям'і з'явілася руская.

Наступіў 1944 год. Вайна працягвалася, але справы рухаліся ў лепшы бок. Нашы войскі вызвалялі ад немцаў адзін за другім захопленыя імі гарады. І гэта ўздымала не толькі настрой, неабходна было думаць пра падрыхтоўку кадраў, спецыялістаў для работы ў разбуранай гаспадарцы. Беларускі ўрад прыняў пастанову аб узнаўленні дзейнасці ўніверсітэта, пачаўся пошук былых яго супрацоўнікаў, а на станцыі Сходня фарміравалася база ўніверсітэта. Фёдар быў прызначаны дэканам фізіка-матэматычнага факультэта.

У канцы 1943 года ў Маскву прыехаў бацька. Жыццё ў Алма-Аце і ў высакагорным пасёлку Алма-Арсан падкасіла яго здароўе, і ў хуткім часе ён цяжка захварэў. Яго паклалі ў бальніцу з дыягназам — вадзянка на аснове дэкампенсацыі сэрца. У палаце разам з ім з такім жа дыягназам знаходзілася восем чалавек. Яны паміралі адзін за адным. Атмасфера смерці моцна ціснула на псіхіку бацькі. Звычайна аптымістычны, цікаўны да ўсяго, што адбывалася на свеце, ён рабіўся абыякавым да навакольнага жыцця. Ніштo яго ўжо не цікавіла. Аднойчы, калі я наведала яго, ён мне сказаў (і толькі мне), што нашы частыя наведванні абцяжарваюць яго. Кожны раз, калі мы прыходзілі да яго, ён з нудою чакаў, калі мы выйдзем і пакінем яго ў спакоі.

У хуткім часе ў Маскву прыехала і Шура. І адразу ж накінулася на мяне з папрокамі, што я рэдка наведваю старога. Яна не магла, ці не хацела зразумець, што ў тым безнадзейным стане нашы наведванні толькі пагаршаюць яго стан, асабліва яе наведванні. Бацька не мог забыцца, як Шура адносілася да яго, калі яны жылі ў Алма-Арсане. Канешне, там бацька не галадаў, ён быў накормлены і радаваўся гэтаму. Але ж Шура старалася падпарадкаваць сабе маці і дыктаваць бацькам сваю волю. На гэтай глебе ў іх часта ўзнікалі канфлікты. І як толькі з'явілася магчымасць з'ехаць ад старэйшай дачкі, ён з радасцю пакінуў яе прыстанішча. Адносіны з «гаспадыняй» і карміліцай алма-арсанскага раю настолькі адклаліся ў яго памяці, што пры першай сустрэчы са мною ён мне пажаліўся, сказаўшы, што як бы яму кепска ні стала, ён ніколі не пагодзіцца жыць разам з Шурай. А цяпер яна сваімі частымі візітамі ў бальніцу хацела даказаць сваю любоў і клопаты.

Стан бацькі пагаршаўся з кожным днём, і доктар выклікаў Федзю і прапанаваў забраць старога дахаты, каб ён свае апошнія дні праводзіў не на бальнічным ложку, а ў коле родных. На яго выздараўленне дактары не спадзяваліся.

І Федзя забраў бацьку на Сходню, дзе яго ўжо чакала маці. Наглядаць за хворым бацькам стаў адмысловы доктар, прыхільнік выратавання сродкамі народнай медыцыны. Ён наказаў лячыць ад вадзянкі настоем травы «мядзведжае вушка» і кожны дзень з'ядаць па кілаграму сцёртай салодкай рэдзькі-турнэпсу, а таксама спажываць пчаліны мёд. Калі ў хворага збіралася шмат вадкасці, яго калолі «меркузалам».

Патроху-памалу бацька стаў папраўляцца, зноў абудзілася цікавасць да навакольных падзей, асабліва ён цікавіўся становішчам на франтах вайны. Цяжкія думкі пра смерць адступалі, прыйшлі былыя мары аб вяртанні на родную зямлю. І ён стаў спадзявацца на скоры пераезд у вызваленую Беларусь. У тыя часы бацькі даведаліся, што ў Маскве жывуць Леанід і Яўгенія Пфляўмбаўмы, з якімі не сустракаліся многа год. Лёня і Жэня, як звалі іх мае бацькі, былі дзецьмі чыгуначніка Эдгара Пфляўмбаўма, немца, які ажаніўся на беларусцы з Паперні. Бацька пазнаёміўся з імі калі працаваў у чыгуначнай школе, і яны пасябравалі. І цяпер было прыемна сустрэцца з імі. Лёня ў маладосці быў надзвычай прыгожым хлопцам і карыстаўся вялікім поспехам у жанчын. Напэўна з-за сваіх бясконцых любоўных прыгод не знайшоў часу для вучобы і не набыў ніякай спецыяльнасці. Ён даўно жыў у Маскве і ўладкаваўся домакіраўніком. Нягледзячы на тое, што ён быў прыгажуном, ажаніўся, ці яго ажанілі на вельмі непрыгожай дзяўчыне-яўрэйцы. У іх было дзве дачкі. Сустрэўшыся з ім, бацька папрасіў знайсці для мяне недарагое жытло, бо ўсіх студэнтаў з майго корпуса выселілі ў пансіянат пасёлка пры станцыі Даўгапруднае Савёлаўскай дарогі. Там жа была і вучэбная база-аэрадром з самалётамі — Дугласам і У-2. Там усе студэнты праходзілі практыку — з нас, хлопцаў і дзяўчат, рыхтавалі штурманаў. На падрыхтоўку па ваенцы ахвяравалі цэлы дзень тыдня.

На станцыю Даўгапруднае рэдка хадзілі цягнікі, а цяга была паравая. Дарога туды і назад займала многа часу, але самае непрыемнае — гэта перапоўненыя вагоны, даводзілася «вісець» на падножках. Аднойчы з сустрэчнага таварняка звесілася дошка і збіла групу студэнтаў. Сярод загінуўшых была і Жэня Журбенка з нашага пакоя. Пасля гэтай трагедыі мне было страшна ездзіць цягніком. Дзве сяброўкі з нашага пакоя ўжо пераехалі да бацькоў, якія вярнуліся з эвакуацыі. Гэта — Люся Левітан і Соня Бачанцава. Іх бацькі добра ставіліся да мяне, і я час ад часу начавала то ў адной, то ў другой. Яшчэ адна сяброўка — Ева Лібстэр — перасялілася да сваёй цёткі, якая за невялікую плату дазваляла мне начаваць у іх. Але прыходзілася спаць на адным ложку з Евай, што было нязручна. І вось па просьбе бацькі Лёня знайшоў для мяне маленькі пакой у доме, дзе ён быў домакіраўніком. Раней у тым пакоі была кладоўка, адно акенца выходзіла ў цёмны калідор, таму пакой не праветры-



*Наталля (справа) з сяброўкамі Евай Лібстэр і Люсяй Левітан. Масква, 1945—1946 гг.*

ваўся, паветра заўсёды затхлае, ацяплення не было, ды і гаспадар быў непрывятлівым чалавекам.

Бацька папраўляўся, пачаў вучыцца хадзіць пасля пяцімесячнага пасцельнага рэжыму. Гэта было няпроста.

Тым часам нашы ўлады расстараліся, каб крыху палепшыць жыллёвыя ўмовы відным дзеячам, прыезджым з вызваленых зямель і г. д. Гатэль «Якар» адвялі для беларусаў. Там атрымаў пакой бацька, да яго падсялілася і я. Выдзелілі пакой і для Якуба Коласа, у якім жыў яго старэйшы сын Даніла. Сам Колас з жонкаю жылі ў доме яе брата на станцыі Клязьма. Колас часта прыязджаў у гатэль, калі зранку адбываліся якія-небудзь пасяджэнні ці іншыя справы. Калі жонка Коласа захварэла і яе паклалі ў бальніцу, ён прыязджаў часцей і заходзіў да бацькі. Ён вельмі перажываў за сваю жонку — Марыю Дзмітрыеўну.

Малодшы сын Коласа, як стала вядома, таксама вучыўся у МАІ на маторабудаўнічым факультэце. Ён здымаў пакойчык недалёка ад інстытута, каля станцыі метро «Сокал», і часта наведваў гатэль, каб сустрэцца з бацькам. Калі Коласа не было на месцы, ён, ведаючы, што яго бацька часта бывае ў нас, стукаў у дзверы і, не заходзячы ў пакой, пытаў, ці няма яго бацькі. Такім чынам, ён ніколі не затрымліваўся ў нас, і я не магла яго разгледзець, а мне так хацелася пабачыць, якім стаў той хлопчык, якога я некалі сустрэла каля ёлкі ў Доме пісьменнікаў. Даніла ж часта заходзіў да нас і падоўгу размаўляў з бацькам, а на мяне ён наогул не звяртаў увагі.

У гатэлі спынілася многа бацькавых знаёмых, многія наведвалі яго, дзяліліся сваімі бедамі і ўражаннямі. А доўгія калідоры гатэля бацька выкарыстоўваў для трэніроўкі па хадзьбе. Мне было добра жыць з бацькам у гэтым гатэлі.

Закончыўся мой акадэмічны адпачынак, і я зноў прыступіла да заняткаў. Вайна падштурхнула развіццё шэрагу галін прамысловасці і, у першую чаргу, авіяцыйнай. Патрабаваліся падрыхтаваныя кадры многіх спецыяльнасцей. У нашым інстытуце адкрылі новы факультэт — інжынерна-эканамічны. Гэтая спецыяльнасць была для мяне больш прывабнай, чым узбраенне самалётаў, і я перайшла вучыцца на новы факультэт. Мне хацелася здаць усе экзамены на «выдатна», і я так здала экзамены па матэматыцы, сапрамаце, электратэхніцы. Добра падрыхтавалася і да экзамена па тэарэтычнай механіцы, якую чытаў нам Герш Срулевіч Іофэ. Ён жа вёў у нас і практычныя заняткі і ведаў, што я задачы рашаю лепш за іншых. І калі мы выцягнулі білеты, ён выклікаў мяне адказваць без падрыхтоўкі. Я адказала на пытанні білета, і ён стаў «ганяць» мяне па ўсім курсе. І калі я адказвала, ён толькі гаварыў: «Гэта яна ведае, і гэта таксама. Ну-ка, рашы такую задачу... і гэтую». І ён паставіў у ведамасці «Отл.». Прайшло больш як сорак хвілін, пакуль я адказвала. А да экзаменатара яшчэ ніхто не ішоў. Я ўжо замарылася. Тады Іофэ, перш чым паставіць «Отл.», прапанаваў напісаць яшчэ формулу. І тут замест літары «V» напісала «W», схамянуўшыся, я тут жа выправіла памылку. Але гэтага было дастаткова, каб ён закрэсліў «Отл.» і напісаў «удовлетворительно», толькі за выпраўленую апіску. А мой бездакорны адказ на працягу амаль гадзіны? Для яго гэта не мела значэння. Я ледзьве стрымала слёзы. Крыху супакоіўшыся, пайшла да загадчыка кафедры Свешнікава, між іншым, яшчэ і доктара багаслоўскіх навук. Я звярнулася з просьбаю дазволіць мне пераздаць экзамен за чацвёрты семестр любой камісіі. Калі ж ён даведаўся, што я хачу атрымаць замест «траяка» «пяцёрку», ён паляпаў мяне па плячы, сказаўшы «прекрасно, девушка, прекрасно» і ветліва выправадзіў мяне за дзверы. Прапала ўсякая ахвота рыхтавацца да наступных экзаменаў, і я атрымала па іх тройкі. Такая несправядлівасць з боку як настаўніка, так і загадчыка кафедры засталася вострым болем на ўсё жыццё. І зараз, калі ўспамінаецца гэта гісторыя шасцідзесяцігадовай даўнасці, мне крыўдна і балюча, як і тады. Па іроніі лёсу, пасля заканчэння інстытута і аспірантуры мяне накіравалі на кафедру тэарэтычнай механікі, тэорыі механізмаў і машын. Памятаючы той боль і крыўду, я ніколі не заніжала адзнакі за адказы студэнтам на экзаменах (за выключэннем аднаго). Пасля падзелу кафедры на дзве

я працавала ў якасці дацэнта па курсе тэорыі механізмаў і машын на працягу больш як трыццаці гадоў. Сустрэча з Іофэ адбылася ў Маскве на адной з канферэнцый. Хацелася напомніць яму аб яго здзеклівым учынку, але ўстрымалася. Пасля мне пашчасціла на канферэнцыі ў Коўна сустрэцца з былым загадчыкам кафедры МАІ акадэмікам Артабалеўскім. На памяць засталася фотакартка.

Нарэшце страшная, неверагодна жорсткая вайна закончылася бліскучай перамогай Чырвонай Арміі. Як радасна святкавалі людзі гэтую перамогу! Вуліцы цэнтра, плошчы Масквы бурлілі агромністым натоўпам людзей. Іх настрой немагчыма перадаць словамі, трэба ўбачыць і перажыць гэтыя незабыўныя часы.

З заканчэннем вайны бацькі зазбіраліся да пераезду ў родны Мінск. І зноў узнікла праблема, дзе мне знайсці прытулак. Тады бацька звярнуўся да Яўгеніі Эргардаўны з просьбаю прытуліць мяне, і ён пазнаёміў мяне з ёй. Я ёй спадабалася, і яна пагадзілася ўзяць мяне да сябе.

Яўгенія Эргардаўна была надзвычай адукаванай жанчынай. Яна мела вышэйшую адукацыю, валодала замежнымі мовамі, любіла і добра ведала літаратуру, сама пісала выдатныя вершы. У Маскве яна працавала рэдактарам у «Оборонгизе», раней — у рэдакцыі часопіса «Огонёк». Мы пасябравалі, і яна часта расказвала аб сваім жыцці. У маладосці ў Мінску выйшла замуж за маладога літаратара-маладнякоўца — Максіма Лужаніна. Але ў хуткім часе — у пачатку трыццатых — Максіма Лужаніна і яго паплечнікаў арыштавалі і выслалі з Беларусі. Маладая жонка па прыкладзе жонак дзекабрыстаў дамаглася дазволу паехаць у ссылку да мужа. Але там даведалася, што Максім жыве з іншай жанчынай. Абражаная ў сваіх пачуццях, яна вярнулася і развялася з ім. Яна пераехала ў Маскву. Прыгожую, разумную і добрую жанчыну пакахаў ваенны (яго прозвішча я не запомніла), і яны ўступілі ў шлюб. Маладыя пасяліліся ў кватэры з двух пакояў у ведамасным доме на Зубаўскай плошчы. Як я зразумела, Жэня не была шчаслівай у другім шлюбе. Калі пачалася вайна, яе муж пайшоў на фронт і не вярнуўся. Яе ўшчыльнілі. У другі пакой падсялілі палкоўніка Асвіяхіма Перльштэйна з жонкай і двума дзецьмі. Увесь навучальны год (1945—1946) добра і спакойна жыла ў Жэні. На зімнія канікулы я паехала наведаць бацькоў. Ніколі не магла падумаць, што кучы развалін цэнтра могуць прывесці мяне ў такі жахлівы стан. Было страшна і балюча — колькі людцаў загінула тут! Мінск быў спалены і разбіты, больш як 80 працэнтаў жыллёвага фонду знішчана. Дзе-нідзе захаваліся цагляныя дамы, ды на ўскраінах — драўляныя. Бацькі атрымалі пакой у 3-х пакаёвай кватэры ў доме на Беларускай вуліцы (цяпер Ульянаўская). У двух другіх пакоях жыла сям’я Максіма Танка. У гэтым жа доме атрымалі кватэры Пятрусь Броўка, Барыс Малкін і іншыя.

А мне так хацелася быць каля яго! Як было прыемна сядзець разам з ім у ложы бенуара, калі ён запрасіў мяне на «Князя Ігара». Я была прыемна здзіўлена, калі даведалася, што ён таксама прыхільнік класічнай музыкі, бо нікога з маіх сяброў класічная музыка не хвалявала.

Паміж нашымі дамамі большая частка горада ляжала ў руінах. Мае бацькі жылі каля стадыёна «Дынама», а бацька Міхася са старэйшым сынам Данілам — у двары спаленай немцамі Акадэміі навук у маленькай драўлянай хаце, за якой пачынаўся лес да батанічнага саду і парку Чалюскінцаў. Міхась іншы раз забягаў да нас, і мы ішлі да яго хаты праз разбураны цэнтр горада, разам з Нінаю хадзілі ў батанічны сад, іншы раз спыняліся ў парку Горкага. Ён паказваў тое месца, дзе стаяла іх хата, і крыху расказваў пра свае малечыя гады. Я ж часта праходзіла каля іх дома. Я і прыгадала, як на іх Вайсковым завулку пару разоў мы траплялі пад абстрэл з рагатак. Ці не яго гэта работа? Сказаў, што па лытках дзяўчат не страляў, а з рагаткаю хадзіў паляваць на вераб’ёў. Цяпер ён ездзіў на паляванне са стрэльбаю брата, які не вярнуўся з вайны. Аднойчы на мой дзень нараджэння раненька — я яшчэ спала — пастукаў у дзверы, паклікаў мяне, пацалаваў і кінуў да маіх ног пару качак, якіх недзе ўпаляваў. Лепш бы прынёс букецік кветак, а так мне давялося скубці гэтых птахаў.



*Наталля ў Маскве. Лета 1948 г.*

Аднойчы, калі мы сядзелі ў маленькім пакойчыку яго хаты, ён абняў мяне за плечы, а тут расчыняюцца дзверы: заглядае Канстанцін Міхайлавіч. Міхась рукі не зняў, а Колас, паглядзеўшы на нас, нічога не сказаў і зачыніў дзверы. З Міхасём мне было вельмі прыемна сустракацца, але ён гаварыў так, што нялёгка было здагадацца, дзе ён жартуе, а дзе гаворыць сур'ёзна. Аднойчы ён запытаў мяне, ці згодна я стаць яго другой жонкай. Чаму другой? Ён жа быў нежанаты. І я дала станоўчы адказ. Па выглядзе яго твару было відаць, што ён ашаломлены. Напэўна, пытанне было жартоўным, а адказ — нечаканым. Ён прамаўчаў, мабыць, ацэньваючы, як выбрацца з масткі, у якую сам трапіў. Канстанцін Міхайлавіч у вольны час выязжаў у мясціны, дзе іх сям'я летавала ў даваенныя гады. І Міхась папрасіў бацьку ўзяць у Балачанку і мяне. Колас заехаў у Балачанку да свайго сябра Дзяткі, а Міхась папрасіў шафёра давесці нас да Вусця, дзе, як ён казаў, прайшлі самыя шчаслівыя яго гады. Адразу як выехалі з лесу, адкрылася пустка, дзе некалі жылі людзі, стаялі хаты, а цяпер засталіся толькі рэшткі ад іх — разваліны печак ды зарослае бур'янам поле. Цішыня, паветра, насычанае водарам хвоі, спякота. Прайшлі колькі крокаў, і раптам гэтая цішыня ўзарвалася лапатаннем крылаў цэлага вывадку курапатак. Міхась стрэліў два разы, адна з іх упала. Астатнія адляцелі метраў за сто і селі. Мы — туды, але яны ці пахаваліся, ці збеглі. Хутка мы дайшлі да Свіслачы. Тут яна была яшчэ прыгажэйшай і шырэйшай, чым у Турыне. Навіслыя над ракою шчыльным тынам дрэвы, навакольная зеляніна кустоўя і аеру так напаміналі маё дзяцінства! За азярынкаю вузкая і ўжо непрыкметная чужому воку сцяжынка прывяла да раскошнага пляжу з бялюткага, шмат разоў перамытага пясочку. Мы з асалодай пакупаліся ў чыстай і цёплай вадзе Свіслачы. Назад ішлі берагам маленькага прытоку яе, сімпатычнай рачулкі Балачанкі. Гарачыня даймала нас і, крыху не даходзячы да лесу, прыпыніліся на высокім беразе яе і акунуліся ў куды халаднейшую ваду, чым свіслацкая. Нам так было добра, і мы крыху забавіліся. А да вёскі трэба было прайсці кіламетры два, праўда, у лесе не адчувалася той спякоты, што была ў полі. Калі падыходзілі да вёскі, пачулі сігналы легкавушкі. Фёдар Хадасоўскі выехаў за намі, бо пара было абедаць. Такіх прысмак, як вяленая кілбаса ды вяндліна, я ўжо даўно не каштавала, а тут на стале яны так прывабна выглядалі. Канечне, на стале з'явілася і самагонка. Нечакана Фёдар заўважыў, што сям'я Коласа ў хуткім часе папоўніцца. На што Канстанцін Міхайлавіч адказаў, што ў асабістыя справы сваіх дзяцей ён не ўмешваецца. Пасля гэтага Міхась вырашыў пакуль нічога не казаць бацьку, тым больш, што ўзнікла пытанне аб уладкаванні яго з жытлом. Яго гаспадыня папярэдзіла, што яе матэрыяльныя ўмовы палепшыліся і пажадала, каб ён вызваліў займаемы ім пакой. Улічваючы ўмовы, у якіх мы знаходзіліся, Міхась быў супраць шумнага вяселля і наогул лічыў, што яно з'яўляецца анахранізмам. Але паведаміць бацькам трэба, толькі як. І ён прыдумаў зрабіць гэта паведамленне жартоўным. Так, па прыбыцці ў Маскву мы запыніліся на Галаванаўскім завулку, дзе гады два жыў Міхась. Ён прапанаваў мне пазваніць свайму бацьку і папрасіць яго, каб той павіншаваў Коласа з жаніцьбай яго сына, а сам

пазваніў бацьку і як між іншым папрасіў яго павіншаваць Янку Маўра са шлюбам яго дачкі. Колас нічога не западозрыў і абяцаў павіншаваць. А я пазваніла свайму бацьку з аналагічнай просьбай наконт Міхася. А бацька адразу запытаў, на кім жа ён жэніцца. Я адказала, што на сваёй аднакурсніцы. Тады ён запытаў, ці не я тая аднакурсніца? Бо Міхась неаднойчы заходзіў да мяне, і мы разам паехалі ў Маскву. Давялося прызнацца. Але расказаць аб гэтым Міхасю я пабаялася. Такім чынам, мой бацька ведаў, хто на кім жэніцца, а Колас — не. І калі ў Саюзе пісьменнікаў Колас сустрэў бацьку, ён як абавязковы чалавек, выканаў просьбу сына і павіншаваў майго бацьку са шлюбам яго дачкі. А мой бацька запытаў: «Дык што мы будзем рабіць?» А Колас адказаў коратка: «А мне якое дзела? Твая дачка выйшла замуж, ты і разбірайся!» Ад такога адказу, напэўна, бацька аслупянеў, не знайшоўшы, што адказаць. Прыйшоў дахаты ў разгубленасці і расказаў аб гэтым маёй маці. А тут яшчэ была і Шура. Маці кінулася ў плач. Склалася ўражанне, што Колас не хоча прызнаваць мяне жонкаю свайго сына. Што рабіць? Бацьку было вядома, што Колас збіраецца ў Маскву, і ён вырашыў пайсці да яго і разабрацца ў сітуацыі. Коласа дома не было, і хатняя гаспадыня Марыя Георгіеўна прапанавала яму крыху пачакаць. А пасля пацікавілася — за каго ж Наташа выходзіць замуж, ці не за нашага Міхаська? Яна ж бачыла і неаднойчы, што я прыходзіла да іх у хату і чула, што Канстанцін Міхайлавіч неяк сказаў, што трэба павіншаваць Янку Маўра са шлюбам яго дачкі. Тут бацька зразумеў, што Колас не ведае, за каго выйшла замуж дачка. Калі ж Колас прыйшоў дахаты, то з першых слоў зразумеў, што пажаніліся іх дзеці, а яны сталі сватамі. Колас, відаць, крыху пакрыўдзіўся, што Міхась не ўсё паведаміў яму. Але дастаў бутэльку настойкі, і яны палепшылі свой настрой. А гэтымі ж днямі Шура прыехала ў Маскву, пазваніла мне і стала мяне лаяць. Колас не прызнае мяне жонкай яго сына, я сваім шлюбам пасварыла старых сяброў, мне трэба як мага хутчэй пакінуць Міхася. Цяпер плакала я, а Міхась стаў мяне суцяшаць. І ў гэты час адчыняюцца дзверы і ўваходзіць у наш пакойчык Канстанцін Міхайлавіч. Ад нечаканасці я страшэнна збянтэжылася і не ведала, дзе мне падзецца, куды схавацца. А Канстанцін Міхайлавіч дастаў з партфеля бутэльку наліўкі, паставіў яе на стол і сказаў: «Ну, нявестка, накрывай на стол, вып'ем за ваша здароўе». Так скончылася гэтая гісторыя-жарт, што разыграў Міхась над нашымі бацькамі. У далейшым ён шмат разыгрываў усякія жарты і сцэны. У гэтым ён быў больш падобны да майго бацькі, чым да свайго. Бо мой таксама любіў добра пажартаваць.

Тым часам трэба было шукаць нам прытулак. Канстанцін Міхайлавіч добра ведаў як Максіма Лужаніна, так і Яўгенію Эргардаўну. Лужанін вярнуўся у Мінск і прасіў Жэню пераехаць да яго ў Мінск. Колас ведаў, што Жэня мае жытло ў Маскве, і што я жыла ў яе. І ён атрымаў згоду Жэні пасяліць туды сына. Але ж трэба было прапісаць яго часова на час вучобы ў Маскве. А гэта было вельмі складана. І Коласу давялося ісці ў прыёмную Массавета да Шверніка па дазвол на прапіску ў ведамасным доме. Дазвол быў атрыманы. Жэня пераехала ў Мінск, а мы — у яе пакой. Праўда, яе сусед па кватэры палкоўнік Перльштэйн А. І. прыкладваў намаганні, каб атрымаць наш пакой для сваёй сям'і. Ён пісаў адпаведныя пісьмы, але дамогся толькі таго, што мяне не прапісалі і, больш таго, па яго заяве прыходзіў участковы з праверкай, якое я маю права жыць без прапіскі. Але ўбачыўшы ў пашпарце штамп аб нашым шлюбе, абмежаваўся невялікім штрафам. Мы жылі ў гэтай кватэры ціха, мірна, так што скардзіцца на нас не было падстаў.

Канстанцін Міхайлавіч клапаціўся пра нас, прысылаў дастаткова грошай, каб мы маглі больш-менш добра падтрымліваць сябе. І Міхась выказаў пажаданне — пара самім гатаваць ежу, а не залежаць ад інстытуцкай сталоўкі. Вопыту гатаваць у мяне не было, не было з кім параіцца, не было дзе знайсці адпаведнай літаратуры. Гэта зараз кнігарні поўняцца самымі разнастайнымі дапаможнікамі, а тады даводзілася вучыцца метадам спробаў і памылак. Але ж надта прыеліся стравы, якімі кармілі ў інстытуцкай сталоўцы: боршч з верхніх зялёных капусных лістоў на першае, на другое — тушаная капуста, палітая горкім алеем, а зімою — кваша-

ная капуста. І толькі 2—3 разы на год на святы частавалі крупнікам. Пасля многія гады на стравы з капусты глядзець было моташна.

Недалёка ад нас адчынілі камерцыйную прадуктовую краму, найбольш таннымі былі загатоўкі з дзічыны. І аднойчы Міхась прынёс зайца-беляка. Ён зняў з яго шкуру, паклалі пад струмень вады вымачыць, а назаўтра я прынялася яго гатаваць. Пасечаныя кавалкі паставіла ў духоўку, а сама вярнулася ў пакой. Калі ж успомніла пра зайца, то аказалася, што дзверы ў кухню шчыльна зачынены, а там поўна дыму. Калі ж я глянула ў духоўку, то там засталіся абвугленыя камячкі. Больш Міхась зайцоў не купляў. Праз колькі год я добра навучылася гатаваць як зайцоў, так і іншую дзічыну, якую Міхась прыносіў са сваіх паляўнічых вандровак. Ён быў не толькі аматарам палявання, але і стралком-стэндавіком. На яго дні нараджэння — 31 студзеня — я гатавала зайцоў і па-польску — у смятане, і па-французску — у чырвоным віне... Але гэта было шмат пазней.

У пачатку красавіка ў Маскву прыехаў Канстанцін Міхайлавіч і даведаўся, што мы чакаем дзіця, прапанаваў неадкладна пераехаць да яго, дзе нам і малому будзе значна лепш. А прадоўжыць вучобу можна і ў Беларускім політэхнічным інстытуце, які ўжо ўзнавіў работу. Так як на чацвёртым курсе выкладаюцца спецкурсы, то нас могуць залічыць на чацвёрты курс, а тут здаваць экзамены па адпаведным спецкурсам няма сэнсу. Канстанцін Міхайлавіч клапаціўся пра маё здароўе і таму забраў мяне адразу, а Міхась застаўся, каб падрыхтаваць паперы на перавод у БПІ. Свае дакументы ён атрымаў адразу, а мае — зніклі з аддзела кадраў МАІ, ды так, што ніякіх слядоў не засталося: ні таго, што я паступіла на першы курс МАІ і прыехала апошнім эшалонам у Маскву, ні майго атэстата аб заканчэнні школы. У аддзеле кадраў падпрацоўвала студэнтка з нашай групы. Яна абшукала ўсё ў сваім аддзеле і нічога не знайшла. Так маё жыццё ў Маскве пачалося з кражы пашпарта, а закончылася знікненнем атэстата аб заканчэнні сярэдняй школы. На руках была толькі заліковая кніжка. І ніхто не параіў, як і пры крадзяжы майго адзення з лазні, узяць даведку з аддзела кадраў і паслаць запыт у дырэкцыю алма-ацінскай школы аб выдачы дубліката. Я не падумала, што атэстат аб заканчэнні школы з'яўляецца асноўным дакументам студэнта. Але мы пакінулі Маскву. І ўсё ж для мяне апошні год жыцця ў Маскве быў самым шчаслівым.

***Працяг будзе.***



Іван САВЕРЧАНКА

# ВЯЛІКІ КНЯЗЬ АЛЯКСАНДР КАЗІМІРАВІЧ У СТАРАДАЎНІХ ХРОНІКАХ

Выдатны помнік пісьменства пачатку XVI стагоддзя — «Хроніка дзяржаўных і вайсковых спраў Аляксандра Казіміравіча». Твор захаваўся прынамсі ў дзвюх рэдакцыях.

Аўтарства «Хронікі…» дакладна не высветлена. Праўда, непасрэдна ў тэксце твора (у рэдакцыі, пададзенай у «Хроніцы Быхаўца») двойчы згадваецца імя *Фёдара (Федьки) Грыгор'евіча* — пісара вялікакняжацкай канцылярыі, які займаў таксама пасаду стоклішскага намесніка. Ён быў даволі ўплывовай асобай і надзвычай абазнаным чалавекам у сферы дыпламатыі падчас княжання Аляксандра Казіміравіча. У пятай кнізе запісаў Літоўскай Метрыкі пра яго захаваліся шматлікія звесткі. У 1495 годзе Фёдар Грыгор'евіч ездзіў у якасці пасла ў Маскву, каб урэгуляваць праблему з узвядзеннем для Алены Іванаўны праваслаўнага храма ў Віленскім замку. Але ў крыніцах таго часу згадваецца таксама пісар *Фёдар (Федька) Янушковіч*. Магчыма, Фёдар Грыгор'евіч і Фёдар Янушковіч — гэта адна асоба. Такім чынам, пытанне пра аўтарства «Хронікі дзяржаўных і вайсковых спраў Аляксандра Казіміравіча» крыху прасвятляецца, але канчатковае яго вырашэнне застаецца адкрытым.

Шматлікія падзеі, занатаваныя ў «Хроніцы…», аўтар назіраў асабіста, часам браў у іх актыўны ўдзел, аб чым выразна сведчыць семантыка тэксту.

«Хроніка…» вельмі падрабязна асвятляе дынастычны шлюб паміж вялікім князем Аляксандрам і маскоўскай царэўнай Аленай Іванаўнай. На старонках твора асвятляюцца ўсе акалічнасці і шматлікія дэталі падрыхтоўкі да шлюбу, абмеркаванне ўмоў выдання царэўны за вялікага князя, прыезд Алены ў Вільню, яе спатканне з Аляксандрам і, нарэшце, раскошнае вяселле.

У «Хроніцы…» дамінуючае месца займаюць *вайсковыя кампаніі*. Пісьменнік распавёў пра наступ маскоўскага цара Івана Васільевіча III на землі ВКЛ увесну 1493 года. Вельмі дэталёва асвятляюцца падзеі вайны 1499 года паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам.

У заключнай частцы «Хронікі…» шмат месца адведзена бітве з крымскімі татарамі ў 1503 і 1506 гадах. Аўтар паведамляе пра спальванне татарамі Менска і Навагрудка, няшчаднае рабаванне імі беларускіх земляў. У творы адзначаецца выключная роля ў разгроме татараў князя Сямёна Слуцкага і гетмана ВКЛ Міхаіла Глінскага. Асабліва яркая батальная сцэна «Хронікі…» — мужная абарона ў 1506 годзе Слуцка пад кіраўніцтвам княгіні Анастасіі Слуцкай.

На старонках твора асвятляюцца *дыпламатычныя стасункі*. Перадусім распавядаецца пра вялікае пасольства ў Маскву ў канцы 1494 года з мэтай падпісання мірнага дагавора. Аўтар з жалем канстатуе, што за мірнае пагадненне ВКЛ заплаціла надта вялікую цану. Пад уладу Масквы перайшлі значныя тэрыторыі і буйныя гарады — Вязьма, Халопень, Мяшчэрск, Любуцк, Серпухаў, некалькі замкаў у Северскай зямлі і, урэшце, — Вялікі Ноўгарад.

Пераклад «Хронікі дзяржаўных і вайсковых спраў Аляксандра Казіміравіча» ажыццёўлены паводле публікацыі: Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. 95—97; 99—101.

## ХРОНІКА ДЗЯРЖАЎНЫХ І ВАЙСКОВЫХ СПРАЎ АЛЯКСАНДРА КАЗІМІРАВІЧА

### I

У 1492 годзе, неўзабаве пасля смерці караля Казіміра, літоўскія паны склікалі ў Вільні сойм. Там яны супольнымі галасамі абралі на трон Вялікага Княства Літоўскага Аляксандра, сына Казіміра. Узвялі Аляксандра на трон у Віленскім замку, у адпаведнасці са старадаўнімі цырымоніямі.

Польскія паны, пасля пахавання Казіміра, гэтаксама з’ехаліся на сойм да Петркова і абралі сваім каралём Ольбрыхта Казіміравіча. Яго каранаваў у Кракаве гнезнінскі арцыбіскуп.

### II

Зіма 1493 года выдалася надзвычай цёплай. У студзені і лютым зацвілі сады, выраслі травы, закрасавалі азімыя, зазелянелі сенажаці. А потым, з 15 сакавіка, неспадзявана ўдарылі моцныя марозы. Усё, што зелянела — высахла і ператварылася ў гніль.

У той жа год вялікі князь маскоўскі Іван Васільевіч, скарыстаўшыся бедствам, якое абрынулася на ВКЛ, увесну распачаў вайну супраць Аляксандра. Ён узяў Вязьму, Мяшчэрск, Любуцк, Серпухаў і замкі ў Северскай зямлі, якія з часоў Альгерда і Вітаўта служылі Літве. За кароткі час маскоўскі князь падпарадкаваў шмат воласцяў і земляў.

### III

Князь Аляксандр і паны Вялікага Княства Літоўскага ўсведамлялі, што весці вайну з такім магутным непрыяцелем надта цяжка. Яны накіравалі да Івана Васільевіча вялікае пасольства. Паслы прыехалі ў Маскву і падпісалі замірэнне паміж дзвюма дзяржавамі — Літоўскай і Маскоўскай.

Літоўскі князь Аляксандр Казіміравіч і маскоўскі князь Іван Васільевіч замацавалі ўласныя рашэнні прысягамі. Пры гэтым, Вялікі Ноўгарад і вышэй пералічаныя месцы і замкі, адарваныя ад Літоўскага княства, перайшлі пад уладу Масквы.

Пасля падпісання замірэння паслы паднеслі маскоўскаму князю і яго дачцэ Алене каштоўныя падарункі ад імя вялікага князя Аляксандра. Маскоўскі князь узняўся з маястату (трона) і падзякаваў за падарункі. Асаблівую ўдзячнасць выказала панна Алена праз баярына і царскага паплечніка.

Вялікі князь маскоўскі шчодра частаваў паслоў. Стоячы за сталом, ён пералічваў паднесеныя яму падарункі і піў рэманію за здароўе вялікага князя Аляксандра.

На добрым падпітку Іван Васільевіч запытаўся ў паслоў:

— Чым бы я мог аддзячыць за такія шчодрыя падарункі?

Паслы ўсталі, адбілі нізкія паклоны і прамовілі:

— Было б добра, каб тыя падарункі паспрыялі прыязнаму стаўленню да нашага князя Аляксандра.

Маскоўскі князь адказаў:

— У гэтым не адмоўлю.

Паслы пакланіліся яму ў другі раз і прадоўжылі:

— Наш вялікі князь не мае бацькі. Ён просіць, каб твая царская міласць быў яму другім бацькам, каб аддаў яму ў жонкі сваю дачку Алену, якую ён моцна палюбіў.

Іван Васільевіч адказаў:

— Да раніцы падумаем. А цяпер прашу, весяліцеся ў нашым палацы.

Гэтак прамовіўшы, князь пайшоў у свае палаты.

Іван Васільевіч загадаў баярам, каб яны добра пачаставалі гасцей, а потым праводзілі да іх гасподы (пасольскага двара).

Назаўтра паслы прачнуліся рана і паехалі на Божую службу да саборнай царквы. Службу правіў асабіста мітрапаліт маскоўскі. Пасля службы паслы накіраваліся да цара, куды іх запрасілі баяры і думны царскі дзяк.

Цар, сустрэўшы паслоў, запытаўся:

— Як маецеся пасля ўчарашняга?

Паслы падзякавалі, адбілі нізкія паклоны і прамовілі:

— Наш вялікі князь літоўскі схіляе калені і просіць аддаць яму ў жонкі Алену — дачку вашу царскую.

Іван Васільевіч заплакаў і адказаў:

— Калі гэтак хоча Бог, няхай збудзецца воля Гасподняя!

Паслы зноў адбілі Івану Васільевічу паклоны да зямлі, дзякуючы за згоду. Затым іх праводзілі ад цара.

Маскоўскі мітрапаліт запрасіў вялікіх паслоў да сябе на пачастунак. Там яны смачна паелі, потым адкланяліся і ад’ехалі.

На трэці дзень паслам зноўку загадалі ехаць да цара. За імі прыслалі царскую карэту. Калі яны прыехалі, цар узяў пад рукі двух старэйшых літоўскіх паслоў і павёў іх, у суправаджэнні маскоўскага мітрапаліта, у свае палаты. Паўсюль сцены былі аздоблены золатам. Яны ўвайшлі ў пакой, дзе жыла царыца.

Паслы пакланіліся царыцы да зямлі, перадалі ёй нізкія паклоны ад вялікага князя літоўскага Аляксандра і папрасілі згоды царыцы аддаць за яго яе дачку.

Царыца адказала:

— Калі ў гэтым Божая воля, дык гэта справа майго цара.

Затым адхінулася заслона і ўвайшла панна Алена. Яна пакланілася і стала побач з бацькам. Калі паслы паглядзелі на яе — вельмі здзівіліся, бо перад імі быў сапраўдны анёл у чалавечым абліччы. Убачыўшы незвычайную прыгажосць царэўны Алены, яны сталі прасіць яе выявіць ласку і пагадзіцца стаць жонкай іх гаспадара і князя.

Алена заплакала.

Іван Васільевіч запытаўся ў паслоў, ці маюць яны маляваны партрэт князя Аляксандра. Паслы накіраваліся па партрэт да гасподы і неўзабаве прынеслі яго. Вялікі князь Аляксандр меў вельмі прыгожае аблічча, белы твар, чорныя вочы. Агледзеўшы партрэт, маскоўскі князь прамовіў:

— Сапраўдны польскі каралевіч.

А затым Іван Васільевіч пастанавіў:

— Намаляваны князь Аляксандр няхай застанецца ў маім пакоі, а табе, дачка мая Алена, няхай будзе жывы вялікі князь літоўскі пажыццёвым спадарожнікам!

Цар дабраславіў Алену на шлюб з Аляксандрам. Паслы ў адказ пакланіліся да зямлі, цалавалі рукі цара, царыцы і царэўны.

Уранку паслы прысутнічалі на службе ў саборы святога Міхаіла. Затым яны ўзялі лісты, упамінкі і выехалі з Масквы. На Паклоннай гары паслы затрымаліся. Там да іх далучыліся некалькі тысяч вазоў са скарбам Алены, што адпраўлялася ў Літву. Цар і царыца праводзілі сваю дачку за мілю. Яны расцалавалі і дабраславілі Алену. Іван Васільевіч накіраваў ў Літву ў якасці суправаджэння 2000 жаўнераў, на чале са старэйшым баярынам. З Аленай адпраўляліся і два праваслаўныя епіскапы.

Паслы выправілі ганца да князя Аляксандра, каб паведаміць яму, што з усімі даручэннямі добра справіліся і з імі едзе царэўна Алена. На літоўскай мяжы паслоў сустрэлі харугвы і суправаджалі іх да Вільні. Паўсюль у гарадах, якія яны праязджалі, людзі радасна сустракалі царэўну Алену, грымелі ўрачыстыя стрэлы з гармат.

Пасольства з царэўнай Аленай набліжалася да Вільні. За тры мілі ад горада разбілі намёты з 12 царскімі вярхамі. Каля чатырох тысяч літоўскіх паноў выехалі насустрач. Літоўскія князі і паны нізка кланяліся ёй.

Маскоўскія жаўнеры, аздобленыя золатам і сабалямі, стаялі на конях воддаль, з тылу, паўмесяцам, на адлегласці выстралу з лука.

Потым з’явіўся князь Аляксандр у атачэнні 500 конных рыцараў. Ён загадаў рыцарам спыніцца. Аляксандр спешыўся і з некалькімі панамі і князямі пайшоў

да шатра царэўны. Алена з баярамі і епіскапамі рушыла насустрач князю. Яны сустрэліся, павіталіся і пайшлі да яе ў намёт. Уся літва радасна ўсклікнула:

— Алілуя, алілуя Богу нябеснаму за такі шчодры падарунак! За тое, што такую чароўную панну маскоўскі князь даў нам за княгіню мець! Няхай наш вялікі князь жыве з ёй доўгія гады!

Паны ад радасці доўга стралялі з мушкетаў, а потым раз’ехаліся па сваіх дамах.

Вялікі князь Аляксандр і княжна Алена пасля сняданку ў намёце паехалі, у атачэнні іншых паноў і князёў, да Вільні. Алена ехала ў бацькоўскай царскай карэце з двума епіскапамі. Калі яна ўехала ў Вільню, мноства людзей выйшлі насустрач, невымоўна радуючыся гэтакаму шчасцю. У гонар Алены кідалі букеты з розных кветак і гадзіны чатыры стралялі гарматы.

Алена Іванаўна з яе баярамі і епіскапамі размясцілася ў Верхнім замку. Князь Аляксандр спыніўся ў Ніжнім замку.

На трэці дзень вялікі князь Аляксандр і Алена ўзялі шлюб. Абвянчаў іх уладзімірскі епіскап. Вяселле доўжылася тры тыдні з рознымі прыгодамі і забавамі.

Пасля вяселля князь Аляксандр раздаў падарункі епіскапам, баярам і ўсім маскоўскім гасцям. Яны ад’ехалі ў Маскоўскае княства. Пры Алене застаўся праваслаўны свяшчэннік, дыякан з 24 пеўчымі і 50 маскоўскіх паненак, якія ўслугоўвалі княгіні.

Вялікі князь Аляксандр жыў з Аленай у вялікай любові. Ён часта дасылаў падарункі свайму цесцю — маскоўскаму князю, а той у адказ — дасылаў яму.

## IV

У 1499 годзе вялікі князь маскоўскі Іван Васільевіч, імкнучыся да пашырэння сваіх уладанняў, парушыў перамір’е. Ён скарыстаў як зачэпку для абвяшчэння вайны тое, што вялікі князь Аляксандр не збудаваў у Віленскім замку праваслаўнай царквы для Алены.

Маскоўскі князь вінаваціў Літву ў разарванні міру. Іван Васільевіч аб’явіў свае прэтэнзіі на ўсе землі, ажно да ракі Бярэзіны, спасылаючыся на продкаў.

Маскоўскі князь змовіўся з перакопскім царом Менглі-Гірэем і валашскім ваяводам Стафанам, яго шваграм, і распачаў новую вайну супраць Вялікага Княства Літоўскага. Ён накіраваў ганцоў да князёў Сямёна Іванавіча Жамойцкага і Васіля Іванавіча Семяновіча, з загадам, каб яны з усімі Северскімі замкамі адступілі ад яго зяця Аляксандра і перайшлі на службу да яго — маскоўскага князя. Тыя неўзабаве прысягнулі яму і пачалі ваяваць супраць Аляксандра.

Маскоўскі князь паслаў ім у дапамогу войска на чале з ваяводам Якавам Захарэвічам. Войскі пайшлі пад Бранск і на Северскую зямлю. Некалькі бранчанаў, даведаўшыся пра наступ Масквы, здрадзілі і падпалілі замак. Маскоўскія войскі ўбачылі, што Бранскі замак гарыць і накіраваліся туды. У адной з вёсак пад Бранскам яны ўзялі ў палон Станіслава Барташэвіча і шмат бранскай шляхты.

Некаторыя бранчане, у прыватнасці, князі Сямён Іванавіч і Васіль Іванавіч Семяновічы, на рацэ Кантове, прысягнулі перад ваяводам Якавам Захарэвічам на вернасць маскоўскаму князю Івану Васільевічу. Яны перайшлі пад уладу Масквы з усімі іх замкамі — Чарнігавам, Старадубам, Ноўгарад-Северскім і Рыльскам, а таксама з усімі воласцямі, што дагэтуль падпарадкоўваліся Вялікаму Княству Літоўскаму.

Вялікі літоўскі князь Аляксандр надта шкадаваў, што мусіў весці вайну з бацькам сваёй жонкі. Ён абраў войска, прызначыў гетманам князя *Канстанціна Іванавіча Астрожскага*. Разам з літоўскімі і рускімі князямі, панамі і баярамі Аляксандр рушыў на Менск, а з Менска на Барысаў, дзе працяглы час стаяў. Яго гетман, князь Канстанцін Астрожскі, з войскам накіраваўся пад Смаленск. Ваяводам князя Аляксандра ў Смаленску на той час быў Станіслаў Кішка.

Неўзабаве ў Смаленск прыйшлі навіны, што маскоўскі ваявода Якаў Захарэвіч стаіць з войскам на Відні.

Гетман Канстанцін Астрожскі ўзяў з сабой смаленскага ваяводу Кішку і ўсё смаленскае рыцарства і рушыў на Дарагабуж. Войскі Вялікага Княства Літоўскага мінулі паселішча Лапашына, але не дайшлі да вёскі *Ведрашы*, спыніўшыся за дзве мілі ад маскоўскага войска. Яны даведаліся, што маскоўскіх жаўнераў вельмі вялікая колькасць і яны стаяць на Ведрашы, чакаюць літву да бою.

Князь Канстанцін Астрожскі вырашыў біцца з масквой. Яго войскі рушылі нацянькі, дзве мілі ішлі густым лесам і балоцістым шляхам. Калі выбраліся на роўнае поле, гетман ушыкаваў харугвы.

Літоўскае і маскоўскае войскі сутыкнуліся і пачалася бітва. З абодвух бакоў палегла мноства жаўнераў. Раптам маскоўскае войска пачало адступаць, перапраўляцца праз раку Ведраш да асноўных сілаў. Маскоўскае войска спадзявалася, што з лесу з’явяцца новыя літоўскія харугвы. Войскі ВКЛ пачалі пагоню і прыскакалі да Ведрашы. Тады маскоўскія войскі адразу атакавалі і разграмілі войскі Літвы.

Там жа ўзялі ў палон літоўскага гетмана Канстанціна Астрожскага, Стафана Грыгоравіча Осціка, маршалка Літавора Храбтовіча, Мікалая Юр’евіча, Мікалая Глябовіча, Мікалая Зяновіча, Івана Якімовіча, Фёдара Няміру, Багдана Маскевіча.

Князя Канстанціна Астрожскага трымалі ў палоне ў найцяжэйшых умовах. Яму выкруцілі назад рукі, залілі іх волавам. Маскоўскі князь цяжкой няволяй і лагоднымі словамі прымусіў Канстанціна Астрожскага прысягнуць яму на вернасць. За гэта ён узнагародзіў яго маёмасцю ў Маскве. Князь Астрожскі ваяваў з татарамі і шмат разоў выйграваў бітвы.

Вялікі літоўскі князь Аляксандр, калі атрымаў вестку пра разгром войска на Ведрашы, паланенне гетмана Канстанціна Астрожскага ды іншых паноў, надта сумаваў. Ён тады з войскам стаяў на рацэ Бобр. Потым князь Аляксандр вярнуўся назад у Літву.

У тую ж восень маскоўскі ваявода Якаў Захарэвіч адбіў у Літвы замак Пуціўль, які знаходзіўся ў 40 мілях ад Кіева і ў 30 мілях ад Чарнігава. Затым ён акупаваў усю Северскую зямлю, захапіў Дарагабуж, Завідаў і Тарапец. Гэта надарылася ў 1500 годзе.

**V**

У 1500 годзе вялікі князь літоўскі Аляксандр накіраваў паслоў да Польскай кароны, Чэхіі і Нямеччыны, заклікаючы жаўнераў за грошы ваяваць супраць маскоўскага князя, яго цесця. Шмат ахвотнікаў з’ехалася да Познані. Князь Аляксандр выдаткаваў ім значную суму грошай. Гетманам над тымі жаўнерамі быў *Ян Чэх*. А з ім былі чатыры браты чэхі. Аднак наёмнікі з-за марудлівасці не прынеслі аніякай карысці Літве. Надыходзіла зіма, і яны з-пад Смаленска вярнуліся назад.

Такім чынам, бедную Літву напаткала падвойная шкода: першая — ад маскоўскага князя, другая — дарэмныя выдаткі на жаўнераў, якія не аказалі аніякай вайсковай дапамогі і абароны, а толькі зваявалі і спустошылі тое, чаго непрыяцель не знішчыў.

**VI**

У 1501 годзе вялікі літоўскі князь Аляксандр і польскі кароль Ольбрыхт паслалі да цара заволжскіх татараў Шах-Ахмета 30 тысяч кажухоў і залатое сукно. Падарункі перадалі праз пана Міхаіла Халецкага. Літва жадала падгаварыць Шах-Ахмета супольна змагацца з маскоўскім князем, які заваяваў і спустошыў усю Северскую зямлю.

**VII**

У тым жа годзе (17 чэрвеня 1501 года. — **І. С.**) памёр польскі кароль Ольбрыхт. Каронныя паны адразу абралі каралём вялікага князя літоўскага Аляксандра. Выбары і каранацыя адбываліся ў Кракаве. Літва ўзяла на Вялікае Княства Літоўскае Жыгімонта Казіміравіча.

## VIII

У 1503 годзе кароль Аляксандр накіраваў паслоў да свайго цесця, маскоўскага князя Івана Васільевіча, просячы падпісаць вечны мір. І прымірыліся яны на шэсць год.

Забраныя ў Літвы замкі засталіся пад Масквой. Вязняў, захопленых на Ведрашы, Іван Васільевіч не вызваліў.

## IX

У 1503 годзе татары перайшлі раку Прыпяць і спустошылі літоўскія землі. Князь *Сямён Слуцкі* дагнаў іх са сваім рыцарствам і за шэсць міль за Бабруйскам разбіў іх. Нарабаваныя скарбы адабраў, а вязняў вызваліў з палону. Сямён Слуцкі ўзяў у палон паўтары тысячы татараў і з трыумфам вярнуўся да караля.

У той жа год памёр кіеўскі ваявода Дзмітрый Пуцяціч. Кароль аддаў Кіеўскае ваяводства Юрыю Мантоўтавічу.

## X

У 1506 годзе на Русь прыйшлі татары: перакопскі царэвіч Менглі-Гірэй з яго братамі — Баты-Гірэем і Бурносам-султанам, з усёй татарскай сілай. Яны падышлі да Дняпра каля Лоевай Гары і там пераправіліся праз раку.

Менглі-Гірэй пайшоў пад *Менскі* замак, а двух братоў накіраваў пад *Слуцк*.

Да Слуцка татары прыйшлі на дзень Успення Прасвятой Багародзіцы. У Слуцкім замку зачынілася княгіня *Анастасія*. Татары спустошылі ўсю воласць вакол горада. Слуцк і замак яны бесперапынна штурмавалі, ведаючы, што там зачынілася княгіня. Татары рабілі падкопы і распальвалі агонь. Але случакі мужна абараняліся і забілі процьму татараў, страляючы па іх.

15 жніўня 1506 года Менглі-Гірэй ужо стаяў з войскам каля Менска. Ён распусціў загоны пад Вільню і ажно да Віцебска, Полацка і Друцка, — па ўсёй літоўскай і рускай зямлі.

Два яго браты адступілі ад Слуцка і пайшлі да *Навагрудка*. У той час там праходзіў шляхецкі сойм. Дачуўшыся пра наступ татараў, паны ўцяклі за Нёман. А татары пагналіся наўздагон, спалілі Навагрудак, пераправіліся праз Нёман і пайшлі далей. Яны ўчынілі вялікую шкоду Літоўскай зямлі, а затым з палоннымі і нарабаваным скарбам вярнуліся назад.

Менглі-Гірэй стаяў кошам пад Менскам. Ён абрабаваў усе навакольныя землі, дарэшты выпаліў Менск. Ён не панёс значных людскіх страт і з вялікай здабычай адхлынуў. Менглі-Гірэй павёў з сабой 100 тысяч палонных з Літвы і Русі. Кожнаму татарыну дасталося па 25 вязняў, не лічачы забітых.

## XI

У той жа год (1506. — **І. С.**) віленцы і літоўскія паны, напалоханыя татарскім уварваннем, узвялі мур вакол Вільні і абмуравалі замкі.

У той жа год зноўку 30 тысяч татараў напалі на Літоўскую зямлю. Яны ўсё бурылі і палілі на сваім шляху. Татары прыйшлі пад *Клецк*, сталі кошам і распусцілі паўсюль загоны.

Літоўскае войска ў колькасці 10 тысяч жаўнераў ударыла на татарскі кош. З Божай дапамогай узялі яго. Татараў, якія спрабавалі ўцячы з вязнямі і нарабаваным скарбам, білі і нішчылі. Разграмілі ўсё татарскае войска. Гетманам над Літвою ў той час быў Міхаіл Глінскі.

У той жа год кароль Аляксандр Казіміравіч, унук Ягайлы, памёр у Віленскім замку.

***Пераклад са старабеларускай Івана Саверчанкі.***

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Васіля Віткі*
*(Цімоха Васільевіча Крысько)*

**Маргарыта ЯФІМАВА**

# СОНЦАМ СЕЯЎ СВОЙ ПАЛЕТАК



У адным са сваіх ранніх вершаў, што друкаваўся яшчэ ў 1928 годзе, Васіль Вітка пісаў: «На сонца вяслую, на сонца!» Гэтыя ўзнёсла-рамантычныя словы ў кантэксце ўсёй творчасці паэта ўспрымаюцца як эстэтычны код сэрца, што прагне вышыні і святла. Прывабнасць В. Віткі як мастака — у гэтай вышыні, у тонкім адчуванні прыгажосці жыцця, прыроды, у любові да людзей, у зліцці яго творчасці з народнымі вытокамі. Разнастайнай была літаратурная дзейнасць В. Віткі: ён вядомы як паэт, празаік, драматург, сцэнарыст, перакладчык, як удумлівы крытык, аўтар твораў для дарослых і дзяцей. Ва ўсіх гэтых галінах ім зроблена шмат, і ўсё ж найгалоўнейшым яго клопатам была дзіцячая літаратура: «Няма большай асалоды, як пісаць для дзяцей», — падкрэсліў Цімох Васільевіч у сваёй прамове на VI з’ездзе пісьменнікаў БССР.

В. Вітка — класік беларускай дзіцячай літаратуры, заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1970); у 1972 г. за кнігі для дзяцей «Беларуская калыханка», «Казкі», «Чытанка-маляванка» пісьменнік быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР; у 1978 г. атрымаў Міжнародны ганаровы дыплом імя Х.-К. Андэрсена, і яго прозвішча было занесена ў спіс лепшых казачнікаў свету. Паэт меў урадавыя ўзнагароды: ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі, два ордэны «Знак пашаны», медалі.

Нарадзіўся Васіль Вітка 16 мая ў сялянскай сям’і ў в. Еўлічы на Случчыне. Праз год пасля нараджэння сына сям’я пераехала ў Сібір, бацькі спадзяваліся, што знойдуць там больш спрыяльныя ўмовы жыцця. Тыя надзеі аказаліся марнымі, яшчэ цяжэй стала, калі пачалася імперыялістычная вайна і бацьку мабілізавалі ў армію; У 1917 г. маці з дзецьмі вярнулася ў родныя Еўлічы, пасля дэмабілізацыі прыехаў туды і бацька. Быў ён, як прыгадваў Цімох Васільевіч, адным з самых пісьменных мужчын у Еўлічах, славіўся як выдатны шавец, цясляр, быў добрым гаспадаром, вельмі любіў чытаць; як пісаў у аўтабіяграфіі В. Вітка, кніжкі бацька прыносіў нават з далёкіх вёсак, чытаў іх па вечарах, часам ледзь не ўсю ноч. Паслухаць часта прыходзілі суседзі, з цікавасцю ўслухоўваўся ў тое чытанне і сын (бацькі думалі, што ён спіць).

Калі ў Еўлічах утварыўся калгас, бацьку паэта, Васіля Максімавіча, як сумленнага, аўтарытэтнага, працавітага чалавека сяляне выбралі старшынёй калгаса. Паэт вучыўся ў школе, а ўлетку, як усе вясковыя хлапчукі, пасвіў скаціну і заўсёды меў пры сабе кніжку. Пасля сямігодкі паступіў у Слуцкую прафтэхшколу,

якую скончыў у 1928 г. Працаваў слесарам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, потым у заводскай шматтыражцы, затым у бабруйскай, жлобінскай газетах, а з 1935 г. — у рэспубліканскім друку: у газетах «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя рэвалюцыі» (цяпер часопіс «Полымя»).

Васіль Вітка прымаў удзел у паходзе ў Заходнюю Беларусь, быў сакратаром Беластоцкага абласнога СП БССР. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны працаваў у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», з 1942 г. быў рэдактарам масавых выданняў для акупіраваных раёнаў, супрацоўнічаў у папулярных сатырычных часопісах «Партызанская дубінка», «Раздавім фашысцкую гадзіну». У час вайны Цімоха Васільевіча напаткала вялікае гора: у студзені 1943 г. у Слуцкай турме быў закатаваны яго бацька. Гэты боль застаўся ў сэрцы В. Віткі назаўсёды.

Пачынаючы з 1944 г. Цімох Васільевіч працаваў у часопісе «Беларусь», у 1948 г. стаў намеснікам рэдактара, а потым — галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва». У 1957 г. яго вылучылі на пасаду галоўнага рэдактара беларускага дзіцячага часопіса для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Вясёлка», які тады ствараўся. На гэтай пасадзе В. Вітка плённа працаваў 17 гадоў; закладзеныя ім традыцыі часопіс «Вясёлка» шануе, узбагачае і зараз. У гонар выдатнага пісьменніка і свайго першага рэдактара часопіс «Вясёлка» заснаваў прэмію імя Васіля Віткі. Штогод лепшым дзіцячым пісьменнікам Беларусі ўручаецца дыплом і медаль з сімвалам пісьменніка-класіка. У 1974—1987 гадах Васіль Вітка быў членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі студыі Беларусьфільм.

Памёр Цімох Васільевіч 5 ліпеня 1996 г.

Як паэт, як асоба В. Вітка сфарміраваўся на Случчыне, якую пяшчотна называў паэмай усяго свайго жыцця. Змалку захаплялі яго беларускія народныя казкі, песні, да слёз кранalі заінелыя бярозкі, неабсяжная веліч зорнага неба, першая пралеска, плёскат крынічкі, асветленая сонцам маладая рунь, спевы птушак. Хацелася ўсё гэта спасцігнуць душою, выказаць словамі, бо ён нарадзіўся Паэтам. Свой першы верш Васіль Вітка напісаў, калі вучыўся яшчэ ў 2-м класе, друкавацца пачаў у 1928 годзе; першы зборнік яго вершаў «Гартаванне» выйшаў у Маскве ў 1944 годзе, другі — «Поўдзень» — у 1946. Першая кніжка для дзяцей — казка «Вавёрчына гора» — убачыла свет у 1948 годзе і адразу паланіла сэрцы дзяцей.

Чытаючы дзіцячыя творы В. Віткі, адчуваеш, што ён творыць мову, як музыку; здзіўляе бязмежная фантазія паэта, арыгінальныя казачныя сітуацыі. У казцы «Вавёрчына гора» ачалавечаны не толькі звяры, птушкі, а нават маланка, гром, дождж. Калі, напрыклад, сёстры-вавёрачкі прыбеглі да старых дубоў — тэлеграф і хацелі паслаць тэлеграму маланкай, дык аказалася, што ў маланкі выхадны дзень, а гром пасля работы спіць непрабудным сном. Нарэшце дамовіліся: тэлеграму адаб’е дождж.

Як і належыць гэтаму жанру, казка «Вавёрчына гора» заканчваецца шчасліва: перасталі балець у Веры-вавёрачкі зубкі і нават яшчэ да таго, як бусел уручыў ёй малаток (усё роўна яна была вельмі ўдзячная: «малаточак спатрэбіцца ў хаце»). Твор гэты прасякнуты дабрынёй, спачуваннем.

Першая казка Васіля Віткі засведчыла яго дасканалы эстэтычны густ, тонкае адчуванне спецыфікі вобразнага мыслення дзяцей, уменне гуляць, гаварыць з імі; таму невыпадкова ў 1957 годзе, калі ствараўся беларускі часопіс «Вясёлка», прызначаны дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, Цімоху Васільевічу выпаў, як ужо зазначалася, гонар стаць першым галоўным рэдактарам гэтага выдання. Безумоўна, праца ў «Вясёлцы» актывізавала дзейнасць паэта на ніве беларускай дзіцячай літаратуры.

З новай казкай В. Віткі «Буслінае лета» (1958) у беларускую дзіцячую літаратуру і ў часопіс «Вясёлка» прыйшоў і застаўся сябрам многіх пакаленняў дзяцей літаратурны герой Вася Вясёлкін. «Партрэт» гэтага ўсмешлівага, нібы сонцам асветленага бялявага хлапчука ў беларускім нацыянальным адзенні стаў на ўсе

часы своеасаблівай эмблемай часопіса «Вясёлка»... Васю Вясёлкіна — шукальніка прыгод, фантазёра, хлопчыка смелага, таварыскага — дзеці пазнаюць у галоўным герою казкі «Буслінае лета», хоць самога прозвішча Вясёлкін тут яшчэ няма, яно з'явіцца ў «Казцы пра цара Зубра» (1960), а потым і ў іншых творах В. Віткі, і не толькі В. Віткі, а і С. Грахоўскага, У. Ліпскага і інш. Асаблівасць казкі «Буслінае лета» ў тым, што яна — і гэта падабаецца дзецям — гучыць нібы з вуснаў самога Васіля, школьніка, які скончыў тры класы. Яго заўсёды цікавіла прырода, а тут яшчэ і настаўніца задала «заданне — даць прыроды апісанне».

Мова казкі свежая, звонкая, натуральна прарастае народнымі і створанымі самім аўтарам прыказкамі, крылатымі фразамі, афарызмамі: «Моцна спалі буслянаты ў цяпле бацькоўскай хаты», «Ціха так, хоць сей ты мак», «Калі ўзяўся, брат, за гуж, дык не жалься, што нядуж», «Чаго хочаш у той місе — еш, брат, хоць расперажыся», «Хочаш вер ты, ці не вер, а няма маіх папер» і інш.

Іскрыстым, звонкім вадаспадам вершаваных, афарыстычна адточаных радкоў пачынаецца «Казка пра цара Зубра» В. Віткі. Дзецям тут адкрываюцца прасторы Белавежскай пушчы, дзе столькі прыгажосці, шмат розных лясных жыхароў, між іх вылучаецца ў казцы прыгожы магутны зубр. Не менш важны і герой гэтай казкі — школьнік Вася Вясёлкін.

«Казка пра цара Зубра» падабаецца дзецям багаццем незвычайных прыгод, музыкай зменлівых рытмаў вершаваных радкоў; падабаецца ім і станоўча ўплывае на іх вобраз Васі Вясёлкіна — кемлівага, энергічнага, — нястомнага, справядлівага, здольнага пераадолець любую перашкоду. Аднак не толькі ў гэтым сэнс «Казкі пра цара Зубра»; філасофская думка яе глыбейшая, і вельмі важна, каб дзеці гэта ўсвядомілі. Няхай падумаюць, чаму Зубр, які напачатку непрыхільна аднёсся да Вясёлкіна, раптам змяніў свае адносіны да яго і выказаў яму пры ўсіх звярах шчырыя словы павагі, нават абвясціў, што ён, цар, аддае Вясёлкіну Васю ва ўладаранне ўсю сваю зубрыную дзяржаву і будзе сябраваць з ім, больш таго — служыць яму.

Думка пра вялікія магчымасці, сілу розуму чалавека ў гэтым творы пераканаўча падкрэсліваецца і ўмоўным вобразам сярэбранага зубра — таго, што стаў эмблемай магутных і вядомых ва ўсім свеце самазвалаў. Гэтым вобразам Васіль Вітка выявіў гонар за родную Беларусь, якая выйшла на сусветную арэну; без спецыяльных тлумачэнняў паэт выклікае аналагічныя пачуцці і ў дзяцей, бо шмат што падказвае чытачам само гучанне паэзіі В. Віткі, інтанацыйна выразная афарбоўка яго голасу, рытмічная разнастайнасць радкоў.

Каб зацікавіць дзяцей і падвесці іх да пэўных высноў, Васіль Вітка трапна выкарыстоўваў гумар, гіпербалу, кантраснае супастаўленне, элементы парадоксу. Нават сама, напрыклад, назва невялікай — усяго шэсць строф — казкі «Генерал Верабей» выклікае ўсмешку дзяцей, іх забаўляе зрокава выразны вобраз маленечкага верабейкі ў тым генеральскім мундзіры з пагонамі ды шнурамі. Ці ж яму, гэтай малечы, мерацца сілаю з вялізным мядзведзем? Аднак калі мядзведзь пачаў абражаць вераб'я, дык той, баронячы ўласны гонар і мундзір, адважна кінуўся на свайго крыўдзіцеля, і, як заўсёды ў казках, зло было пакарана: «Ледзьве з вераб'ёвых лап // Мішка ўратаваўся».

У жывой зацікаўленай гаворцы з дашкольнікамі, малодшымі школьнікамі Васіль Вітка выявіў зайздросную вынаходлівасць, багацейшую фантазію; пісьменнік ведаў, што дашкольны, малодшы школьны ўзрост выключна спрыяльны час для далучэння дзяцей да роднага слова і спасціжэння імі тых маральных высноў, што складаюць азбуку душы чалавека. Дасягнуць гэтага можна толькі пры ўмове, калі настаўнік пачатковых класаў умее стварыць на ўроках атмасферу радаснай творчасці, калі яго словы, мова гучаць, як музыка, вабяць дзяцей чарадзействам, загадкавасцю, таямнічасцю. Дзеля гэтага неабходна, зазначаў В. Вітка, дапамагчы дзецям спазнаць радасць далучэння да жывога слова, каб вучні-пачаткоўцы мелі магчымасць пагуляць са словамі, нацешыцца іх гучаннем, глыбей спасцігаючы іх сэнс, мілагучнасць і інтанацыйныя адценні.

Пісьменнік ведаў, як цікава дзецям, калі ў мастацкіх творах прадметы, з'явы прыроды, жывёлы, птушкі і інш. надзелены жывой душой, калі яны і гавораць, і дзейнічаюць, і перажываюць, як людзі. В. Вітка прадоўжыў, значна ўзбагаціў традыцыі антрапамарфізму, якімі багатая вусная народная творчасць. Вельмі натуральна паэт пераносіць казачнае дзеянне ў наш час і, актывізуючы фантазію дзяцей, дае ім магчымасць стаць нібы ўдзельнікамі ці сведкамі падзей, пра якія распавядаецца ў творы. Напрыклад, у казках «ППШ» і «Азбука Васі Вясёлкіна» яны трапляюць у дзве незвычайныя і пры гэтым такія розныя школы; даведацца пра іх цікава і вучням-пачаткоўцам, і тым дзеткам, што толькі яшчэ стануць школьнікамі.

Гуллівая іскрыстасць радкоў, даверлівасць інтанацый голасу паэта падахвочваюць жаданне дзяцей адкрыць таямніцу літар ППШ, ды ўсё ж робіць гэта сам аўтар. Аднак ён расшыфроўвае толькі дзве першыя літары абрэвіятуры ППШ: першае П — птушыная, другое П — пачатковая, «а што такое Ш, — зазначае В. Вітка, — ясна і для малыша». Дзеці разумеюць — гэта школа, у якой вучацца птушкі. Чытачам і слухачам казкі ППШ ёсць магчымасць нават трапіць у тую школу на экскурсію. Пры гэтым аўтар дае наказ экскурсантам: «Пойдзеш з намі ў ППШ, // Ўсё, што ўбачыш, апішы».

Уключэннем у казку «ППШ» вобраза Васі Вясёлкіна В. Вітка ўдала перакінуў масты да сваёй казкі «Азбука Васі Вясёлкіна».

Васіль Вітка ведаў, як патрэбна дзецям займальная азбука ў вершах і малюнках, якая б змалку займальна, нязмушана далучала іх да роднага слова. У гэтым творы выявіліся наватарскія пошукі дасягнення адзначанай мэты. Гэта была першая беларуская сюжэтная азбука; як пісаў сам Цімох Васільевіч, — азбука-казка з прыгодамі, аб'яднанымі наступнай задачай: забаўляючы, пацяшаючы дзяцей, дапамагчы ім вучыцца з радасцю і асалодай.

Увага В. Віткі была скіравана на развіццё вобразнага мыслення дзяцей. Вобраз, як сцвярджаў пісьменнік, — вечны стымул думкі, і без яго немагчымы паўнацэнны працэс пазнання.

Пісьменнік вырашыў даць своеасаблівы ўрок батанікі. Так з'явілася яго кніга «Казкі і краскі» (1983), дзе таленавіта зрошчаны навука і мастацтва, дзе ёсць тое, што сам Васіль Вітка назваў паэзіяй педагогікі. Назвы кветак у казцы пішуцца з вялікай літары, усё роўна як імя чалавека, бо кожная кветка, як і чалавек, непаўторная. Пра кожную з іх паэт гаворыць, як пра жывую істоту, з замілаваннем.

Гэтаксама незабыўна ў кнізе «Госці» (1983) адбываецца знаёмства з птушкамі. Ужо адзначалася, што птушкам паэт удзяляе нямала ўвагі ў сваіх творах. У кнізе «Госці» птушкі — у цэнтры ўвагі, гэта кніжка пра іх. Тут выяўляецца не толькі назіральнасць аўтара, але і яго навуковая дасведчанасць.

Вершы кнігі «Госці» ўвайшлі асобнымі цыкламі і ў іншыя зборнікі твораў В. Віткі. Яны не толькі задавальняюць цікаўнасць дзяцей, але і дапамагаюць ім адчуць загадкавую прывабнасць свету прыроды, абуджаюць іх прагу пазнання, садзейнічаюць экалагічнаму выхаванню дзяцей, эстэтычна ўзбагачаюць іх. У вершы арніталагічнага цыкла вынаходліва, арганічна ўключаны народныя загадкі, скорагаворкі, заклічкі, таксама дыялогі, рытарычныя звароты, пытанні, і ў кожным з твораў ёсць займальныя прыгоды, сітуацыі.

Незвычайна багатае поле дзіцячай паэзіі Васіля Віткі. Ёсць тут з тонкім майстэрствам адшліфаваныя творы беларускага дзіцячага фальклору, у іх з густам унесены элементы новага; ёсць дасканалыя, псіхалагічна тонкія апавяданні пра дзяцей — «Трое ў палаце», «Трывога ў Еўлічах», «Абнова», «Зайчык-вадалаз», «Ну, пачакай, воўк» і інш. Сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту прызначаны «Мінскія балады», а таксама «Беларуская калыханка» — паэтычная араторыя, філасофскі роздум пра Беларусь. Вобраз яе асацыіруецца з вобразам Маці, сэрца якой поўніцца клопатамі пра сваіх дзяцей. У паэме «Беларуская калыханка» прасочваецца змена гістарычных эпох, без указання канкрэтных храналагічных дат прыгадваюцца памятныя падзеі гісторыі нашага народа. Хвалююць юных

чытачоў маналогі Ф. Скарыны, П. Багрыма, К. Каліноўскага і інш., радкі з твораў Я. Купалы, Я. Коласа, што ўвайшлі ў паэму.

Усё напісанае Васілём Віткам для дзяцей вызначаецца не толькі высокім прафесійным майстэрствам, але і гуманістычнай сутнасцю. «Дабрату можна выхаваць толькі дабратой» — гэты жыватворны прынцып народнай педагогікі ўвасоблены ў творах нашага дзіцячага паэта-класіка. Гэты прынцып пакладзены і ў аснову распрацаванай ім педагагічнай сістэмы, палажэнні якой выкладзены ў кнігах В. Віткі «Дзеці і мы» (1977), «Урокі» (1982), «Азбука душы» (1988). Названыя кнігі — мудрыя, арыгінальныя, наватарскія, яны ўзаемазвязаны, дапаўняюць адна другую і складаюць цэласны цыкл, дзе не проста выказаны асобныя меркаванні адносна пытанняў выхавання, а выкладзены асноўныя палажэнні створанай В. Віткам педагагічнай сістэмы. Яна грунтуецца на вопыце народнай педагогікі, якая, паводле слоў Цімоха Васільевіча, увабрала ў сябе мудрасць і маральны кодэкс многіх дасягненняў. Гэтая сістэма з улікам агульначалавечых каштоўнасцей узрасла на беларускай нацыянальнай глебе, прасякнута клопатам пра лёс беларускай мовы, літаратуры, школы.

Уражвае шматбаковасць інтарэсаў, шырокая эрудыцыя В. Віткі; спецыяльнай увагі і вывучэння заслугоўваюць створаныя ім у трылогіі «Дзеці і мы», «Урокі», «Азбука душы» літаратурныя партрэты, успаміны і нататкі пра вядомых беларускіх пісьменнікаў — Я. Коласа, Я. Купалу, К. Чорнага, У. Дубоўку, І. Мележа, Я. Маўра, М. Лынькова, М. Танка, С. Грахоўскага, Я. Брыля і інш. Ёсць тут літаратурна-крытычныя артыкулы, прысвечаныя пытанням спецыфікі і аналізу сучаснай беларускай паэзіі і інш. Мы пераконваемся ў тым, як тонка адчуваў В. Вітка класічную музыку, вельмі цікавыя яго разважанні пра спецыфіку музычнай мовы, пра беларускую народную песню, суадносіны ў ёй слоўнага вобраза і музыкі. Эстэтычна тонка зроблены ім у кнізе «Азбука душы» музычны і філасофскі аналіз «Рэквіема», створанага паводле зместу кнігі «Я з вогненнай вёскі...» кампазітарам Людмілай Шлег, а таксама і тых музычных твораў, што напісаны паводле Віткавай паэмы «Беларуская калыханка». Нельга заставацца раўнадушным да разважанняў пісьменніка пра экалагічны стан нашай рэспублікі, пра трывожныя праявы жорсткасці, бездухоўнасці ў грамадстве. Непакоілі пісьменніка праблемы роднай мовы, культуры, духоўнай спадчыны, гістарычнай памяці беларускага народа. Усё гэта так ці інакш звязана з тэмай Будучыні, з задачай выхавання чалавека.



***Да 80-годдзя з дня нараджэння Алега Лойкі***

Вячаслаў РАГОЙША

# КОЛЬКІ ГАЛІНАК З ДРЭВА ЯГО ЖЫЦЦЯ

«Дрэва майго жыцця, ці ж адкінула ты хоць які цень-след на дарогі, якімі выпала мне ісці, ехаць, плыць, ляцець?.. Прашчуры, якіх ужо няма, на гэтае пытанне не адкажуць, — хай жа міласцівым будзе адказ ад вас, хто яшчэ поруч са мною, і ад вас, хто стане думнымі маімі нашчадкамі», — прасіў-запаветаваў за чатыры гады да смерці ў прадмове да сваёй кнігі «Дрэва жыцця» вядомы пісьменнік і вучоны-літаратуразнаўца Алег Антонавіч Лойка (1.05.1931—19.11.2008). На шчасце, адказаць на гэта пытанне, і адказаць станоўча, магу не толькі я, хто ведаў і помніць, да чыйго лёсу дакрануўся сваёй лёгкай і цёплай рукой гэты доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971), член-карэспандэнт НАН Беларусі (1989), лаўрэат Дзяржаўнай літаратурнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1990). Яго як шматгадовага выкладчыка, кіраўніка ўніверсітэцкага літаратурнага аб'яднання «Узлёт», загадчыка кафедры беларускай літаратуры, дэкана філалагічнага факультэта БДУ ведалі і ведаюць не толькі я, але і тысячы былых студэнтаў, дзясяткі аспірантаў. Як вучонага і пісьменніка — тысячы чытачоў ягоных манаграфій, вершаваных і празаічных кніг. І з гэтых тысяч калі не сотні, то дзясяткі маглі б таксама расказаць, які «цень-след» «адкінула» дрэва яго жыцця на іх жыццёвы шлях. Маглі б расказаць пра «свайго Лойку». Магчыма, не столькі пра настаўніка, сябра, чалавека. Найперш — пра паэта, аўтара звыш паўсотні вершаваных зборнікаў, куды ўвайшлі шматлікія вершы для дарослых і дзяцей, паэмы, балады («На юначым шляху», 1959; «Як Тоня рэха шукала», 1962; «Дзівасіл», 1969; «Калі ў дарозе ты…», 1971; «Скрыжалі», 1981; «Пра дзеда Аяяй і бабку Оёёй», 1984; «Балады вайны і міру», 1988; «Неўміручасць», 2000 і інш.). Пра празаіка, два мастацка-дакументальныя раманы якога, у прыватнасці, убачылі свет у перакладзе на рускую мову ў прэстыжнай серыі «Жизнь замечательных людей» («Янка Купала», 1982; «Скорина», 1989). Пра гісторыка беларускай літаратуры, даследчыка творчасці Максіма Багдановіча («Максім Багдановіч», 1966), Якуба Коласа («Новая зямля» Якуба Коласа: Вытокі, веліч, хараство», 1966), стваральніка шырокавядомых вучэбных дапаможнікаў для беларускіх ВНУ — двухтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд» (ч. 1, 1977, ч. 2, 1980; 2-е, дапрацаванае выданне, 1989) і «Старабеларускай літаратуры», 2001). Пра крытыка і публіцыста («Паэзія і час», 1981; «Кніга лёсаў», 2001; «Дрэва жыцця», 2004). Урэшце, пра перакладчыка на беларускую мову твораў француза Поля Верлена («У месяцавым ззянні», 1974), немцаў Іагана Вольфганга Гётэ («Спатканне і ростань», 1981), Фрыдрыха Шылера («Улада песняпеву», 1997), двухтомнай анталогіі польскай паэзіі XX стагоддзя («Напярэймы: ад Буга да Варты», 2003) і інш. Як, зрэшты, і пра ўкладальніка шэрагу зборнікаў, анталогій, хрэстаматый, у тым ліку — сямі калектыўных зборнікаў вершаў членаў універсітэцкага літаратурнага аб'яднання «Узлёт», якім кіраваў чвэрць стагоддзя: «Узлёт» (1965), «Натхненне» (1967), «Мары юнацкія» (1969), «Універсітэт паэтычны» (1970), «Вёсны» (1977), «Вусны» (1985), «Квадра» (1990)…

Веру, неўзабаве з'явяцца новыя публікацыі пра педагога і пісьменніка Алега Лойку. Разам з тым не сумняваюся, што з часам да яго асобы і твораў звярнуцца

тэкстолагі, гісторыкі беларускай літаратуры і культуры. Выйдзе ў свет і збор твораў Алега Лойкі, надрукуюцца даследаванні, абагульняльныя манаграфіі пра яго творчасць (адна з іх, «Насуперак канону» Георгія Сіненкі, ужо лягла на стол чытача ў 1997 годзе). Бо яго постаць сувымерная з постацямі самых выдатных сучасных усходнеславянскіх пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, перакладчыкаў. Я ж хачу расказаць — прычым з дапамогай самога Алега Антонавіча — пра Лойку-чалавека, Лойку-калегу, Лойку-сябра. Якім менавіта **я** яго ведаю. Якім ён **мне** запомніўся і якім я **яму** запомніўся. Якога, магчыма, мала ўжо хто памятае. Адным словам, дакрануцца да некалькіх малавядомых галінак дрэва яго жыцця. Галінак ранняга выросту. Пра позція, больш даступныя і вядомыя, раскажуць іншыя…

Алег Лойка стаў працаваць на філфаку БДУ — пасля заканчэння беларускага аддзялення гэтага факультэта і аспірантуры пры кафедры беларускай літаратуры, абароны кандыдацкай дысертацыі «Адам Міцкевіч і беларуская літаратура» — з лёсаноснага для ўсяго грамадства (знакаміты ХХ з’езд КПСС, выкрыццё культу Сталіна) 1956 года. Праз два гады на той жа філалагічны факультэт паступіў і я. Алег Антонавіч выкладаў нам тады гісторыю беларускай літаратуры ХІХ стагоддзя, чытаў спецкурсы, вёў спецсемінары. Недзе з трэцяга курса пад яго непасрэдны ўплыў і яго цёплае навуковае крыло, услед за Янкам Саламевічам, трапіў і я разам з Міколам Пашкевічам. Трапіў, каб ужо назаўсёды, ажно да драматычнага завяршэння яго жыцця, адчуваць ягоную падтрымку.

Відаць, гэта мог толькі адзін Алег Антонавіч: запрашаць нас, студэнтаў, да сябе дадому, у невялікую кватэру на чацвёртым паверсе па вуліцы Маскоўскай, дзе нястомная Лілія Іванаўна ўвіхалася каля малых у той час Тоні і Паўліка (з часам Антаніна Алегаўна стала доктарам філалагічных навук, прафесарам аднаго з маскоўскіх універсітэтаў, а Павел Алегавіч — вядомым гісторыкам, дацэнтам, загадчыкам кафедры на гістфаку БДУ). Запрашаць, каб накарміць нас, інтэрнацкіх, розным смакоццем, прыгатаваным Ліліяй Іванаўнай, пракансультаваць па асобных літаратуразнаўчых пытаннях, прачытаць нам свае новыя вершы, апрабаваць іх на нас. Невядома, што з усяго гэтага было для яго на першым месцы. Для нас жа ўвесь рытуал такіх сустрэч быў як свята. З часам і я адважыўся запрасіць яго ў свой Ракаў, пра які ён чуў яшчэ жывучы ў родным Слоніме.

Дакладна не памятаю, у якім годзе мы разам з Лойкам і маімі студэнцкімі таварышамі першы раз наведалі мясціны, дзе бруіцца крынічная Іслач. Я тады паказаў ім старую, яшчэ царскіх часоў, пошту (сюды, як я пазней радасна даведаўся, на адрас «Минская губерния, почта Раков, помещику Марьяну Здзеховскому» ішлі пісьмы з Яснай Паляны ад самога Льва Талстога), старую царкву, перарobленую ў 1793 годзе з уніяцкага сабора, арыгінальны цагляны касцёл у неагатычным стылі, рэшткі двара паноў Здзяхоўскіх, у якіх перад самым нараджэннем Янкі Купалы арандавалі кавалак зямлі бацькі будучага беларускага песняра… Узбіраліся мы і на Ва́лы — старое насыпное гарадзішча ў міжрэччы Ісլачы і Памаршчанкі. Пазнаёміў я тады ракаўскіх гасцей і з нашымі суседзямі: гісторыкам Ракаўскай СШ, апантаным краязнаўцам Васілём Пятровічам Налецкім, таленавітай сям’ёй Янушкевічаў. З таго часу Лойка палюбіў Ракаў, неаднойчы бываў у ім. Але няхай пра гэта згадае сам Алег Антонавіч, балазе такія згадкі ён у свой час надрукаваў на старонках выдаванай нашай сям’ёй мясцовай краязнаўчай газеты «Ракаўскі шлях» (2001, № 3, травень—чэрвень) пад умоўнай назвай «Ракаў — гэта не Кракаў, але…»:

«Ракаў — гэта людзі. Ракаў — гэта беларусы, але гэта такія беларусы, што бывалі не толькі ў Ракаве, але і ў Кракаве, а ў іх гасцявалі не толькі людзі з Кракава, але з Варшавы і Кіева, Прагі і Львова, Масквы і Берліна, Беластока і Вільні… Ды, зрэшты, быць у Ракаве — гэта, можа, больш экзатычна, чым у Кракаве. Бо Парыжу Кракаў — яшчэ Еўропа, а што ад Кракава на ўсход — арыентальнае, і ўся Прыбалтыка, і Беларусь. Але вернемся ў Ракаў. У Ракаў, які я люблю, любіў і любіць буду…

Хоць такое асуджаць не асуджаюць, я ж, аднак, не магу не шкадаваць, што ў сям’і Рагойшаў Старэйшых — Пятра і Валянціны — адзін усяго сын гадаваў-



*Алег Лойка і Вячаслаў Рагойша.*

ся. На чатырохвугольніку рынка стаяла ж, стаіць і хата Янушкевічаў, у якой ажно пяць сыноў падрастала. І, можа, таму, што на вяселлі Вячаслава Рагойшы сватам быў Васіль Пятровіч Налецкі, аж тры сыны нарадзіла Вячаславу Рагойшу Таццяна, якая ў Ракаў прыехала са Львова. Ракаў не ўлюбляць у сябе не можа. Львавянка стала яго ахвярай…

У гэтым нешта ёсць. І ў мяне, як у Таццяны Кабржыцкай, быў свой Перадракаў, і пра яго мне вельмі хочацца расказаць. Гады былі — канец 50-х ці пачатак 60-х […]. Калі стаў маім студэнтам Вячаслаў Рагойша, я сам нібы ракаўцам стаў. Хрушчаўскія былі часы, і ў Ракаве на рынку, як тады гаварылі, атамную бомбу нават можна было купіць. Я ж купляў цяля, бацька Вячаслава свежаваў яго. Перад Калядамі і за навагоднюю ялінку аплачваў я квіток у Ракаве, дзень да вечара ходзячы затым з Вячаславам, Міколам Пашкевічам, Іванам Саламевічам надзвычай гонкімі саснякамі ракаўскіх ваколіцаў, каб нарэшце высекчы тую ёлачку наводшыбе ад іх. І то была, мусіць, найпрыгажэйшая ёлачка майго жыцця.

Ды вярнуся я ад яе да першай маёй непасрэднай сустрэчы з Ракавам. З таго дня — мой верш пра Ракаўскія Ва́лы, прысвечаны Вячаславу Рагойшу. Ды верш той усё ж быў вузей таго, што тады ў сэрца і памяць запала. З Ракаўскіх Валаў маладзенькі Рагойша паказваў сосны Паморшчыны, дзе перад Вязынкай жылі бацькі Янкі Купалы. (Былі б мы японцамі, не Вязынку называлі б месцам уістотнення нашага найвялікшага песняра!..) Васіль Пятровіч Налецкі, заўзяты аматар старасветчыны, знаток старыны не толькі ракаўскай, спрэзентаваў мне тады камплект «Нашай Нівы», які я не раз дэманстраваў перад студэнтамі. З Ракава мы ездзілі і на магілу Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, дзе мяне ўразіла і Тупальшчына, і ў глыбокіх ярах Іслач. Увасабленнем гаспадарчасці, гасціннасці, народнай — не вельмі гаваркой, але ўсмешлівай сялянска-беларускай мудрасці — быў бацька Вячаслава Рагойшы. Можа, правільней было б сказаць «местачкова-беларускай мудрасці», бо Ракаў — не абы-якое мястэчка! Ды ўсё ж, думаю, бацька Вячаслава быў насамперад «пан сахі і касы». Ён і памёр на запрэжаным ім возе, едучы пераворваць бульбу. Сумнай той весткай пра абставіны смерці бацькі Вячаслава я дзяліўся з Рыгорам Барадуліным, і ён у вершы сваім, прысвечаным памяці Пятра Рагойшы, якраз з уласцівай яму народнасцю выявіў сялянска-беларускі характар чалавека, які так шмат рысаў перадаў і сыну свайму, і сваім тром унукам.

Запомнілася з першага разу на Ракаўскіх Валах, што на гэтай не вельмі тут вірлівай Іслачы Вячаслаў Рагойша, яшчэ сам юнак, ратаваў падчас паводкі дзяцей Янушкевічаў Фелікса і Язэпа, якія выпадкова ледзь не ўтапіліся. Сям'я Янушкевічаў і іх сяліба ў Ракаве — музей пад страхой і адкрытым небам — увогуле ўжо легенда […].

Язэп Янушкевіч вучыўся на філфаку. То перадусім быў на маім воку. Са скульптарам Валерыянам мне пашчасціла разам быць у Італіі, дзе да пяцісотага юбілею Францыска Скарыны ў Падуі ўстаноўлена была стэла работы яго рук. Фелікс Янушкевіч для мяне стаў мастаком сям'і Вячаслава Рагойшы (слынны ягоны сямейны партрэт даўно ўжо вядомы). Але неўзабаве Фелікс прасіў і ў

мяне маёй падабізны. Мяне вельмі ўразіла ў майстэрні Янушкевічаў у Ракаве агромністая карціна Фелікса Янушкевіча «Пахаванне Уладзіміра Караткевіча». Гэта незвычайны шэдэўр. Караткевіча хаваюць тут і тыя, якія яго не хавалі, бо гэта карціна пахавання геніяльнага паэта ўсёй беларускай літаратурай, усёй Беларусссю. І маё плячо падстаўлена ўдумлівым мастаком пад цяжэзную ношу, і мой смутны твар (здымак мой спатрэбіўся) сярод змаркатнелых, одумных твараў жалобнага шэсця…»

Алег Лойка прыгадаў майго аднакашніка Міколу Пашкевіча, з якім мы шчыра сябравалі, чатыры гады жылі ў адным інтэрнацкім пакоі па вуліцы Свярдлова ў Мінску. Міколу, былога сяржанта, які да паступлення ў БДУ чатыры гады адслужыў у авіяцыі, мы яшчэ на першым курсе выбралі камсоргам. Ім ён заставаўся ўсе пяць год вучобы, старанна выконваючы свае абавязкі — ад «прапясочвання» тагосяго на камсамольскіх сходах за дрэнную вучобу, гультайства на суботніках ці на сельгасработах і да арганізацыі розных культпаходаў (у тэатры, музеі, на выставы і інш.), наладжвання «камсамольскіх вяселляў», якія былі тады асабліва ў модзе. Сватам на гэтах вяселлях (як і на многіх іншых) нязменна быў Алег Антонавіч: студэнтам, і найперш камсоргу Пашкевічу, ён не мог адмовіць. Што гэта былі за вяселлі? Не ў рэстаране, вядома, а ў «ленінскім пакоі» інтэрната. На стале, зразумела, многага з шыкоўнай яды неставала, выпіўка была хутчэй сімвалічная. Але затое як весела было! Якія арыгінальныя тосты гучалі, якія песні спявалі! А курс наш складаўся з трох невялікіх аддзяленняў: беларускага, рускага, журналістыкі. Звычайна весяліліся ўсе разам, у тым ліку аднакашнікі, што сталі пазней вядомымі журналістамі, пісьменнікамі, вучонымі: Леанід Акаловіч, Уладзімір Бабкоў, Зміцро Бяспалы, Мікола Капыловіч, Жанна Каспяровіч (Дапкюнас), Віктар Красней, Анатоль Кудравец, Уладзімір Кузмянкоў, Леанід Лявонаў (Леванові), Ніна Маеўская, Святлана Мусіенка, Яўген Радкевіч, Аляксандр Радуцкі, Міхась Шыманскі, Людміла Шылава… Часам завітвалі на такія вяселлі (больш для кантролю) дэкан Міхась Рыгоравіч Ларчанка, нашы куратары Вольга Васільеўна Казлова і Міхаіл Іванавіч Жыркевіч, Іван Якаўлевіч Навуменка… Ды што і каго там было кантраляваць, калі ўсім застоллем, гэтым студэнцкім карнавалам умела і весела кіраваў «завадны» сват Алег Лойка разам са сваёй Ліліяй Іванаўнай!..

Не мог адмовіць выкладчык свайму былому студэнту, Пашкевічу, і потым, калі той, скончыўшы універсітэт, паехаў настаўнічаць у родныя мясціны на Мядзельшчыну, стаў завучам Сваткаўскай школы, у якой калісьці, пры Польшчы, вучыўся сам Максім Танк. Мікола ўсяго сябе аддаваў дзецям, улюбляў іх у родную мову і літаратуру, у родны край, развіваў іх назіральнасць, творчыя здольнасці, уменне выказаць свае думкі. Гэта ён прадумана імкнуўся рабіць з дапамогай прыгожага пісьменства і тых, хто гэтае пісьменства ствараў. Сустрэчы з пісьменнікамі, да якіх у школе старанна рыхтаваліся (выпускалі літаратурныя насценгазеты, праводзілі літаратурныя конкурсы на веданне творчасці пісьменнікаў, набывалі іх кнігі для аўтографаў і інш.) сталі звычайнай з'явай. Займаючыся ў аспірантуры, а пасля працуючы на адной з Лойкам кафедры беларускай літаратуры БДУ, я звычайна дапамагаў Міколу сабраць «каманду» пісьменнікаў, адшукаць у кнігарнях іх кнігі для аўтографаў. Алег Лойка ніколі не адмаўляўся ад такіх паездак, нягледзячы ні на кепскае надвор'е, ні на нешыкоўны транспарт (часам Міколу ўдавалася «выбіць» для прывозу і адвозу гасцей-пісьменнікаў толькі грузавую машыну), ні на іншыя нязручнасці. Міколу Алег Антонавіч адмовіць не мог. Больш таго, браў на сябе, як правіла, клопат угаворваць незгаворлівых, а затым і весці такія пісьменніцкія сустрэчы са школьнікамі. Весці з гумарам, з жартамі — весела…

Дарэчы, у сёлетнім маі Міколу Пашкевічу споўнілася б 75 год. Колькі ён мог бы зрабіць за гэты час — для народнай адукацыі, беларускай культуры, роднай Беларусі, урэшце, для сваёй сям'і, сябе самога! Мог бы… На жаль, памёр у пушкінскім узросце ад няўмольнай хваробы веку. З барэльефа на надмагільным помніку ў яго родных Гарадзішчах на Нарачаншчыне (барэльеф зрабіў народны мастак Беларусі Іван Міско) вось ужо чатыры дзесяцігоддзі ўзіраецца ён

у знаёмыя краявіды. Светлай памяці Міколы Пашкевіча аповесць пра настаўніка «Абеліск» прысвяціў Васіль Быкаў. Знакаміты пісьменнік таксама прыязджаў у Сваткаўскую СШ па просьбе Міколы і відушча распазнаў у ім сапраўднага народнага настаўніка…

Алег Антонавіч прыгадаў і наша з Таццянай Кабржыцкай вяселле, якое адбылося ў ракаўскай бацькоўскай хаце глыбокай восенню далёкага ўжо 1967 года. Прысутнічаў на ім ён разам са сваёй Ліліяй Іванаўнай. Як да гэтага прысутнічаў — не мог не прысутнічаць! — летам таго ж года на абароне маёй кандыдацкай дысертацыі «Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша». Яскравае сведчанне таму — намаляваны Уладзімірам Караткевічам (які таксама быў на абароне) шарж на Лойку з подпісам: *Неафіцыйны апанент на «імянінах дысертанта».* Уладзімір Караткевіч у подпісе крыху памыліўся. У сваім заключным слове пасля паспяховай абароны дысертацыі (яе «імянінамі дысертанта» назваў менавіта Лойка) я дзякаваў не толькі свайму афіцыйнаму навуковаму кіраўніку прафесару М. Р. Ларчанку, але і «неафіцыйнаму *кіраўніку*» (а не апаненту) дацэнту А. А. Лойку, у якога я пастаянна кансультаваўся. Што да вяселля, якое Уладзімір Караткевіч з Адамам Мальдзісам найменавалі «вяселлем веку» (пра яго Алег Лойка напісаў у сваім апошнім рамане-эсэ «Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі»), то на ім я ўпершыню ўбачыў, як Алег Антонавіч… заплакаў. Заплакаў, віншуючы маладых — мяне з Таццянай Вячаславаўнай. Дагэтуль не магу зразумець прычыну тых шчырых слёз надзвычай чулліва-эмацыянальнага, узвышана-рамантычнага калегі і сябра. Магчыма, ён вымраіў мне ў пáру нейкую блакітнавокую, русакосую беларуску, а тут — убачаная ўпершыню шатэнка ўкраінка, якая, да таго, і гаварыць па-беларуску не ўмее… Мушу сказаць, што потым, калі Таццяна Вячаславаўна цалкам упісалася ў «беларускі кантэкст», стала валодаць беларускай мовай нават лепш, чым некаторыя этнічныя беларусы, Лойка адкрыта радаваўся гэтаму, ставіў яе ў прыклад многім студэнтам і не толькі студэнтам. Можа, прычына тых слёз у іншым? Ва ўсякім разе, я не раз пераконваўся, як блізка да сэрца ён прымаў радасць і гора іншых людзей, пры патрэбе дапамагаў ім чым мог, выводзіў на сцяжыну радасці.

І яшчэ адна ранняя галінка з дрэва яго жыцця. Назавём яе «падарожнай». Алег Лойка ўмеў і любіў ездзіць па свеце, падарожнічаць. Адзін, з жонкай і дзецьмі, з калегамі і сябрамі. Прыватна, у складзе турысцкіх груп, афіцыйных дэлегацый. За сваё жыццё пабываў шмат дзе: у Прыбалтыцы і Сярэдняй Азіі, у Закаўказзі і Сібіры, у Польшчы і Францыі, у Чэхаславакіі і Германіі… Звычайна, з такіх паездак прывозіў вершы, цэлыя нізкі вершаў, новыя пераклады. Да адной з такіх паездак непасрэдна прычыніліся мы з Таццянай Вячаславаўнай. Гэта была паездка ва Украіну: у Львоў, на Карпаты. Але няхай пра тое, што ён бачыў, што адчуваў у той паездцы, зноў раскажа сам Алег Антонавіч, як у свой час ён надзвычай эмацыянальна расказаў пра гэта чытачам «Ракаўскага шляху» (2006 , № 2—3, люты — сакавік). У якасці каментарыя дадам толькі, што мой цесць В. А. Кабржыцкі, заслужаны артыст Украіны, пра якога з цеплынёй прыгадваў Алег Антонавіч, амаль тры дзесяцігоддзі быў вядучым тэнарам на сцэне знакамітага Львоўскага тэатра оперы і балета імя Івана Франко (цяпер — Нацыянальны тэатр оперы і балета імя Саламіі Крушальніцкай).

«Дзівы дзіўныя ўсё ж бываюць на свеце: не толькі родныя бацькі могуць адорваць цябе незвычайным, не толькі блізкія і далёкія родныя, але і не радня, якая становіцца чалавеку блізкай! Маім студэнтам, якога я вылучаў за таленавітасць, працавітасць, прыцягальную прыгажосць, быў Вячаслаў Рагойша. Бацька мне наканаваў сустрэчы з Забэйдам-Суміцкім, а мой любы студэнт, закахаўшыся ў студэнтку-львавянку, — пазнанне салаўя Львоўскай оперы. Вяселле Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай стала прэлюдыяй незабыўных на ўсё жыццё сустрэч з сям’ёй Кабржыцкіх у Львове, Мінску і Ракаве.

Вяселле ў Ракаве было ў лістападзе 1967 года, а ўжо ў маі 1969 года я з жонкай Ліляй і сынам Паўлікам гасцявалі ў Львове, нас прымалі ў сваёй кватэры,

на вуліцы Блока, 5, Вячаслаў Апанасавіч і Клаўдзія Васільеўна, і, вядома ж, Таццяна Вячаславаўна, якая ў калысцы гушкала свайго першынца Усеўчыка. Уразіла кватэра бацькоў Тані. Яны атрымалі яе «ў спадчыну» ад аднаго з львоўскіх банкіраў, які выехаў у пасляваенны час у Польшчу. Кабржыцкія адкупілі ў колішніх уладальнікаў кватэры і мэблю, чорна-карычневую, габарытную, «крык моды» яшчэ часоў Аўстра-Венгерскай імперыі. Шыкарна, арыстакратычна! Уражвала ўсё: салон са шматлікімі калажамі на сценах — opернымі фатаграфіямі гаспадара, і разны дэкор фартэпіяна, пад гукі якога выступіў з цэлай канцэртнай праграмай Вячаслаў Апанасавіч. А ў прыцемку іншага пакоя — вялізная карціна прыглушана-бардовага колеру: Галгофа, Хрыстос на крыжы, доўгая дарога, шэраг распятых ці то мучанікаў-рабоў, ці то разбойнікаў. І яшчэ, што асабліва цешыла вока, — па-рэнесанснаму светлая зеляніна жывапіснага палатна «Стрыйскі парк». Не ўпэўнены, ці я ўжо тады ведаў, ці то пазней адшукалі гэтыя факты як даследчыкі ўкраінска-беларускіх літаратурных сувязей маладыя Рагойшы, аднак у гэтым парку зачытвалася ўкраінскімі выданнямі, штудзіравала свае канспекты наша пісьменніца Цётка, будучы студэнткай Львоўскага ўніверсітэта. Тут, у гэтым парку, і, магчыма, як падказвала мая творчая фантазія, менавіта ў намаляваным на карціне куточку, у зацені родных для беларускага сэрца бяроз пры кустах завезенага з Заходняй Еўропы гатунку руж, яна гутарыла з львавянамі, частавала прысланымі ёй на Велікодныя святы з Беларусі прысмакамі, дамашняй кілбасой свайго сябра, прафесара Іларыёна Свянціцкага, аўтара выдадзенай у Львове ў 1908 годзе брашуры «Адраджэнне беларускага пісьменства»…

Гасціны ў Кабржыцкіх увогуле былі на здзіўленне. Клаўдзія Васільеўна, па прафесіі ўрач, была выдатнай сяброўкай свайму мужу. Усё ў іхнім доме сведчыла і пра належны густ гаспадыні, і пра яе інтэлігентнасць, і пра яе гасціннасць. Прыгадваю з удзячнасцю і тую шчырасць у пачуццях, з якой нас прымалі, і тыя выдатныя пачастункі, якія сама гаспадыня, выдатная майстрыня, варыла, смажыла, гатавала. Адразу ж у дзень прыезду нам стала ясна, што Львоў — унікальны горад, і што Вячаслаў Апанасавіч улюбёны ў яго да самазабыцця. Вядома ж, першы тэнар Львоўскай оперы, ён не мог не паказаць нам тэатр, якім ганарыўся асабліва. Уразіла і выдатная архітэктура збудавання, і адмысловы рэпертуар, і шматлікія цікавыя аповеды пра гісторыю тэатра і артыстаў. Аднак, паважаючы мае літаратурныя прывязанасці, Вячаслаў Апанасавіч пастанавіў сабе, што яго галоўны клопат — глыбей пазнаёміць нас з Львовам літаратурным. І мы паднеслі кветкі да помніка Адаму Міцкевічу, што стаіць у самым цэнтры горада. Адной з першых нашых паездак была паездка на Лычакоўку, славуты еўрапейскі пантэон. Бо ці ж маглі мы не пакланіцца там магілам Івану Франко, Марыі Канапніцкай! Схілалі галовы мы над брукам, на якім ад першых бомбаў у чэрвені 1941 года загінулі пісьменнікі Аляксандр Гаўрылюк і Сцяпан Тудор, успаміналі Тадэвуша Бой-Жаленскага — міцкевічазнаўцу, якога расстралялі эсэсаўцы. Мы, беларусы, як я ужо казаў, былі ў гасцях у знакамітага львавяніна ўкраінца Вячаслава Кабржыцкага на вуліцы Аляксандра Блока. Блок, Франко, Канапніцкая, Міцкевіч — і над намі ўсімі ліра, ліра, якая паводле ўбачанага помніка нашаму геніяльнаму земляку Адаму Міцкевічу, узнятая над Львовам і благаслаўлёная з неба самім анёлам. Сімвал гэты, красамоўны, шматзначны, быў і застаецца выявай усеславянскай манументальнасці… Там жа, у Львове, ссябравалі мяне з паэтамі Раманам Лубкіўскім, Уладзімірам Лучуком. З першага майго прыезду ў Львоў пачалося на ўсё жыццё калегаванне з прафесарам Іванам Дэнысюком, на канферэнцыях я пазней замацаваў знаёмства з Леанілай Мішчанка і Лесяй Бондар. Усе гэтыя цікавыя людзі ўвайшлі ў кола маіх сяброў як бы з-пад крыла Кабржыцкіх.

Колькі дзён прадаўжаліся нашы вандроўкі па Львове, сёння дакладна не скажу. Ведаю, што разам з Вячаславам я і мае сямейнікі здзейснілі з Львова падарожжа ў Карпаты і ўзыходжанне на славутыя горныя вяршыні. Пазней, вяртаючыся з Львова ў Мінск, мы забралі з сабою ў шчаслівы час і Таццяну з маленечкім Усеваладам, каб пачаліся іхнія цікавыя, плённыя, натхнёныя «беларускія біяграфіі» […].

Да гэтых пранікнёных Лойкавых успамінаў дадам хіба што наступнае. Энцыклапедычна дасведчаным і надзвычай гасцінным гідам у час «падарожжа ў Карпаты», дакладней — у Закарпацце, быў мой сябар (пазнаёміліся на адной з навуковых студэнцкіх канферэнцый ва Ужгарадзе) Іван Хланта, тагачасны дырэктар адной з глыбінных карпацкіх школ, цяпер — вядомы ўкраінскі вучоны-фалькларыст. Ён нас абвазіў і павадзіў па самых глухіх і экзатычных, самых дзівосных карпацкіх мясцінах. Мы пілі розныя па смаку і якасці мінеральныя воды са шматлікіх бруістых крыніц, купаліся ў чыстых бяздонных азёрах, узбіраліся на пакатыя паланіны, дзе пасвіліся атары авечак, на крутыя арліныя вяршыні, слухалі картавую гаворку горных рэк… З паездкі Алег Лойка прывёз арыгінальную нізку вершаў «Паэма Тарэсвянскай даліны» — як своеасаблівую падзяку Украіне і ўкраінцам за іх гасціннасць і сапраўднае пабрацімства…

Усё, пра што тут згадвалася, адбывалася, калі Алегу Лойку не было яшчэ і сарака год. Закончу ж гэтыя ўспаміны сваім «датным» вершам, які я прачытаў роўна сорак год таму назад, 1 мая 1971 года, у Лойкавай кватэры па мінскай вуліцы Розы Люксембург, дзе саракагоддзе гаспадара святкавалі яго самыя блізкія родзічы і сябры. У вершы я абыграў назвы яго вершаваных зборнікаў, асобных вершаў і паэм (яны вылучаны курсівам):

*Юначы шлях* і россып сцежак,
Прастор без краю і без меж —
Даўно *ў дарозе* ты, Алежа,
Даўно ў жыцці *свой след* кладзеш.
    Адзіным клопатам праняты,
Узняты сілай дзіўных крыл,
Для краю роднага заўзята
Шукаеш цуда-*дзівасіл*.
    Калі *ў дарозе* ты, Алежа, —
*Твае агні* і нам відны:
*Блакіт азерца*, *Белай Вежы*
Святло ахвярнай даўніны;
    Ускрай бароў цвітуць *пралескі*…
І нам чуваць — о мудры вешч! —
Як *задуменным пералескам*
*Лясную песню* ты пяеш.
    *Дарогі*, вечныя *дарогі*!
Ды ты пры ўсіх вятрах збярог
*І летуценні*, і трывогі
За свой народ, за сто дарог!
    Што ж, сэрцу — гарт, нагам — праверку
Давай хутчэй і — на прасцяг!
Хоць свет відаць *з твайго паверху* —
Ў дарогу, браце,
Ў новы шлях!

Сёння, як мы ведаем, свой адмераны Богам жыццёвы шлях, ажно да яго завяршэння, Алег Лойка прайшоў з годнасцю, плённасцю і мужнасцю. Дрэва яго жыцця не спыняла свайго росту да самых апошніх хвілін ягонага фізічнага існавання, якія ён — пераадольваючы невыносны боль на шпітальным ложку, у інвалідным калясцы — спаўна выкарыстаў для напісання новых вершаваных і празаічных твораў, навуковых прац. Твораў і прац, якія ў самы апошні час ужо прыйшлі да чытача («Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойка», 2009; «Займальная літаратура», 2009), якія, спадзяюся, хутка чытач атрымае («Мой універсітэт», «Даўняя беларуская літаратура»…)

Васіль ГУРСКІ

# РУБЦЫ НА СЭРЦЫ

* * *

Ганна Аляксандраўна Статкевіч нарадзілася ў 1920 годзе ў горадзе Рэчыца. У 1940 годзе скончыла Мінскі настаўніцкі інстытут. Яе накіравалі працаваць у Валожынскі раён вызваленай Заходняй Беларусі. У тую ж школу накіравалі і маладую настаўніцу родам з Узды — яўрэйку Лену Зальцман. Дзяўчаты жылі на адной кватэры, моцна пасябравалі. Закончыўся навучальны год, і дзве сяброўкі паехалі на летнія канікулы. У дарозе пачулі, што пачалася вайна. Даехалі на машынах да Мінска. Дастаць білет на пасажырскі поезд Ганна не змагла. Лена прапанавала:

— Я да Узды і пяшком дайду. Хадзем разам. Пажывеш у нас, пакуль немцаў пагоніць наша армія, фронт пакоціцца на захад. Тады рух цягнікоў наладзіцца, і ты паедзеш дадому. Да вечара мы дойдзем.

І сяброўкі пакрочылі ва Узду.

Падзеі развіваліся па іншым плане. Фронт каціўся на ўсход, ды так хутка, што на шосты дзень вайны немцы тупалі па вуліцах Узды. Сяброўкі праз вокны пазіралі на фанабэрыстых чужынцаў і думалі, як жыць далей, з жахам глядзелі на павешаных чырвонаармейцаў.

Прайшло некалькі дзён. Фронт рухаўся на ўсход, артылерыйскія грымоты станавіліся ўсё цішэйшымі. Ганна пакінула частку сваіх рэчаў у сяброўкі і пешшу пусцілася ў далёкую дарогу. Дайшла да Быхава. Там дарогу ёй перагарадзілі немцы і павярнулі назад. Куды ісці? Да сяброўкі, вядома. У жніўні прыйшла ва Узду. Немцы арганізоўвалі яўрэйскае гета, збіралі яўрэяў з усяго раёна, пасялялі на трох вуліцах, выгнаўшы з хат гаспадароў.

— Куды прэшся? Тут забароненая зона, жывуць толькі жыды.

— Мне трэба ўбачыць сваю сяброўку. Мы разам працавалі ў Заходняй Беларусі. У іх я пакінула свае рэчы.

— Праз гадзіну каб вярнулася, а то ў турму завяду, — пагразіў фашысцкі паслугач.

Сяброўкі абняліся і заплакалі. Лена гаварыла:

— Не ведаем, што нас чакае. Бяда насоўваецца. Чуткі ходзяць, што перасяляць нас будуць. А куды, не ведаем. Страшна, а ты ратуйся. Знайду табе кватэру, знаёмых надзейных суседзяў многа.

— Нікуды я не пайду, калі не прагоніш. Што будзе табе, тое і мне, — вырашыла Ганна.

— Ці ж я магу цябе прагнаць, ты мая найлепшая сяброўка. За гэты год, што мы жылі разам, ты мне стала роднай сястрыцай.

Сяброўкі заплакалі, абняліся.

І Ганна засталася. Некалькі разоў паліцаі прыходзілі ў хату, пагражалі, што завядуць у турму, але Ганна Статкевіч не мяняла свайго рашэння.

Чорныя хмары над яўрэямі згушчаліся. Кашмар наступіў 17 кастрычніка 1941 года. З самай раніцы абудзілася Узда крыкамі, галашэннем, праклёнамі, стрэламі. Яўрэі здагадаліся, што гэта ўжо канец. На вуліцах вуркаталі маторы грузавікоў, на дварах захліпваліся ад яраснага брэху аўчаркі, у хатах мацюкаліся

бобікі, нема крычалі дзеці, праклiналі звяруг жанчыны і сівабародыя старыя. А паліцаі крычалі:

— Выходзьце! Не трэба адзявацца! У раі і голых прымаюць!

— Голым ямчэй будзе прыцiскацца адно да аднаго! — зарагатаў адзін з гітлераўскіх паслугачоў. Астатнія выскаліліся таксама і запрацавалі прыкладамі.

Да Ганны падышоў знаёмы паліцай і закрычаў:

— А ты адзявайся ды хутчэй уцякай адсюль.

— Нікуды я не пайду. Ганна саскочыла з ложка, падбегла да сяброўкі, абняла яе, заплакала, — і я з табой. Хай забіраюць разам.

Ужо сям'я Зальцмана сядзіць на грузавіку, афіцэр крычыць, чаму паліцаі марудзяць і не выходзяць з хаты. Яму тлумачаць, што сяброўка жыдоўкі беларуска не адпускае яе. Афіцэр крычыць, каб абедзвюх выводзілі, і пасылае яшчэ аднаго паліцая. Той ускочыў у хату, прыкладам стукнуў па галаве Ганну. Яна ўскрыкнула і ўпала на падлогу, застагнала. Лену выпхнулі на вуліцу, машына завуркатала і пад'ехала да суседняй хаты. Там таксама загаласілі і нема закрычалі. У ляску ля глыбокай і шырокай ямы таксама чуліся вусцішныя крыкі і аўтаматныя чэргі. Некаторыя людзі не хацелі распранацца, іх сілком распраналі дагала і спіхвалі ў яму, дзеці саскоквалі да бацькоў.

Жудаснае відовішча, немыя крыкі. З ляска да Узды доўга даносіліся стрэлы і галашэнні.

Ганна доўга ляжала на падлозе, у галаве шумела ад вусцішных крыкаў і стрэлаў, пасля паднялася, апранулася і села на лаўку ля стала, паклаўшы галаву на рукі, і закрыўшы вушы, каб не чуць жудаснага шуму. Галава расколвалася, сэрца стукала з перабоямі, там з'явіўся крывавы рубец, ён будзе гадамі напамінаць дзяўчыне пра трагедыю расправы фашыстаў над мірнымі жыхарамі. Як ачмурэлая то тупала па хаце, то садзілася на лаву і плакала. Не звяртала ўвагі на паліцаеў, якія снавалі вакол яе, выносілі дабро гаспадара.

Вечарам зайшоў у хату местачковец Іван Колас, зачыніў за сабой дзверы і загаварыў ціха:

— Бедная ты дзяўчынка. Як жа ты будзеш жыць адна ў пустой хаце? Паліцэйскія выграблі ўсё, ні лустачкі хлеба не пакінулі табе, ні бульбачкі, ні круп. З голаду зойдзешся тут. Выпрасіў я ў каменданта ўзяць цябе на парукі. Хадзем да нас. Пажывеш, а сцішыцца завіруха, дадому зможаш дабрацца.

І Ганна патэпала за спагадлівым чалавекам. Але і там яе турбавалі паліцаі, прымушалі шукаць работу, прапаноўвалі нават пісьменнай настаўніцы працу ва ўправе. Уздзенскія падпольшчыцы Ніна Булынка і Ганна Глебка прыглядаліся да яе, з гутарак даведаліся, што дзяўчына засталася чэснай патрыёткай і ўцягнулі яе ў падпольную работу.

* * *

Мне часта даводзілася хадзіць на заданні праз Магільна. Зайшоў аднойчы ў хату свайго партызанскага сябра Івана Жыгалковіча перадаць прывітанне сястры Марыі, якая выконвала заданні партызан. Яе маці расказала пра сваю бяду.

— Людзі пашпарты мяняюць, а мы хаваемся ў лесе. Немцы аб'явілі, што расстраляюць на месцы без іхняга «аўсвайса». Хітра прыдумалі: кожны павінен з'явіцца ў гарнізон асабіста. Самому прыйдзецца ўсадзіць галаву ў пятлю, а ім зацягнуць яе толькі застанецца. Што ж нам рабіць?

Я параіў схадзіць да Адама Александровіча, бо ведаў, што ён з'яўляўся падпольшчыкам і мог дапамагчы.

Сабралася Акуліна ў небяспечную дарогу. Вусцішна ёй, страшна, на вуліцах райцэнтра часта сустракаліся гітлераўцы. Жанчына знайшла патрэбны дом. Насустрач выйшаў сярэдняга росту чарнявы хлопец.

— Пашпарты хачу атрымаць сабе і Марыі. У воласць ісці не асмелілася. Калі ты не паможаш, пайду дадому.

Александровіч задумаўся. Пашпарты выдавалі асобна па кожнай воласці, начальства іх знаходзілася ва Уздзе — паўцякала ад партызан пад ахову раённага гарнізона. Адам сам запаўняў бланкі «аўсвайсаў» на нямецкай мове для жыхароў Цялякаўскай воласці. У Адама быў сябар Іван Барталевіч. З ім ужо выпісалі некалькі пашпартоў для партызанскіх сем'яў і сувязных з Цялякаўскага сельсавета. Жыгалковіч жа была з Магільнянскага. Гэта ўскладняла справу. Адам падумаў, што трэба параіцца з Барталевічам, удвух лягчэй што-небудзь прыдумаць.

Александровіч пайшоў да сябра, пісара воласці, які жыў на суседняй вуліцы. Доўга раіўся з ім, як абвесці вакол пальца старасту воласці, бо той не давяраў нікому пячаткі.

— Пашпарт заверу я, — сказаў Барталевіч. — А дзе возьмем чыстыя бланкі? Без дапамогі Нюсі не абыдземся. — Так звалі Ганну Статкевіч, маладую настаўніцу з Рэчыцы. Аб ёй гаварылася раней.

— Чыстыя бланкі будуць, — сказаў Адам, бо паабяцаў ёй вечарам выпісаць некалькі пашпартоў.

Дзяўчына прыйшла да Адама, выняла з сумкі стос пашпартоў, паклала на стол, дастала бланкі «аўсвайсаў».

— Так многа? Мы да поўначы не ўправімся. Калі пойдзеш дадому? Затрымаюць патрулі — і правал, — сказаў Адам.

— Раніцай вярнуся на кватэру: сказала гаспадыні, што іду на гулянку, каб не чакала мяне сёння. Тут ёсць некалькі пашпартоў, пра якія будзем ведаць толькі ты ды я.

Адам запытаў, ці ёсць запасныя бланкі.

— Колькі табе трэба? — здагадалася Нюся.

— Два пакуль што.

— Ёсць.

Было за поўнач, калі нечакана ляпнула клямка варотцаў і хтосьці забарабаніў у шыбу. Адам здрыгануўся, прачнулася яго маці. Нюся збялела ад страху, аж дрыжыкі прабеглі па целе: ведала, што браць бланкі з управы і запаўняць дома катэгарычна забаранялася. І схаваць іх нельга, бо чарніла не высахла.

— Я вінавата, сама і адказваць буду, — ледзь вымавіла яна і ўтаропілася на дзверы. — Адчыняйце.

У хату ўскочыў худы, высокі гітлеравец. Падпольшчыкі здагадаліся, што немец прыйшоў з паста пагрэцца. Пост стаяў ля моста, за метраў трыццаць ад Адамавай хаты.

Салдат тупаў па хаце. Раптам убачыў ачышчаную рыбу ў місцы. — Гэта Акуліна прынесла гасцінец Адаму за клопаты.

— О, рыба! Гут! Харашо!

Адам неўзаметку паказаў маці на камінок, яна падпаліла смаляк, паставіла на трыножку патэльню.

Нарэшце рыба на стале. Адам прынёс бутэльку, паставіў побач шклянку і кубак вады.

— Пагрэйцеся, — прапанаваў Адам, наліў паўшклянкі з бутэлькі.

Салдат панюхаў спірт, даліў паўшклянкі вады і выпіў палавіну. Закрахтаў ад задавальнення і ўзяўся за рыбу. Шчупак хутка знік з патэльні. Паставы расчырванеўся, павесялеў, пацалаваў на развітанне Ганніну руку і выйшаў з хаты.

— Спаць, а раніцай дапішам, — сказаў Адам. — Тушыце агонь, а то салдат прышле пагрэцца і свайго напарніка.

Адам доўга не мог заснуць. Прыход немца развярэдзіў душу, дабавіў неспакою, якога і так хапала за апошнія дні. Цяжкія думкі лезлі ў галаву. «На гэты раз усё абышлося добра, а магло быць і горш. Можа, салдат не прызнаецца, што ўцякаў з паста, што бачыў «аўсвайсы». Асцярожнасць і яшчэ раз асцярожнасць! Такія прамашкі могуць прывесці да бяды».

Раніцай падпольшчык нават жартаваў за сталом:

— Вось мы і пакаштавалі шчупачка з Нёмана. З’еў салдат пакуль вы спалі, цётка Акуліна. — Прыйдзецца другога прыносіць.

— Не спала я, Адамка. Думала, што па мяне прыйшоў.

— Не бядуйце: сёння заверым пашпарты, — заспакоіў жанчыну падпольшчык. — Вечарам будзеце дома. Перадайце хлопцам, каб прысылалі больш падарункаў.

— Шчупакоў?

— Не. Жалезных падарункаў, — усміхнуўся Адам, ён чакаў мін.

Наперадзе былі для падпольшчыкаў новыя заданні і новыя хваляванні.

* * *

Час бег, вайна працягвалася, жыццё не спынялася. Да Ганны часта забягаў Іван Луцэвіч, маладыя ад пацалункаў перайшлі да вяселля. Вясной 1942 года Ганна змяніла сваё прозвішча.

У чэрвені 1943 года ў сям’і з’явіўся маленькі Толік. Змяняліся і абставіны на франтах. Пасля Сталінградскай бітвы фронт пакаціўся на захад. Не спалі ў шапку партызаны і падпольшчыкі. У варожым тыле бушавала полымя гневу, на дарогах і ў гарадах гінулі акупанты. Нават у Мінску немцы не маглі адчуваць сябе ў бяспецы, усюды і ў любы час іх падпільноўвала смерць, страх перашкаджаў заснуць. Нават у сне падкрадваецца смерць да нягоднікаў. Так 22 верасня 1943 года чэрці выхапілі чорную душу гаўляйтэра Беларусі Кубэ і панеслі ў пекла. Азвярэлыя шакалы расстрэльвалі нявінных гараджан. Хваля тэрору дакацілася і да Узды. У канцы кастрычніка пачаліся арышты ненадзейных і падазраваемых жыхароў райцэнтра. Трапіла ў воўчую пастку і Ганна, яе муж Іван Луцэвіч, Ганніна маці, сын Толік, якому было чатыры месяцы. Кожную гадзіну прыводзілі салдаты новых жыхароў райцэнтра. Схапілі і доктара бальніцы мінчанку Баляславу Галубок. Так прасейвалі, як муку праз сіта. Нічога не дабіўшыся ў час допытаў, вывезлі ў мінскую турму, падзялілі на дзве групы: каго ў камеры, каго ў падвал для больш жорсткага катавання. Пасля пабояў пачаліся расстрэлы. Яшчэ ў райцэнтры ад Ганны адабралі сына, і на яе сэрцы паявіўся новы рубец. Здаровых мужчын і жанчын 12 лістапада павезлі ў Германію на катаржныя работы. Муж і жонка Луцэвічы на станцыі, як і астатнія, прайшлі фільтрацыйны агляд і адбор — фабрыкантам патрабаваліся здаровыя рабы. Ганна сціскала зубы, каб не выказаць свайго абурэння, калі гандляры і пакупнікі рабоў заглядалі ў рот, як цыганы на кірмашы на коней, абмацвалі мускулатуру, ніжнюю частку жывата. Пасля фільтрацыі Ганна трапіла на ваенны завод, які выпускаў прадукцыю для фронту. І зноў затрапятала яе сэрца: памагаць будзе немцам ваяваць супраць Чырвонай Арміі. Яшчэ ныла сэрца ад думкі пра лёс Толіка. І цяклі горкія слёзы. Праўда, іншы раз з’яўляліся і слёзы радасці. На заводзе працавала шмат рабочых з розных захопленых немцамі дзяржаў Еўропы. Ім забаранялася гаварыць з рабочымі з латкай «ост» (з усходу, значыцца). Адзін француз ці бельгіец, відаць, музыкант, праходзіў ля беларускі і бодра насвістваў мелодыю савецкай песні: «Утро красит нежным светом стены древнего Кремля, просыпается с рассветом вся советская страна». Ды падміргваў работніцы, нібы гаварыў: «Трымайся! Чырвоная Армія перамагае, гоніць фашыстаў назад, вызваляе Савецкі Саюз». Рабыня ўсміхалася і прыветна махала галавой. Так паўтаралася штодзённа. У ліпені 1944 года свістун змяніў рэпертуар — засвістваў мелодыю беларускай песні «Перапёлачка» ды больш весела: здагадалася і Ганна, бо немцы хадзілі панурыя, перасталі свістаць бізуны наглядчыкаў. Зразумелі нарэшце, што хутка стануць такімі ж рабамі. А рабочыя павесялелі, бо разумелі, што Чырвоная Армія нясе вызваленне ўсім народам Еўропы.

Вясна 1945 года прынесла Перамогу. Ганна вярнулася на Радзіму, але без мужа. Ён не прайшоў фільтрацыі і на дзясятак гадоў трапіў за Урал.

Пасля доўгіх пошукаў маладая настаўніца знайшла свайго сыночка, маму, стала працаваць у сельскай школе, змяніла прозвішча на Унукоўскую, завяла новую сям'ю, нараджала дзяцей. Раны на сэрцы зарубцаваліся, але нясцерпна балелі, ёй прыйшлося датэрмінова ісці на пенсію.

Амаль праз трыццаць год пасля вайны яе знайшоў уздзенскі падпольшчык, прынёс ёй запозненую радасць: яе ўключылі ў спіскі Уздзенскага патрыятычнага падполля, а ў 2003 годзе выйшла кніга «Памяць. Уздзенскі раён». На старонцы 191 сярод баявых падпольшчыкаў стаіць і прозвішча Ганны Аляксандраўны Унукоўскай (Уздзенская патрыятычная падпольная арганізацыя). Ганна (Нюся) Статкевіч, Луцэвіч, Унукоўская застанецца жыць для нашчадкаў вечна.

Да напісанага хочацца дабавіць нямнога: «Людзі, помніце, якія рубцы на сэрцах насілі і носяць жывыя ветэраны, што здабывалі Перамогу, і рабіце ўсё магчымае, каб такія рубцы не паяўляліся на сэрцах вашых дзяцей, унукаў, усіх нашчадкаў роднай Беларусі. Зберагайце мір на зямлі!»



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЖАРТУЕ ТОЙ, ХТО ...ТАЛЕНТ МАЕ

**Юлія ЗАРЭЦКАЯ. Шчаслівыя людзі.** Мінск, «Літаратура і Мастацтва». 2011.

Праўда на баку тых, хто сцвярджае, што добрае старое не забываецца. Пацвярджэнне таму і «Бібліятэка «Вожыка». Выданне, якое некалі мела немалы наклад і, пачынаючы з 1957 года, выходзіла шэсць разоў на год, здавалася б, канула ў Лету. Пакуль пра серыю, што карысталася вялікай папулярнасцю ў прыхільнікаў гумару і сатыры, не ўспомнілі ў Рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва». Так і з'явілася ў гэтай серыі пасля доўгага перапынку чарговая кніга.

Гонар даць другое нараджэнне «Бібліятэцы «Вожыка», удыхнуўшы ў яе свежае паветра, выпаў аднаму з найбольш вядомых сёння ў нашай краіне гумарыстаў-сатырыкаў Міхасю Сліве, які і прапанаваў чытачам сваё «Віртуальнае каханне» — менавіта так называўся ягоны зборнік гумару і сатыры. Вобразна кажучы, першы блінец чарговага выдавецкага праекта РВУ «Літаратура і Мастацтва» не завяз у горле. Кніга М. Слівы была сустрэта з цікавасцю, аб чым, у прыватнасці, засведчылі водгукі ў друку. Дый падчас сустрэч з аўтарам знаходзілася нямала жадаючых набыць яе.

Зразумела, у першую чаргу дзякуючы цікавасці да напісанага М. Слівам, творы якога чытаеш — не начытаешся. Аднак немалаважна і тое, што вернутая па сутнасці з небыцця «Бібліятэка «Вожыка», знешне адрозніваецца ў лепшы бок ад сваёй папярэдніцы, што тычыцца як мастацкага афармлення, так і паліграфічнага выканання. Серыя ў новым абліччы — гэта ўжо не тоненькі зборнік у мяккай вокладцы, а ладны томік, аб'ём якога ў межах 8 улікова-выдавецкіх аркушаў. Таму і афармленне адпаведнае. Да ўсяго — цвёрды пераплёт. Каляровая вокладка. Ды яшчэ пад плёнкай. Як і мае быць — «Бібліятэка...» Ці не кожны заўзяты аматар кнігі пастараецца, каб у ягоным асабістым кнігазборы было чарговае выданне з серыі, якая яму спадабалася.

Што ж: дзе попыт, там і прапанова. Калі ласка, нядаўна ў «Бібліятэцы «Вожыка» пабачыла свет яшчэ адна навінка — кніга Юліі Зарэцкай «Шчаслівыя людзі». Сталым чытачам «Вожыка», бадай, няма неабходнасці надта прадстаўляць гэтую пісьменніцу. Юлія Францаўна яшчэ са студэнцкіх гадоў друкуецца на старонках такога аўтарытэтнага выдання, якім з'яўляецца часопіс «Вожык». Дый працуе ў ім ужо даўнавата. Спачатку ўзначальвала аддзел фельетонаў і пісьмаў, потым была намеснікам галоўнага рэдактара. Цяпер Ю. Зарэцкая — галоўны рэдактар альманаха «Вожык».

Гэта прытым, што ёй усяго... Прабачце, па інерцыі напісалася. Хіба можна называць узрост жанчыны? Асабліва, калі яна не толькі абаяльная, а і таленавітая. Апроч таго, не пазбаўленая пачуцця гумару. Смяяцца ж, як вядома, не грэх, а яшчэ, як сцвярджаюць медыкі, гэта вельмі карысна для здароўя. Ёсць нават меркаванні, што здаровы смех узмацняе ахоўныя функцыі арганізма. У такім разе пастарайцеся набыць кнігу Ю. Зарэцкай «Шчаслівыя людзі», каб і сапраўды адчуць сябе ча-

лавекам здаровым і ... шчаслівым, бо як жа інакш, калі знаёмішся са «Шчаслівымі людзьмі».

Паколькі ў гумарыстычных, а часам і ў сатырычных творах, асноўную нагрузку нясе пэўная інтрыга, сутнасць якой раскрываецца толькі напрыканцы, то не буду пераказваць змест гумарэскі, якая дала назву ўсёй кнізе. Ужо хоць бы таму, што лепш за самую Ю. Зарэцкую тое, што яна хацела выказаць, не скажаш. Тым не менш усё ж не магу ўстрымацца, каб сёе-тое не рассакрэціць. Хоць, трэба быць шчырым, і сама аўтар «Шчаслівых людзей» гэта надта і не хавае. Выкладвае ўсё, як на споведзі. Таму і даведваешся такое, што дзіву даешся. Аказваецца, што асобныя творы, якія ў розныя гады змяшчаліся ў «Вожыку» пад шмат якімі прозвішчамі, напісаны не кім-небудзь, а менавіта ёю, Ю. Зарэцкай.

Хоць і даўнім чытачом «Вожыка» з'яўляюся, да гэтага яе прызнання ніяк не мог даўмецца, што яна і Юлія Хоміч, і Дунька Шып, і бабка Любка. Акурат пад гэтымі псеўданімі змяшчаліся матэрыялы, якія хацелася не толькі чытаць, а і перачытваць. Дый Агапка Гапееўна з вёскі Гускі, якая так пільна прыкмячала (і прыкмячае) пэўныя недахопы ў нашым жыцці, аказваецца, таксама Ю. Зарэцкая. Больш за тое, аўтар «Шчаслівых людзей» пераўвасаблялася яшчэ і ў Антося Дзеркача, Васілька Малога, Іаана Дунілавіцкага.

Сапраўды ўжо: калі талент маеш, то, пры неабходнасці, і чужым голасам «заспяваеш». Ды так хораша, праўдзіва, пераканаўча, што тое, пра што расказваецца, бярэ за жывое. Такое пераўвасабленне дапамагае яшчэ лепшаму пранікненню Ю. Зарэцкай у сутнасць паўсядзённага жыцця, спрыяе выкрыццю некаторых заган яго, а то і бачанню таго, з чаго хочацца незлосліва пасмяяцца. Яно і не дзіўна, бо глядзіш на ўсё гэта без перабольшання, вачыма самога народа. Канкрэтней, вачыма тых прадстаўнікоў яго, якім больш за ўсё баліць, а таму яны і не застаюцца абыякавымі, калі бачаць, што дзе-небудзь «парадачак не ідзець».

Кніга «Шчаслівыя людзі» ў Ю. Зарэцкай — першая, але адначасова гэта і яе свайго роду выбранае. Разам з тым — гэта і творчая справаздача. За той перыяд, які ў яе мастакоўскай біяграфіі з'яўляецца... Прасцей сказаць — пачатковым. Але хіба можа быць пачаткоўцам пісьменнік, якія за кароткі час паспеў дасягнуць такіх значных набыткаў? Не надта падыходзіць і вызначэнне першы этап. Таму, бадай, правільным будзе сказаць, што перад намі справаздача Ю. Зарэцкай за той перыяд — жыццёвы і творчы, калі асабліва дае знаць аб сабе маладых задор, нястрымнае натхненне, лёгкасць думкі і смеласць яе палёту.

А паколькі гэта свайго роду выбранае, то ў кнізе прадстаўлены розныя жанры. Калі можна так сказаць, творчае меню Ю. Зарэцкай вельмі багатае. Што ні «страва» ў ім, то абавязкова такая, якую так і карціць пакаштаваць. Зрабіць жа гэта, зразумела, нескладана. Дастаткова толькі зазірнуць у пэўны раздзел кнігі. У «Шарашкінай канторы» можна «паспрабаваць на смак» фельетоны. Хочацца чагосьці гаркава-сатырычнага, калі ласка, да вашых паслуг «Ружовая мара ўнаём». «Пісьмы наверх» — гэта тое, што часам і аскоміну выклікае, ды не будзем забываць, што яна і ад добрага яблыка бывае. Канечне, калі яно з кіслінкай, а пачастункі бабулі Агапкі Гапееўны з вёскі Гускі, а гэта яна свае лісты пасылае наверх, інакшымі і быць не могуць. У раздзеле ж, які даў назву кнізе, ёсць усё, чаго толькі душа пажадае. У ім Ю. Зарэцкая прапануе свае гумарэскі, а гумарэскі...

Гумарэскі, вядома, розныя бываюць. І шмат хто іх піша, але ў Ю. Зарэцкай свой падыход да гэтага старога і пастаянна маладога жанру. Дый хіба можа ён не маладзець пад яе пяром, калі яна сама маладая? За такія тэмы бярэцца, якія б некаторыя палічылі б і нявартымі ўвагі. Маўляў, тэма нявыйгрышная. Толькі гледзячы для каго. Узяць, скажам, гумарэску «На вакзале». Як быццам нічога новага, дый з'явілася яна яшчэ тады, калі Ю. Зарэцкая была студэнткай. Да ўсяго гэта яе дэбют у «Вожыку». Але знаёмішся з творам, уражанне такое, што напісана гэта сталым пяром.

А яшчэ аўтар «Шчаслівых людзей» прапануе «Думкі ўголас». Ёсць раздзел «Малюнак у падарунак», а ў ёй «Дарожная азбука» і «Нотная азбука», якія яна прыдумала сама, «Соннік» — тут не абышлося без дапамогі Паўла Шычко, а яшчэ карыкатуры, выкананыя па яе тэмах мастакамі Вікенціем Пузанкевічам і тым жа П. Шычко. Што ні «пакаштуеш» з прапанаванага Ю. Зарэцкай, апетыт усё больш разгараецца. Яшчэ і з-за таго, што яна належыць да тых, хто ўмее не толькі гатаваць, а і падаваць. У пачатку кожнага раздзела — дзе з гумарам, а дзе ўсур'ёз, запрашае: не праміні, абавязкова пазнаёмся з тым, што прапаноўваецца.

Нельга не пагадзіцца з аўтарам пасляслоўя «Людзі і хітрамудрыя клоны» Віктарам Гардзеем: «Сімвалічным сталася... тое, што дэгустацыя сатырычнага і гумарыстычнага таленту Юліі Зарэцкай адбылася там, дзе яна і пачынала, — у часопісе, у папулярнай, нядаўна адноўленай «Бібліятэцы «Вожыка». Ад сябе дадам, што Ю. Зарэцкая на сённяшні дзень адна з самых вядучых на Беларусі гумарыстаў сярод жанчын-пісьменніц.

Народная прымаўка сцвярджае: «Смяецца той, хто смяецца апошнім». У дачыненні ж да кнігі Ю. Зарэцкай правільным будзе сказаць і так: «Жартуе той, хто жартаваць умее». Дый талент мае. Такімі якасцямі яна акурат і валодае. Прытым так, што і іншым пісьменнікам павучыцца не грэшна.



Надзея БРАГІНА

# ПАЛАЦ НАД СОЖАМ

Гомель, як вядома, сёлета двойчы аб'яўлены культурнай сталіцай — нашай краіны, а таксама СНД. Што ж, выбар апраўданы: горад над Сожам мае вялікія культурныя традыцыі. Свой уклад у станаўленне і развіццё іх унеслі і выбітныя людзі Расійскай дзяржавы, дзяржаўныя, грамадскія і вайсковыя дзеячы, якіх сучаснікі называлі «другімі», а часам і «першымі» асобамі — Румянцавы і Паскевічы. Яны валодалі гомельскім маёнткам на працягу 142 гадоў: з 1775-га па 1917 год.

Гомель у канцы XVIII стагоддзя ўжо не быў прыватнаўласніцкім, і гомельскі маёнтак называўся староствам. А староствы пры Кацярыне II менавіта такія землі, якімі імператрыца была вольная распараджацца. Нагода падарыць іх знайшлася хутка: чарговы трыумф — перамога над туркамі.

10 ліпеня 1775 года пад зводамі Гранавітай палаты Маскоўскага Крамля прагучаў указ Кацярыны II аб узнагароджанні генерал-фельдмаршала Пятра Румянцава, які меў да гэтай перамогі непасрэднае дачыненне. Яму было падаравана: «Пахвальная грамата з прапісаннем службы… з дабаўленнем да яго звання прозвішча Задунайскага… за разумнае палкаводства — уладарнае жазло, упрыгожанае алмазамі… за адвагу — шпага, упрыгожаная алмазамі, за перамогі — лаўровы вянок, за заключэнне міру — маслічная галіна… у знак манархавага за тое спрыянне — крыж і зорка дыяментамі ўпрыгожанага ордэна Святога Апостала Андрэя, па гонары яму, фельдмаршалу і ў заахвочванне нашчадства яго прыкладам — медаль з яго выявай, для ўвесялення яго — пяць тысяч душ прыгонных, староства Гомельскае… для пабудовы дома — сто тысяч рублёў, для яго стала — срэбны сервіз, для строя дома — карціны».

Такім чынам, пад зводамі Гранавітай палаты ўпершыню ўрачыста прагучала назва невялікага беларускага мястэчка Гомеля з наказам пабудаваць там палац.

З гэтага ж моманту і бярэ пачатак гісторыя стварэння ў Гомелі палацава-паркавага ансамбля — галоўнай славутасці сучаснага горада. Будаўніцтва яго і пачалі ў 1777 годзе па ўказанні Пятра Аляксандравіча. Так як сам Румянцаў быў заняты па службе, то ён даручыў падрыхтоўку праекта будучай рэзідэнцыі сваёй жонцы, якая прыцягнула да гэтай справы самых вядомых сталічных архітэктараў. На жаль, на сённяшні дзень дакладна не ўстаноўлена імя аўтара гэтага праекта. Сучасны беларускі даследчык архітэктуры У. Марозаў лічыць, што ім мог быць таленавіты дойлід, аўтар праектаў шматлікіх будынкаў у Санкт-Пецярбургу, у тым ліку Аляксандра-Неўскай лаўры, знакамітага Таўрыйскага палаца і Казанскага сабора І. Стараў. Прымаў удзел у распрацоўцы праекта палацавага комплексу і вучань Растрэлі Ю. Фельцэн, які ўдзельнічаў у будаўніцтве Зімняга палаца і перабудове інтэр'ераў Вялікага палаца ў Пецяргофе (цяпер Петрадварэц).

Белакаменны палац уводзіўся на тэрыторыі старажытнарадзіміцкага дзядзінца, побач з дубовым замкам апошняга гомельскага старосты князя М. Чартарыйскага. Закладка падмурка галоўнага палацавага корпуса адбылася ў 1785 годзе, а будаўніцтва яго завяршылася ў пачатку 1790-х гадоў. Яно ажыццяўлялася архітэктарамі Я. Аляксеевым, Д. Катлярэўскім, М. Масцяпанавым і К. Бланкам

з улікам праектаў, падрыхтаваных сталічнымі знакамітасцямі і ўхваленых гаспадарамі. На высозным беразе ракі Сож з'явіўся кампактны двухпавярховы будынак на высокім цокалі, завершаны ў цэнтры кубападобным бельведэрам з вялікім купалам. Вонкавы дэкор палаца быў цалкам выкананы ў стылі ранняга класіцызму. Галоўным упрыгожаннем фасадаў сталі порцікі карынфскага ордэра — чатырохкалонны парадны і шасцікалонны паркавы. Па ўсім перыметры будынка прамавугольныя аконныя праёмы, размешчаныя ў два рады, чаргаваліся з пілястрамі, што надавала палацу велічную манументальнасць.

Унутраная планіроўка таксама мела цэнтрычны характар. Больш высокі першы паверх цалкам быў аддадзены пад парадныя памяшканні, другі — пад жылыя пакоі, а цокальны выкарыстоўваўся для гаспадарчых патрэб і размяшчэння прыслугі. Уваходзячы ў будынак, наведвальнікі траплялі ў прасторны вестыбюль, які вёў прама ў галоўную квадратную парадную залу, дапоўнены з усіх бакоў шырокімі нішамі і шэрагамі высокіх карынфскіх колон, якія падтрымлівалі адкрытыя галерэі другога паверха. Галоўная парадная зала асвятлялася вялікімі вокнамі бельведэра, а яго вышыня ў тыя часы дасягала 25 метраў. Па баках ад гэтай залы знаходзіліся чатыры шырокія парадныя гасціныя, што дазваляла Румянцавым ладзіць раскошныя прыёмы для дзясяткаў, а ў выключных выпадках — і сотняў высокапастаўленых гасцей. Інтэр'еры першага паверха дзівілі самую вытанчаную публіку: тэматычныя і арнаментальныя роспісы, якія пакрывалі ўсю ўнутраную прастору сцен, хупавая ляпніна, выкананая ў тэхніцы імітацыі пад белы мармур, карціны, бронзавыя ажурныя люстры і разнастайныя прадметы мастацтва лепшых еўрапейскіх майстроў.

Румянцаў-Задунайскі валодаў гомельскім маёнткам з 1775 па 1796 гады. Гэта чалавек, імя якога ўславіла гомельскую зямлю на стагоддзі. Сярод рускіх военачальнікаў XVIII стагоддзя Пётр Аляксандравіч займаў адметнае месца — «генерал-фельдмаршал, сенатар і генерал-губернатар і ордэнаў расійскіх Святога Апостала Андрэя, Святога Аляксандра Неўскага, Святога Георгія 1 класа і Святога Уладзіміра I ступені, прускага Чорнага арла і Святой Ганны кавалер». Выбітны палкаводзец, таленавіты адміністратар і дыпламат, які цудоўна «замацоўваў свае ваенныя поспехі дыпламатычным шляхам, а дыпламатычныя патрабаванні падмацоўваў сілаю зброі». «Яму няма роўных», — казаў вучань Румянцава А. Сувораў. М. Кутузаў называў яго — «наймудрым палкаводцам», гісторык і пісьменнік М. Карамзін — «задунайскім героем», а знакаміты паэт Г. Дзяржавін — бессмяротным і «блаславёным сярод позніх вякоў».

Пасля смерці Румянцава-Задунайскага палац атрымаў у спадчыну яго сярэдні сын граф Мікалай Румянцаў — вядомы дзяржаўны і грамадскі дзеяч, канцлер Расійскай дзяржавы, першы старшыня Дзяржаўнага Савета, мецэнат навукі і культуры, які валодаў ім з 1796 па 1826 гады.

Тут ён увасобіў мару лепшых прадстаўнікоў адукаванага дваранства аб стварэнні ідэальных умоў для пражывання. На месцы сярэднявечнага паселішча быў збудаваны новы Гомель з шырокімі прамымі вуліцамі і каменнай класіцыстычнай забудовай. Пры яго стварэнні былі выкарыстаны лепшыя дасягненні еўрапейскай архітэктуры. Цэнтр горада нагадваў ансамбль цэнтра Парыжа, будынак касцёла — Пантэон у Рыме, Петрапаўлаўскі сабор — царкву святой Жэнеўевы ў сталіцы Францыі. У Гомелі ўзнікла першая ў Расійскай імперыі ланкастарская школа, узводзіцца ліцэй па прыкладзе Царскасельскага. Разумеючы, што для паспяховага функцыяніравання эканомікі неабходны развіты транспарт, Румянцаў шмат сіл уклаў у паляпшэнне суднаходства. Менавіта ён заснаваў параходства па рэках Сож і Днепр. Па Сожы стаў хадзіць параход «Мікалай», пабудаваны на сродкі графа і названы ў ягоны гонар.

Дзякуючы Румянцаву Гомель становіцца цэнтрам эканамічнага жыцця рэгіёна і адным з культурных цэнтраў Расійскай імперыі. З Англіі быў запрошаны вядомы архітэктар Джон Кларк, які ў пачатку XIX стагоддзя пачаў дабудову палаца. У 1800—1805 гадах яго пашырылі, прыбудавалі два службовыя флігелі,

фланкіруючыя галоўны корпус і аформленыя 4-х калоннымі порцікамі іанічнага ордэра. Па праекце Дж. Кларка правялі рамонт галоўнага корпуса.

У маёнтку ствараліся невялікія мануфактуры, або, як іх тады ўжо называлі, заводы і фабрыкі, на якіх працавалі прыгонныя і часткова вольнанаёмныя. Ужо ў 1809 годзе выпускалі паруснае палатно, насоўкі і баваўняную тканіну палатнянага перапляцення. У прыгараднай вёсцы Студзёная Гута працаваў шклозавод.

Румянцаў надаваў вялікую ўвагу і сельскай гаспадарцы. Замежныя спецыялісты кіравалі ўзорнай авечкагадоўляй і травасеяннем. Нядрэнныя ўраджаі давалі збожжавыя, бульба і тэхнічныя культуры — лён і каноплі. Прадукцыя часткова збывалася нават за межы Расіі. Ужываліся перадавыя для таго часу тэхналогіі, выкарыстоўваўся замежны вопыт. Пры гэтым прымаліся пад увагу і ўсе выгоды традыцыйнай сельскай раместнай вытворчасці, распаўсюджанай у навакольных вёсках. Так, пры наладжванні ветразных, ваўняных і іншых мануфактур арыентаваліся на спрадвечна хатні пральна-ткацкі промысел, якім жанчыны займаліся звычайна зімой.

Пры М. Румянцаве ў Гомелі і яго ваколіцах вяліся археалагічныя раскопкі, а таксама займаліся, адшукваліся старадаўнія кнігі і дакументы, у тым ліку і ў стараверскіх скітах. У яго пецярбургскім доме на Англійскай набярэжнай захоўваліся шматлікія калекцыі — творы мастацтва, кнігі, старажытныя рукапісы, манеты, мінералы, археалагічныя матэрыялы. У палацы для калекцый адвялі шматлікія пакоі другога паверха, а таксама кабінет на першым парадным паверсе галоўнага корпуса. Калекцыі Румянцава пасля яго смерці сталі набыткам дзяржавы. У яго доме ў сталіцы адкрыўся «Румянцаўскі музеум», які ў 1861 годзе пераехаў ў Маскву. Затым ён зліўся з маскоўскім Публічным музеем. З гэтага аб'яднанага музея вылучылася бібліятэка, якая пасля стала галоўным кнігасховішчам Расіі (цяпер Расійская дзяржаўная бібліятэка).

На грошы Румянцава ў 1824 годзе ў Маскве была выдадзена першая частка «Беларускага архіва старажытных грамат», сабраных І. Грыгаровічам, які быў любімым выхаванцам Мікалая Пятровіча, збіральнікам разнастайнай беларускай архаікі, гісторыкам, археографам і адначасова святаром. У 1825 годзе ў Гомелі пачалося ўзвядзенне каменнай Траецкай царквы і яўрэйскай школы, выконвалася планіроўка Базарнай плошчы. Праўда, убачыць завершанай Траецкую царкву яму не ўдалося. З'язджаючы пазней увосень з Гомеля ў Пецярбург, Румянцаў планаваў



*Палац Румянцавых і Паскевічаў.*

вярнуцца ўвесну, але ў сталіцы раптам адчуў сябе вельмі дрэнна і пасля нядоўгай хваробы памёр 3 студзеня 1826 года. Паводле духоўнага завяшчання, яго перавезлі ў Гомель і пахавалі ў Петрапаўлаўскім саборы. Адпяваў Румянцава І. Грыгаровіч, які быў у той час протаіерэем Гомельскага кафедральнага сабора. Ён жа вымавіў і надмагільную прамову, аддаўшы належнае заслугам Мікалая Пятровіча не толькі перад Айчынай, але і перад Гомелем, які да пачатку трэцяга дзесяцігоддзя XIX стагоддзя стараннямі графаператварыўся з невялікага мястэчка з дробным гандлем у рэгулярна забудаваны ў стылі класіцызму еўрапейскі горад.

Падарвала не толькі здароўе графа, але, галоўнае, ягоную нейкую аптымістычную струну, на якой усё трымалася — мэты і памкненні, палітычныя перавагі і асабістыя сімпатыі, тое, што 19 лістапада 1825 года не стала імператара Аляксандра І, якога ён лічыў сваім кумірам. Гэтак жа, як і другі выбітны прадстаўнік рускай інтэлігенцыі М. Карамзін, які згас з заходам Аляксандраўскага часу.

Паміраючы, ён даручыў свайму брату Сяргею Пятровічу прадставіць на агульнае карыстанне ўвесь збор кніг, рукапісаў, медалёў і манет, а таксама скончыць выданне апісання вандровак Меерберга па Расіі. Так, свае найбагатыя калекцыі ён адпісаў дзяржаве «на добрую асвету», і пасля яго смерці ўсе калекцыі былі перададзены Міністэрству народнай асветы, якое і адкрыла музей на Англійскай набярэжнай у Пецярбургу.

Памяць аб М. Румянцаве жывая і дагэтуль. У старым будынку Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі — гэтак добра вядомым Пашковым доме — ёсць знакамітая Румянцаўская зала. Багацейшая кніжная калекцыя вялікага збіральніка — самы лепшы помнік яму і яго справам на карысць Айчыне. Бібліятэка Румянцава — гонар не толькі Расіі, але Еўропы і ўсяго свету.

У гісторыі навукі і культуры і сёння існуе паняцце: «Румянцаўская эпоха». Гэта час незвычайнага ўзлёту археаграфічнай навукі ў пачатку XIX стагоддзя, калі збор друкаваных кніг і рукапісаў, іх выданне стала справай велізарнай значнасці. Акадэмік І. Срэднеўскі назваў гэты перыяд шчаслівым часам рускай навукі.

Новаму ўладальніку гомельскага маёнтка Сяргею Румянцаву было ў той час 70 гадоў. У Гомелі ён практычна не жыў, наведваючыся сюды не часцей як раз на год, але, тым не менш, выканаў волю брата, дабудаваўшы ўсё, што не было завершана на пачатак 1826 года. У прыватнасці, праз два гады на скрыжаванні Прабойнай і Другой Папярочнай вуліц (цяпер Савецкай і Сялянскай) ён скончыў узвядзенне Траецкай царквы, асвенчанай толькі ў 1833 годзе.

У 1834 годзе ўладальнікам маёнтка стаў вядомы расійскі военачальнік, удзельнік Айчыннай вайны 1812 года, які праславіўся падчас руска-турэцкай і руска-персідскай войн, генерал-фельдмаршал І. Паскевіч, граф Эрыванскі, князь Варшаўскі. Ён купіў палац і сядзібу ў С. Румянцава за 4,5 мільёны рублёў.

У 1835 годзе Паскевіч пабываў у Гомелі, агледзеў набытую сядзібу і прыняў рашэнне ажыццявіць грунтоўную рэканструкцыю палаца і прылеглай да яго тэрыторыі. А ўвосень 1837 года імператар Мікалай І падчас паездкі на Каўказ у знак перамог, здабытых там І. Паскевічам, падпісаў указ аб падараванні фельдмаршалу з 1 студзеня 1838 года часткі мястэчка Гомель у прыдачу да сядзібы. Гэта тэрыторыя старога Гомеля, што размяшчалася справа ад вуліцы Магілёўскай (цяпер Кірава). Левая частка засталася пад кіраўніцтвам ваенна-інжынернага ведамства.

Праект рэканструкцыі склаў польскі архітэктар А. Ідзкоўскі ў другой палове 1836 года. Са студзеня 1837-га пачаліся будаўнічыя работы, якія вяліся да 1843 года. Галоўны корпус палаца захаваўся амаль у ранейшым выглядзе. Найбольшыя змены тычыліся флігеляў. На месцы паўднёвага ўзвялі чатырох'ярусную вежу, якую звязалі галерэямі з галоўным корпусам і з паўночным флігелем. З боку рэчкі Гаміюк да вежы прыбудавалі шасцікалонны порцік, а над Сожам узвялі шырокую тэрасу. На ёй паміж гарматамі ўстанавілі бронзавую статую вершніка ў абліччы рымскага легіянера работы дацкага скульптара Б. Торвальдсэна. Гэта быў помнік князю Іосіфу (Юзэфу) Панятоўскаму, пляменніку апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і маршалу Францыі, які загінуў у бітве пад Лейпцыгам у 1813 годзе.

Палякі лічылі Ю. Панятоўскага сваім нацыянальным героем. Гэты манумент планавалі ўстанавіць у Варшаве, але ўспыхнула паўстанне 1830—1831 гадоў, пасля чаго ўстаноўка помніка сталася немагчымай, і яго перавезлі ў Модлінскую крэпасць, дзе ён знаходзіўся да 1840 года. Паскевіч здолеў пераканаць цара Мікалая I не разбіваць помнік, а аддаць яму «вершніка» ў якасці падарунка. Так статуя апынулася ў Гомелі, дзе і была ўстаноўлена ў 1842 годзе, дзе стаялі і гарматы, здабытыя І. Паскевічам у вайне з Турцыяй (сёння на гэтай тэрасе знаходзяцца гарматы, выробленыя на гомельскім заводзе «Цэнтраліт). У 1922 годзе помнік Ю. Панятоўскаму па Рыжскім мірным дагаворы быў вернуты ў Варшаву.

Адначасова вялася планіроўка парку, які павінен быў скласці адзіны комплекс з палацам. Па прапанове А. Ідзкоўскага, акрамя так званага Старога рэгулярнага парку, з'явіўся Новы пейзажны, размешчаны за ярам, дзе працякаў ручай Гомій. Патрапіць сюды можна было па двух мастах. Адзін з іх, арачны — «Лебядзіны» — у стылі італьянскага рэнесансу, склалі з вапняковых блокаў. Даўжыня ж другога, навяснога, выробленага з лёгкіх металічных канструкцый, дасягала 80 метраў.

Калі ў пачатку XIX стагоддзя плошча комплексу складала 10 гектараў, то да сярэдзіны стагоддзя яна павялічылася да 25 гектараў (агульная доўгая). У 1848 годзе пачалі саджаць розныя пароды дрэў і рэдкіх цяплічных раслін. Парк паступова станавіўся пейзажна-музейным. З розных месцаў горада сюды даставілі трафейныя артылерыйскія прылады, каменную «скіфскую бабу», дэкаратыўныя вазы з каменя, мармуровыя скульптуры старажытных філосафаў, паэтаў, мастакоў, ваяроў, а таксама дзяржаўных дзеячаў. Скульптуры ставілі перад фасадамі палаца і па галоўных паркавых алеях. За рэчкай Гаміюк, стварылі аранжарэю і паставілі альтанку са «скіфскай бабай».

Для публікі парк адкрываўся з надыходам вясны па чацвяргах і нядзелях на чатыры гадзіны ўвечары з платай за ўваход па 12 капеек у карысць касы вольнай пажарнай супольнасці, аркестр якой іграў падчас гульбішчаў. Прыезджым наведваць дазвалялася парк штодня з 9 да 12 гадзін дня.

На той час палац уяўляў сабой не толькі пышны архітэктурны будынак, але і ўнікальнае сховішча найбагацейшых калекцый прадметаў даўніны і твораў мастацтва. Яго інтэр'еры ўпрыгожвалі маляўнічыя палотны і скульптурныя творы вядомых рускіх і замежных майстроў, зборы мастацкага шкла з Англіі і Багеміі, фарфору з Германіі, Англіі, Расіі і Кітая, бронзавых гадзіннікаў і кандэлябраў з Францыі, дываноў і габеленаў з Ірана, Турцыі, Бухары і Германіі, мэбля работы італьянскіх, французскіх, нямецкіх і ўсходніх майстроў.

У сярэдзіне мая 1838 года І. Паскевіч урачыста сустракаў у сваім палацы вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча, які ехаў на поўдзень. У 1840 годзе сам імператар Мікалай I наведаў Гомель, дзе правёў агляд войскаў. Натуральна, ён аглядаў і палац, у якім разам з гаспадаром правёў чатыры дні. Праз пяць гадоў, 25 мая 1845 года, цар зноў быў у Гомелі праездам. Нарэшце, трэці раз, і таксама праездам, ён наведаў горад над Сожам у 1851 годзе, а 6 кастрычніка таго ж года ў палацы Паскевіча гасцявалі вялікія князі Мікалай і Міхаіл Мікалаевічы.

У 1839 годзе першую прадукцыю даў цукровы завод І. Паскевіча, пабудаваны за ярам Гаміюк. У пачатку XX стагоддзя завод перавялі ў Добруш, а трубу прадпрыемства пераабсталявалі пад вежу агляду. У адным з цэхаў былога цукровага завода быў створаны зімовы сад.

Іван Паскевіч, засноўваючы цукровы завод, а таксама бровар, шукаў шляхі для папаўнення ўласнай казны, але аб'ектыўна зрабіў уклад і ў развіццё гомельскай прамысловасці. У 1840 годзе ў горадзе з'явіўся сальна-свячны завод Школьнікава, у 1853 годзе — крупадзёрны Любіна. Крыху пазней адкрылася некалькі невялікіх канатна-вяровачных мануфактур, якія размяшчаліся пераважна на Канатнай вуліцы (цяпер — Ірынінская і Першамайская). У Гомелі працавалі і лесапільні. Вялікі гандлёвы абарот давалі тры штогадовыя кірмашы, падчас якіх «збор разнахарактарных народаў, іх кіпучая дзейнасць, абмен ідэямі, меркавання-

мі, поглядамі, нарэшце, спосабы павесяліцца і з прыемнасцю правесці час прыпадабнялі Гомель да губернскага горада».

Сам Іван Фёдаравіч пастаянна жыў у сваім маёнтку Дэмблін (Іванаўскае), а з Польшчы сюды наведваўся эпізадычна. Ягоныя прыезды прыйшліся ў асноўным на другую палову 40-х і першую палову 50-х гадоў XIX стагоддзя. Пакуль жа вяліся будаўнічыя работы (1837—1843 гг.), ён знаходзіўся амаль пастаянна ў Польшчы, сочачы за рэканструкцыяй здалёку, фінансуючы яе і пісьмова даючы распараджэнні і выказваючы пажаданні.

У 1850 годзе праз горад не без удзелу І. Паскевіча, які хадайнічаў перад імператарам, была пракладзена Пецярбургска-Кіеўская шаша, што асабліва садзейнічала эканамічнаму развіццю горада. Неўзабаве праз маёнтак прайшла і першая ў Расіі тэлеграфная лінія Пецярбург—Севастопаль.

25 верасня 1852 года імператар, улічваючы пажаданне Івана Фёдаравіча, падпісаў указ аб пераводзе павятовай адміністрацыі з Новай Беліцы ў Гомель. Гэта гарантавала не толькі парадак ва ўсім горадзе, асабліва ў той яго частцы, якая належала вайскоўцам, але і значнае яго фінансаванне з казны. А 15 сакавіка 1854 года Новая Беліца стала прадмесцем Гомеля.

Пасля смерці ў 1856 годзе І. Паскевіча яго маёнтак перайшоў да ягонага сына Фёдара, жанатага на прадстаўніцы вядомага расійскага роду Варанцовых-Дашковых княгіні Ірыне Іванаўне.

У Гомелі Ф. Паскевіч з жонкай прымалі актыўны ўдзел у гарадскіх праектах па развіцці яго прамысловага, эканамічнага і культурнага патэнцыялаў. У 1897 годзе завяршылася будаўніцтва мужчынскай класічнай гімназіі, на ўзвядзенне якой ён, па прапанове Ірыны Іванаўны, ахвяраваў вялікую суму грошай. Цяпер у гэтым будынку размяшчаецца Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту.

Маштаб дабрачыннай дзейнасці сям'і Паскевічаў не мае сабе роўных у Беларусі. Ён прыкметна вылучаўся сваім размахам у межах усёй Расійскай імперыі. Ужо ў 1867 годзе княгіня Паскевіч «абавязалася ахвяраваць для бясплатнага жаночага вучылішча, што на Спаскай слабадзе штомесяц па 10 рублёў срэбрам». У 1874 годзе ёю быў адкрыты ў Гомелі прытулак для малалетніх дзяўчынак.

У 1878 годзе заснавана Гомельскае таварыства дапамогі навучэнцам, старшынёй управлення якога стала Ірына Іванаўна. На сродкі Паскевічаў утрымоўваўся прытулак для састарэлых жанчын, пабудаваны ў 1892 годзе, а таксама начлежкапрытулак з чайной.

Непазнавальна змяніўся і палацава-паркавы ансамбль. Мастацкае адзінства яго дапаўнялася ўнутраным строем памяшканняў у стылі класіцызму, дзе раскошная мэбля, бронзавыя гадзіннікі, кандэлябры з падстаўкамі ў выглядзе урнаў — падарунак Мікалая І, ваенныя трафеі, разныя з косці работы халмагорскіх майстроў, вырабы з фарфору і шкла знакамітых фабрык і з густам падабраная бібліятэка мелі самастойную каштоўнасць. Калекцыя фарфора была настолькі значная, а прафесіяналізм і густ яе ўладальніка такія высокія, што гэта паслужыла падставай для ўстанаўлення ў канцы XIX стагоддзя ўсерасійскай прэміі імя Фёдара Паскевіча, што прысуджалася маладым мастакам за размалёўку па фарфоры.

З 9 на 10 кастрычніка 1857 года палац наведаў імператар Аляксандр II з імператрыцай Марыяй Аляксандраўнай. У кнізе для ганаровых наведвальнікаў яны пакінулі ўласнаручны запіс: «У знак Вашай сардэчнай гасціннасці. Аляксандр. Марыя». Падарункі — два кандэлябры сёння ўпрыгожваюць экспазіцыю музея.

Зіму Паскевічы праводзілі ў Пецярбургу, а ранняй вясной вярталіся ў Гомель.

Указам імператара Аляксандра III за дабрачынную дзейнасць і актыўны ўдзел у добраўпарадкаванні горада ў 1888 годзе Фёдару Іванавічу было прысвоена званне «Ганаровы грамадзянін Гомеля».

У 1870—1889 гадах Ф. Паскевіч на тэрыторыі маёнтка пабудаваў фамільную капліцу і магільны склеп. Сёння яны — аб'екты палацава-паркавага комплексу. У іх пахавана 8 членаў сям'і Паскевічаў, сярод якіх — генерал-фельдмаршал І. Паскевіч і яго жонка А. Паскевіч (народжаная Грыбаедава). Капліца і магільны

склеп узведзены па праекце прафесара архітэктуры Я. Чарвінскага, мастацкімі і дэкаратыўнымі работамі кіраваў С. Садкоў.

Доступ у фамільны магільны склеп быў абмежаваны, затое наведвальнікі парку маглі з задавальненнем разглядаць капліцу, пабудаваную ў так званым неарускім (маскоўскім) стылі XVII стагоддзя і ўпрыгожаную цудоўнай венецыянскай мазаікай і керамікай. У 30-я гады склеп быў замураваны.

Пасля смерці (16 чэрвеня 1903 года) Ф. Паскевіча маёнткі і ўсю адказнасць за іх дабрабыт, а таксама фінансавую падтрымку гарадскім і дабрачынным праектам, узяла на свае плечы ягоная жонка, якой тады было 68 гадоў. Велізарная спадчына і ўмелае кіраванне маёнткамі, якія прыносяць прыбытак, дазволілі Ірыне Іванаўне і далей рабіць значныя ахвяраванні на рэалізацыю практычна ўсіх праектаў у Гомелі і яго прадмесцях.

Княгіня стала таксама ўладальніцай Добрушскай папяровай фабрыкі і лесапільнага завода. Менавіта на гэтай фабрыцы ўпершыню ў Расіі з 1895 года ўведзены васьмігадзінны рабочы дзень. У 1903 годзе пры фінансавым удзеле Ірыны Іванаўны была адкрыта павятовая бальніца на 40 ложкаў. Праз два гады на яе сродкі на Коннай плошчы пабудаваны двухпавярховы каменны дом для начлежкі-чайной. Тады ж яна фінансавала будаўніцтва чатырох прыватных народных вучылішчаў у вёсках Прыбор, Заліп’е, Давыдаўка, Студзёная Гута. Яшчэ 1 жніўня 1892 года быў урачыста адкрыты «Прытулак для састарэлых жанчын», узведзены на яе сродкі. У 1905 годзе ў гэтым будынку размясцілася вочная лякарня імя Фёдара і Ірыны Паскевічаў, у якой штогод праводзілася больш як 700 аперацый. Медыцынскую дапамогу атрымлівалі не толькі гараджане, але і жыхары гомельскага і суседніх паветаў. Кіраваў гэтай установай лекар А. Брук, які набыў адукацыю дзякуючы апецы Ірыны Іванаўны.

Больш за 250 тысяч рублёў у 1910 годзе княгіня ахвяравала на будаўніцтва нервова-хірургічнай клінікі імя Пірагова ў Пецярбургу, што стала першай у свеце нейрахірургічнай клінікай. У 1912 годзе на сродкі І. Паскевіч разгарнулася будаўніцтва гінекалагічнай бальніцы і радзільнага дома. Ужо ў лістападзе наступнага года поўным ходам ішло абсталяванне бальнічных памяшканняў, прычым складаную медыцынскую апаратуру завозілі з-за мяжы.

У 1912 годзе сядзібу Паскевічаў наведаў мастацтвазнавец і мастак І. Лукомскі, які адзначыў, што «...збор Гомельскага палаца выдатна ўтрымоўваецца графіняю І. І. Паскевіч», а таксама адзначыў, што «мастацкая калекцыя Гомельскага палаца — гэта гімн мастацтву XIX стагоддзя».

Асабліва шмат было зроблена Ірынай Іванаўнай у гады Першай сусветнай вайны. Адразу ж пасля пачатку баявых дзеянняў пры вочнай лякарні адкрываюць лазарэт. У Новай Беліцы княгіня стварыла яшчэ 8 шпіталяў. У гэты ж час яна фінансуе адкрыццё і ваеннага шпіталя ў гінекалагічнай бальніцы на вуліцы князя Паскевіча (цяпер Камісарава). Па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле І. Паскевіч заснавала патрыятычны дабрачынны фонд у дапамогу фронту. У 1915 годзе палац і шпіталі двойчы наведваў імператар Мікалай II. Абодва разы ён адправіў Ірыне Іванаўне тэлеграмы з падзякай. Падчас імперыялістычнай вайны на вуліцы князя Паскевіча пры фінансавым удзеле княгіні архітэктарам С. Шабунеўскім была пабудавана і земская бальніца (цяпер гэта будынак бальніцы хуткай гарадской медыцынскай дапамогі).

Кажуць, што кожнае стагоддзе дае чалавецтву генія або вялікую асобу, якая павінна сыграць важную ролю ў яго гісторыі. У гісторыі Гомеля такой асобай і стала княгіня І. Паскевіч, якая ўсё сваё жыццё прысвяціла служэнню Айчыне і Гомелю, што стаў для яе родным.

У першыя дні Кастрычніцкай рэвалюцыі ўласнасць Паскевічаў нацыяналізавалі. Падчас Стракапытаўскага мяцяжа, што адбыўся 24 сакавіка 1919 года, былі вывезены і здадзены ў Гістарычны музей у Маскве «... скарбы палаца — каля ста пудоў золата і срэбра ў вырабах». Гэта акрамя карцін, фарфору і антыкварыяту, што праз Антыкварны экспартны фонд беззваротна сыходзілі за мяжу.

Праўда, неўзабаве на аснове мастацкіх калекцый маёнтка было выраша- на стварыць музей. Асноўным дакументам для адкрыцця яго стала атрыманая Гомельскім губвыканкамам у сакавіку 1919 года ўрадавая тэлеграма наркама асветы А. Луначарскага, якая прадпісвала «замацаваць за музеем парк, будынак палаца князя Паскевіча і ўсе каштоўнасці ў ім змешчаныя».

Так, у лістападзе 1919 года ў правым крыле Гомельскага народнага Пала- ца адкрыўся Мастацка-гістарычны музей імя А. У. Луначарскага. Базай для яго паслужыў нацыяналізаваны палац князёў Паскевічаў, а першымі экспанатамі сталі прадметы з палацавага аздаблення і калекцый уладальнікаў. У збор музея ўваходзілі «…выдатныя па багацці камоды і мэбля, багата інкруставаная», брон- завыя гадзіннікі і кандэлябры працы лепшых рускіх і заходнееўрапейскіх май- строў, ваенныя трафеі, мініяцюрныя партрэты, найбагацейшая бібліятэка... Па меркаванні мастацтвазнаўцаў, спецыялістаў музейнай справы таго часу, калекцыі і сам палац уяўлялі велізарную гістарычную і мастацкую каштоўнасць. У ім знаходзіліся працы Рауха, Шубіна, Арлоўскага, Сухадольскага, Машкова. Над- звычай багатыя калекцыі нумізматыкі, фарфора, творы дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва сталі даступныя ўвазе наведвальнікаў музея.

У 1920-я гады палац адрэстаўравалі, але разрабаванне яго збораў працяг- валася. Краіне неабходны былі грошы для індустрыялізацыі, а таму неацэнныя прадметы мастацтва практычна за бесцань сыходзілі ў еўрапейскія краіны і ЗША. Яшчэ больш пагоршыў становішча той факт, што Гомель да 1926 года ўваходзіў у склад РСФСР, чым не прамінулі скарыстацца сталічныя расійскія музеі, якія таксама грунтоўна апустошылі мясцовыя фонды.

Калекцыі музея значна парадзелі, а і ў 1937—1938 гадах яго выселілі з былой рэзідэнцыі Румянцавых-Паскевічаў, дзе адкрылі Палац піянераў і школьнікаў, у былы Петрапаўлаўскі сабор. Дарэчы, дзякуючы гэтаму, храм не падарвалі, як шматлікія іншыя шэдэўры айчыннага культавага дойлідства.

Вялікая Айчынная вайна нанесла вялікія страты не толькі палацу-музею, але і цэласнасці яго калекцый — значная частка фонду згублена. Улетку сорак пер- шага палац быў заняты пад штаб Цэнтральнага фронту, што зрабіла яго адной з мішэняў для нямецкай авіяцыі. Дасталася комплексу і пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Што ж датычыцца пасляваенных рэстаўрацыйных работ, то іх паўразбураны палац чакаў некалькі дзесяцігоддзяў. Толькі ў 1969 го- дзе ў адрамантаваным комплексе размясціліся абласны краязнаўчы музей, Палац піянераў і школьнікаў, а ў Петрапаўлаўскім саборы з 1960 года пачаў дзейнічаць планетарый. Комплекс, які акружаў парк, стаў галоўным гарадскім цэнтрам «куль- туры і адпачынку», атрымаўшы імя першага наркама асветы А. Луначарскага.

У розныя гістарычныя перыяды ў залежнасці ад змен у фондавым зборы, рэарганізацый установы змянялася назва музея. З 1919 года гэта быў Гомель- скі мастацка-гістарычны музей імя А. У. Луначарскага, да Вялікай Айчыннай вайны — Гомельскі дзяржаўны гістарычны музей, у 1944 годзе — Абласны музей краязнаўства, з 1945-га — Абласны гісторыка-краязнаўчы музей, з 1952-га — Абласны краязнаўчы музей, з 2006 года — музей «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль». З 2007 года музей уваходзіць у склад Дзяржаўнай гісторыка-культур- най установы «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

З 1995 па 2004 гады праведзены чарговы этап рамонтна-рэстаўрацыйных работ. Пасля іх завяршэння ў залах Румянцавых і Паскевічаў адкрыліся новыя музейныя экспазіцыі. У палацавай вежы з 3 ліпеня 2003 года разгорнута гісто- рыка-мемарыяльная экспазіцыя «Уладальнікі Гомельскага маёнтка Румянцавы і Паскевічы», якая распавядае аб гаспадарах палаца, іх палацавым зборы ў дарэва- люцыйны перыяд. У экспазіцыі прадстаўлены сапраўдныя прадметы з палацавага ўбрання, мемарыяльныя рэчы ўладальнікаў, бронзавыя гадзіннікі і кандэлябры з камінных гарнітураў XIX стагоддзя, жывапіс, прадметы дэкаратыўна-прыклад- нога мастацтва і інш. У «Фельдмаршальскай зале» размешчаны парадныя парт- рэты І. і А. Паскевічаў, напісаныя мастаком Н. Шыльдэрам, маляўнічыя карціны,

намаляваныя мастакамі XIX стагоддзя — батальныя сцэны, што з’яўляюцца ілюстрацыйным дадаткам да ваеннай біяграфіі генерала-фельдмаршала I. Паскевіча.

Сярод мемарыяльных прадметаў асаблівую цікавасць уяўляе грамата на падпісанне I. Паскевічам мірнай дамовы з Персіяй ад імя Мікалая I. Яна датавана 6 мая 1827 года, падпісана ўласнаручна імператарам і змацавана сургучнай пячаткай. Гэтая мірная дамова паміж Расіяй і Персіяй была падпісана ў вёсцы Туркменчай 10 лютага 1828 года і ўвайшла ў гісторыю як Туркменчайская.

Цікавыя таксама граматы I. Паскевіча на графскую годнасць з найменнем «Эрыванскі» і на княжацкі тытул з найменнем «Найяснейшы князь Варшаўскі». Сярод рээвакуіраваных гісторыка-культурных каштоўнасцей значацца прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ўсходняга паходжання. Сасуды з эмалевымі роспісамі, кумган, паднос, багата дэкараваны разьбярствам, талерка з жанравай кампазіцыяй, выкананай эмаллю, скульптуркі ўсходніх боствaў і інш.

Цэнтральная частка палаца адкрылася для наведвальнікаў 4 верасня 2004 года. Унутраная архітэктура парадных памяшканняў першага паверха набліжана да іх ранейшага выгляду. У экспазіцыях можна не толькі агледзець адноўленыя інтэр’еры, але і даведацца шмат цікавага з жыцця былых уладальнікаў. Прадстаўлены сапраўдныя прадметы мастацтва працы вядомых рускіх і замежных майстроў XIX—XX стагоддзяў (жывапіс, скульптура, мастацкая бронза, зброя, культавыя прадметы), якія некалі ўпрыгожвалі раскошныя апартаменты ранейшых уладальнікаў палаца. Прыцягальнымі для наведвальнікаў з’яўляюцца таксама экспазіцыі, прысвечаныя даўніне краю. У Белай гасцінай цэнтральнай часткі палаца праводзяцца розныя канцэрты, у тым ліку канцэрты фартэпіяннай і арганнай музыкі.

У канцы 2004 года ўведзены ў строй паўночны корпус, у якім размяшчаецца адміністрацыя музея і дзейнічае выстава «Жывёльны свет Гомельшчыны». У гроце палаца, які знаходзіцца з боку ракі Сож, працуе экспазіцыя «Загадкавыя фантазіі мора».

Сёння Дзяржаўная гісторыка-культурная ўстанова «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль» мае статут вышэйшай (нулявой) гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь, уяўляе сабой адзіны комплекс, у склад якога ўваходзяць: гарадзішча старажытнага і сярэднявечнага Гомеля X—XVIII стагоддзяў, помнікі архітэктуры XVIII—XIX стагоддзяў (палац Румянцавых і Паскевічаў, сабор святых Пятра і Паўла, капліца і магільны склеп сям’і Паскевічаў, скляпы-лядоўні, «Зімовы сад», вежа агляду, адміністрацыйны будынак) і помнік паркавага мастацтва XIX—XX стагоддзяў — пейзажны парк з «Лебядзіным возерам», філіял Веткаўскага музея народнай творчасці, набярэжная ракі Сож, сетка фантанаў, гарадок атракцыёнаў, пункты грамадскага харчавання, шахматна-шашачны павільён, кіёскі па продажы сувенірнай прадукцыі і інш.

За час існавання музея яго фонды значна папоўніліся. На 1 студзеня 2011 года яны налічваюць 164547 адзінак асноўнага фонду захоўвання і 70466 навукова-дапаможнага. Музей з’яўляецца ўладальнікам калекцый археалогіі, іканапісу, рукапісных і старадрукаваных кніг, твораў сучаснага выяўленчага мастацтва, фотадакументаў па гісторыі Гомельшчыны і інш.

Шматгадовая актыўная праца па вывучэнні, захаванні і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны Гомельшчыны, якая праводзіцца супрацоўнікамі, высока адзначана — у 2007 годзе Дзяржаўная гісторыка-культурная ўстанова «Гомельскі палаца-паркавы ансамбль» стала лаўрэатам прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», а ў кастрычніку 2010-га — лаўрэатам VIII Рэспубліканскага турысцкага конкурсу «Спазнай Беларусь» у намінацыі «Лепшы аб’ект турыстычнай цікавасці».

***Пераклад з рускай Рагнеда Малахоўская.***